ББК 84Бел 7
Я30

РЭЦЭНЗЕНТ АЛЯКСЕЙ РАГУЛЯ

НА ГРАМАДСКІХ ПАЧАТКАХ АДРЭДАГАВАНА
ЯЎГЕНАМ ЛЕЦКАМ

МАСТАК УЛАДЗІМІР САВІЧ

В центре повести «Глаза Ночницы» — становление характера, национального достоинства мальчика с художественным видением мира, человека тонкой, впечатлительной души, на долю которого выпали нелегкие испытания. Повесть написана на основе лично пережитого, пронизана чувством щемящей боли, имеет интересный сюжет. Рассказам и эссе характерно чувство лиризма, внимания к слову, среди героев — талантливая народная художница Алена Киш с ее трагической судьбой и прекрасным искусством.

Я $\frac{4702120201-122}{М 302(03)-89}$ 24—89

ISBN 5-340-00334-5

# ВОЧЫ НАЧНІЦЫ

## Аповеєць

### I

Вяртаюся са школы. Адзін. Хлопцы ўжо разбегліся па хатах. Мне — ісці далей, ледзь не ў самы канец вуліцы. Сунуся памалу, нехаця, знарок спыняюся, азіраюся вакол сябе. Нізкае, сівое неба маўкліва адтуліцца да сіратліва застылых садоў і адразу за хлявамі непрыкметна зліваецца з пакатымі пагоркамі, што падступаюць да самай вёскі. На рыжай уезджанай дарозе — ні душы, і ад таго, мусіць, яна выдае чужою і няўтульнаю. Калючы, пранізлівы вецер, што дзьме ў твар і кусае за шчокі, пахне едкім гаркавым попелам, высыпаным у гародчык. Хачу і не магу паверыць, што заўтра — вясна. Так пазначана ў календары. Не скажу, што вельмі абрыдла зіма, і ўсё ж міжволі і нецярпліва шукаю першыя веснавыя прыкметы. Дарэмна намагаюся — аніякага знаку. Праўда, сам дзень пабольшаў. Ужо не скажаш: зімовы дзянёк — што камаровы насок. Да палудня, нават і ў школе, прамільгне — не заўважыш, а паверне на вечар — не спяша-

ецца, як зусім нядаўна, складваць шэрыя крылы, а доўга сутоніцца, чэзне.

З сярэдзіны вуліцы пераходжу на вузкую — у адзін след — сцежку, вытаптаную проста па гурбах, што цяжка паўзуць уздоўж плота. Зіма сёлета не паскупілася на снег, і таму штыкеціны мне па калена. Так і падмывае пераступіць іх, прабегчыся пад чужымі вокнамі. Насупраць кожнай хаты марнеюць купкі дробнага вішняку. Каб размінуцца з ім, трэба згінацца або захіляцца рукою ад чэпкіх галінак. Я бяру ў далоню адну галінку, і яна спачатку адзываецца востраю голкаю, а пасля нясмелым прыемным цяплом.

Мінаю яшчэ некалькі хат і нарэшце, на тым баку вуліцы, бачу сваё котлішча. Найперш кідаецца ў вочы чорная, зацята-натапыраная груша: яна адна з усяго садка перад вокнамі не скарылася, не паддалася шэрай зімовай панурасці, не сцелецца, як яблыні, нізка да зямлі. Пасля выхопліваю позіркам расхрыстаныя насцеж весніцы, сумёт каля парога, а вышэй, на цёмна-бардовых дзвярах — цяжкі кулак замка...

Усё гэта бачу па некалькі разоў на дзень і ніяк не магу звыкнуцца, што то — не чужая, а мая хата. Якая яна самотная, пакінутая, колькі ў яе зафіраненых слепаватых вокнах болю, крыўды!

У горле казытліва расце гарачы, даўкі, што не скаўтнуць, камяк...

Суха пазваньвае каля плота вецер, раптам узвейвае і цярусіць шчодраю жменяю проста ў твар калючае сяйво. Я не адварочваюся і нават не заплюшчваю вачэй. Праз якое імгненне лёгка змахваю са шчок буйныя кроплі і пераконваю, запэўніваю сам сябе, што гэта ніякія не слёзы, а снегавая расталая вада, што плакаць мне, шасцікласніку, брыдка...

Мама папрасіла мяне тады збегаць у магазін па

свежы хлеб. Я мігам апрануўся і праз якія паўгадзіны абярнуўся назад, аблеплены з ног да галавы снегам, але задаволены, што злётаў недарэмна, паспеў ухапіць тры мяккія духмяныя баханкі. Хіба ўцерпіш, каб не адламаць скарынку, не пасмакаваць яе яшчэ па дарозе?

У цеснай кухні і на чыстай палавіне хаты было ўключана святло. На слончыку каля печы ў малым чыгунчыку стаяла наабіраная для вячэры бульба. А самой маці не было; і я, упэўнены, што яна хутка рыпне дзвярыма ў сенцах, дастаў са школьнай сумкі кніжкі — надумаўся вучыць урокі. Па насценным старым гадзінніку, што строга міргаў жоўтым вокам маятніка праз шкло ў пазалочанай скрынцы, заўважыў: мінула паўгадзіны, як сяджу ўжо дома. Пачытаў яшчэ хвілін дваццаць — у галаву нічагутка не лезла. Надта ж раз'юшана шастаў па сценах хаты парывісты вецер, і звяглівa-нудна скавытала ў коміне печкі. Тады мне захацелася, пакуль маці ходзіць-гаворыць па суседзях, самому згатаваць вячэру. Няхай парадуецца, што сын парупіўся. Адсунуў чытанне ўбок. Выграб з печкі ў пагнутае вядро попел, накінуў на плечы ватоўку і выскачыў на двор. Як бачыш апынуўся каля плота, а ці вытрас што з вядра — не ведаю. Белае крыло завірухі падхапіла за плечы, крутнула ў адзін-другі бок, нібы спрабуючы адарваць ад зямлі, і праз імгненне злосна драпнула калючымі кіпцюрамі па лобе і шчоках. Яшчэ глыбей уцягнуў галаву ў плечы, пачаў памалу, бокам, церабіцца да збітага з дошак хлеўчука, дзе былі складзены дровы, а ў адным кутку ляжала горба брыкету. Дрывотнік чамусьці быў адчынены. На парог ужо намяло снегу. Пашкадаваў, што не захапіў ліхтарыка, бо ўсярэдзіне, як у цёмнай яміне, нічога не бачыў. Тады выставіў перад сабою руку і падаўся навобмацак. Спачатку намерыўся накідаць у вядро брыкету.

Трымаючыся за сцяну, павярнуў у кут. Ішоў смела, бо ведаў: тут нічога не павінна замінаць. І раптам праз два-тры крокі за штосьці зачапіўся, ледзь не паляцеў на злом галавы. Асцярожна нагнуўся, каб памацаць, што там, і адхапіў, бы апёкся, руку, міжволі хіснуўся назад да дзвярэй.

У дрывотніку хтосьці быў!

Раптоўна абмерла, зледзянела нутро, а ногі ададбрала слабасць, гарачая мляўкасць. Думалася пра адно: хутчэй бы на двор, а там кумільгом у хату, дзе радасна зырчыць святло. Аднак я прымусіў сябе спыніцца і спытаў дрыготкім, як усё роўна не сваім голасам:

«Хто тут?..»

У адказ — ні слова.

«Мама, гэта ты? — само вырвалася з грудзей і тут жа ледзяною вяроўкаю сціснула горла: — Т-ты чуеш мяне? Чаго ты сядзіш тут адна?..»

Ізноў — нядобрае маўчанне.

У твар патхнула смярдзючым духам брыкету — аж памуцілася ў галаве. Што далей было — не помню. Як апынуўся на каленях, таксама не ў памяці.

Маміна рука была цяжкая, нібы чужая. Ціхутка, з бояззю, кратаў яе, лёгка патузваў да сябе, пяшчотна гладзіў халодныя, што ледзяшы, пальцы, а сам калаціўся ад нястрымных дрыжыкаў. І то шаптаў, то гаварыў уголас. Словы знаходзіліся самі — ласкавыя добрыя словы, якія толькі ведаў і чуў у свае трынаццаць год.

«Мамачка, падніміся! Тут холадна, ты прастудзішся... Няўжо не пазнаеш мяне? Гэта ж я, Валера... Любенькая, ну ўстань! Пайшлі дахаты. Я баюся...»

Маці не адзывалася. Нават не варухнулася — ляжала скурчаная, бокам, на горбе ўкамянелага брыкету. Я бачыў, што маме кепска ляжаць, што лепей

павярнуць яе на спіну. Уціснуў ёй пад пахі здранцвелыя далоні. Паспрабаваў падняць яе, але зразумеў: аднаму мне дахаты яе не прывесці. А яшчэ праз імгненне зверху горбы пасыпаліся ўніз брыкеціны. Нехта пякучым холадам дыхнуў у патыліцу, груба штурхануў у спіну.

Упаў як падкошаны, прытуліў да сябе маміну галаву, са з'ехаўшай на патыліцу хусткай, задыхнуўся ад роспачнага здушанага крыку:

«Мамачка, не памірай!..»

І захлынуўся гаручымі слязьмі, што даўно накіпелі, калолі ў вочы. Так, як тады, не помню, каб яшчэ калі плакаў: ад ікаўкі пасля ледзь не выварочвала кішкі. Плакаў ад жудаснага страху, ад няведання, як далей быць, што рабіць, ад вострага жалю да самога сябе, ад крыўды на ўвесь белы свет. Раптам аднекуль выплыла, выразна паўстала, хоць бяры яе ў рукі, тая жахлівая фотакартка, якую доўга хавалі ад мяне. На ёй — у чорна-белай вузкай труне — мой бацька, які дзесяць год назад злажыў сваю гарачую галаву ў нейкай далёкай Карэліі. Бацькаў твар мне зусім чужы, незнаёмы, але на белым строгім крыжы, прыхіленым да цаглянай сцяны, цвёрдымі друкаванымі літарамі выведзена: ЛІТВІНЧУК. Божа, няўжо можа быць што страшнейшае?! Гэта ж маё прозвішча, прозвішча мамы!..

І выратавальным гарачым дыханнем ледзь чутны (ці, можа, мне падалося?) мамін шэпт:

«Фельчара... дзеда...»

Падхопліваюся, нібы падкінуты тугою спружынаю, шапчу, захлёбваючыся словамі:

«Добра, мамачка, добра... Зараз я, зараз... Я мігам... Толькі ты пачакай, не...»

Не дагаварыў, як падавіўся. Паспеў заціснуць кулаком у сабе тое страшнае слова. Драўлянымі нагамі ступаю да цёмна-фіялетавай плямы выхаду, сціснуў-

шы зубы, кідаюся насустрач шалёнай крутаверці. Хвіліну-другую яна віруе, кіпіць вакол мяне і паступова захлёбваецца ад бяссілля, асядае на губы мяккім пухам.

Я бег, я ляцеў, а ўсё знерухомела. У нязвыкла пустой, як цэбар, галаве чырвоным маятнікам балюча цюкала ў скроні адно і тое слова: «Хутчэй! Хутчэй!..»

Дзед Павел якраз вярнуўся са службы, з пошты, нават не паспеў сцягнуць з плеч брызентавую на аўчыне куртку. Убачыў мяне — пра ўсё здагадаўся сам. Замітусіўся, кінуўся да кухоннага шкапчыка, спрабаваў і ніяк не мог выцягнуць шуфляду, дзе трымаў усялякія лякарствы. Пасля абедзвюма рукамі, са злосцю, ірвануў яе да сябе. Усё, што мясцілася ў сярэдзіне шуфляды — паперкі рэцэптаў, парашкі, бляшанкі, белыя і чорныя бутэлечкі — сыпанула яму пад ногі, разляцелася па ўсёй кухні. Марудна, няўклюдна нагнуўся, штосьці ўзяў у руку і падаўся без шапкі да дзвярэй. З чыстай палавіны хаты маўклівым ценем хіснулася ўслед баба Наталля, здагнала ў парозе, сама насунула яму на галаву шапку.

Спачатку мы беглі разам. Потым дзед павярнуў на наш надворак, а я, задыхаючыся, прыпусціў у другі канец вуліцы.

Фельчара Харкевіча заспеў у амбулаторыі. Ён стаяў у расшпіленым белым халаце пасярэдзіне цемнаватага калідора, выціраў аб жоўтую марлю вялізныя, што лапаты, далоні і рагатаў. Непадалёку ад яго, шкрабаючы венікам па падлозе, бліскала зіркатымі вачыма мажная чарнявая маладзіца. Па тым, як яны замоўклі на паўслове, я зразумеў — перашкодзіў.

«Што табе, хлопча?» — перастаў рагатаць, кінуў мне праз плячо фельчар.

Блытана, заікаючыся, я пачаў расказваць...

Харкевіч ураз спахмурнеў, шпурнуў на крэсла марлю, схаваўся за дзвярыма прыёмнага пакоя. Кабета, шкадаўліва ўздыхнуўшы, утупілася сабе пад ногі, венік у яе руцэ часцей захадзіў па падлозе. Я зняможана прываліўся да сцяны і з нянавісцю пазіраў на дзверы, за якімі схаваўся Харкевіч і чамусьці так доўга не выходзіў адтуль.

Нарэшце выпхнуўся ў доўгім, ніжэй каленяў, чырвоным кажусе з настаўленым каўняром. У руцэ трымаў зграбны дактарскі чамаданчык з белым крыжыкам на баку. Ніякавата ўсміхнуўся цыганаватай кабеціне, што ўсё яшчэ таўклася невядома чаго ў калідоры, сціснуў мяне за локаць — давай наперад. Перад тым як тузануць да сябе ручку дзвярэй, я міжволі зябка сцепануў плячыма: надта моцна шкраблася, скуголіла на дварэ завіруха. Ізноў усплыў перад вачыма змрочны настылы дрыватнік, аж усяго скаланула ад страху...

Дзед і фельчар прынеслі на руках маму ў хату, паклалі на ложак, расшпілілі ватоўку, кофту. Я глядзеў на яе спалатнелы, без ніводнай крывінкі твар з завостраным носікам, бачыў запэцканыя ў карычневы брыкетны пыл маленькія рукі і стаяў як укопаны на сярэдзіне пакоя.

Харкевіч доўга шукаў, слухаў пульс на яе руцэ, потым заспяшаўся, зрабіў адразу два ўколы, хуценька пачаў збіраць сваё начынне ў чамаданчык.

«Зараз жа трэба везці ў бальніцу... І чым хутчэй, тым лепш. Бо можна дачакацца горшага...»

Па маёй спіне паўзуць ледзяныя мурашкі.

Як з-пад зямлі даходзіць голас:

«Ключы ад пошты пры мне... Пайду выклічу...»

«Пакуль «хуткая» праб'ецца да нас...— абрывае, не дае яму дагаварыць Харкевіч і рэзка паварочваецца да мяне: — У аграпома пад вокнамі стаіць «газік». Скажы, што я паслаў. І каб не марудзіў...»

Падлога хіснулася, паплыла з-пад маіх ног. Я не хачу, баюся прызнацца самому сабе, што гатоў бегчы адсюль, з хаты, абы не бачыць абмерлую маму. Але хіба я ў тым вінаваты? Мне даўно хочацца закрычаць, каб усе пачулі: «Хіба я вінаваты?!» І крык мой — як камень у рэчку з усяго размаху. Чорная бяздонная вада, белая мігатлівая сцяна... «Чаму я такі нешчаслівы?»

Завуч нашай васьмігодкі Таісія Барысаўна, якая была жонкай агранома, сустрэла мяне ў сенях, завіхаючыся каля газавай пліты. Вочы настаўніцы ўміг акругліліся ад здзіўлення і сарамлівай няёмкасці.

Выдушваю з сябе, застыўшы на парозе:

«Скажыце, а... Мікалай... (Як жа яго па бацьку?!) дзядзька Коля дома?»

«Спачатку прывітацца трэба, Літвінчук! — крыўдліва падцінае ў адказ губы, знарок падкрэслена варочае на патэльні смажаніну Таісія Барысаўна.— За шэсць год вучобы можна навучыцца сябе паводзіць...»

Густы салодкі пах на момант закружыў галаву, а ў жываце, наадварот, непрыемна заныла.

«Мяне п-паслаў фельчар... М-маёй маме вельмі блага. Яе т-трэба адвезці ў бальніцу...» — страшэнна заікаючыся, выдыхнуў скорагаворкаю.

«Ты памыліўся, Валера,— голас яе памякчэў,— у нас няма дома тэлефона...»

«Харкевіч п-прасіў, каб... каб дзядзька Коля завёз маму ў Слонім, бо пакуль...»

«Ах, вось што!»

Яе строгі настаўніцкі твар, быццам пад павелічальным шклом, раптам пачаў расці, набліжацца да мяне і расплывацца на чырвоныя плямы.

«Трэба выклікаць «хуткую». Тэлефон ёсць у калгасным праўленні, а муж мой яшчэ не вярнуўся з

работы дахаты. Ты помніш, як выклікаць «хуткую»?..»

Дыміць, рэжа вочы падгарэлая смажаніна. Каля вялікіх цёплых чаравікаў, скінутых насупраць дзвярэй у кухню, бруднаю вадою расцёкся снег. Пагрозліва рыпяць, плывуць, шырэй расхінаюцца прачыненыя дзверы. З праёма, упіраючыся галавою ў верхні брус вушака, свідруе мяне суровым позіркам той, пра каго я пытаўся. Скуласты, з пасечаным глыбокімі маршчынамі лобам і прыплюснутым носам... Прыкусіўшы да крыві ніжнюю губу, не адводжу вачэй, зацята маўчу.

Нецярпліва дрынчыць на пліце патэльня, блакітнымі паветранымі шарыкамі плывуць паміж намі словы:

«Коля, астыне вячэра... А гэта — Аленін, унук паштара нашага. Ты пазнаў? Прыбег машыну прасіць. Дык за сталом і выпрашыш...»

Для чаго патрэбна машына — не сказала. Цвёрды мужчынскі рот крывіць сумная ўсмешка:

«Ваш вучань, Таіса Барысаўна?»

«У школе — усе мае вучні, але іхні клас я не вяду, у мяне і так хапае гадзін...»

Ён шырока ступае праз парог, ляпае цяжкою далонню мяне па спіне, быццам адсякае ад яе цяжкі пакутлівы горб:

«Пашанцавала табе, хлопча... А цяпер у двух словах яшчэ раз, што ў вас там сталася, а я тым часам абуюся...»

Не саромеючыся, змахваю рукавом з вачэй скупыя слёзы, спакойна, слова ў слова, перадаю, што наказваў Харкевіч. Сіні едкі дым ад падгарэлага мяса пяршыць у горле, але я не збіваюся на заіканне. Парастак упэўненасці салодка казыча ў грудзях: хутка ад заікання застанецца хіба мянушка, бо яна калі прыліпае, дык ужо надоўга. «Язык без косці, што

захоча, тое схвошча»,— чуў, здаецца, ад бабы Наталлі, а я навучуся найбольш спрытныя завязваць на вузел.

Машчуся поплеч агранома, і «газік» зрываецца з месца.

Яшчэ праз хвіліну мужчыны выносяць з хаты маму, захутаную, як дзіця, у некалькі посцілкаў. Кладуць яе на задняе сядзенне, галавою на падушку, якую трымае на каленях Харкевіч. Дзед таксама шчэміцца паміж крэсел. Машына заварочваецца, намацваючы, нібы рукамі, сліпучым святлом дарогу...

Потым — кароткае, трапяткое, трывожнае мігценне чырвоных агеньчыкаў, наўздагон ім белая парывістая хваля, што ледзь не збівае мяне з ног, і я застаюся адзін. Доўга не кратаюся з месца, гляджу, агаломшаны, у той бок, куды нібы правалілася машына. Вокны хаты, што ледзь угадваюцца жаўтлявымі каламутнымі плямамі, усё аддаляюцца і аддаляюцца ад мяне. «Трэба павыключаць, каб не гарэлі лямпачкі...» — прыйшла ў галаву цвярозая думка. Зрабіў некалькі крокаў у бок змрочнага непрытульнага надворка і рэзка крутнуўся назад, на сярэдзіну дарогі:

«Няхай хоць усю ноч блішчыць святло, хоць цэлы тыдзень ці месяц, а я не буду выключаць яго, пакуль не вернецца з бальніцы мама!»

...Баба Наталля, напэўна, стамілася, чакаючы мяне са школы, а я ніяк не магу пераступіць нейкую нябачную мяжу, што трымае насупраць надворка. Пасля палудня, думаю сам сабе, найперш праб'ю шуфлем шырокую сцежку ад дарогі і да самага парога, пасля пастаўлю на месца весніцы. І абавязкова рассуну ўсе да адной фіранкі. Вось толькі як адвабіць нахабных галак, што так і круцяцца каля пячнога

коміна, з якога ўжо два тыдні не паднімаецца дым? Снежкамі іх не адгоніш, не напалохаеш, а от каб пальнуць хоць раз са стрэльбы... «Ну і прыдумаў! — падкусіў самога сябе.— Ты з самапала спачатку паспрабуй...» На мой сорам, у мяне няма нават самапала. У некаторых малых смаркачоў ёсць, не кажучы пра старэйшых хлопцаў, а я ніяк не зраблю, не знайду патрэбнай трубкі. Ат, ліха з ім, самапалам! Ці не зручней будзе прыцягнуць ад дзеда доўгуюдоўгую драбіну, залезці на страху ды пакласці на комін якую-небудзь сплеценую з дроту сетку?

Павярнуўся на хаду, каб прымерацца да вышыні, і знерухомеў, застыў з перахопленым ад здзіўлення дыханнем: хата пазірала на мяне мамінымі вачамі...

## II

Баба Наталля ўсё-ткі выгледзела мяне праз акно, і калі я, бразнуўшы клямкаю, ступіў у хату, яна ўжо тупала каля печы, грымела засланкаю. Адно паспеў скінуць з плеч пальтачко — паклікала да стала.

Моўчкі саджуся на табурэтку наўзбоч акна, бліжэй падсоўваю да сябе поўную міску пахучай уварыстай капусты. Не вельмі ахвочы да варыва, крыўлюся, маўляў, замнога наліла, на што баба, прыляпіўшыся насупраць на слончыку, адмахваецца рукою і прыгаворвае:

— Пасёрбай, пасёрбай... Без капусты — жывот пусты.

А капуста, хоць і сёрбаю яе мо разоў пяць на тыдзень, сапраўды смачная і ніколькі не прыелася. Калі маме рабілася блага і яна не магла згатаваць полудзень, баба адлівала варыва з чыгунчыка ў каструльку і, выставіўшы яе перад сабою, подбегам праставала да нашай хаты. Я гатоў быў праваліцца скрозь

зямлю, калі аднойчы, ідучы ў гурце хлопцаў, сустрэў яе на дарозе з каструляю ў руках. Хлопцы паадварочваліся ад мяне, пырснулі з'едлівым смехам. У мяне сціснуліся, засвярбелі кулакі, карцела заехаць катораму ў нос ці па вуху. Аднак у бойку я так і не кінуўся: унурыўся ў зямлю, моўчкі праглынуў зняважлівы посмех. Затое ўвечары заявіўся ў дзедаву хату і з крыкам напусціўся на бабу, каб яна больш ніколі так не рабіла, не смяшыла людзей. Не будзе чаго есці — сам прыбягу. І часам прыбягаў, праўда, без вялікай ахвоты. Спавіваў каструлю ў доўгі даматканы ручнік, хаваў яе на самае дно вялікай гаспадарчай сумкі. Дахаты ляцеў, як кажуць, з усіх ног, разліваючы па дарозе шчолак...

Баба Наталля сядзіць, падпёршы кулаком галаву, і, не міргаючы, моўчкі глядзіць на мяне. У куточках яе добрых, нібыта выцвілых вачэй блішчаць і ніяк не спадуць на шчокі белыя буйныя слязіны. Гэта нейкая хвароба прычапілася да бабіных вачэй. Яна ездзіла ў Слонім, паказвалася дактарам. Выпісалі ёй процьму нейкіх парашкоў, баба ўсе іх выпіла, але вочы слязіцца так і не перасталі. Больш нікуды ехаць не хоча, кажа, што лепшае лякарства — ражок хусткі. Ды мо тут і ніякая не хвароба — проста баба Наталля ціхутка, аднымі вачыма плача. От і цяпер: прылялілася насупраць і глядзіць, глядзіць праз слёзы, аж мне робіцца не па сабе. І адразу ўспамінаецца той глухі завейны вечар, калі маму павезлі ў бальніцу. Я тады як не сваімі нагамі, два ці тры разы паслізгнуўшыся і балюча выцяўшыся сцягном, дацёгся да дзедавай хаты, не распранаючыся, уваліўся ў чысты вялікі пакой, што глядзіць вокнамі на вуліцу, прысеў на край канапы, гатовы ў любую хвіліну падхапіцца на ногі. Доўга, цярпліва чакаў, калі, нарэшце, вернецца са Слоніма дзед Павел. А яго ўсё не было і не было. Я сядзеў і баяўся паварушыцца, дыхнуць ліш-

ні раз: мне неадступна думалася — па дарозе ў бальніцу мама памерла. У пакой колькі разоў нячутна заходзіла баба Наталля. Штосьці казала мне, пэўна, прасіла распрануцца ці мо клікала павячэраць. Але я нават не паварочваў да яе галаву, быццам прыліп вачыма да ўспацелай шыбы, за якой у непрагляднай чорнай цемені па-ранейшаму гула, шалела завіруха...

Дзеда я так і не дачакаўся. Змора і сон урэшце звалілі мяне на канапу. У мокрай, зашпіленай на ўсе гузікі ватоўцы, з шапкаю ў руцэ. І ўсё, што было дагэтуль, праплыло перад вачамі нанова. Адчынены насцеж дрывотнік... Усярэдзіне, бы ў цёмнай бяздоннай яме, нічагуткі не відаць... І раптам з гэтай яміны цягнецца да мяне рукамі мама! Вось-вось нашы далоні сустрэнуцца, але пад мамінымі нагамі абсоўваецца зямля... Мама штосілы спрабуе выкарабкацца наверх, а зямля ўсё абвальваецца, абсыпаецца пад ёю... Мне становіцца страшна, я міжволі крычу, клічу на дапамогу дзеда Паўла, бабу Наталлю, суседзяў. І разам з крыкам сам некуды правальваюся, доўга лячу з абмерлым ад жаху сэрцам. Не ведаю, што сталася б са мною далей, каб не пачуўся ціхуткі ласкавы голас, які недзе зусім блізка пяяў-нашэптваў падобную на замову песню. Спачатку словы гэтай дзіўнай песні былі нячутны мне, хоць мелодыя, а перадусім голас самой спявачкі быў такі знаёмы, што я не мог не здагадацца, пра што яна спявае. І, не расплюшчваючы вачэй, я зразумеў: то прысела каля мяне баба Наталля. Не ведаючы, што я прачнуўся, яна трымала на маім гарачым лобе шурпатую далоню і шэптам прыгаворвала-спявала:

Цёмная ночка
Начніц парадзіла,
Малому дзіцяці
Мукі нарабіла;
Яснае сонейка

Дзень пачынае,
Начніц праганяе,
Дзянніц пасылае,
Боль сунімае.
Шух у печ! Шух у печ!..

Можа, я прамаўчаў бы, не падаў бы выгляду, што ўжо не сплю, але гэтае недарэчнае «шух у печ, шух у печ» зачапіла, як кажуць, за жывое. Колькі ўжо можна глядзець на мяне, як на дзіцянё?! І прыпеўкі ўсялякія таксама надакучыла слухаць. Я даўно не малы і зусім не веру ў нейкіх там начніц і дзянніц. Скажы каму-небудзь пра іх у школе, дык не абярэшся ад смеху і кепікаў.

Я тады ўзвіўся з канапы і гатоў быў бегчы куды вочы глядзяць. Але баба Наталля паспела прытуліць мяне да сябе, і я адчуў на шчоках слёзы. Хто з нас плакаў — я ці баба,— і дасюль не ведаю. Мы доўга так стаялі сярод пакоя, прытуліўшыся адно да аднаго, і нават не пачулі, як зайшоў у хату, аблеплены з ног да галавы снегам дзед Павел, які вярнуўся са Слоніма.

...Баба Наталля ўсё яшчэ сядзіць насупраць і моўчкі пазірае на мяне. Сказаць, каб адышла, знайшла сабе работу — язык не паварочваецца. Таму і налягаю на капусту, хоць і гарачую, каб хутчэй выслізгнуць з кухні і збегчы куды-небудзь на вуліцу.

Толькі намерваюся падняцца з табурэткі, баба Наталля пудліва, як птушка, падхопліваецца да печы:

— Смажонак яшчэ пакаштуй...

Я ўжо не хачу есці, адной міскі капусты даволі з мяне, але падсмажаная бульба так смачна, уежна пахне, што згодна ківаю галавою, цярпліва сяджу за шкапчыкам. Не, смажонкаў я не хачу, але як навучыцца адмаўляць бабе Наталлі. Падзюбаў відэльцам трошкі, вінавата аджартоўваюся:

— Дзякуй, баба! Не магу больш, бо яшчэ ненарокам пуп развяжацца...

— Не развяжацца ад гэтай работы,— адказвае баба Наталля.— На здароўечка...

Стаіць, сашчапіўшы на грудзях цёмныя рукі, чакае, пакуль я выйду ў чысты вялікі пакой. А я знарок не спяшаюся, маруджу, бо проста ў пячных пелюсцях бачу мо двухвядзёрны чыгун з нагрэтаю вадою. Да халоднай, адно прынесенай з калодзежа вады баба дабаўляе цёплую і дае карове летнюю, баючыся, каб жывёліна не прастудзілася: сёння-заўтра павінна ацяліцца. Я аднойчы паспрабаваў заікнуцца, што калгасным каровам ніхто ваду не грэе, дык баба так шкадаўліва паглядзела на мяне, што больш гаварыць не захацелася.

— А куды вядро падзелася? — знарок пытаюся гучна, каб паказаць сваю ахвоту.— Я сам Кветку напаю.

— У сенях вядро, каля кадушкі,— адказвае баба і тут жа паспешліва дадае: — Будзь асцярожны адно... Каля студні такая наледзь нарасла, што пакаўзнуцца нядоўга.

«От, яшчэ павучаць уздумала,— думаю сам сабе,— як быццам ніколі вады не набіраў».

Уступіўся ў дзедавы палапленыя валёнкі, усцягнуў на плечы сваё старое — рукавы ледзь не па локці — паліто і з палёгкаю прастую да дзвярэй. Пасля таго здарэння з мамай, мяне страшыць цемната, я баюся заставацца ў ёй адзін, таму адразу ўключаю ў сенях цьмяную, як кашачае вока, лямпачку, што вісіць высока пад столлю. Бяру за мокрую слізкую вочілку вядро, дастаю з-пад шырокай лавы ржавую вышчарбленую сякеру — і хутчэй за парог.

Сухое калючае паветра халодзіць, шчыпае твар, дыхаецца лёгка, на ўсе грудзі. Паспешліва, як усё роўна баючыся некуды спазніцца, іду прашуфляванай

сцежкаю да вуліцы. Азіраюся навокал сябе — ціха, пуста, на сіратлівай сліўцы каля плота натапырылася чародка вераб'ёў. Хацеў спачатку пляснуць у далоні, спудзіць, але перадумаў — і так ім, небаракам, не соладка жывецца.

Калодзеж непадалёку, мо метраў пяцьдзесят; шкада, што не далей — так лёгка, добра ісці, адчуваючы ў руцэ гладкае, ёмкае тапарышча.

Над калодзежам збудавана круглая гонтавая стрэшка, падобная да белага капелюша. Не, ніякі гэта не капялюш, то расселся стары дзед-снегавік. Нездарма ён такі надзьмуты, сярдзіты. Прамільгне тыдзень-другі, і яго вясёлым языком зліжа сонца. Ён спалохаўся нават мяне — вунь як прысеў у свой ледзяны бярлог.

«Не бойся, не буду бурыць твой палац,— з усмешкай кажу снегавіку,— хоць помніш, ты мне вінаваты... Не, нажык-складанец, што летась выслізнуў з маіх рук у ваду — я не лічу, няхай застаецца табе: што ўпала, тое прапала! Але ты аж дагэтуль не злавіў мне рысь. На вушках пушыстыя мяцёлачкі, залацістыя плямы на баках... Думаеш, я забыўся?!»

Я, не саромеючыся, смяюся ўголас, хоць спачатку, калі прызнацца, дык было нават няёмка: вялікі хлапчыска, а забаўляецца казкай. Чакай, скуль ты ўзяў, што гэта казка, а не чыстая праўда? Дзед Павел нават пабажыўся, што так усё й было. Яго расказ я запомніў слова ў слова, хоць быў малы, нат не хадзіў у школу.

Як і цяпер, тады да нашых Валовічаў падступаў сцяною лес: стары, з векавымі соснамі і ялінамі, а ў балотных мясцінах парослы дуплістымі асінамі. Неяк улетку адна цётка, не захацеўшы смаліць галаву пад сонцам, прыкінулася хвораю і не пайшла разам з

усімі на сенаванне. Сядзіць сабе ў хаце, дробны клопат спраўляе. Раптам ні з таго ні з сяго як усчнецца на падворку вэрхал: гусі крычаць-гагочуць, куры крыламі лапочуць, сабака вішчыць, як бы хто яго душыць... Што за халерыя? Выскачыла кабеціна на парог — нікагуткa няма. Крутнулася вакол хаты, хлява — таксама нікога не відаць. А на падворку пёр'я...

«Як зімою снегу?» — пытаюся я ў дзеда.

«Яшчэ больш!» — ківае ён у адказ.

Млосна стала цётцы, на цэлую падушку хтосьці выскуб пуху, па зямлі развеяў, патаптаў. Што за праява? Памуцілася ў беднае ў галаве, смага пачала душыць. Схапіла яна вядро, пабегла да калодзежа па свежую ваду. Пачала, задыханая, апускаць ключку, зірк ненарокам уніз, а ў студні — божухна ты мой!— нейкая вялізная дзікая кошка сядзіць.

«Большая за сабаку?» — скубу за дзедаў рукаў.

«Параўнаў! — скрывіўся дзед.— У два разы, можа!..»

«Ого!..» — разяўляю ад здзіўлення рот.

«Во ты куды схавалася, галубка! — пляснула ад радасці цётка і ласкавым галаском далей: — Пасядзі, котка, пачакай, я цябе зараз так пачастую, ты ў мяне адведаеш такой гусяціны-кураціны!..» І кумільгом на дрывотню. Схапіла ладную тычку і назад да калодзежа. Сядзіць госця дарагая, не ўцякла на волю. З калодзежа не надта фыркнеш... Узялася кабета ямчэй за тычку і давай з усяе сілы пароць прыблуду: «Будзеш ведаць, нягодніца, як па чужых дварах цягацца, пухам зямлю ўсцілаць!» Адно ўвайшла ў самы смак баба, як не паспела вокам зміргнуць, а тая котка — мі-іргець па тычцы ўгору і на галаве ў сваёй крыўдзіцелькі сядзіць. Сядзіць і злазіць не хоча: мякка ўладкавалася. Аслупянела цётка, вытарашчыла ад страху вочы і заенчыць, залямантаваць не

мае духу. Кіпцюры ў кошкі — не кашачыя, бы цвікі ў галаве сядзяць. Стаяла-стаяла, падкасіліся ногі, асунулася як мяшок. А кошка з яе галавы ды на зямлю і пакацілася, высока падскокваючы, да лесу.

«Дзеду, дзеду,— пытаюся шэптам, баязліва азіраючыся вакол сябе,— а хіба яна ў лесе жыве?»

«Няўжо не здагадаўся? — здзіўлена ўтаропіўся ў мяне дзед.— Гэта ж рысь была!»

«Самая сапраўдная рысь?!» — не веру я сваім вушам.

«Пэўне, што не з цацачнага магазіна...»

«У наш калодзеж увалілася?»

«Не помню ўжо — у наш ці ў які другі, бліжэйшы да лесу... А што ўвалілася — то дальбог!»

«Канечне, у наш,— без усякіх сумненняў кажу я.— Ён самы стары і самы глыбокі».

З таго дня ўсё раптоўна перайначылася ў маім жыцці.

Раней гойсаў па вёсцы да позняга вечара, нікога і нічога не баяўся, не вельмі страшыўся і пасля дзедавага расказу. Затое як цікава стала ўсюды! Я не мінаў у вёсцы ніводнага калодзежа, з тахканнем у сэрцы зазіраў у цёмнае прадонне... Вяртаючыся дахаты, асабліва ў познія прыцемкі, часта спыняўся, пільна азіраўся па баках. У вершалінах, укладваючыся нанач, сонна шалпатаў лістотай вецер, а мне здавалася, што гэта я н а крадзецца за мною, сочыць, на які павярну надворак. У спіну цягнула пранізлівым холадам, пяты, наадварот, пякло агнём, у грудзях, здаецца, спынялася сэрца, але я не ўцякаў. Вельмі ж хацелася ўбачыць жывую рысь. Залаціста-рыжую, з пушыстымі сівымі пучкамі па чуйна натапыраных вушах, з лютымі чырвона-жоўтымі вачамі. Бачыў на малюнках у кніжках, але там яна зусім не страшная, падобная да хатняй лагоднай коткі. А я — не абы-

які, а сапраўдны паляўнічы, гатоў «падужацца» з любым драпежнікам.

Лёд каля студні за доўгую зіму збівалі шмат разоў, таму ён такі няроўны. І вельмі слізкі, бо аблізаны зверху вадою. Здавалася б, вада адна, адным і тым вядром чэрпаецца і выліваецца, а колер лёду неаднолькавы. Каля самага калодзежа ён зеленаваты, а бліжэй да дарогі светла-шэры, папяловы. Аж шкада яго чапаць. Дый так забавіўся, пакуль стаяў і весяліў сам сябе казкай. Бяру аберуч тапарышча і з усяго размаху апускаю ўніз сякеру. Яна, як жывая, падскоквае назад угору. Паспрабаваў яшчэ раз моцна секануць — тапарышча балюча выцяла далоні, востра аддало ў плячо. «Ага, не вельмі тут разгонішся... Не калодзеж, а непрыступная крэпасць зімы». Потым хвілін дзесяць дзяўбу пацiху верхнім носам сякеры пад нагамі ў сябе, бліжэй і бліжэй падсоўваюся да круцёлкі з ланцугом. Калючыя ледзяныя іголкі драпаюць рукі, пырскаюць у твар. Не адварочваюся і не засланяюся. Што гэта за паляўнічы, які хавае нос у каўнер? Такога й заяц убрыкне, ужо не кажучы пра рысь, якая зараз недзе прытаілася ў лесе на бухматай яліне ці ў асінавым дупле, чакае спажыву.

Заходзіцца з енкам пад рукою жоўтая круцёлка, цяжка бухае ў ваду акутае вядро. Не марудзячы, хутка-хутка кручу жалезную корбу, вада з вядра выплюхваецца, і калодзеж глуха сварыцца на мяне. «Гэта я павінен сварыцца на цябе... Ты падмануў, дасюль не спраўдзіў маё чаканне. Я не веру, што табе пашанцавала тады злавіць рысь!» — крычу я ў застылую цёмную зрэнку далёкага калодзежнага дна. А ў адказ пагрозлівы гул, з якога прарываецца да слыху ледзь чутнае: «А-у-у! А-у-у!..»

Потым вяртаюся дахаты, раблю ў сенях летнюю ваду і няспешна, па-гаспадарску іду да хлява.

Дзверы прачыняю нешырока, адно каб пралезла

вядро, бо карова заўсёды таўчэцца каля парога, наровіць выпхнуцца на двор. Тугою хваляю патхнула гноем, сенам, цёплым жывёльным духам.

— Кветка, Кветка, ідзі да вады!..

Не адзываецца, не грукае рагамі, як усё роўна з раніцы на пашы. Шырэй адчыняю дзверы і, занепакоены, ступаю ў хлеў.

Карова стаіць у далёкім цёмным куту. Там суха, салома не ўкапычана ў гной, а цьмяна жаўцее. Дзед і церусіць яе туды шчадрэй, бо Кветка, калі лажыцца жаваць жуйку ці нанач, дык толькі ў тым кутку. Цяпер яна нізка нагнула галаў і, не адрываючыся, штосьці скубе. Што? — адсюль не ўгледзіш, бо як гарою засланіла сваім чырвоным тулавам.

— Кветка, ах ты пані! Мо пад самую пысу яшчэ табе паднесці вядро?..

Карова падняла галаву, нават не зірнуўшы на мяне, страсянула рагамі, маўляў, не хачу вады.

«Не хочаш — не трэба,— пакрыўджана, нават са злосцю, падумаў я,— да вечара цярпець будзеш, пакуль не прыйдзе з пошты дзед»,— і павярнуў назад. Але спыніла мяне цікавасць: што ж ёй так прыліпла да губы? Паставіў вядро з вадою, пасунуўся ўздоўж сцяны, выбіраючы, дзе сушэй.

— Адсунься, адсунься, кажу табе!..— штурхнуў карову плячом пад хлябу, бо загарадзіла праход. Кветка паслухмяна саступіла ўбок, даючы дарогу. А я як спатыкаюся, слупянею ад здзіўлення.

Смешна адтапырыўшы лапушыстыя вухі, на мяне чорнымі слівінамі вачэй глядзіць цялятка! Учора, нават сёння зранку яго яшчэ не было, і вось, калі ласка: «Гэта я! Ты мяне чакаў?..»

Пакуль прынёс вады, што хочаш наплялося ў галаве, нават пра рысь, а такога... Агаломшаны нечаканасцю, доўга стаю на месцы, забыўшыся на рукі-ногі, гляджу і не магу адарваць вачэй ад гэтага дзіў-

нага смешнага стварэння. І яно таксама ўтаропілася ў мяне, пытаецца без слоў: «А як цябе зваць?» Раптам чую, як з грудзей, нібы з клеткі, ірвецца, пырхае на волю смех. І я хапаюся ад нястрымнага смеху за жывот:

— Як цябе зваць... Як цябе зваць... А як цябе зваць?!

Карова шумна ўздыхае, ёй, мусіць, не падабаецца мой рогат. Яна марудна нагінаецца і чырвоным языком, што далонню, супакойвае, гладзіць цялятка: «Не бойся, не дрыжы, цябе ніхто не пакрыўдзіць...» Дарэмны клопат: у слівінах вачэй ні кроплі страху.

Я падбягаю бліжэй, і цялятку таксама не ляжыцца, яно спрабуе ўстаць на ногі, падобныя на палкі. Як смешна, няскладна падымаецца! Заднія ногі трымаюць добра, а пярэднія падгінаюцца, трымцяць... Мне хочацца памагчы яму, ды я баюся каровы — яна адным вокам так і цікуе за мною. Усё-ткі адважваюся, нясмела працягваю руку да мокрай аблізанай пыскі, але карова перахоплівае, цалуе маю далонь шорсткім даверлівым языком. «Як дзіўна: тыцнулася ў пальцы, а шчымліва казыча ажно ў грудзях...» А цялятка, не зважаючы на мяне, церабілася, шаргацела ў саломе, і раптам, як падкінутае спружынаю, падхопліваецца на ногі! Няўклюдна, не згінаючы ў каленях, пераставіла колькі разоў ногі-палкі, спынілася, пахіснулася да сцяны.

— Асцярожна, дурненькае! — спалохаўся я і кінуўся да яго, схапіў за шыю, прытуліў да сябе: — Рысік ты мой малы!.. Я ўгавару дзеда, нікуды ён цябе не павядзе! Абыдземся і без калгаснай фермы.

## III

Чысты пакой дзедавай хаты падзелены на дзве палавіны: у меншай, што ад глухой сцяны і дзе стаіць печка, спяць дзед з бабай, а ў другім, шмат большым, пасяліўся я. У маім пакоі, каля дашчанай сцяны, паклеенай жоўта-шэрымі аблезлымі шпалерамі, расселася старая рыпучая канапа — мой ложак, а насупраць яе на покуці, якраз паміж вокан, стаіць высакаваты як для мяне самаробны стол з шырокаю шуфлядаю. Астатняе месца ў пакоі займаюць кросны. Паставіць іх папрасіла дзеда Паўла мая мама, бо ў нашай хаце зацесна. Яна яшчэ ўлетку назапасіла мо з паўмяха крамных, дзесятага нумара шпулек, здабыла нават недзе купчага віскознага шоўку, насукала і нафарбавала з авечай воўны нітак, што ляжаць у клубках пад кроснамі ў кошыку. Мама, пакуль яе не скруціла хвароба, штовечар ткала. Баба ёй дапамагала — накідала ў ніты, а пасля ў бёрда, накручвала на кій натканае палатно. Некалькі разоў я прыбягаў глядзець, як ткуць, але доўга не затрымліваўся: усё-такі лепш, чым слухаць, як ляскочуць набіліцы — усё стук ды стук,— пагойсаць з хлопцамі каля клуба ці на горцы. А адзін раз, калі нікога ў хаце не было, сеў нават за варштат і панаціскаў уволю на панажы...

Мо з тыдзень, як маму завезлі ў бальніцу, а я перабраўся ў дзедаву хату, кросны маўчалі, адно заміналі хадзіць. Я думаў, што дзед неўзабаве іх разбярэ і выкіне на вышкі. З радасцю пасобіў бы яму. Але ўчора ўвечары кросны нечакана зноў ажылі: за варштат села сама баба Наталля. Доўга ткаць яна не можа — баляць рукі, заахвоцілася памагчы мая хрышчоная маці, цётка Ніна, якая жыве на старой вуліцы.

Я толькі-толькі зайшоў у свой пакой і здзіўлена лыпаю вачыма. Сонца на вуліцы няма, лямпачка пад

столлю таксама не гарыць, а тут увачавідкі пасвятлела, як напярэдадні свята. Адгадка простая: у кроснах, пераліваючыся рознымі калёрамі, цвіце посцілка-вясёлка: пакуль я быў у школе, баба Наталля пашчыравала за варштатам. Ледзьве адрываю вочы ад затканай посцілкі, кідаю позірк у акно, што выходзіць у сад. Там ляжыць снег, але не белы, а сцішана-шараваты. Маладыя яблыні таксама не вытыркаюцца з гэтай маўклівай сцішанасці, іхнія камлі як бы хто пазначыў светла-карычневаю фарбаю, і яны хораша глядзяцца на снежным шарпаку. Там, за акном, саплівая зацятасць зімы, а тут, у хаце, ужо ўсміхаецца лета. І паклікала яго вось гэтая посцілка, ад якой аж разбягаюцца вочы.

Ніколі не думаў, што так сакавіта, ярка на нітках могуць цвісці фарбы. Тыя, што ў маім школьным альбоме — слабы цень ад іх. А як усё проста, зразумела: шырокая, ласкава-зялёная палоса, так падобная колерам да маладой зеляніны, травы — гэта ж сама абуджаная, маёвая зямля, а над ёю — радасным рэхам вясёлка.

Падыходжу бліжэй да кроснаў, нахіляюся над посцілкаю. Пачынаю лічыць колеры, але хутка збіваюся, бо цяжка дакладна правесці рыску, дзе губляецца адзін і пачынаецца другі. Першы, здаецца, ідзе блакітны, ён паступова пераходзіць у цёмна-сіні, а той у сваю чаргу — у бэзавы. Потым, аднекуль з глыбіні, праступае бурачковы, за ім ярыцца малінавы і раптам, як усплёск,— сонечна-жоўты, аж коле ў вочы. Далей дыміцца светла-зялёны, падобны да маладзенькага бярозавага лісця. А ўжо за ім ідзе строгая чорная стужка, якая проста лезе ў вочы. Навошта яна? Няхай бы лепш новая вясёлка пачыналася адразу за маладым зялёным колерам, бо чорны я не люблю, дый тут ён не да месца.

Хоць я і не хаджу ў выдатніках, але саджуся ву-

чыць урокі самахоць, без усялякай прынукі. Бо ведаю: калі не заганю сябе за стол цяпер, дык пасля ўвесь вечар сапсую. Ужо не палётаеш па вёсцы поначы, трэба ж хоць адным вокам у кніжку зазірнуць. Спачатку раблю практыкаванне па рускай мове: яна мне даецца цяжка — ніяк без памылак не магу пісаць. Потым бяруся за алгебру, але адказы пішу не ў сшытку, а на прамакатцы. Вернецца дзед з пошты — праверыць. Ён прыклады, нават алгебраічныя, як арэхі лушчыць, нездарма гэтулькі год паштарыць. Праўда, нялёгка яму даводзіцца на службе з адною рукою. Другая — левая — хоць і ёсць, ды хворая, паралізавана. Яшчэ пры панскай Польшчы адбілі ў турме ў нейкай Картуз-Бярозе паліцыянты. Таму і летам, і зімою на дзедавай левай далоні чарнее скураная рукавіца...

Нарэшце пісьмовыя заданні зроблены. Геаграфію можна зусім не вучыць — пра стэпы і лесастэпы з урока ўсё помню. Што там яшчэ назаўтра? Ага, маляванне! Прадмет гэты пасля зімовых канікул у нас вядзе Марына Юр'еўна.

Жыве Марына Юр'еўна ў Слоніме, а кватаруе пакуль у Лыскавічах. Адно што наймае кватэру, а сама ледзь не кожны дзень ездзіць дамоў у горад, а назаўтра першым аўтобусам вяртаецца назад у нашы Валовічы, потым пешкі ідзе да школы. Дагэтуль маляванне ва ўсіх класах выкладала Зінаіда Ігнатаўна, ці баба Зіна, як мы называлі яе за вочы,— старая, тоўстая настаўніца, якая з цяжкасцю перастаўляла хворыя, што калоды, ногі. А напярэдадні Новага года, вяртаючыся са школы, яна паслізнулася і моцна выцялася галавою: каб не людзі — не паднялася б. З таго дня ў яе пачала моцна балець галава, а ногі яшчэ больш распухлі. Дзе ўжо тут да школы? Папрасілася на пенсію — гады дазвалялі. І добра, што папрасілася, бо не ведаю як каму, а мне надакучыла

маляваць папяровыя кветкі, усялякія трохкутнікі і кубікі, урэшце, глядзець, як баба Зіна, расплыўшыся ў крэсле за настаўніцкім сталом, санліва цмокае мясістымі губамі.

Усё раптоўна змянілася, калі пасля зімовых канікул завуч Таіса Барысаўна прывяла ў клас новую настаўніцу. Танклявую, з яснымі жоўтымі валасамі, што кучараваю шапкаю сядзелі на галаве, з вялікімі, нібыта нечым здзіўленымі сінімі вачыма пад тонкімі дужкамі броваў. Мне тады падумалася: некаторыя васьмікласніцы з нашай школы, дальбог, выдаюць мажней за яе. Дзяўчаты з класа так і прыліплі да ружовага світэра Марыны Юр'еўны, да яе моднай, вышэй каленяў, спаднічкі цёмна-фіялетавага колеру, да зграбных туфелек на тонкіх высокіх шпільках... А мы, хлопцы, паблажліва ўсміхаліся: таксама знайшлі настаўніцу, хто ж яе будзе слухаць? Застаўшыся перад намі адна, без завуча, якую мы ўсе баяліся і недалюблівалі за тое, што ходзіць скардзіцца да бацькоў, Марына Юр'еўна азірнулася на дзверы і спытала шэптам: «Чаго вы натапырыліся, як вераб'і?» Дзяўчаты пырснулі смехам, мы зарагаталі. А яна далей: «Я ведаю, што вы маляванне не лічыце за ўрок, ды пацярпіце, я хачу вас усіх да лета намаляваць...» Ого, пра такое мы яшчэ не чулі! У бабы Зіны за ўсе гады ніхто не бачыў у руцэ алоўка ці пэндзля. «І мяне! І мяне?..» — пасыпалася з усіх радоў. «Я ж сказала — усіх, а спачатку назавіце мастакоў, якіх вы ведаеце. Хто не баіцца ўстаць першы?» Заляпалі вечкі партаў, зашаргацелі старонкі падручнікаў па літаратуры, дзе ёсць каляровыя адбіткі твораў мастакоў. Раптам у спіну мне нямоцна штурхануў Клімковіч, якога за дурную зацятасць у бойках абміналі нават старшакласнікі: «Ты ж любіш пэцкаць у альбоме, няўжо ніводнага не ўспомніш?» Я, канечне, ведаў, што «Бурлакоў» намаляваў Рэпін,

але мне цвічыла сказануць такое, каб гэтая, гарадская, адразу адчула, што мы не ў балоце жывём і таксама тое-сёе чулі. Якраз надоечы я цэлы вечар прасядзеў у бібліятэцы і гартаў тоўсты, цяжкі як падняць альбом з залатым надпісам на палатнянай карычневай вокладцы: «Шэдэўры Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі». Падобныя кніжкі я мог глядзець гадзінамі, і бібліятэкарка цётка Тоня з павагаю пазірала на мяне, бо ніхто гэтымі тамінамі больш не цікавіўся. Сам цяпер не магу сказаць, як хапіла ў мяне адвагі падхапіцца з парты і выпаліць скорагаворкай, ані разу не заікнуцца: «Я ведаю мастака Іванова! Ён стварыў карціну «Яўленне Хрыста народу»!» Рогат страсянуў клас, вочы Марыны Юр'еўны яшчэ больш акругліліся, па твары пайшлі чырвоныя плямы. Яна хацела штосьці сказаць, але яе ніхто не слухаў і не супімаўся.

Я ўжо не рады быў, што высунуўся, вінавата апусціў галаву, зыркаў з-пад лоба на настаўніцу. Другая б на яе месцы даўно ляпнула дзвярыма, а гэтая цярпліва стаіць, чакае, нават сама ўсміхаецца. «Ціха-а...» — раўнуў са свае апошняй парты Клімковіч, і праз хвіліну-другую зноў усталявалася цішыня. Марына Юр'еўна падышла да стала, разгарнула журнал, бліснула вачыма, але нязлосна, а з усмешкай сказала: «Сапраўды, быў такі мастак, ён амаль усё жыццё пісаў гэтую карціну... А як завуць таго, хто ўспомніў яго?» «Літвінчук! Літвінчук!..» — пачулася некалькі вясёлых галасоў. «Стаўлю яму пяцёрку!» — і папраўдзе нагнулася над журналам.

Назаўтра нам трэба прынесці малюнак пад назвай «Зімовыя забавы», таму дастаю з шуфляды альбом, дзве скрыначкі фарбаў, пэндзлікі. Я люблю маляваць, мне падабаецца, як тонка, трошкі саладкавата пахнуць фарбы... А як цікава шукаць патрэбны колер! Бо той жа снег, калі прыгледзецца як след, дык

зусім не белы. Раніцай, калі ёсць сонца, дык чысты і ружовы, а ўвечары часцей за ўсё смутна-папяловы.

Трэба схадзіць па ваду на кухню, а я ніяк не магу падняцца з-за стала, быццам чагосьці чакаю. Раней такога са мною не здаралася: калі надумаўся малюваць, дык ужо малюю, да поўначы магу сядзець. А сёння... Рашуча падхопліваюся з табурэткі: хопіць агінацца! І зноўку натыкаюся вачыма на посцілку, затканую ў кроснах. Як чыста, хораша ўсё-такі яна цвіце! «Дзіўна, ніколі ў жыцці не малявала,— думаю пра бабу Наталлю,— а як умее дапасаваць фарбы... Глядзіш і хочацца глядзець, нат пра недарэчную чорную палоску забываешся, што адбівае вясёлку ад вясёлкі...» Міжволі нахіляюся над кроснамі, праводжу далонню па тугой шурпатай полцы, і колеры, здаецца, пырскаюць паміж маіх пальцаў. За плячыма нешта рыпнула, азіраюся праз плячо. У праёме дзвярэй стаіць баба Наталля. Глядзіць на мяне, трошкі схіліўшы набок галаву, і, здаецца, хавае ў маршчыністых, усохлых губах кволую ўсмешку. Мне брыдка, як усё роўна заспелі за чымсьці нядобрым, хуценька адыходжу ад кроснаў, бяруся парадкаваць стол.

— Валерык, ты ўжо зрабіў урокі? — пытаецца баба.

— Зрабіў...— нат не павярнуўшыся, кажу ў адказ.— Адно маляванне засталося.

— Бо я хачу ткаць... Не буду табе замінаць?

— Не-а... Маляванне — не алгебра...

Раптам у сенях працягла, прастуджана-хрыпла рыпяць дзверы, чуецца лёгкі, упэўнены тупат, і хтосьці ўваходзіць у кухню. Хто — доўга гадаць не даводзіцца.

— Крывіна ў лес, праміна ў кросны! — чуецца радасна-ўзбуджаны, малады голас цёткі Ніны.

— Дзякуй за добрае слова! Не забылася даўнейшае вітанне...

— Мусіць, зачакаліся памочніцу? Пакуль для галадамераў, што ў хаце, і ў хляве, есці зрабіла, дык цэлая гадзіна прамінула.

— Распранайся, Нінка, не стой у парозе,— тупае каля госці баба Наталля.— Яшчэ цэлы вечар наперадзе.

— То паказвайце, ці многа без мяне нашчыравалі...

Цётка Ніна не ўваходзіць, убягае ў пакой, дзе стаяць кросны, бы ў паклоне, нагінаецца над полкай, пяшчотна гладзіць па ёй далонню, то ў адзін, то ў другі бок нахіляе галаву, жмурыць цёмныя, карыя, як у цыганкі, вочы. Колькі доўгіх цягучых хвілін яна маўчыць, нібы забылася, што за спінаю застыла ў чаканні майстрыха, і нечакана пляскае моцна ў далоні:

— Гляньце вы на яе! Сама як лучынка, а душа — бы ў маладзіцы!

— Не мянці языком! — усміхаецца, змахвае з вачэй ражком хусткі слёзы баба Наталля.— Ведаю, што ў цябе язык спрытны на гэта.

— Не сяду за варштат, пакуль не дастанеце з сундука даўнейшыя дываны і посцілкі. Хачу ўзор выбраць для сябе.

— Хіба ад цябе адчэпішся? Нездарма такі сухі, як хрушч, ходзіць твой мужык...

— Знайшлі каго шкадаваць!..— бліснула зубамі цётка Ніна.— Жвавейшы будзе да работы і да пасцелі!..

— А каб цябе! — замахала рукамі баба Наталля.— Пасаромелася б хлопца! — і выскачыла з пакоя ў сені, чутно было, як пстрыкнула там, уключаючы святло.

А хрышчоная матуля падышла да мяне, пачала церабіць на галаве валасы.

— Пяцёркі хоць зрэдку прыносіш?

— Угу...

— Што ў цябе, костка ў горле сядзіць? Дык я мігам падлячу,— і пастукала нямоцна кулаком у спіну.— Палягчэла?

— Ага...

— Няхай цябе пацалуе тады баба-яга!

Я душуся ад смеху, а ў пакой тым часам з цэлым бярэмем тканага дабра вяртаецца баба. Потым жанчыны накідваюць па адной на канапу посцілкі, сцелюць дываны, падоўгу абмяркоўваюць кожны ўзор. Больш гаворыць цётка Ніна, баба толькі ўстаўляе некалькі слоў, дае назву таму, што перад вачыма.

— А гэты абрус, у акенцы, я брала ў восем нітоў... Ніткі даўнейшыя, льняныя, адны адбелены, а другія, сама бачыш, шэрыя, суравыя.

Я паварочваюся ад стала і сапраўды бачу перад сабою маленькія, серабрыстага колеру акенцы, што прыхапіў уначы шэранню мароз. А праз хвіліну ў вачах аж зарабацініла ад узору, які называецца «маргухі».

— Гэты, цётачка, пакажаце, як бярэцца,— просіць мая хрышчоная матуля.— Не абрус, а свята, скакаць хочацца!

— Табе ўсё абы страказіцца,— ушчувае яе баба Наталля.— Ніяк на дзявоцтва не забудзешся.

Цётка Ніна адмахваецца ад яе, як ад мухі, лезе за кросны. І неўзабаве чаўнок, як жывы, скача паміж яе рукамі, звонка ляскаюць набіліцы. Я не ведаю, што мне рабіць: маляваць ці, можа, выслізнуць на вуліцу? Праўда, на горку яшчэ рана, адно бяруцца прыцемкі... Баба Наталля ні на крок не адыходзіць ад памочніцы, просіць яе не спяшацца, бо тая надта бойка ўзялася. А цётка Ніна маўчала, маўчала, як усё роўна ёй замінала гаварыць чырвоная нітка, што

прыліпла да вуснаў, а потым раптам разагнулася, неяк падрасла і заспявала паціху, як сама для сябе.

Да старое бёрда, да старое бёрда,
На новыя нічальніцы.
Да мінаюцца, малада дзяўчыначка,
Усе ж твае вечарніцы...

Сапраўды, мне лепш зараз падняцца і пайсці з хаты. Нават калі, здаралася, спявала мама, і то я чамусьці саромеўся. Чаму? — і сам не ведаю. Не скажу, што не люблю, як пяюць; проста мне тады становіцца цесна, горача, твар мой пачынае залівацца, гарэць чырванню. Мяккі грудны голас хрышчонай матулі нібы спавівае мяне, не дае зварухнуцца з месца.

Да стары свіран, да стары свіран,
Да новае будаванейка.
Да мінаецца, малада дзяўчыначка,
Усё ж тваё ды гулянейка!

Баба Наталля, прытуліўшыся спінаю да блакітнай кафельнай печкі, звыкла сашчапіла на грудзях учарнелыя малыя рукі і глухаватым далёкім рэхампадгалоскам падводзіць цётцы Ніне. І я, слухаючы іх, пранізліва чую, як паціху снуецца, шчыміць на сэрцы невыказны жаль. Мне думаецца пра Марыну Юр'еўну... Праз тыдзень ці два, як я ўпершыню ўбачыў яе ў сваім класе, да мяне па дарозе дамоў прыліп Клімковіч. Ён адвёў мяне ўбок і цвіркнуў разам са слінаю праз жоўтыя зубы: «Глядзі мне, каб больш на ўроках Марыны без выбрыкаў!..» Так і сказаў — Марыны... У грудзях маіх закіпела, але я змаўчаў. Дый што я мог сказаць боўдзілу, у якога адзін кулак — маіх два? Нечаканай мне такая пагроза не была. Я ўжо заўважыў, як раптоўна змяніўся за апошнія дні Клімковіч; ён быццам прыціх, а на ўроках малявання са сваёй задняй парты проста еў вачыма настаўніцу. Спачатку я цішком пасмейваўся з гэтага

дурня, але аднойчы на ўроку Марына Юр'еўна надоўга спынілася каля мае парты, паўглядалася ў мой малюнак. Яе маленькая далонька з танклявымі пальцамі, на якіх бэзавымі агеньчыкамі гарэлі дагледжаныя пазногці, мякка апусцілася каля маіх заляпаных чарнілам чырвоных абветраных рук. Потым я блізка-блізка ад сябе ўбачыў яе шчаку з зярняткам радзімкі каля вуха — на ім маленькім сонейкам пагойдвалася жоўтая завушніца. Як зачараваны, я прыліп да завушніцы вачыма і адчуваў, як у мяне лёгка кружыцца галава. Марына Юр'еўна штосьці гаварыла мне, паказвала на малюнку, але я нічога не чуў, як заведзены ківаў і ківаў галавою, баючыся сустрэцца з яе сінімі глыбокімі вачамі. З таго самага дня для мяне стала салодкай пакутай чакаць урокі малявання...

З кім гуляла, жартавала,
Сама таго да не відала.
З каго кпіла, смяялася,—
Сама таму да папалася...

Спачатку я вельмі шкадаваў, што Марына Юр'еўна кватаруе ў Лыскавічах, якія выцягнуліся ў адну доўгую нудную вуліцу з налепленымі адна каля аднае хатамі. Хіба іх можна параўнаць з нашымі Валовічамі, дзе ўсе выгоды — і магазін, і пошта, і клуб? Стрэліла ж некаму ў галаву пабудаваць на тым баку Бярозкі школу, як быццам на нашым беразе не хапіла месца! У клубе кіншчык штовечар круціць кіно, здараецца — індыйскае, часцей двухсерыйнае, на якое збягаецца моладзь з усёй ваколіцы. Тады на афішах, напісаных ад рукі і прыклееных да электрычных слупоў, здалёк стракаціць у вочы: да 16 год. А мы і не вельмі прэмся — адкуль узяць тыя паўрубля? Збіраемся ў гурт на вуліцы і глядзім пра недазволеную любоў праз вокны клуба. І ніякая прастуда нікога не бярэ, хоць ногі задубеюць — як на палках ідзеш дамоў. Я прыбягаў да клуба з патаем-

най надзеяй убачыць Марыну Юр'еўну, але яна чамусьці на заморскія відовішчы не спяшаецца, не ходзіць зусім. Дурань, толькі нядаўна даўмеўся: хіба ж у горадзе не хапае клубаў, кінатэатраў? Усё, што ёй захочацца, яна і там паглядзіць.

А колькі дзён назад я раней выбраўся да школы, сказаўшы бабе Наталлі, што дзяжурны па класе. Акурат са Слоніма прыйшоў ранішні аўтобус. З адчыненых пярэдніх дзверцаў, усміхаючыся, выскачыла настаўніца малявання. Як заўсёды прыгожа апранутая — у белай вязанай шапачцы, што хораша пасавала да цёмна-карычневага кажушка, на нагах белыя боцікі... Я прыпыніў хаду, счакаў, пакуль яна адыдзецца трохі далей, і пасунуўся ўслед назіркам, адчуваючы, як соладка калоціцца ў грудзях сэрца: «Хаця б не павярнулася! Хаця б не здагадалася!..»

Праз дзень я зноў падаўся ў школу раней звычайнага, ужо зусім нічога не сказаўшы бабе Наталлі. Лепш змаўчаць, чым асуджваць. Дый бабу не надта ашукаеш...

Да цераз свой двор, да цераз свой двор,
Да па ваду хадзіла.
Ой не даў мне бог, не судзіў мне бог,
Да каго я любіла-а!..

Скончыўшы спяваць, цётка Ніна ўраз абвяла ўся, сядзела, трымаючы ў руках чаўнок, быццам не ведала, што з ім рабіць. У хаце стала нязвыкла ціха, аж зазвінела ў вушах. І ўпершыню, мусіць, я шчыра пашкадаваў, што песня была такая кароткая. Слухаў бы, здаецца, цэлы вечар... Сумна гляджу на чысты, некрануты ліст альбома, на маўклівыя шэрыя фарбы, якіх засталося на два-тры малюнкі. «І прыдумала ж тэму — «Зімовыя забавы»... Магла б і прасцей сказаць, напрыклад, намалюйце зімовы лес». Я чую, як цяжка ўздыхае, нібы ачнулася са сну, хрышчоная матуля, і не пазнаю яе голасу. Куды падзелася ня-

даўняя жартаўлівасць, весялосць? Быццам другі чалавек гаворыць — стомлены, змарнелы ад хваробы:

— А мне сёння, цётачка, зноў Сцёпка прысніўся... З паставы — хлапчук хлапчуком, а павярнуўся — твар учарнелы, зморшчаны, бы печаны яблык. Сплакалася — падушка пад раніцу ўся была мокрая...

— А я сабе так думаю: прыйдзе час — адгукнецца,— папраўляе на галаве хустку баба Наталля.— Хоць раз ды прыедзе зірнуць, адкуль у божы свет выбраўся...

— На лета дваццаць год міне як ні слуху ні духу. Каб быў жывы...

— А ты не кладзі, не пхай заранёў яго ў магілу,— перабівае, не хоча слухаць баба Наталля.— Ачахне з гадамі крыўда, пабачыш, прыедзе..

— А мама, калі ўжо зусім слабая была, нікога так не шкадавала, не клікала, як яго... Так і не дачакалася, каб развітацца, свайго малодшанькага...

І — доўгае маўчанне. Я сяджу, утаропіўшыся ў чысты ліст альбома, і баюся зварухнуцца. Я ведаю, пра каго ідзе размова, у нас у вёсцы нават прымаўка ходзіць такая: «Памог татулю, як Сцёпка...»

— Мы, старэйшыя, вінаватыя, што ён роднай хаты выракся, нікога бачыць не хоча,— дрыжыць, ірвецца ад слёз голас хрышчонай матулі.— Зацкавалі, задзяўблі ўчатырох, каб маглі — утапілі б! Колькі раз мама бараніла, а яна адыдзецца, а мы ў галаву, у галаву: «Ты бацьку забіў! Ты бацьку забіў!..»

— Гавары, ды не загаворвайся,— перабівае яе баба Наталля.— А што крыўдзілі адно аднаго, дык ведама ж — дзеці...

— Вунь колькі год прамінула, а помню ўсё да драбніцы, быццам учора было...— пачынае расказваць цётка Ніна, закрыўшы рукамі сонечную вясёлку, паціху, як сама для сябе.

Яна расказвае, а я ўсё бачу наяве, сапраўды бачу, як якую страшную карціну...

— Мы тым познім восеньскім надвячоркам у хаце ўсе сядзелі, тады па вёсцы не надта бегалі... Большыя хлопцы на печы валтузіліся, у іх там нейкі быў свой клопат. А мы з Насцяю да маці ліплі, яна цыравала пры акне ад вуліцы нашы лахманы, бо зусім абнасіліся. Каля нас, седзячы на ўслоне, роў на ўсю хату Сцёпка. Колькі яму было тады? Пэўне, шосты пайшоў... Равеш — раві, хоць лопні, ніхто цябе, румзу, шкадаваць не стане. Адно калі ні паглядзім у акно, а на вуліцы, акурат насупраць нашай хаты, спыніліся ўтрох у цывільным з вінтоўкамі на плячах. Пастаялі, паўзіраліся на бліжнія будынкі, а потым удвух павярнулі на наш надворак. Спалоханая маці ўмэнт выпусціла з рук шытво, сустрэла нечаканых гасцей у парозе. Адзін высокі, руды, падобны на цыгана, аж голаў угінаў, каб не зачапіцца за бэльку, а другі, насаты, не даставаў і да вуха свайму таварышу. Той, цыганчук, стрэльнуў вачыма на картку, прыбітую па загаду немцаў над дзвярыма, дзе ўсе мы былі перапісаны, спытаў па-руску:

«А где же сам хозяин?..»

«Не ведаю...— паціху, непаслухмянымі, змярцвелымі губамі выціснула з сябе маці.— Як адлучыўся недзе папалудні, дык во дасюль нямашака...»

«Может, вспомнишь, куда отлучился? — падкінуў вінтоўку, што ўсё спаўзала ўніз, вышэй на плячо цыганчук.— Мы из отряда Булака. Он нам по делу нужен...»

«Мо ў кузню падаўся на той канец вёскі? Казаў, нешта ў плузе адвалілася...»

«Ладно, мы подождем...— і, пераглянуўшыся паміж сабою, незнаёмцы прыселі на лаву, побач прыціхлага Сцёпкі.— У нас времени — вся ночь впереди».

І тут, у гэтай наструненай страшнай цішыні, пачуўся Сцёпкаў голас:

«А вось ён ні ў якой і не ў кузні!»

«А где же он?»

«У Зданевічаў сядзіць. Ён часта туды ўвечары на пасядзелкі ходзіць».

«Это недалеко?»

«Не-а...— шмаргануў носам, упіўшыся вачыма ў вінтоўку, Сцёпка.— Праз тры хаты па нашым баку...»

«А показать можешь? — пагладзіў хлапчука па галоўцы насаты, які дагэтуль маўчаў.— Тогда мы еще успеем в отряд за реку, за Щару...»

Маці памкнулася ўставіць слова, але цыганчук цыкнуў на яе: маўчы!

«Так одевайся. Я тебе на улице, если захочешь, даже выстрелить дам».

«А не падманеш? Пабажыся спачатку».

«Вот тебе крест!» — і насаты хуценька перахрысціўся.

Сцёпка мігам ускочыў у зноскі-чаравікі, ніхто не паспеў аказацца, як юркнуў у сені наперад цыганчука. А насаты застаўся ў хаце. Маці, трасучыся ўся, павярнулася да яго.

«Што вы задумалі?! Злітуйцеся над дзецьмі!..»

Мы таксама ўсе ў адзін голас заплакалі. Незнаёмец скрывіўся ва ўсмешцы ды кажа:

«А чего ты ревешь? Они же в кузню не пошли...»

...Я ведаю, што цётка Ніна расказвае праўду, чыстую праўду. І хіба яе віна ў тым, што яна, яшчэ меншая на год за Сцёпку, таксама ўвязалася клікаць бацьку? Гэтага хрышчоная матуля не ўспамінае... Дый адкуль ёй помніць, у чатыры гады?! А людзі, як згаварыўшыся, сам чуў, і неаднойчы, называюць разам з братам і яе! Чаму яны такія жорсткія, чаму не пашкадуюць чалавека? Гляджу на скамянелы твар

хрышчонай матулі, і раптам ён пачынае дрыжаць, расплывацца... Як жа змахнуць непрыкметна слёзы?

...— І цяпер, праз гэтулькі год помню, як тата ішоў па вуліцы. Шапка ў руках, расшпілены... Насупраць сваёй хаты спыніўся, акінуў доўгім позіркам надворак, потым вокны. Нас, мусіць, не ўбачыў, бо ў хаце было цёмна, як у яме. Вялі яго ўдвух. Цыганчук і той, што не заходзіў да нас. Ён і штурхануў прыкладам у бацькаву спіну: хопіць стаяць! Тады за татаў каптан аберуч ухапіўся Сцёпка, пачаў тупаць нагамі, забягаць наперад. Цыганісты дастаў з кішэні шыняля яблык, пачаставаць захацеў. Тыцнуў адзін-два разы і плюнуў: хлапчаня нават не глядзела ў яго-ны бок. Тады над сваім меншанькім схіліўся сам тата, пачаў гладзіць па галоўцы, угаворваў павярнуць дахаты... Не ведаю, як далей усё абярнулася б, каб не той, трэці. Ён схапіў дзіцянё за каўнер і сілком паваlok за сабою. І цяпер — заплюшчу вочы — бачу: валачэ палена якое і нават не азірнецца. Тады і дайшло да нас, дзяцей, што за дзядзькі гэта, з якога яны атрада. Адчыніў дзверы, шпурнуў з усяго размаху хлапчаня ў сені, счакаў, пакуль выйдзе з хаты хаўруснік, што нас вартаваў, накінуў на прабой зашчапку. І пабег даганяць бацьку з цыганістым, а насаты застаўся ківацца каля нашых вокан...

Таго ж вечара прыдыбаў да нас стары Лаўрын Якімовіч, які жыў паблізу школы — яе пры адступленні немцы спалілі. Ён сказаў, каб ішлі забіраць бацьку. Яго застрэлілі ў школьным садзе. Нехта ўдаў, што партызаны не мінаюць нашу хату, што бацька іх сувязны... Маці моўчкі, без галашэння, у чым была,— пайшла да школы. Мы гуртам пасунуліся ўслед за ёю. І разам з усімі, вядома, Сцёпка... Убачыў ён бацьку, скурчанага пад яблыняй на зямлі, спалохаўся, схаваўся за спінаю ў маці, заскуголіў... А мы... Хіба маглі забыцца, хто вызваўся паказаць тату?

...Цётка Ніна моўчкі, не міргаючы, глядзіць на мяне, быццам я і ёсць той самы іхні Сцёпка, які выдаў на смерць роднага бацьку. Нястрымныя дрыжыкі пачынаюць калаціць мяне. Бяздумна, абы не сядзець склаўшы рукі, пэцкаю на лісце фарбамі. І ўсё больш чырвонаю ды чорнаю. Цяпер ужо я ведаю, ні ў кога не буду пытацца, чаму на вясёлкавай посцілцы ідуць чорныя палоскі.

— Валерык, памажы мне посцілкі занесці ў куфар,— просіць баба Наталля.

І я, як адвязаны, падхопліваюся з-за стала. Нават не прыбіраю за сабою. Толькі б хутчэй з хаты, на вуліцу, дзе ўжо сутоньваюцца прыцемкі, дзе можна забыцца на ўсё, кульнуўшыся з горкі на санках.

Калі я прасоўваюся каля кроснаў з посцілкамі ў руках, хрышчоная матуля, вінавата ўсміхаючыся, запыняе, прыціскае мяне да сябе:

— От дурная баба! Самой баліць, дык захацела, каб усім забалела. Чаму ты, бэйбус, не забяжыш калі, цураешся нашай хаты? Калі малы быў, дык млеў за хрышчонаю, а цяпер... Прыйдзеш у нядзелю?

— Ыгы...

Бліснуўшы жалудамі вачэй, цётка Ніна ўсміхаецца:

— Зноў праглынуў язык? Як жа ты каля школьнай дошкі адказваеш ці з дзяўчатамі гаворыш?

Сарамліва вылузваюся з яе рук, забягаю наперад бабы Наталлі, каб хутчэй апынуцца ў сенях.

За спінаю насмешліва ляскаюць набільніцы.

Баба Наталля ўключае святло ў сенях, памалу паднімае пукатае цёмна-бардовае века куфра. Міжволі выцягваю шыю, гляджу з-за яе пляча: што там яшчэ ёсць усярэдзіне? Здаецца, нічога цікавага... Белыя сувоі натканага і квяцістыя крамнага палатна, цэлая горба розных колерам і памерам хустак, кофты, спадніцы. І так казыча ў носе едкім нафталінам,

што ажно чхнуць хочацца. Раптам мне кінулася ў вочы вывернутая на левы бок зімовая шапка, што чарнее ў самым куточку каля прыскрынка. Баба бярэ з маіх рук пасцілку за пасцілкай, кожную акуратна складвае, задумна нахіляецца над сундуком... Калі ж яна намерылася пакласці бліжэй да прыскрынка дыван, тканы ў вакенцы, я спытаў:

— А чыя гэта новая вушанка там ляжыць?

— Якая вушанка? — быццам спалохаўшыся, знерухомела баба.

— Ды вунь тая, што ў куточку каля прыскрынка...

Баба доўга маўчыць, не спяшаецца разгінацца. Я бачу: вагаецца — гаварыць ці не гаварыць? Маю ж руку, наадварот, як магнітам цягне да шапкі, і я не вытрымліваю, выхопліваю яе з сундука.

Шапка сапраўды была новая, абцягнутая зверху чорнаю рыпучаю скураю. Падобную я бачыў толькі на галаве ў дырэктара нашай васьмігодкі. І так і гэтак перакідваю яе ў руках, а прымераць ніяк не адважуся. Зноў пытаюся ў бабы:

— А чаму яе дзед не носіць?

Баба Наталля, не паднімаючы вачэй на мяне, паціху гаворыць:

— То памяць, унучак, табе пра тату...

Думкі блытаюцца ў маёй галаве: памяць... пра тату... А распытаць пра ўсё як след — язык не паварочваецца.

— Дзеду Паўлу, калі ён ездзіў на пахаванне ажно ў тую Карэлію, бацькавы таварышы перадалі. Вырасцеш — будзеш насіць.

«Ах, вось што! — я адчуваю, як раптам стаповіцца цесна-цесна ў маіх грудзях.— Гэта шапка майго таты!..»

Мы доўга маўчым. Я не ведаю, пра што думае баба Наталля, напэўна, пра маё сіроцтва, а ў маёй галаве

гудам гудзе адно і тое: «Гэта татава шапка! Майго таты шапка!..» Дасюль я толькі чуў пра яго ад мамы, бабы, дзеда, бачыў на пажаўцелых здымках і нават на адным сядзеў у яго на каленях (пра тую, страшную картачку, дзе ён ляжыць у дамавіне, успамінаць не хачу, не хачу!), але ў мяне нічагутка не было, да чаго б дакраналася татава рука. І вось такая нечаканка...

— Баба, м-можна, я памераю яе...— заікаючыся ад хвалявання, выдушваю з сябе.

— Памерай,— уздыхае баба Наталля.— Ды яно і так відаць: яшчэ табе завялікая.

Асцярожна, марудна, як у сне, надзяю сабе на галаву бацькаву шапку і колькі хвілін стаю, баючыся паварушыцца. Шапка халодзіць настылаю цемя, вісіць на мне, як на калу. Не, не такая ўжо і вялікая яна, асабліва калі апусціць на патыліцу.

— Можна пахадзіць у ёй, баба,— самахоць вырываецца з мяне.— Нядоўга, усяго адзін вечар...

— Згубіш яшчэ дзе на горцы.

— Не бойся, я матузы пад барадою завяжу. Сёння якраз на дварэ марозік.

Баба Наталля нічога не гаворыць больш, адварочваецца і парадкуе ў сундуку далей.

А я тым часам кідаюся на адной назе ў кухню, хапаю з цвіка старую ватоўку, цёплыя рукавіцы з пячуркі і выкочваюся зноў праз сені на ахутаны маўклівай шэрай сутонлівасцю надворак.

## IV

Ногі самі вынеслі мяне ў адзін міг на вуліцу. У адным і другім канцы будынкі проста на вачах ахінаў мяккаю смугою прыцемак. Колькі хвілін я стаяў насупраць дзедавай хаты, раз-пораз ускідваючы ўгору руку — папраўляў на галаве шапку. Не, яна

сядзела добра, проста карцела яшчэ і яшчэ раз памацаць яе скураны верх. З наступленнем вечара вёска нібыта ажыла. Чуўся лены брэх, які зліваўся з надрыўным прастуджаным грукатам трактара на старой вуліцы, за колькі хат ад мяне нехта галёкаў на карову, пэўна, не хацела ісці ў хлеў. Сюды, у наш бок, галасна размаўляючы паміж сабою, проста пасярэдзіне дарогі няспешна ішлі з магазіна жанчыны. Я збегаў пад паветку, схапіў за вяроўчыну свае драўляныя лёгкія саначкі і падаўся насустрач кабетам. Калі разміналіся, ніводная нават не зірнула ў мой бок. Але мне ўсё роўна не расхацелася пахваліцца абноўкаю, наадварот, я яшчэ хутчэй прыпусціў да магазіна. Мне апрыкла, я аж стаміўся зайздросціць хлопцам. І старэйшым, і малодшым. У аднаго ёсць сцізорык з нажнічкамі, другі недзе здабыў самаробную запальнічку з гільзы, а трэці ўладар наогул вялікага багацця — доўгага, мо на пяць батарэек ліхтарыка. Як бліснe ў вочы — асляпіць. А ў мяне нічагуткa няма, санкі і тыя драўляныя, хоць наракаць на іх няма чаго, пруць не горш, чым жалезныя.

Роўная, раскоўзаная дарога як бачыш прывяла мяне да цаглянай будыніны магазіна, з вузкіх вокан якога цадзілася цьмянае жаўтлявае святло. Каля прылаўка тоўпіліся пакупнікі, перад імі ў белым незашпіленым халаце завіхалася магазінщчыца. Хацелася заскочыць у краму, у мяне нават дзесьці ў кішэні былі капейкі. Аднак стрымліваў сорам, што ўсе адразу здагадаюцца, чаго я заявіўся. Тады хоць праваліся. Стаяў каля высокіх цагляных сходкаў, не ведаючы, што рабіць далей, куды падацца. І тут якраз дзверы магазіна шырока адчыніліся і тут жа моцна бухнулі. Я ўбачыў перад сабою Саню Пакульчыка, з якім хадзіў у адзін клас. Вялікай дружбы ніколі з ім не вадзіў, а цяпер узрадаваўся, як роднаму брату.

— Хадзем на горку пакатаемся!

— Пазней хіба,— Пакульчык з напакаванаю хлебам сеткаю па-заліхвацку скокнуў са сходаў і ўміг апынуўся каля мяне.— За ўрокі яшчэ не браўся. А ў гэтай алгебры сам чорт нагу зломіць.

— Я ўжо прыклады рашыў,— сказаў я.— Падобныя на тыя, што ў класе на дошцы разбіралі.

— Першаму дасі заўтра здуць? — умінаючы за абедзве шчакі свежы пахучы хлеб, спытаў Пакульчык.— Тады хоць зараз з табою, адно хлеб дамоў закіну.

— А ты помніш, каб я каму не даваў? — пацiснуў я плячыма.— Прыйдзем на паўгадзіны раней у школу — спішаш. Мне не шкада, каб толькі правільна было.

— То пачакай трохі! — і паджыгаў, размахваючы сеткаю.

Праз колькі хвілін Пакульчык, які жыў за пяць хат ад магазіна, вярнуўся з санкамі. Урокі — урокамі, а на горцы вясною і ўлетку не пакатаешся. Мы бегам павярнулі ў Рукаў — так называецца завулак у тры хаты, які злучае нашу новую вуліцу са старой. Адразу за старою пачынаецца глыбокая лагчына, дзе цячэ Бярозка.

Я з нецярпеннем чакаў, калі нарэшце Саня заўважыць маю абноўку, а ён, як назнарок, балабоніў пра ўсё на свеце, а пра шапку і не думаў пытацца. Тады я раптам спыніўся, загарадзіўшы санкамі яму дарогу, прамовіў разважліва:

— Шапку трэба лепш завязаць, бо матузы аслаблі!

— Ого, а дзе ты сабе такі шлем раздабыў? — лыпнуў вачыма Пакульчык.— У такім — любыя гурбы не страшныя. Хоць разганіся ды галавою...

— Ніякі гэта не шлем! — завязваючы матузы непаслухмянымі пальцамі, запярэчыў я.

— Дальбог, падобная!

— То бацькава шапка,— з гонарам сказаў я і, памаўчаўшы трохі, дадаў: — Мне дзед Павел з Карэліі прывёз.

— Ажно з самой Карэліі? — пакруціў недаверліва галавою Саня, прапусціўшы міма вушэй, што гэта не абы-якая шапка, а бацькава.— А ці далёка зямля тая?..

— Далёка, каля самага Ледавітага акіяна,— не задумваючыся, кінуў я і, сам не ведаю чаму, лёгка зманіў: — У майго бацькі ажно тры такія шапкі былі. Праўда, падобная на тую, што носіць дырэктар?

Пакульчык паспешліва кіўнуў галавою ў знак згоды.

На Дужай горцы — так з даўніх часоў называюць яе ў нашай вёсцы — нікагутка яшчэ не было. Ад старой вуліцы яна была пакатая, а на той бок грэбеня, да рэчкі, спуск быў стромкі, што абрыў. Ляціш — ажно дух займае. Старэйшыя хлопцы, якія адважваліся спускацца на лыжах, зрабілі пасярэдзіне расслізганага жолаба два трампліны: адзін вялікі, другі малы. Абмінуць гэтыя страшныя парогі было цяжка, амаль немагчыма, таму не адзін з нас тут куляўся праз галаву. Затое якая радасць, калі праскочыш, дапнеш да самага берага Бярозкі! Галоўнае — не баяцца тых двух парогаў-гарбоў. Адолееш адзін раз — быццам крылы вырастаюць за плячыма.

— Давай ты першы!..— калі нарэшце мы апынуліся на самым версе Дужай, прапанаваў Саня і прызнаўся: — Страшна... Я даўно не спускаўся.

Першы дык першы. Адмовіцца — таксама не выпадае. Гэта значыць збаяцца. А каму хочацца паказваць сваю баязлівасць, асабліва калі ў цябе верацъ? Я прысеў на санкі, каб разгледзецца, перавесці, як кажуць, дух. Далёка ўнізе шэраю вужакаю паўзла кудысьці Лыскаўская вуліца. Нідзе ніводнага агеньчыка, бо хаты заступалі гумны і хлявы, падобныя на

старадаўнія шаломы стагі саломы і сена. А драўляны масток праз Бярозку, што злучаў наш бераг з Лыскавіцкім, адсюль здаўся дзіцячаю гушкалкаю — такі быў маленькі. Вочы ў шараватых прыцемках, выхоплівалі кожную ямінку, кожны выступ на снежнай строме, з якой неўзабаве мусіў спусціцца. А зрабіць гэта даўно пара, бо за плячыма маўкліва сапе, нецярпліва варушыцца Пакульчык. Каторы раз паправіў на галаве шапку, што ўсё наравіла з патыліцы ссунуцца на лоб, адчуў сябе адважным лётчыкам, прыпаў намёртва ніцма да санак і з усяе сілы адпіхнуўся нагамі.

Зліўшыся з драўлянкамі, наўмысна і адчайна кірую проста на хрыбеціну вялікага трампліна. Няхай вучыцца хітры Пакульчык, як трэба спускацца! Праз імгненне высока гайданула ў неба, аж не стала чым дыхаць, потым мякка апусціла на зямлю, апаліўшы твар снежнымі гарачымі крупамі.

«Ух, як кідае! — мільганула ў галаве.— Трэба трошкі прытармазіць...» Не даляцеўшы да малога трампліна, чыркнуў нагою па снезе. Санкі рэзка кінула ўбок... Далей нічога не бачыў. Куляўся даўжэй, мусіць, чым ехаў. Падхапіўшыся на ногі, не змог адразу нават пайсці: усё хісталася перад вачамі, плыло. Хапатліва збіў далей на патыліцу шапку, страсянуў галавою, няўцямна азірнуўся вакол сябе. Па-сапраўднаму ачомаўся толькі тады, калі ўбачыў непадалёку перакуленыя дагары санкі.

— Гэй, як там, ці жывы? — чуецца з гары крык Пакульчыка.— Добра нясе?

— Спускайся — сам убачыш,— хутка абіваючы з ватоўкі снег, знарок весела гукаю ў адказ: вельмі не хацелася, каб Саня ведаў, як няўдала я размінуўся з меншым трамплінам. «Дзе там... гэты ўсё згледзіць... І навошта мне ўздумалася тармазіць?!»

Але Пакульчыку яшчэ больш перапала. Яго пера-

кінула адразу пасля першага трампліна, а на другім санкі селі яму проста на галаву. Так і каціўся далей, абдымаючыся з жалязякамі палазоў. І хоць бы што яму! Нат не войкнуў, не скрывіўся.

Нарагатаўшыся адзін з аднаго, зноўку цярэбімся на грэбень Дужай. Каб узлезці на яе адсюль, з лагчыны, трэба ладны кавалак ісці наўскасяк да вуліцы. Круг, вядома, немалы, але інакш на вяршыню не ўзабрацца. Нос хутчэй расквасіш, а напрасткі не падымешся. Не адзін хват праверыў на сабе. І я таксама.

Бегучы навыперадкі па старой вуліцы, мы ўбачылі, што каля Зmітручковай хаты, непадалёку ад горкі, хтосьці стаіць. Як ні прыглядваўся я — не пазнаваў, бо ўжо насунулася цемната.

— Што тут гадаць! — упэўнена сказаў Саня.— Гэта Гыгыгы. Я за тры кіламетры яго пазнаю. Ну, канечне, ён! Хто яшчэ стане горку ўвечары вартаваць?

Пакульчык не памыліўся. Сапраўды, насустрач нам валюхаўся Васюкоў Толік, якога ўсе ў вёсцы ад малога і да старога называюць толькі па мянушцы — Гыгыгы. Такая дзіўная мянушка да яго прыліпла даўно, яшчэ з дзяцінства. І недарма: Толік і цяпер апраўдваў яе. Загавары з ім, дык абавязкова пачуеш у адказ: «Гы-гы-гы!..» З малых год у небаракі памуцілася ў галаве, але не настолькі, каб сказаць, што чалавек зусім дурны. Брыгадзір, калі нявыкрутка, нават з віламі па салому ці да капцоў бульбу грузіць пасылае. І нічога — спраўляецца, бо сілы на траіх хапае. У свае дваццаць год Толік выцягнуўся ростам вышэй некаторых мужчын. А як і што рабіць, калі сваіх мазгоў не хапае,— людзі падкажуць. Не такая ўжо складаная навука віламі махаць. І Гыгыгы шчыра ўлягаў у работу. Пахваляць — дзікавата ўсміхнецца, гыгыкне, паплюе ў далоні — кажыце, за што

далей брацца. Старая Васючыха, у якой ён быў самы малодшы з трох сыноў, нават хвалілася сваім Толічкам. Чыгуны паставіць у печ і дастане, калі папросіш, сечкі карове ўрэжа, авечак улетку адпасе (чараду кароў аднаму пасвіць не давалі), дровы хоць цэлы дзень секчы будзе. Тыя ж, першыя два сыны, што ў вучоныя, у інжынеры выбіліся, па гарадах жывуць, дахаты адно ў госці прыязджаюць. Васюк вельмі ганарыцца імі, асабліва сярэднім, які ўдала жаніўся і да бацькавай хаты на ўласным «Масквічы» падрульвае. А калі ў малодшага розуму таго на макавае зерне — дык свой не ўставіш, такі ўжо ўрадзіўся. Толік баяўся бацькі як агню, хоць той і быў яму па плячо. Стары Васюк, калі напіваўся, меў звычку лупцаваць лейцамі з вуздэчкай апошняга сына. На горкі яблык змалочваў. За што? — каб хто спытаў. Ды за тое, відаць, што ў сынавай галаве непарадак, што асараміціў сваёй дурасцю перад людзьмі ўсю сям'ю. Як быццам ён у тым вінаваты...

Таму Толік не затрымліваўся ў хаце, асабліва ўвечары. То спяшаўся да клуба, дзе яго пускалі бясплатна ў кіно (дапамагаў кіншчыку афішы расклейваць па вёсцы), то паўдня каля магазіна дзяжурыў. А часцей за ўсё небараку можна было сустрэць там, дзе збіраліся мы, школьнікі. Хлопцы цэлы вечар у хакей будуць гуляць — нікуды не адлучыцца, ні на хвіліну не адыдзецца. Выйшла шайба з гульні, заляцела куды далёка — ён тут як тут, з радасцю бяжыць, каб прынесці назад.

— Малайчына, Толік! — пахваліць хто-небудзь з нас.— На цябе ўся надзея.

А Толік як заўсёды:

— Гы-гы-гы!

І ўвесь адказ. Разумей як хочаш.

Калі мы з Пакульчыкам параўняліся з Толікам, той сустрэў нас знаёмай вінавата-баязлівай усмеш-

каю. На галаве — летняя белая кепка з паламаным брылём, на плячах нейкая апранаха з кароткімі папапленымі рукавамі, з кішэні тырчыць надламаная булка.

— Здароў быў, Толік! — знарок моцна выгукнуў Саня.— Ты ўжо тут як тут.

— Гы-гы-гы...

— Чаго гыгыкаеш? Мусіць, добра жывеш? Булкі, вунь, з кішэняў растуць!

— Гы-гы-гы!..

— І ніякі мароз цябе не бярэ! — Пакульчык раптам падскочыў і пацягнуў Толікаву шапку ўніз за брыль.

Гыгыгы нават не скрывіўся. Як усё роўна нічога не здарылася, паправіў кепку і па-ранейшаму бесклапотна ўсміхаўся, паказваючы свае вялікія, нібы конскія зубы.

— Вось што, ты давай зубы не сушы,— задаволена рагочучы, сказаў Саня,— а вазьмі ды правязі мяне па вуліцы, каб ажно снег слупом за спінаю,— і падаў Толіку вяроўчыну ад сваіх санак.

— Гы-гы-гы...

— Не гы-гы-гы, а давай варушыся! — гопнуўшыся на санкі, закамандаваў Пакульчык.— Но! Но, пайшоў, конік! Весялей, мой харошы!..

І Толік пабег. Спачатку бокам, нясмела, часта азіраючыся, а пасля ўлёг з усяе сілы.

«Ну, Пакульчык! Вось дык прыдумаў,— думалася мне, калі я чакаў смелага ездака назад.— Лоўка ён зацугляў гэтага каня!»

Сам я, калі шчыра сказаць, дык пабойваюся Васюковага Толіка, абыходжу яго як мага далей. Адны пудовыя кулакі Гыгыгы чаго варты, каго хочаш застрашаць. А яшчэ як утаропіцца сваім дзіўным вінаватым позіркам, дык аж сцішна робіцца. Аднойчы восенню, адбываючы радоўку, я надумаў прабегчы ўскрай лесу

паглядзець грыбы. Якраз зялёнкі і падзялёнкі высыпалі. Сноўдаўся, бегаў па маладой пасадцы, не адрываючы вачэй ад зямлі, як раптам пачуў: хтосьці цягнецца ззаду. Азірнуўся — Гыгыгы. Стаіць з пустым кошыкам, усміхаецца. Ці то штосьці хоча сказаць, ці то нешта ад цябе чакае... І каб хоць словам аказаўся — не нямко ж! Да дрыжыкаў у каленях страшна стала. Павярнуўся, ды як ламануў да кароў! Добра, што не адзін пасвіў, а з дзедам Паўлам...

Пакульчык, праехаўшы метраў сто, загадаў Толіку павярнуць назад. Вяртацца трэба было пад гару. А гэта як-ніяк не ўніз скаціцца. Але Гыгыгы нават не прыпыніўся. Шоргаў па снезе сваімі гумовымі дзіравымі ботамі, толькі пара валіла з рота.

— Тпр-р-ру, халера! — спыніў яго каля мяне Саня.— Не конь, а трактар у трыста конскіх сіл.

— Гы-гы-гы! — зарагатаў Толік, выціраючы ўзмакрэлы шырокі лоб.

— У школу — за пяць мінут запёр бы,— падняўся з санак Пакульчык.— Праўду бацька кажа: сіла ёсць — мазгоў не трэба. Акурат пра яго,— махнуў рукою на Васюковага, што стаяў побач, і спытаў грубым голасам: — Ну, аддыхаўся?

Толік, вядома, нічога не адказаў: стаяў, звесіўшы доўгія, ці не да каленяў, рукі, загнана дыхаў. Адмаўляцца ён проста не ўмеў.

— А цяпер — твая чарга,— нечакана павярнуўся да мяне Саня.— Павернеш там, дзе я павярнуў, бо ён цябе без каманды аж да Малашоў запрэ.

— Што ты! Я не буду! — спалохаўся я не на жартачкі.— Дальбог, не хачу!

— Ды кінь ты!..— скрывіўся грэбліва Пакульчык.— Яму самому размяцца трэба...

— Саня! Я ж кажу — не хочацца,— узмаліўся я.— Лепш давай з горкі яшчэ раз з'едзем.

— А ты паспрабуй, паспрабуй! — і Пакульчык

сілком, за плечы, пасадзіў мяне на свае санкі.— Пабачыш, спадабаецца...— гыркнуў на Гыгыгы: — Цягні!..

Толік з гатоўнасцю рвануў з месца, і я ледзь не паляцеў з санак, але зачапіўся нагамі за палазы.

— Давай, конік, давай! — голасна крычаў, пранізліва свістаў ззаду Пакульчык.— Пакажы, на што ты здатны.

Спыніць цяпер Толіка — што схапіць на скаку неаб'езджанага жарабца. Санкі рэзка вадзіла ў бакі. Здавалася, яны вось-вось перакуляцца, і я, чакаючы гэтага імгнення, учапіўся рукамі і нагамі. Потым мне зрабілася смешна: надта ўжо стараўся дагадзіць Пакульчыку Гыгыгы. Імчаў — аж абодва крылы незашпіленай апранахі разляталіся ў бакі. Я, сабраўшыся з духам, крыкнуў чужым, падобным да Пакульчыкавага, голасам:

— Малайчына, Толік! Давай назад!

Гыгыгы, мусіць, не чакаў, што так хутка, на паўдарозе, яму загадаюць паварочваць. Ён рэзка спыніўся, падцята ўзмахнуў рукамі і грымнуўся вобземлю, спінаю назад.

Праз імгненне, проста на галаву яму, наскочыў я, седзячы на санках. Пераляцеў праз беднага Толіка, балюча, аж пранізала ўсяго токам, выцяўся локцямі аб скамянелую зямлю. Ды шкадаваць сябе не было калі. Страшыла, гняло іншае: як там Толік? Каб хоць яму абышлося, бо хто ведае, што яму цюкне ў галаву? Я падняўся, баязліва наблізіўся да Гыгыгы, які, абшчаперыўшы галаву, нерухома сядзеў на зледзянелым снезе.

— Паднімайся, Толік!

У адказ — ні слова.

— Ты прастудзішся...

Раптам Толікавы плечы ўздрыганулі, нібы па спіне хто сцебануў пугаю, а галава дробна-дробна за-

трэслася ад нястрымнага плачу. Ён плакаў і не хаваўся, што плача, як малое дзіця. Трымаўся адною рукою за пабітую галаву, на якой па самыя вушы сядзела кепка, а другою — раз-пораз змахваў са шчок слёзы і моцна ўсхліпваў, шморгаючы носам.

Я глядзеў на яго шырока расплюшчанымі вачыма (упершыню бачыў, каб так плакаў Гыгыгы), бездапаможна круціў галавою і не ведаў, што рабіць. Супакойваць, гаварыць з Толікам я чамусьці саромеўся, а пакінуць аднаго тут — таксама было нядобра, неяк па-здрадніцку. І разам з тым у маім сэрцы варушыўся пякучы жаль да Толіка, я адчуваў сябе вінаватым у тым, што здарылася. З палёгкай уздыхнуў толькі тады, калі ўбачыў, што да нас бяжыць Пакульчык.

— Што ў вас тут такое? — здалёк спытаўся Саня.— Аварыя?

Калі сябрук нарэшце апынуўся побач, я расказаў яму пра ўсё.

— Куды каму, а дурню — па галаве,— абыякава махнуў рукою Пакульчык і тузануў Толіка за плячо.— Чаго рассеўся, як у сябе дома на печы?

Гыгыгы баязліва ўцягвае ў плечы галаву, сцішваецца, перастае плакаць.

— Забалела бедненькаму... Калі баішся сінякоў, дык не блытайся пад нагамі! — зазвінеў зласлівымі ноткамі Санін голас.— Пайшлі, Валера... Няхай сядзіць. Дурную галаву ў шапку не схаваеш.

Мы спяшаемся на Дужую горку, дзе чуюцца бадзёрыя галасы — гэта падышло папаўненне.

Перад тым як зноў асядлаць санкі, з прыкрасцю азіраюся ў той бок, дзе застаўся сядзець Гыгыгы, але Пакульчык, перахапіўшы мой позірк, жартаўліва бухае ў спіну:

— Ды ліха яго не возьме! Як азадак замерзне — падхопіцца, яго адсюль калом не адгоніш.

## V

Напэўна, ужо даўно за дзесяць гадзін, а на Дужай самае катанне. Каго тут толькі няма: ад малых, што нават не ходзяць у школу, да старшакласнікаў, большасць якіх, праўда, стоўпілася каля Змітручковай хаты, дзе міргае адзін на ўсю старую вуліцу ліхтар. У руках у хлопцаў — загнутыя кіі, яны заўзята гуляюць у хакей. Не на каньках, канечне, а ў кірзачах або валёнках.

Я чую сябе ў гэтай штурханіне, крыклівай вірлівасці, як рыба ў вадзе. Ад частай імклівай язды, ад калючага марозіку, што студзіць гарачы твар, ад віскату снегу пад палазамі — лёгка кружыцца галава, а ў горле казыча, бо хочацца галёкаць, спяваць.

Сёння, як ніколі, у мяне ўсё добра атрымліваецца, асабліва скачкі з трамплінаў. Санкі імчаць хутка, проста выслізгваюць з-пад грудзей, і я шмат каго пакідаю ў сябе за спінаю, зляцеўшы шчасліва з малога трампліна. На што ўжо сямікласнік Андрэй Харкевіч яздок — я, здараецца, і яго абыходжу. Ненамнога, але абыходжу, вышэй скачу з абодвух трамплінаў і сам з таго дзіўлюся. Андрэй незадаволена крывіцца: маўляў, выпадкова. Кругленькі, як качан капусты, Пакульчык згаджаецца з ім: вядома, выпадковасць, тут з Харкевічам ніхто не зраўняецца.

Мяне бянтэжыць і злуе такая ліслівая няпраўда, мне хочацца настаяць на сваім: ёсць сярод нас нягоршыя за Андрэя... Хоць тут, на горцы, яго можна апярэдзіць, бо ў астатнім мне з фельчарскім сынам не зраўняцца. Андрэеў здымак у самым цэнтры школьнай Дошкі гонару, ён два гады сцяганосец нашай піянерскай дружыны, ды што казаць! — на ягонай руцэ гадзіннік, вунь, і то не абы-які, а самы сапраўдны «Камандзірскі»!.. У мяне ж ніякага няма, і

невядома, калі будзе. Затое ёсць хромавая бацькава шапка, няхай яшчэ хто пахваліцца такою!

Дыбаю задыхана, абганяючы ўсіх, на горку, раяцца думкі ў галаве, а толькі зноў трапляю на вяршыню Дужай — умомант забываюся пра ўсё. Разбягаюся, адчайна кідаюся на санкі... Паспрабуй дагані, Харкевіч! А пра цябе, прыліпала Пакульчык, і казаць няма чаго!..

За гэтым, апошнім разам зусім мала не дацягваю да купчастага, дробнага альшэўніку, што маўкліва стыне над шчодра засыпанай снегам Бярозай. Даўно ўжо ўладарыць позні зімовы вечар, але ад снегу ідзе мяккая роўная відната, таму падманліва здаецца, што ўсё яшчэ рана, можна пракатнуцца яшчэ раз. Не, досыць, трэба кіравацъ дахаты. Я ж зусім забыўся: на стале так і застаўся ляжаць альбом. Сёння ўжо наўрад ці намалюю «Зімовыя забавы», мо паспею заўтра зранку. Павінен паспець...

З горкі проста на мяне імкліва набліжаецца доўгі саначны цягнік. Крыкі, смех, свіст. Высокі горб трампліна... І цягніка ўжо няма, з віскатам сюды, да рэчкі, коціцца, рассыпаецца клубок... Я смяюся, я ведаю, што заўтра буду маляваць. Нізавошта не прыдумаць цікавей за гэты крыклівы саначны цягнік. Санкі ў адзін бок, ездакі ў другі, а шапкі — у трэці... Найлепшая зімовая забава!

Сцягваю мокрыя рукавіцы, тру шорсткім снегам далоні, колькі разоў прысядаю на непаслухмяных нагах. Потым развязваю пад барадою пруткія зледзянелыя матузы... Якая цёплая ўсё-такі бацькава шапка! Няўжо баба Наталля не дазволіць надзець яе заўтра ў школу? Нідзе не дзенецца, як-небудзь выклянчу. Яна мяне любіць...

Пад ліхтаром насупраць Змітручковай хаты ўсё яшчэ гуляюць у хакей. Чуваць, як грукаюць, трашчаць клюшкі-кіі, як хапатліва сапуць хакеісты. Пад-

ножка, нехта смешна ўзмахнуў рукамі, цалуецца з цвёрдаю зямлёю. Каля электрычнага слупа стаіць Гыгыгы. Брыль кепкі заехаў далёка набок, апранаха расхрыстана, рукі ў кішэнях. А на тоўстых адтапыраных губах блукае і ні на імгненне не знікае дзіўнаватая, нейкая дзіцячая ўсмешка. Вось стары чорны абцас ад гумовага бота, што служыць за шайбу, адлятае да Толіка. Гыгыгы, нязграбна матляючы рукамі, кідаецца да яго, каб аддаць назад гульцам, але адзін з іх, які найбліжэй да шайбы, шпурляе ў Васюковага кіем:

— Не чапай, дурыла!

— Гыгыгы, падай! Кідай сюды! Не слухай яго, боўдзіла!

Толік, як спутаны, тузаецца туды-сюды, не ведаючы, каго слухаць, і па-ранейшаму на губах ягоных цвіце дурнаватая ўсмешка. Усе вакол рагочуць, а мне робіцца шкада беднага Гыгыгы, шкада і брыдка. Адразу ўспомнілася, як наскочыў з санкамі яму на галаву. Мне ўжо нецікава, хто каго пераможа, адварочваюся, каб ісці дахаты.

Раптам нехта за спінаю аклікае мяне:

— Пачакай, Літвінчук!

І хоць Клімковіч нібыта прыязна пасміхаецца, я адразу натапырваюся, як верабей,— гэты проста так чапляцца не стане.

— Дай пракатнуцца на санках!

— Я ўжо дахаты іду...— нязгодна кручу галавою.

— Ды не жміндзі ты! — стукнуў нагою ў мае санкі Клімковіч.— Усе на горцы, а ты дахаты...

— Каля рэчкі не кінеш? — пытаюся памяркоўна, з надзеяй разысціся па-добраму.— Калі прыцягнеш сюды, у мае рукі, дык бяры...

— Як з'еду добра — то не пабяжыш,— ухмыляецца Клімковіч,— сам прывязу.

— Узрадаваў!..— тузаю за вяроўчыну і бяру санкі пад паху.— Папрасі ў другога.

— Вы бачылі такую жмінду? — здзіўлена ўскідвае бровы Клімковіч і паварочваецца да хлопцаў, якія гуляюць у хакей.— Санкі пашкадаваў, не даў праехацца!..

Я ўжо пэўна ведаю, што Клімковіч проста так не адчэпіцца, нездарма шосты год разам вучымся. І чаго ён так нахабна ліпне — таксама няцяжка здагадацца. З-за Марыны Юр'еўны, за тое, што на ўроках яна часцей спыняецца каля маёй парты, чым каля яго. Ага, я вінаваты, што лепш малюю за яго... Дудкі, няхай сваю мазню не падсоўвае перад урокам — нічога папраўляць не стану. Я ведаю, што мне лепш зараз ногі ў рукі і... Куды такому здыхляку біцца з Клімковічам?.. Але даць сёння драпака, каб заўтра зноў сустрэцца ў класе... Што будзе — тое будзе, у кожнага ёсць кулакі, няхай сабе й няроўныя.

— Дык ты яшчэ не перадумаў? — падыходзіць бліжэй да мяне Клімковіч.— А калі мы цябе папросім харашэнька? Мо адпусцішся, памякчэеш?

Я зацята маўчу, трымаючы пад пахаю санкі, і чую, як у грудзях скача сэрца. А пасля здарылася тое, чаго я ніяк не чакаў. Нехта ззаду падскочыў да мяне і лёгка, забаўляючыся, сцягнуў з галавы бацькаву шапку. Адбегся недалёка, падкінуў яе ўгору і крыкнуў:

— Хлопцы, футбол!

Па голасе я пазнаю: пастараўся Харкевіч.

На некалькі доўгіх пакутных хвілін мяне скоўвае здранцвенне. І рукі і ногі нібы наліліся жалезам, не паварушыць імі. Чаго-чаго, а такога здзеку я не чакаў. Няўцямна, быццам нечымі староннімі чужымі вачыма пазіраю, як да шапкі дружна падскочылі хлопцы, штурхаючыся паміж сабою, падфутбольваюць яе, топчуць нагамі...

Гарачая, дзікая хваля стукнула мне ў грудзі, аж зазвінела ў галаве. Быццам выкінутая на бераг рыбіна, я хапянуў паветра, шпурнуў на зямлю, як непатрэбныя, санкі. Я нікога і нічога не бачыў, акрамя бацькавай шапкі і Харкевіча, які ўжо сам не гуляў у футбол, а нешта крычаў. Не помнячы сябе, я рынуўся да фельчарскага сынка: не выслізнуць яму з маіх рук! Зальецца юшкаю, тхарына!..

Да ўсмешлівай пысы крыўдзіцеля заставалася зусім недалёка, мо з пяць крокаў, як раптам, быццам падсечаны, я даў нырца ў зямлю. І не дзіва: лепш за Клімковіча, мабыць, ніхто ў школе не ўмее ставіць падножкі. Я праехаў ракачам па слізгаўцы, дзе нядаўна гулялі ў хакей, тут жа ўзвіўся на ногі. Хлопцы абступілі мяне з усіх бакоў, душацца ад смеху. Я гатовы кожнаму з іх заткнуць зяпу, але не магу даўмецца, на каго першага кінуцца. Да вострай рэзі ў вачах усё дрыжыць, мітусіцца, хістаецца... І раптам, зусім блізка, мільгануў Харкевічаў твар, кропля ў кроплю падобны на той, што красуецца на Дошцы гонару...

І адкуль толькі сіла ўзялася — так уклеіў, што ажно адчуў, як агнём хапянула пучкі пальцаў. Прыклаўся што трэба — войкнуў, схапіўся за вока, асунуўся, як мяшок, каля плота порсткі фельчарскі сынок. Я крутнуўся да Клімковіча, але спыніўся на паўдарозе — гэты так шмаргане, што сам праз плот пералячу... Таму, глытаючы слёзы, сарваўся на заіклівы хрыплы крык:

— Ты яшчэ пашкадуеш, Клім! Пабачыш... У зубах прынясеш мне шапку!

— Ага, бягу ўжо,— пад рогат з'едліва адказвае Клімковіч,— аж спатыкаюся за тваю хромку новенькую... паглядзі...— і ён грэбліва, наском бота, адкідвае далей ад сябе вушанку.— Футбол працягваецца! Другі тайм!

Але ніхто не паспеў нават скрануцца з месца, не

тое што замахнуцца нагою. Да шапкі зусім нечакана для ўсіх, для самога мяне, хіснуўся з-за слупа Гыгыгы. Ён проста зваліўся на шапку, надзейна схаваў пад сваёю вялікаю, як гара, спінаю. Ад такой неспадзяванкі гульцы разгубіліся: паціскалі плячыма, пазіралі адзін на аднаго і не ведалі, што рабіць. Першы апамятаўся іхні камандзір. Ён падскочыў да Васюковага, таўкануў яго нагою ў бок.

— Гэй, Толік, не выдурняйся! Гэта не твая шапка!

Толік і не думаў паднімацца, аддаваць шапку.

— Ты чуеш, Гыгыгы! — нагінаецца, запускае пад Толікавы грудзі руку Клімковіч. Ён спрабуе адабраць, выдраць з-пад Толіка шапку, але бачыць, што дарэмна намагаецца — той учапіўся за сваю здабычу зубамі. Тады Клімковіч са злосцю, з усяе сілы б'е кулаком хлопца па спіне: — Ах ты, дурное рыла! Каб тваёй нагі тут больш не было, бо адлупцую не горш за старога Васюка!

Нехта пасля гэтай пагрозы пырхае смехам (ці не Пакульчык?), але адразу замаўкае, бо астатнія хлопцы маўчаць, нядобра пазіраюць на Клімковіча. Маўчанне прыкметна гняце ўсіх, бянтэжыць: у футбол не пагуляем...

Аднаму Гыгыгы ўсё, як кажуць, да лямпачкі. Неўзабаве ён разгінаецца і, стоячы на каленях на халоднай, скаванай марозам зямлі, прадае налева і направа свае вялікія, рэдка пасаджаныя конскія зубы.

— Малайчына, Толік! — хваліць яго, паляпваючы па плячы, Пакульчык.— Ты сапраўдны варатар. Заўтра будзеш на нашых варотах стаяць.

— Гы-гы-гы...— яшчэ больш адвісаюць тоўстыя Толікавы губы.

— Будзеш цяпер Літвінчуку заўша шапку лавіць,— гаворыць, нібы кусае, Клімковіч.— Бо хто гэтаму здыхляку, як не ты, паможа?

— Гы-ты-гы...

— Ага, аддай, Толік, яму гэтую куцавейку... Мы яе нагамі патапталі, а ён яе на галаву надзене!..

І Гыгыгы, як па камандзе, няўклюдна паднімаецца на ногі, бярэцца да мяне.

Далей цярпець такі здзек няма сіл. Хістаючыся, на чужых, нягнуткіх нагах, кідаюся насустрач Толіку, які цяпер дуркавата ўсміхаецца мне аднаму, як усё роўна самаму блізкаму свайму сябруку. Са злосцю выхопліваю з рук няпрошанага дабрадзея шапку і з усяго размаху б'ю два ці тры разы ёю па твары Гыгыгы: «Хто цябе прасіў сунуцца, куды не трэба?! Чаго палез, куды не просяць?! Знайшоўся мне памагаты...»

Толік баязліва плюскае вачыма, на яго шырокім мурзатым твары застывае штосьці падобнае на няўцямнае здзіўленне. Не, гэта мне падалося! Усе мы ведаем, на што здатны Гыгыгы...

— Вось і аддзячыў...— хтосьці прытворна, са шкадаваннем, уздыхае за маімі плячыма.— Эх, Гыгыгы, дарэмна ты стараўся...

— Так яму і трэба! — гаворыць Пакульчык і круціць пальцам каля скроні, маўляў, дурань ёсць дурань.

— Будзе ведаць, як за такіх смаркачоў заступацца,— насмешліва кідае Клімковіч і здзекліва глядзіць мне проста ў вочы.

Але ўсё, што я чую і бачу, нібыта не тычыцца мяне. Я бяздумна паварочваюся і некуды іду, пакуль не ўзбіваюся на свае кінутыя санкі. Напэўна, і засталіся б яны тут, каля Змітручковай хаты, каб не трапілі пад ногі. Вяроўка, падобная на калючы дрот, дзярканула, ахапіла холадам далонь...

Я зрываюся з месца. Бягу. Падаю. Падхопліваюся. Зноўку падаю. І зноў паднімаюся. Толькі далей, да-

лей ад горкі! Схавацца, зацiснуцца ў самы цёмны глухі куток, каб нічога не чуць і не бачыць!..

У спіну мне ледзянымі снежкамі ляціць востры пранізлівы свіст. Ён сцябае, падганяе мяне, як пугаю. І я, нічагутка не заўважаючы вакол сябе, усё бягу, бягу да знямогі.

## VI [1]

Не згледзеў, як апынуўся на Новай вуліцы, акурат насупраць свае хаты. Спыніўся і, прагна хапаючы ротам паветра, адчуў: далей бегчы не магу. Паварочваю да надворка. Нечая добрая руплівая рука, пэўна, дзедава, ужо прычыніла расхрыстаныя ўдзень весніцы, і я ніяк не магу іх адсунуць убок, каб працiснуцца далей. Ад весніц да хаты — метраў трыццаць, не больш, а як я доўга брыду да дзвярэй! Цёмныя вачніцы вокан сустракаюць чужым непрыветным позіркам. Але мне зусім не страшна. Ад ліхтара, што блішчыць за некалькі хат ад нашай, надворак асвятляе скупое нерухомае святло. Саджуся на парог, часта, загнана ўздрыгваю грудзьмі — усё ніяк не магу аддыхацца. У галаве бязладна мітусяцца думкі, адзін за адным, як у калейдаскопе, мільгацяць твары Пакульчыка, Клімковіча, Харкевіча... І кожны раз праз іх, як з-пад вады, праступае вінавата-здзіўлены твар Гыгыгы... Я трасу галавою. У вушах звініць, быццам падчас сенавання ля Шчары. Ліхаманкава пачынаю прыдумляць, як адпомшчу сваім крыўдзіцелям. Кары мае страшней адна за другую, а я з хмельнаю салодкаю злосцю прыдумляю ўсё новыя і новыя. Найбольш дастаецца хціўцу Харкевічу, які з-за спіны збіў з маёй галавы бацькаву шапку. Яму і так перапала: я добра помню, як ён схапіўся за вока і аб'ехаў каля

---

[1] У раздзеле выкарыстаны ўспаміны М. І. Іёські.

плота. Будзе тое і Клімковічу!.. Тут перад самым маім носам вырастаюць дзве фігі з аднае рукі, як хвацка ўмее іх рабіць Клімковіч. Я адразу астываю: каб гэтага адлупцаваць, у мяне рукі закароткія. Пакульчыка — і таго, мусіць, не адужаю, бо ён слізкі, як вужака.

Ногі ў каленях паспелі ўжо задубець. Холадна таксама ў рукі, хаваю іх у кішэні. Галаву па самыя вушы ўцягваю ў плечы — так ватоўка хоць трохі грэе патыліцу. Бацькава шапка чарнее побач, на заснежаным пляскатым камені, што ляжыць замест схадаў каля высокага парога. Цемя драўлянаю шурпатаю далонню кранае холад, але я не спяшаюся падпімаць шапку, бо помню посмех Клімковіча: «Мы яе нагамі, нагамі, а ён пасля на галаву нацягне!..»

«Падумаеш, некалькі разоў падфутболілі... Ці першы раз?..— суцяшаю самога сябе.— Ад гэтага шапка горшай не стала. Снег — не гразюка. Ад зайздрасці, ад чаго ж яшчэ, учапіўся за яе фельчарскі сынок. Незалюбіў, што яго на горцы абыходжу. Не, цяпер ужо яму не царавацъ там...»

Бяру ў рукі вушанку, старанна вытрасаю з яе прыліплы снег, але на голаў не надзяю. Паспею яшчэ...

Раптам на вуліцы, глухой і бязлюднай дагэтуль, чуюцца вясёлыя галасы. Яны хутка набліжаюцца. У клубе скончылася кіно, і па сваіх хатах разыходзяцца рэдкія ў будзённы дзень гледачы. Марудна падпімаюся з наседжанага, нібыта ўжо нават і цёплага парога. Не хочацца трапляць цяпер каму-небудзь на вочы, дый холад даймае да касцей. Знаходжу ў шчыліне каля аконнай ліштвы ключ, доўга адчыняю скурчанымі непаслухмянымі пальцамі замок і нарэшце ўвальваюся ў сенцы, з якіх патыхае непрытульнаю настыласцю. Выставіўшы перад сабою руку, лёгка намацваю дзверы ў кухню, шырока адчыняю іх і адра-

зу запальваю святло. Чуваць цёплы жылы дух. Хоць мама ляжыць у бальніцы і я таксама тут не жыву, мы з дзедам штодня прапальваем у чыстай палавіне хаты печку, а сюды, на кухню, адчыняем дзверы. Бо калі не прапальваць, пад падлогу можа ўбіцца нейкі грыб. Я ніколі не бачыў яго, але ведаю, што ён надта псуе лягары і дошкі.

На кухні ўсё, здаецца, так, як і было пры маме. Па правай руцэ нізенькі шкапчык, засланы цыратаю ў дробныя блакітныя кветачкі, на ім — паўлітровы слоік з шэраю соллю. І больш нічога. Каля печы, што па левай руцэ, вісіць на дроце вядро. Яно не пустое. І вада ў ім свежая, пітная, бо я праз дзень мяняю яе. Высока на сцяне наўзбоч акна — старое мутнае люстэрка. Пад люстэркам танканогі ўслончык, нечым няўлоўным падобны да цялятка, што прывяла Кветка. А за печчу вузкі дашчаны запек, на якім, як прызналася мама, неяк на першым восеньскім месяцы нарадзіўся я. Дзень той запомніўся нашым сваякам яшчэ і таму, што папалудні хавалі маю прабабу Хвядору, і калі ўсе вярнуліся з могліцаў, то не ведалі, што правіць: радзіны ці памінкі?..

І ўсё-такі першае ўражанне падманлівае: цяпер я прыкмячаю, што ў нашай малой — дзвюм мажным цёткам не размінуцца — кухні, усё нібы здранцвела ў чаканні мамы. І дзверы шкапчыка вунь прачынены, і ручнік адным канцом споўз да самай цыраты. А на прыпеку цесна стоўпіліся чарнабокія пустыя чыгуны і чыгунчыкі. Карова ў нас адна на дзве сям'і, а парсюка, як мама захварэла, мы пераганалі ў дзедаў хлеў.

Я паспешліва ступаю ад парога на сярэдзіну кухні і спатыкаюся на роўным месцы: у насцярожанай смутна-шэрай глыбіні люстэрка раптам бачу даўгашыяга кволага падлетка з шырока расплюшчанымі вуглямі вачэй, смешна адтапыранымі ў бакі лапуха-

ватымі вушамі. «Няўжо гэта я сам такі?..» Чамусьці мне страшна доўга ўзірацца на самога сябе, усё здаецца, што зараз убачу некага яшчэ за сваімі плячыма, таму рэзка адварочваюся, хутка іду да запека, прысаджваюся каля патрэсканай печы. Дзверы, адчыненыя насцеж, маўкліва запрашаюць у вялікі пакой, але мне туды не хочацца. Ведаю: тут, на кухні, нашмат ўтульней і спакайней, бо відаць кожны закутак, кожная шчылінка. Зноўку ўсплывае ў памяці тое, што здарылася на Дужай горцы якіх паўгадзіны назад. Не, мусіць, я не ведаю, колькі ўжо тут сяджу, бо каб прамінула ўсяго паўгадзіны, хіба думаў бы я цяпер так спакойна, абыякава пра сваю крыўду? Дзіўна, я нават бачу ўсё тое, што адбылося, нібы нечымі чужымі вачыма. І самога сябе бачу — задзірыста-натапыранага, з чырвонымі вушамі, за якія так і хочацца тузануць, ушчыкнуць... Хіба не можна было саступіць таму ж Харкевічу ў скачках з горкі? Няхай цешыўся б і далей сваёй неперužnasцю — не чый-небудзь, а яго бацька павёз у шалёную завіруху маму ў бальніцу. Чаму раней не стукнула мне гэта ў галаву? Ды самога сябе не абхітрыш. Шкадуючы фельчарскага сына, мне не хочацца ўспамінаць пра Гыгыгы, якога нізавошта адхвастаў па твары. І я хуценька згаджаюся сам з сабою, што сённяшні вечар мне як пакаранне за насмешку над Толікам, за тое, што наляцеў санкамі яму на галаву. Але палёгкі ўсё роўна не адчуваю. Спрабую ўявіць, што зараз робяць дзед Павел і баба Наталля. Мусіць, зачакаліся мяне, прыслухоўваюцца да кожнага шоргату на вуліцы, да кожнага стуку. Баба ўсё часцей і часцей з маўклівай просьбаю пазірае на дзеда... І я тут жа згадваю яе слязлівыя сумныя вочы і песню-замову, якую яна спявала мне, калі маму забралі ў бальніцу...

Цёмная ночка
Начніц парадзіла,—

Малому дзіцяці
Мукі нарабіла...

Раптам здаецца, што хтосьці цёмны прыліп да акна і пільна цікуе за мною з-за дубэльтаў. Мурашкі паўзуць па спіне. Доўга вагаюся — і ўсё-такі знаходжу ў сабе сілы адарвацца ад запека, каб адагнаць недарэчныя страхатлівыя сумненні...

Пад кухонным акном замерла, выхапленая святлом, вялікая гурба, падобная на спіну нейкай згорбленай жывёліны. Якой? — гадаць няма калі. Святло нібы набліжае да хаты нізенькі дрывотнік, дзе ўпала мама, і аж даходзіць да змрочнай сцяны хлява. А там, за хлявом, ужо ўяўляюцца мне пад снежным шарпаком нашы соткі, і ў самым канцы іх — старым чорная ў камлі бярэзіна з высачэзнаю кронаю, доўгімі абвіслымі косамі-галінамі. Бярэзіна як бярэзіна, да леташняга года нічым не адметная сярод сваіх сясцёр, што хоць рэдка, але растуць на абедзвюх вуліцах вёскі. Яшчэ летась вясною я піў з яе салодкакіславаты сок, а бліжэй да восені прыкмеціў аднаго дня з таго боку, дзе ўстае сонца, і з таго, дзе яно заходзіць — дзіўныя, нібы сплеценыя, цёмна-зялёныя мячыкі на танклявых галінах. Паказаў дзеду і спытаў: што гэта?

«Амяла...— пачуў, як заўсёды, разважлівае ў адказ.— Ці, як інакш яе называюць людзі,— ведзьміна пята, або вока Начніцы...»

Тады я ўпершыню даведаўся, што гэтая расліна жыве з крыўды дрэва, глыбока раздзірае кару. Таму дрэва паціху чахне, усыхае, а ўрэшце ідзе пад сякеру. Але найбольш мяне ўразіла дзедава тлумачэнне людскіх назоваў. Калі на тое, што на нашай бярэзіне, пралятаючы, адпачывала ўначы ведзьма — я паблажліва ўсміхнуўся, дык пра Начніцу дзед Павел гаварыў доўга і зусім сур'ёзна. Выходзіла, што ў гэтай марнатраўцы-амяле жыве нейкая нябачная істота,

якая лунае над людзьмі, шукае сабе спажыву-ахвяру. Не, кроў яна не цягне, як, скажам, п'яўка, а імкнецца, быццам амяла да дрэва, прысмактацца да чалавечай душы, дурманячы мазгі салодкімі абяцаннямі ці, наадварот, запалохвае рознымі жахамі.

«Гэта, мусіць, нейкая заразная хвароба?» — распытваў я ў дзеда Паўла.

Ён не раздумваючы адказаў:

«Намнога горш».

«А цябе самога спакушала Начніца?»

«Чаму ж не?.. І неаднойчы...»

«А як яна прысмоктваецца?»

«Падрасцеш — сам адчуеш».

Я даваў і не даваў веры пачутаму, але бачыў — дзед ніколечкі не жартуе. А праз колькі дзён выпадкова пачуў ад старой, сагнутай у крук Свярэпіхі, якую ўсе лічаць за знахарку, бо качае дзецям перэпалахі, што то нядобры знак, яго трэба асцерагацца... Старая як у ваду глядзела: адразу пасля капання бульбы маму на «хуткай» завезлі першы раз у бальніцу.

Потым на адным з урокаў батанікі я папрасіў настаўніцу расказаць пра амялу. І пачуў, што ў некаторых краінах людзі нават ходзяць з ёю адзін да аднаго ў госці і віншуюць з Новым годам. Не ведаю, не бачыў. Мама тады цэлы месяц праляжала ў бальніцы, а я як зарокся — і блізка больш не падыходзіў да бярэзіны з чорнымі шапкамі.

...Вяртаюся назад да запека, страсаю мокрыя валёнкі, забіраюся з нагамі на карычневыя, угнутыя дошкі. Ведаю, што баба Наталля і дзед Павел счакаліся, прагледзелі вочы, але ніхто мяне зараз не прымусіць выключыць на кухні святло. Вось і зноў хтосьці хіснуўся да акна і сочыць, не міргаючы, за мною. Аблічча не відаць, хоць да болю напружваю вочы. І ўсё-такі я дакладна ведаю, хто гэта. Не хавайся, вы-

ходзь на святло, Начніца! Я ўсё роўна пазнаў цябе. Няхай ты схавалася ў цемры сама, ды табе не схаваць трохкутных вачэй, што блішчаць жоўтым прагавітым агнём. Што табе трэба ад мяне? Чаго прыліпла? Няўжо не бачыш, як мала ў нас з мамаю радасці?.. Эх, падняўся б зараз з сырой зямлі тата — усё павярнулася б на іншы лад. А так — хто падкажа мне, калі вырасту, дзе шукаць яго магілку?

Па шчоках цякуць, саланеюць на губах халодныя скупыя слёзы. Я не стрымліваю іх і ні кропелькі не саромеюся. Кладуся ў самым куточку запека, падціскаю пад сябе ногі — так лягчэй сунімаць дрыжыкі. А вочы не магу адвесці ад старой жаўтлявай фотакарткі, што вісіць на сцяне ў драўлянай рамцы якраз над шкапчыкам. На картачцы баязліва ціснуцца адно да аднаго хлапчукі і дзяўчаткі, апранутыя ў доўгія шэрыя адзежыны. І сярод іх мая мама — яна прыляпілася да ўсіх з самага краёчку. Ад яе я і даведаўся, што гэта зняты вучні нашай Валовіцкай трохкласнай польскай школы... Спачатку, праўда, яна была беларускай, гэта потым яе перакруцілі на польскі лад... А за хлапчукамі і дзяўчаткамі стаіць падобны да чорнага крумкача куратар школкі — слонімскі ксёндз, пра якога я шмат разоў чуў... І ад мамы, і ад дзеда Паўла...

І вось ужо да мяне нібыта падыходзіць малая кірпатая дзяўчынка з не па-дзіцячы сур'ёзнымі, насцярожанымі вачыма. Я пазнаю яе адразу — гэта мая мама. Яна моўчкі бярэ мяне за руку і падводзіць да статнага, прыгожага з цвёрдымі свярдзёлачкамі вачэй дзядзькі, які зачараваў усіх настаўнікаў у нашай Валовіцкай школцы. Нехта мне шэпча на вуха, што гэта не проста школьны інспектар, гэта сам пан ксёндз, які прыехаў ажно з самага Слоніма. Яго, як дарагога госця, запрашаюць на ўрокі, знаёмяць з лепшымі вучнямі, да якіх трапілі і мы з мамаю. Я пава-

рочваюся, каб паглядзець на маму-дзяўчынку, але яна ўжо некуды збегла. А тым часам пан ксёндз абяцае штотыдзень наведваць нас па пятніцах, і я разам з усімі дзіўлюся яго дабрыні.

Прыходзіць пятніца, і нас запрашаюць на гутарку да слонімскага куратара. Менавіта запрашаюць, бо настаўніца польскай мовы пані Ева вельмі падобная да завуча Таісы Барысаўны так шчыра і гжэчна шчабеча, што адмовіцца — не паварочваецца язык. І я іду, бягу ў тую драўляную двухпавярховую школку, якой ніколі не бачыў, бо яе пазней, у вайну, спалілі пры адступленні немцы.

Нарэшце па-святочнаму чыста прыбраны клас. На стале каля бліскучай кафлянай печкі кусціцца прыгожы вялікі вазон. На сцяне якраз перад намі вісіць маленькі абраз з выявай святой дзевы Марыі, а пад ім на вузкай, падобнай да помнічка, тумбачцы — чорнае застылае распяцце. Гарыць, ледзь-ледзь калышацца чырвоны язычок свечкі, што стаіць на падаконніку, клас напаўняе дзіўны, не падобны да іншых пах, ад якога аж шчыміць у грудзях. З-за печкі нячутна выходзіць пан ксёндз у чорнай кароткай, да пояса, накідцы. Паверх яе, каля шыі, бялее накрухмалены з карункамі каўнерык. На твары ў пана пробашча ласкавая ветлівая ўсмешка, ён сустракае нас, усаджвае за парты. Потым пачынаецца гутарка. Спачатку распытвае, як вучымся, ці грашым, ці ходзім да царквы. Я баюся падняць на яго вочы, бо ні разу не быў там. Слухаючы нясмелыя адказы, пан ксёндз не скупіцца на парады, пажаданні. На ягоным чыстым, аж да сінявы, паголеным твары гэтулькі ўважлівага клопату, спачування...

Пасля ідзе доўгі праніклівы расказ пра пакутлівы шлях пана Езуса, які цярпеў за чалавецтва, за ўсіх людзей. Не ўсе яго разумелі тады, а колькі цяпер з нас па няведанні ці з-за падманаў сыходзіць з праў-

дзівай чыстай дарогі! Непрыкметна гутарка пераходзіць на гісторыю польскага народа, лёс якога падобны да лёсу Хрыста. Пакутніка і нашага збавіцеля. Колькі страшных бедаў перажылі палякі ў сваёй бацькаўшчыне, што некалі была ад мора і да мора, колькі гора спазналі на горкай чужыне! Але не зламаліся, не сталі на калені. Яны дапамагалі туркам абараняцца ад ненажэрнай Расійскай імперыі, а адзін з польскіх патрыётаў быў нават галоўнакамандуючым войск Асманскай дзяржавы. Палякі ратавалі французаў, італьянцаў, далёка-далёка за акіянам амерыканцаў. А зусім нядаўна, у дваццатым годзе, ім выпаў гонар абараняць Еўропу ад чырвоных бальшавікоў. Як па масле ў пана ксяндза атрымліваецца: палякі — сапраўдныя дабрачынныя католікі, праз іх пан Бог вяршыць сваю волю на грэшнай неўладкаванай зямлі. І мы, беларусіны, павінны быць шчаслівыя і ўдзячныя ўсявышняму за тое, што жывём у самай найлепшай у свеце Польскай дзяржаве. Праўда, мы па-сапраўднаму не ўдзельнічаем у тых гістарычных божых справах, якімі жыве вялікі польскі народ. Найлепш, вядома, быць у яго першых шэрагах...

У класе цішыня, чуваць, як баіцца дыхаць за патыліцаю на апошняй парце сусед. Таямнічы глыбокі цень калышацца па сценах і столі. Перад вачамі мільгацяць адна за адной страшныя выявы кары адступнікаў ад касцёла, нявераў у святую польскую справу; потым страхі змяняюць светлыя радасныя карціны перамогі вечнага, праўдзівага, прыгожага. У галаве, як пчолы, мітусяцца думкі: «Хто я? Дзеля чаго жыву? Што раблю сёння, цяпер, для польскай бацькаўшчыны?..»

Няма адказу на гэтыя калючыя пытанні ў расказе шаноўнага слонімскага госця. Але я адчуваю, што перада мною не просты чалавек, а ўладар нейкай не разгаданай мною таямніцы, што ён, можа, адзіны

сапраўдны настаўнік, які стрэўся на маёй жыццёвай дарозе. З такімі думкамі выходжу з абрыдлага за час вучобы цеснага класа, які раптоўна перайначыўся ў святы божы храм. На вуліцы азіраюся і бачу праз цемень у акне мігатлівую кроплю святла, што ўладна кліча да сябе. Гэта дагарае свечка. Пачутае так глыбока запала ў душу, што не адважваюся бегчы, баюся выплюхнуць з сябе дзіўнае святое пачуццё. А пабегчы так хочацца, бо навокала так цёмна, няўтульна, холадна. Ізноў прыгадваецца аглухлы, нібы рассунуты ўшыркі і ўздоўж клас, бледны язычок свечкі, ласкавы грудны голас, які яднае нас усіх у адну істоту, якая думае і адчувае аднолькава — я бачыў гэта па вачах дзяўчат і хлопцаў. Самому пра сябе не хочацца неяк і думаць. Мы — і неабсяжны божы свет. Я — маленькая кропелька, якая павінна служыць... Павінна, павінна, павінна...

Адказу няма, але яго, добра захацеўшы, можна знайсці. Так, здаецца, сказаў пан ксёндз. Які ўсё-ткі добры разумны чалавек! Часцей бы ён прыязджаў.

Неўзабаве новая сустрэча, пасля яшчэ адна і яшчэ... Я ўжо дакладна ведаю: маёй віны няма, што я нарадзіўся не палякам, бо бацькоў не выбіраюць. Праўда, ад гэтага ведання ніколечкі не лягчэй, наадварот! У вушах так і стаіць вершык са школьнай чытанкі. Ніколі не чуў, каб хто лепш чытаў яго за шаноўнага пана ксяндза:

— Кто ты естэсь?

— Поляк малы.

— Які знак твуй?

— Ожэл бялы.

Так, палякі асаблівыя людзі. Белай крыві і белай касці. А мы, беларусіны, людзі другога, а то трэцяга гатунку, тутэйшыя «крэсаўцы». Божа, чаму я такі няшчасны! Але тут у голасе нашага мудрага настаўніка гучаць выратавальныя ноткі. Не безнадзейнае,

аказваецца, нашае становішча, Езус Хрыстус пайшоў на пакуты і за нас, бедных і цёмных. Усё будзе добра, толькі трэба правільна жыць, душою і сэрцам служыць касцёлу — і ён прыме ў сваё лона. Вось мэта, вось сэнс нашага жыцця — стаць шчырым католікам. А католік — гэта амаль паляк, амаль абраннік божы. І не шкадаваць, прыбіраць усё, што замінае на святой праўдзівай дарозе. Вунь каля школы расце старая каравая бярэзіна, што нізка хіліць сваё плакучае тонкае голле... З-за яго не прайсці і не праехаць, так і чапляецца за галаву, за плечы. Бярэзіне ўсё роўна мала засталося шумець на ветры, паглядзіце, як сушаць яе дзве вечназялёныя амялы...

І вось ужо наш настаўнік з ласкавай усмешкай (не смяюцца чамусьці адны толькі вочы, падобныя на калючыя свярдзёлкі) падае мне ў рукі вострую сякеру, падводзіць, трымаючы па-бацькоўску за плечы, да старадрэвіны. Я ніяк не магу адважыцца замахнуцца, бо з пашчапанай сівай кары на мяне пазіраюць такія знаёмыя, вінавата-сумныя вочы. І я пазнаю іх — гэта ж вочы нашага Гыгыгы! Слізкае, як вужака, тапарышча выслізгвае з маіх рук. Пан ксёндз наскрозь працінае мяне свярдзёлкамі вачэй, імкліва хапае сякеру з зямлі, ускідвае яе над галавою...

Секануць яму перашкаджае нейкая шэранькая пташка, што проста з неба ўпала пад джала ляза. Жалезнае вастрыё ляціць у адзін бок, тапарышча — у другі, пан ксёндз некуды знікае, як усё роўна правальваецца пад зямлю, а з-пад бярэзіны глядзіць на мяне чарніцамі вочак тая дзіўная маленькая птушка з перабітым распушчаным крылом. Гарачая хваля жаласці, шкадавання стукае мне ў грудзі, я кідаюся з выцягнутымі рукамі да птушкі і... прачынаюся.

Нада мною маршчыністы дзедаў твар, у вачах здзіўленне і спалох.

— Прачынайся, прачынайся, унучак! Што ты гэта надумаў? Месца ў маёй хаце няма, ці што?

Лямпачка пад столлю проста слепіць мяне — яна, здаецца, гарыць у два разы ярчэй, чым дагэтуль. Я жмуру вочы і не магу павярнуць сцерплую шыю. Правую руку, на якой ляжаў, таксама нібы адняло, яе колюць іголкі.

— Ну, разглядзеўся? — на дзедавым круглявым твары пад кусцістымі бровамі яснеюць шэрыя вочы.— Налётаўся на горцы, дык не хапіла сілы дацягнуцца да нас... Эх ты, яздун,— дзед Павел прыціскае да сябе дужаю праваю рукою, пяшчотна цярэбіць на маёй галаве валасы: — Прыклады правільна рашыў. Малайчына! Бачу, у алгебры будзеш нягорш петрыць, як у арыфметыцы. А яшчэ калі наляжаш, дык дыктоўкі навучышся правільна пісаць...

Яго левая хворая рука вісіць нерухома, рукавіца напалавіну з'ехала з далоні, адкрыла туга напятую шызую скуру.

— Дзеду,— аказваюся я нарэшце да яго, скаўтнуўшы сухі гаркаваты камяк, што даўка сядзеў у горле,— а за што ты ў тую Картуз-Бярозу трапіў?

Сівыя бровы старога ўскідваюцца ўгору, лоб ягоны ўпоперак рэжуць глыбокія маршчыны. Я ніколі дагэтуль не пытаўся ў дзеда Паўла пра тую картузбярозаўскую адсідку, куды ён трапіў у маладыя гады.

— Так адразу і не раскажаш,— пасля доўгага маўчання чую ў адказ.— Позна ўжо, Валерык, другім разам пагаворым...

— Ты тады ў нашых Валовічах нейкім гуртком кіраваў, праўда? — уступаючы ў валёнкі, вяду свае роспыты.— Як ён называўся?

— Проста ён называўся — гурток ТБШ,— усміхаецца аднымі вуснамі дзед.— Ну, зашпіліўся?

— Тэ... Бэ... Ша...— паўтараю ўголас па складах.— А што азначаюць гэтыя літары?

— Таварыства Беларускай Школы...

— І за тое, што ты кіраваў ім, цябе пасадзілі ў турму? — выпростваюся я.

— От прывязаўся!..— хмурыцца дзед.— І за гэта, і яшчэ за тое-сёе... Хадзем, бо ўжо за поўнач.

— Ты думаеш, што я нічагуткі не ведаю...— як хто цягне мяне за язык.— А напярэдадні аднаго кастрычніцкага свята хто па ўсёй вёсцы чырвоныя сцягі на высокіх дрэвах развесіў? І на нашай бярэзіне таксама!..

Я бачу, як пасля гэтых маіх слоў святлее дзедаў твар, як мякчэюць яго шэрыя добрыя вочы.

— Было, Валерык,— няроўным ад хвалявання голасам гаворыць дзед Павел.— Праўда, не адзін я па дрэвах тады лазіў... А калі пра чорную Бярозу, як мы яе называлі, згадаў, дык пры нагодзе дам пачытаць табе адзін сшытак...

— Чый сшытак?

— Мой.

— Твой?! — здзіўлена перапытваю я.— А пра што ты там напісаў?

— Прачытаеш, унучак.

Я няўцямна пазіраю на дзеда Паўла, а ён нязвыкла рэзка паварочваецца, выходзіць у сені.

Потым, замкнуўшы хату, мы крочым поплеч пасярэдзіне замерлай вуліцы. Людзі ўсе спяць — ні агеньчыка ў вокнах. Заснежаная дарога, як бубен, глуха вохкае пад нашымі няспешнымі крокамі. Чамусьці я ўяўляю сябе дарослым і дужым. Я думаю пра тое, што, як падрасту, абавязкова буду абараняць ад усялякіх Пакульчыкаў Гыгыгы, а прыйдзе час — і гадаўку амялу з бярэзіны зрэжу. «І цябе, Начніца, таксама ні кропелькі не баюся!» — шапчу сам сабе, бліжэй прыціскаючыся да дзеда. Твар ба-

дзёрыць, пашчыпвае калючы ветрык. Неба пачысцела, паднялося, на ім было шчодра рассыпана дробных, што мак, міргатлівых зорак.

## VII

Назаўтра ранак выдаўся чысты і ясны, проста на радасць. Быццам не шкадуючы цёмна-сіняй фарбы, хтосьці густа падмаляваў і прыкметна, ці не ў два разы, паглыбіў неба. Чырвонае вялікае сонца доўга не магло адарвацца ад рэзка акрэсленага далягляду, і снягі адлівалі тонкім ружовым водсветам. Я абыякава кідаў вокам на саначны цягнік, намаляваны ў альбоме, што, як на злосць, нібы прыліп да крутога схілу Дужай горкі, не хацеў імчаць, каб ажно віскатала пад палазамі, а больш таропіўся ў акно, што якраз выходзіла на ўсход. Вось і прыйшоў ён, першы дзень вясны! — неяк лёгка, радасна думалася і дыхалася мне, калі складваў у школьную сумку кнігі і сшыткі, запіхваў альбом,— а там, не паспееш азірнуцца — і лета...

У школе да званка і на першых перапынках усё абышлося добра. Ніхто не чапляўся, не паднімаў на смех, прыгадваючы ўчарашні футбол. Нават Клімковіч і той паблажліва ўсміхаўся і абыходзіў. Праўда, усе першыя перапынкі я не выходзіў з класа, асцерагаючыся сутыкнуцца нос у нос з Харкевічам, да твару якога добра ўчора прыклаўся. Не скажу, што баяўся яго, проста не хацелася тузацца з ім у школьным калідоры. А ціхмяны, хоць да раны прыкладвай, з добрымі салодкімі вочкамі Пакульчык усё-такі здзёр рашэнні і адказы прыкладаў, а пасля і кантрольную па фізіцы, якую неспадзявана правёў на другім уроку фізік Васіль Васільевіч. Пакульчык аж надакучыў тузаннем за плячо — усё пакажы ды пакажы. Адмовіць яму я ніяк не магу, саромлюся, ці што. Варага-

ванне варагаваннем, а скнараю лепш не быць. Акрамя таго, Пакульчык, калі мы ішлі раніцою да школы, шапнуў мне: «Добра ты яму, задаваку, прыварыў...» — і захіхікаў.

Апошнім суботнім урокам у нашым раскладзе пазначаны ўрок малявання. Я чакаю яго з нецярпеннем, як свята, і чым бліжэй гэты ўрок, тым больш хвалююся. Як доўга цягнецца, доўжыцца апошні перапынак! І вось званок, што заганяе ўсіх у класы.

Марына Юр'еўна ўваходзіць не адна. Следам за ёю, трымаючы ў руках пузаты карычневы чамаданчык, усоўваецца і настаўнік фізікі Васіль Васільевіч. Я здагадваюся, што за чамаданчык ён валачэ. Гэта прайгравальнік, адзіны на ўсю школу, які стаіць у дырэктаравым кабінеце. Я ўпіваюся вачыма ў Васіля Васільевіча, быццам бачу яго ўпершыню. Ён невысокага росту, кругленькі, з пярэднімі залатымі зубамі, што ні на імгненне не хаваюцца пад тоўстымі губамі, блішчаць, як усё роўна ім цесна ў роце. Настаўнік фізікі ставіць чамаданчык на шырокае падваконне першага ад класнай дошкі акна, за якім радасна зіхаціць, адбірае вочы сакавіцкі дзень, утыкае вілку электрычнага шнура ў разетку. Потым яны ўдваіх з Марынай Юр'еўнай нахіляюцца над чамаданчыкам, уключаюць, то зноў выключаюць прайгравальнік, дамагаюцца, каб ён не хрыпеў. Я бачу, як кароткія, нібы адсечаныя пальцы Васіля Васільевіча раз-пораз датыкаюцца да лодачак-далоняў настаўніцы малявання, і хоць ведаю, што падглядваць нядобра, ганебна, нічога не магу парабіць з сабою — пільна сачу за кожным рухам дарослых. І чамусьці радуюся, што на шэрых, добра адпрасаваных штанах фізіка ніжэй калена чарнее невялічкая плямка, што на адным з ягоных чаравікаў моцна скрыўлены абцас... «Крываногі ён, ці што...— здзекліва пасміхваюся з фізіка.— А яшчэ да Марыны Юр'еўны ліпне!»

Нарэшце прайгравальнік, здаецца, наладжаны. Марына Юр'еўна, апранутая ў цёмна-вішнёвы жакецік і кароценькую зеленкаватую спаднічку, часта цокаючы цвічкамі абцасікаў, выходзіць разам з Васілём Васільевічам на калідор. Яе доўга няма, я злую, што зараз міне палавіна ўрока — калі ж тады маляваць? Але злаванне маё не ад таго, што я прагну хутчэй узяцца за алоўкі ці пэндзлі... У клас настаўніца вяртаецца з кволаю задуменнаю ўсмешкаю на твары, быццам ёй успомнілася нешта добрае, прыемнае, і цяпер, не хаваючыся, яна радуецца свайму дарагому ўспаміну. Падыходзіць да шырокага акна, праз якое нас кліча на вуліцу зыркае сонца, лёгкім кіўком галавы ўскідвае з лоба залацістую пасмачку валасоў. Потым, як дзяўчынка, прыціскаецца да шыбіны і, усміхаючыся сама сабе, зусім не зважаючы на нас, школьнікаў, доўга глядзіць на сонечную роўнядзь снегу за маладым школьным садам. Праз колькі хвілін у класе ўсталёўваецца цішыня. Я стоена пазіраю на Марыну Юр'еўну, якой вельмі пасуе гэты цёмна-вішнёвы жакецік, а перад вачамі не-не ды паўстануць ганарыста-бліскучыя залатыя зубы Васіля Васільевіча. Нешта нядобрае варушыцца ў маіх грудзях, я прадчуваю, што фізіка цяпер стане маім самым нялюбым прадметам...

Тым часам, нічога не кажучы, Марына Юр'еўна апускае на бліскучую кружэльную плітку лапку з іголкаю, клас напаўняе мелодыя. І ціхуткім, як быццам аднекуль здалёку-здалёку, голасам настаўніца паведамляе нам:

— Сёння мы будзем маляваць сцэны з казкі «Бацькаў дар». Усе ведаюць гэтую казку?

— Усе!..— пачуліся ў адказ нязладжаныя галасы.

— А перанесціся ў казачныя падзеі нам дапаможа музыка Пятра Ільіча Чайкоўскага...— Марына Юр'еўна падыходзіць да стала, бярэ ў рукі кнігу.—

Трэба толькі ўважліва слухаць музыку і тое, што я чытаю...

Некаторыя хлопцы пырхаюць смехам — нічога сабе ўрок — з музыкай! Але яны хутка замаўкаюць. Большасць класа настроена сур'ёзна.

— Ну, дык што, пачынаем?

Я міжволі наструньваюся ўвесь і моцна-моцна заплюшчваю вочы. Спачатку бачу адны жоўтыя кругі, потым яны некуды знікаюць, а замест іх выплывае сонечна-зіхоткая роўнядзь поля, вербы паўз дарогу, падобныя на старых людзей... Я чую музыку, праўда, яна на першых хвілінах сама сабе, а я сам сабе. Але з кожным імгненнем яна нібы набліжаецца, і вось ужо гучыць недзе за спінаю, высока над галавою, лёгкімі дрыготкімі пальцамі кратае мой твар... Як перадаць гэтую музыку словамі? Не ведаю, адно пэўна магу сказаць, што ў ёй зліліся ў адно і сум, і вясёлы смех. Потым чую мяккі голас Марыны Юр'еўны... Не, не яе, а кагосьці другога, каму падуладна гэтая музыка і я разам з ёю.

...— Вось па некаторым часе дае царэўна трэцюю аб'яву, а сама залазіць на пяты ярус. І на гэты раз зноў з'ехаліся туды ўсе цары і царэвічы, каралі і каралевічы, усе паны і падпанкі...

І я быццам наяве бачу вялікае людское зборышча. Гамана, смех, кепікі адзін над адным, а то і зняважлівыя позіркі, маўляў, куды табе да мяне... І дзіва дзіўнае: сярод натоўпу, апранутага ў пышныя, залатам-срэбрам шытыя вопраткі, пырхае, як верабей, у сваім сучасным шэранькім касцюме і Васіль Васільевіч! Пярэднія залатыя зубы аж бліпчаць ад радасці. Усе на конях, а ён трымае за руль новенькі ровар, на багажніку якога прывязаны крылы...

...— Паехалі і разумныя браты, пакінуўшы Івану работу: чатыры гарцы маку з пяском перабраць. Вылежаўся Іван на печы, узяў мак з пяском ды пай-

шоў да сваіх коней. «Ці можна было б яшчэ разок з'ездзіць у сталіцу?» — пытаецца ў коней. «Можна-то можна,— адказаў сівы конь.— Але цяпер ты паедзеш на мне самім. Калі я не даскочу да царэўны, дык больш і гаварыць не будзем пра гэта».

У адно імгненне перад маімі вачыма правіхурыў табун калгасных коней, аж я адчуў на вуснах сухі, чэрствы пясок, што асеў пылам. Сівы конь... сівы конь... Гэта, напэўна, Вожык. Ён такой масці. Колькі разоў на ім ездзіў!

...— Зрабіў Іван усё, што трэба, залез у правае вуха, праз левае вылез, стаў маладзец малайцом і паляцеў у сталіцу. Гадзіны не мінула, як ён там апынуўся. Заржаў сівы конь на ўсю сталіцу, узвіўся ўгору і даскочыў да самай царэўны!

Я адчуваю, як хіснулася пада мною парта. Гэта вам не жартачкі — царэўна ж на пятым ярусе сядзела...

...— А царэўна — стук, стук! — і паставіла Івану дзве свае пячаткі: адну на лоб, другую — на патыліцу. Конь апусціўся на зямлю ды памчаўся прэч. Усе крычаць: «Лаві, лаві!» А лавіць няма каго: тут быў — тут няма...

Не расплюшчваючы вачэй, быццам незнарок праводжу далоняю па лобе, што нясцерпна свярбіць. Ніякай пячаткі там, вядома, няма. А калі вяртаюся ў клас, на сваё месца, дык бачу, што на мяне, жартаўліва ўсміхаючыся, глядзіць Марына Юр'еўна. Як тут не зальешся чырванню, не ўцягнеш у плечы галаву?

Ніколі яшчэ так добра не малявалася мне, як сёння. У вушах, быццам лёгкая, празрыстая фіранка на ветрыку, калышацца ўсё тая ж дрыготкая ўсмешлівая музыка. І рука паслухмяным алоўкам знаходзіць прыгожыя лініі, што проста на вачах зліваюцца ў шыкоўны царскі палац са стромаю вежаю ў самым цэнтры. Яшчэ некалькі кароткіх імклівых ліній,

і вежа ганарыста заўсміхалася сваёй подасяжнай вышынёй: «Гэй, чаму прыціхлі, смельчакі?! Няўжо трасуцца калені!..»

А дзе ж падзелася сама царэўна? Няўжо заспала? Пэўна, недзе прыхарошваецца, расчэсвае перад крыштальным люстрам свае сонечныя валасы. І сэрца яе так няроўна б'ецца, трапечацца: «Прыедзе ці не прыедзе? Куды схаваць пячатку? Канечне, у рукаў! Яе адтуль вельмі лёгка выхапіць...»

І вось ужо царэўна кветкаю сядзіць у акне, узбоч якога крыламі яснеюць блакітныя аканіцы. «Дык вось ты якая!» — сам здзіўляюся з яе хараства і схіляюся яшчэ ніжэй, закрываю ад цікаўных вачэй свой альбом.

І раптам аловак у маёй руцэ нібы спатыкаецца, пакінуўшы на бледна-ружовай шчацэ царэўны парушынку радзімкі, мо трошкі большую ад макавага зярняці. Што можа быць драбней? Дакраніся сціральнаю гумкаю — і не будзе гэтай драбязы. І тут са здзіўленнем бачу, што ў расчыненым насцеж акне пяціяруснай, нядаўна зрубленай вежы сядзіць ніякая не царэўна, а... Марына Юр'еўна! Так, так, яна! У цёмна-вішнёвым жакецціку, нават з гадзіннікам на руцэ! Я пазнаю яе і па завушніцах, што сонечнымі кроплямі дрыжаць над вузкімі дзявочымі плячамі і, канечне, па радзімцы-парушынцы, якую хацеў сцерці гумкаю... У маіх грудзях скразняком праходзіць страх: хаця б ніхто з класа, а перадусім сама настаўніца не ўбачыла гэтую крамолу! І тут жа адважным, неразумным птушанём ува мне праклёўваецца пачуццё салодкай рызыкі: «Ну, і няхай! Каня, хутчэй падайце мне каня!..»

З якою радасцю я выгінаю алоўкам крутую конскую шыю, як смела кідаю на вецер лёткую грыву! І конь, адчайна выкінуўшы далёка ўперад тонкія ногі-стрэлы, сапраўды нібы ляціць! Яшчэ імгненне, і

Іван (які там Іван — сам я!), што смела ўчапіўся ў конскую грыву, будзе каля прыгажуні царэўны (ніякай не царэўны, а Марыны Юр'еўны!), якая ад хвалявання за яго перабірае тонкімі пальцамі з ружовымі пазногцікамі блакітную хусцінку. Не, хусцінка тут недарэчы. Няхай лепш трымае кніжку. Потым асобна ад стракатага натоўпу я малюю з шырока разяўленым ротам Васіля Васільевіча.

Малюнак, здаецца, гатовы, але я не спяшаюся разгінацца, то ў адным, то ў другім куточку лёгка кранаю яго тонкім пэндзлікам. Мне не падабаецца, як намаляваны завушніцы царэўны, яны як жоўтыя плямкі, а тыя, што на вушах у Марыны Юр'еўны — нібы злавілі сонечныя промні. Я дадаю ў жоўты колер усё новыя і новыя ледзь улоўныя адценні, заплюшчваю і расплюшчваю вочы, каб глянуць на іх па-новаму, і раптам бачу, што адна завушніца быццам адарвалася ад паперы, наблізілася да мяне. Як зачараваны гляджу на яе, пасля далікатна дакранаюся запэцканымі ў фарбы пальцамі.

— Вельмі добра, Валера! — чую над сабою задуменны голас і спалохана адкідваюся на спінку парты.

Каля мяне, нізка схіліўшы сонечную галаву, стаіць настаўніца і ўсміхаецца аднымі вачамі, мне аднаму ўсміхаецца.

«Няўжо пазнала сябе, здагадалася?» — шчыміць і раптам абрываецца штосьці ў маіх грудзях. І я ніяк не магу ўцяміць: радавацца гэтаму ці не?

Потым настаўніца выпростваецца і хуценька ідзе да прайгравальніка, што не іграе, а гыркае, бо мо з хвіліну назад скончылася плітка. Аднак яна не пераварочвае яе на другі бок, а зусім выключае прайгравальнік. Без музыкі класны пакой рэзка паменшаў, адразу палезлі ў вочы пашарпаныя сцены, столь пажаўцела і апусцілася. Нават малюнак, як я бачу, і

той змяніўся, пацямнеў, увачавідкі выцвіў, як усё роўна праляжаў сто гадоў.

Марына Юр'еўна тым часам вяртаецца да настаўніцкага стала, доўгім уважлівым позіркам абводзіць прыціхлы клас, нібы прыпамінаючы малюнак кожнага з нас, усхвалявана і захоплена гаворыць:

— Якія ў вас цудоўныя палацы атрымаліся! Проста любата. Такія — каралям ды царам нават не сніліся. А вось каня не кожны здолеў добра намаляваць. Найлепш ён выйшаў у Валеры Літвінчука. Ягоны конь сапраўды ляціць. Паглядзіш — паверыш, што сігане да царэўны, як бы высока яна ні сядзела.

Трыццаць пар вачэй, як па камандзе, глядзяць з усіх бакоў на мяне, аж становіцца горача. Я чакаў, што мой альбом, як ужо было неаднойчы, зараз паплыве па руках, ды тут нехта з хлопцаў гучна кажа:

— Няхай на дошцы пакажа, як яму так лоўка ўдаецца намаляваць!

«Таксама прыдумаў! — спуджана думаю сам сабе.— Бач, знайшоўся разумнік...»

Кожны выхад да дошкі для мяне і без таго пакута, а калі за табою знарок яшчэ цікуюць... Не, я не згодны, гэта не па мне. Развагі мае перапыняе зацікаўлены голас настаўніцы:

— А што? Ідэя! Хоць мел ёсць мел, а дошка не папера... Чуеш, Валера, цябе просяць да дошкі.

«Не, каб проста сказаць — прашу да дошкі, дык падкрэслена — просяць...»

І ўсё-такі марудліва, нязграбна, аж сам злую на сябе з-за гэтай марудлівасці, нягегласці, вылажу з-за парты. Заняцца і не пайсці — не хапіла адвагі: каб хто другі быў — нізавошта не паддаўся б, няхай хоць залатыя горы абяцаў бы... Яшчэ нічагуткі не накрэмзаў, а вушы як агнём схапіла, і нікуды іх не схаваеш, тырчаць ва ўсіх навідавоку. Недарэмна кашлянуў на ўвесь клас Клімковіч.

Мел непаслухмяна слізгае па выцвілай пашарпанай дошцы, крышыцца ў пальцах, я ніяк не магу ўзяць тую імклівую лінію конскай шыі, што адразу павяла б за сабою ўвесь малюнак. Спіну халодзіць калючая цішыня, што ўсталявалася ў класе, і каб не чуць яе, знарок моцна стукаю мелам па дошцы. Нарэшце такі грыва, здаецца, ускідваецца на вецер, і я хапаюся за яе, як за свой ратунак. Паспешліва, з дапамогай мокрай анучкі, прылепліваю да конскай шыі караткаватае тулава (на большае чамусьці не хапае месца), зухавата кідаю ўгору хвост — так коні трымаюць яго на бягу. Пасля бяруся за пярэднія ногі. Крута выгінаю іх у каленях, аж сам чую напружанасць скачка, і раптам разгублена заўважаю, што ногі будуць як абсечаныя, бо не хапае дошкі, каб скончыць малюнак!

Стаю, утаропіўшыся ў няскончаны малюнак, трымаю ў руках мокрую анучку і не ведаю, як далей быць. Змахнуць малюнак і пачаць нанова? А ці атрымаецца лепш? Няхай сабе выйшаў канёк-гарбунок, але ён папраўдзе не горш ляціць, чым той, што ў альбоме. Не, трэба ўсё-такі паспрабаваць яшчэ раз намаляваць, бо конь без ног — не конь. Узмах рукі з анучкаю — і абсечаныя ногі разам з тулавам знікаюць. Галаву, смела пасаджаную на шыю, не дае мне сцерці Марына Юр'еўна.

— Га-га-га!..— рагоча з апошняй парты Клімковіч у нязладжаным хоры сваіх сябручкоў.— На такім кані хіба пад сталом скакаць!

Па шчоках маіх сцябае крапівою сорам, я баюся павярнуцца тварам да класа: згадзіўся на сваю галаву! Высунуўся, называецца, наперад за ўсіх! А Клімковіч, захлёбваючыся ад зларадпасці, дабаўляе:

— Ага, пад стол, а не да дзяўчат гойсаць!

Асаджвае крыкуна хлёсткім, як пуга, голасам Марына Юр'еўна:

— Ты па сабе, Гена, мяркуеш. Цябе хоць на каня, хоць на вярблюда пасадзі, усё роўна соска з рота будзе відаць.

Усе, асабліва дзяўчаты, заходзяцца ад смеху з Клімковіча. Выратоўвае нас абодвух школьны званок.

— Можаце ісці дахаты,— гаворыць Марына Юр'еўна.— Альбомы з хатнім і сённяшнім малюнкам пакіньце на партах...— і нечакана сцішана да мяне: — А ты, Валера, застанься...

І вось мы адны: я — на сваёй парце і яна — за настаўніцкім сталом. Сядзіць, падпёршы абедзвюма рукамі галаву, доўга глядзіць паўз мяне ў акно, за якім асляпляльна сонечна, і раптам пытаецца:

— Скажы, Валера, ты часта дома малюеш?

Ніякавата пацiскаю плячамі: як калі...

— А я, калі хадзіла ў гурток, а пасля ў студыю пры Доме піянераў, дык нават спала пад падушкаю з пэндзлямі. Ты так не робіш?

— Не-а,— выціскаю з сябе.

— Дарэмна... Тады, кажуць, сны каляровыя часцей прыходзяць.

Яна замаўкае, усміхаецца сама сабе, згадаўшы тыя гады, калі сніла каляровыя сны, а я моршчу лоб, імкнуся прыпомніць, якія ж сны прыходзяць да мяне... І хоць забі — не ведаю.

— Скончыла школу,— уздыхае і праводзіць тонкімі пальцамі па высокім прыгожым лобе,— павезла дакументы ў тэатральна-мастацкі інстытут здаваць... Чуў пра такі? Не? Ён у Мінску знаходзіцца, адзін на ўсю рэспубліку, а едуць туды і з Каўказа, і з Цянь-Шаня... Паблыталася цэлы дзень па доўгіх калідорах, да аднаго шаноўнага барадатага дзядзькі падышла, да другога звярнулася, а яны ў адзін голас: не марнуй свае гады, дзяўчына, усё роўна на жывапіс не пройдзеш. Пяць месцаў — шэсць дзе-

сяткаў жадаючых... Я — за дакументы і ў педагагічны.

Я слухаю яе і думаю: навошта яна мне ўсё гэта расказвае?

Школу хаця б скончыць, яшчэ чатыры гады бухаць, а пра інстытуты няхай выдатнікі думаюць. Яна, мусіць, па вачах прачытала мае развагі, папрасіла:

— Прынясі, калі ласка, сюды свой малюнак...

Угнуўшы галаў, падыходжу да настаўніцкага стала, кладу на самым краёчку альбом. Марына Юр'еўна абедзвюма рукамі, як нешта каштоўнае, падносіць бліжэй яго да сябе. Я, не ведаючы куды падзець свае доўгія, як у злодзея, рукі, хацеў пасунуцца назад да парты, але ногі быццам прыраслі да падлогі. «Якія тонкія і лёткія яе бровы, як пахнуць нейкаю кветкаю, не, не ландышам, а нейкаю іншаю,— яе падрэзаныя да плеч саламяныя валасы...»

— Валера, калі табе не шкада, падаруй мне гэты малюнак.

Чаго-чаго, а такога я не чакаў. Пэўна, насміхаецца? Знайшла што прасіць...

— Я не жартую! — і сапраўды — у вачах Марыны Юр'еўны ні кропелькі смеху.— Дзякуй, што ты мяне намаляваў у вобразе прынцэсы. Дальбог, прыемна быць на яе месцы! Але не таму я прашу цябе ахвяраваць свой малюнак... Ведаеш, я думаю, я нават чамусьці ўпэўнена, што ў табе сядзіць мастак, Валера. Ты абавязкова станеш ім, калі...— яна зрабіла доўгую паўзу, скончыла з усмешкай: — Калі будзеш класціся спаць з пэндзлямі пад падушкаю! Ну, дык ты згодзен спрэзентаваць малюнак?

Хоць прадапошняе слова было мудронае, дасюль не чутае мною, але што дзіўна, як прыліпла да языка, аж захацелася паўтарыць услед: «спрэзентаваць».

— Бярыце...— ківаю галавою.— У мяне дома цэлая шуфляда малюнкаў.

— Вось і добра, што паразумеліся,— Марына Юр'еўна бярэ мяне за руку.— А хоць раз у тыдзень, напрыклад, у нядзелю, ты мог бы зранку прыязджаць у Слонім?

Я сумеўся. Няўжо папраўдзе гэта магчыма? Праз хвіліну няўпэўнена паціскаю плячыма:

— Не ведаю...

Настаўніца, так і не растлумачыўшы, чаго я павінен штотыдзень ездзіць у раён, моўчкі загортвае мой альбом, схіляецца над класным журналам, штосьці хутка запісвае ў ім, пасля прыбірае стол. З тоўстай кніжкі казак, адкуль чытала ўрывак з «Бацькавага дару», тырчыць невялікі белы канверцік — напэўна, ад кружэльнай пліткі. Але не ад той, што слухалі на ўроку, а меншай. Я не памыляюся: паміж старонкамі сапраўды ляжала плітка. Марына Юр'еўна ўжо трымае яе ў руках, моршчыць праменькі носік:

— І як я выпусціла з галавы? Збіралася вам паланез Агінскага прайграць. Табе даводзілася слухаць яго, Валера?

Не ведаю, што адказаць ёй, а сам сабе думаю: «Чаго захацела... Я ж у музычнай школе не вучуся. Скрыпку і тую толькі нядаўна зблізку на вяселлі ўбачыў!» Каб не маўчаць, бо, не дай бог ад хвалявання яшчэ пачну заікацца, ні з таго ні з сяго пытаюся:

— А пад яго танцуюць?

Марына Юр'еўна высока ўскідвае тонкія бровы, блакітныя вочы яе цямнеюць:

— Пад яго плачуць, Валера!

Хісткая кладачка, што была пралягла паміж намі, выслізгвае з-пад маіх ног, я зноў сарамліва ўгінаю голаў. Грудзі казыча крыўда, толькі не ведаю на

каго: на сябе ці на настаўніцу? А яна, адчуўшы мой настрой, падхопліваецца з-за стала, суне канверт з кружэльнаю пліткаю ў мае рукі:

— На тым і пагодзімся: ты мне малюнак, а я табе — плітку!

Мяняцца, ды яшчэ з настаўніцаю! І прытым быка на індыка?.. Такое і ў сне не прысніцца. Кладу канверт з пліткаю на стол і хаваю за спіну рукі:

— Мне яна не патрэбна. У нас дома няма ж прайгравальніка, каб вы ведалі...

Твар Марыны Юр'еўны ад ледзь прыкметнай тонкай чырвані на шчоках яшчэ больш пахарашэў. Яна мітусліва збірае з першых партаў альбом, раптам кідае свой занятак.

— Паланез гэты называецца «Развітанне з Радзімай»,— голас настаўніцы дрыжыць.— Яго напісаў сусветна вядомы кампазітар Міхал Агінскі, дзяцінства якога прайшло ў нашым Слоніме. Так, так, запомні: у нашым Слоніме!.. Тут жыў яго дзядзька — Міхал Казімеж Агінскі, пад кіраўніцтвам якога былі злучаны каналам Чорнае і Балтыйскае моры...

Я стаю, няўцямна разявіўшы рот, бо добра помню, дзе на геаграфічнай карце знаходзіцца адно мора і дзе другое...

— Калі адмаўляешся ад пласцінкі, тады давай хоць паслухаем яе...— голас настаўніцы мякчэе, яна заўважыла маю разгубленасць і, не чакаючы згоды, хуценька ўключае прайгравальнік. Як жа дасюль я не здагадаўся, што ёсць музыка, якая здольна расхінаць цесныя цагляныя сцены, паднімаць пярынкаю высока-высока цябе над зямлёю і кружыць, гайдаць, як на далоні паказваць тое, што найбольш люба сэрцу, пра што найчасцей думаеш?!. І вось ужо я стаю каля свае хаты, прытуліўшыся спінаю да цёплай глухой сцяны, а перад маімі вачамі ў канцы сотак наша старая бярэзіна — чорная, нібы абпале-

ная, у камлі і бялюткая вышэй, дзе рукамі, заламанымі ад гора, раскінуты ва ўсе бакі галіны. Я нават чую, як трымціць, трывожна шапоча пад ветрам лістота — такая дробная, кволая,— спрабуе стрэсці з сябе шызы цень амялы-начніцы... Хачу і не маю сілы адарвацца ад цёплай, угрэўнай сцяны, дзе так зацішна, спакойна, і раптам нечая дужая рука штурхае проста ў карак!

Вяртаюць у клас мяне рэзка адчыненыя насцеж дзверы на калідор. У праёме дзвярэй — завуч, Таіса Барысаўна. З яе чорных, блізка пасаджаных да пераносся вачэй цягне заўсёднай строгасцю, уладнасцю. Пасля таго лютаўскага вечара, калі маму завезлі ў бальніцу, я абмінаю Таісу Барысаўну за кіламетр, бо яна замучвае мяне роспытамі пра маму, хоць пытанні адны і тыя: ці хутка яе выпішуць, што пісала ў апошнім пісьме...

— Марына Юр'еўна, выключце, калі ласка, прайгравальнік!

— Адну хвіліначку, Таіса Барысаўна! Гэта ж Агінскі!

— Няўжо ў вас вушы не забалелі за цэлы ўрок?

— Такое можна слухаць дваццаць пяць гадзін у суткі!

Іхнія галасы, як тэнісны шарык — туды-сюды, туды-сюды.

— Дома, колькі вам схочацца, слухайце гэтыя фугі. А школа ёсць школа, тут вучаць і вучацца, а не адпачываюць пад музыку.

Гучаць апошнія самотныя гукі паланеза, і на кожнага з нас цяжарам кладзецца цішыня. Усё-такі лягчэй, мабыць, Марыне Юр'еўне: яна не стаіць, як я, на месцы — здымае з вярцёлкі плітку, доўга запіхвае яе ў канверт, пасля пстрыкае бліскучымі замкамі і бярэцца за ручку прайгравальніка.

— А дзяжурны навошта? — паспешліва ідзе ёй насустрач завуч.— Я спадзяюся, Літвінчук, ты не забыўся, дзе знаходзіцца мой кабінет? — яна сама бярэ з падваконня карычневы чамаданчык — падае яго мне.

Трымаючы аберуч прайгравальнік, сунуся непаслухмянымі нагамі на калідор. Кабінет завуча знаходзіцца побач з нашым класам, у цёмным закутку-калідорчыку, які (сам чуў) некаторыя называюць — «апендыкс». Адно павярнуў за сценку — прыйшоў. Бухаю з усяе сілы нагою ў дзверы, проста на сярэдзіну стала, заваленага кнігамі і сшыткамі, стаўлю прайгравальнік. Вяртаючыся назад, яшчэ адсюль, з «апендыкса», выразна чую праз прачыненыя дзверы класа:

— Музыка будзіць уяўленне! Яна дапамагае вучням настроіцца, скінуць з сябе...

— Гэта самадзейнасць!

— А вы зірніце на сённяшнія малюнкі...

— Я паўтараю: дзяцей трэба вучыць, а не забаўляцца з імі. І не забывайцеся: вы ў нас на практыцы, характарыстыку я напішу такую, якую заслужыце...

— Ёсць малюнкі — хоць сёння пасылай на рэспубліканскую дзіцячую выстаўку. Таго ж Літвінчука...

Ногі мае прырастаюць да падлогі, але падслухваць Марыну Юр'еўну... Сілком выпіхваю сябе з цёмнага «апендыкса». І тут жа спатыкаюся, як аб падножку: да прачыненых дзвярэй нашага класа прыліп Васіль Васільевіч. Адною рукою, нават не гледзячы ў той бок, ён нібыта папраўляе на сцяне стэнд, на які школьная бібліятэкарка клеіць піянерскія газеты...

— Знайшлі кім хваліцца — Літвінчуком! — чутно, як хмыкае Таіса Барысаўна.— Напэцкаць у альбоме — не дыктант напісаць. Па мове ён ледзь на

траякі выцягвае... А ўчора ваш любімчык, каб вам было вядома, на го...

— Ніякі ён мой не любімчык, Таіса Барысаўна! — голас Марыны Юр'еўны звініць напятаю струною.— Дыктоўкі ён правільна навучыцца пісаць, а мы з вамі лепей маляваць за яго — ніколі!

— Як вы са мною размаўляеце!

Сціснуўшы зубы, не хаваючыся, іду да гардэроба. Ад дзвярэй з трусінымі чырвонымі вачамі адхістваецца Васіль Васільевіч. Цяпер ужо я пэўна ведаю, што больш траяка па фізіцы не зарабіць, а двойку заляпіць — не дазволіць дырэктар.

## VIII

Убачыў здалёк — не паспеў, спазніўся. Зялёныя крылы варот ужо зведзены, каля самага ганка пошты весела жаўцеюць на сонцы акуратна складзеныя адна на адну новыя скрынкі для пасылак. Дарэмна спяшаўся. Дзеду не пасобіў, на сланімскай паштарскай машыне-будзе не праехаў. Хоць якая там язда — паўкіламетра, не далей. Адно залез у кабіну — ужо вылазь. Саскочыш з падножкі на зямлю, ляпнеш дзверцамі, а пасля хоць бяжы наўздагон, так не хочацца ісці ў хату. І ўсё-ткі мой настрой не сапсаваўся: у галаве то заціхаў, то зноўку пачынаў гучаць пачуты ў класе дзівосны паланез, які шчымліва браў за сэрца. Мне згадваліся вузкія вулачкі Слоніма, вастраверхія цэрквы, імклівы, як страла, канал Агінскага ў самым цэнтры горада...

На пошце, што месціцца ў звычайнай хаце, як заўсёды, цесна, пад нізкай столлю плаваюць шызыя клубы дыму. Дзед Павел сам не курыць і не любіць дыму, але тут моўчкі цярпіць. Газеты і пісьмы ўжо разабраны. Тоўстыя напакаваныя паштарскія сумкі стаяць між ног сваіх гаспадароў, чакаюць, калі іх

ускінуць на спіну. Аднак дзядзькі сёння чамусьці не спяшаюцца; сядзяць вакол круглага стала, смокчуць цыгарэты, перакідваюцца пра нейкія свае гаспадарчыя клопаты. Я кожнага з іх добра ведаю і люблю сустракацца з імі, бо тут пачуеш пра ўсё, што дзеецца ў наваколлі. Найбольш дружбакую з дзядзькам Шпаком, які найдалей тарабаніць пошту (як сам ён кажа — на гарбе), аж за пяць кіламетраў у Нізяны, што пры самай Шчары. Дзядзька, любы скажа, напраўдзе падобны на шпака: шчупленькі, дзюбаценькі, гаваркі. Дзядзька першы ў сваіх Нізянах рыбак; спытай у яго пра рыбу — такога напляце!.. Як, скажам, плаваў па Шчары верхам на двухметровым соме, бо прыняў рыбіну за бервяно...

Добра разгледзеўшыся, здагадваюся, чаму застаў сёння ўсіх паштальёнаў разам. На крэсле каля нізенькага часопіснага століка рассеўся наш валовіцкі брыгадзір Патапчык. Я ўтаропіўся ў яго і не зводжу вачэй. Цікавасць мая невыпадковая. На пачатку года, якраз напярэдадні агульнага калгаснага сходу, каля будынка праўлення была пастаўлена новая Дошка гонару. На ёй у адзін доўгі рад прымацаваны вялікія, надрукаваныя ажно ў Гродне фотакарткі лепшых людзей нашай і навакольных вёсак. І сярод гэтых самых лепшых — Патапчык. На здымку ён зусім непадобны на сябе. Там, пад шклом, выліты артыст, а не валовіцкі брыгадзір. У белай кашулі, на грудзіне гальштук у буйныя гарохі, смаляная чупрына акуратна прылізана да лоба. Мо гэта зняты нейкі іншы чалавек, падобны на Патапчыка? Я не магу забыцца, як летась, у адну з веснавых сонечных раніц брыгадзір уваліўся ў нашу хату і ледзь не з кулакамі напусціўся на маму. Я якраз збіраўся ў школу і ўсё бачыў і чуў.

«Я табе ўчора загадаў стаяць на сеялцы... тудырастуды тваю!..»

«Не здужаю мяшка высыпаць, Аляксеевіч,— як вучаніца перад настаўнікам, пачала апраўдвацца маці,— захварэла я, у грудзях агнём паліць...»

«Не здохнеш!.. І помні, што людзі кажуць: гультаю — хлеб на кію!»

«Пабойся бога, Аляксеевіч! Яшчэ мяне ніхто за жыццё абібоцтвам не папікнуў...»

«Пачакай, я з цябе гэтую хваробу выганю... Не за гарамі дзень бульбу садзіць, сена дзяліць — тады табе ікнецца, тады ты ў мяне паенчыш!»

Прыгразіў — і вымеўся з хаты. Душачыся плачам, маці хапатліва пачала збірацца ў поле. Яна баялася сустрэцца са мною вачыма, а я хацеў падысці да яе, суцешыць, але чамусьці саромеўся...

Увечары таго дня Патапчык злітасціві́ўся, прывёз маму ў люльцы на сваім «Іжы» пад самую хату. Мама ледзьве вылезла з тае люлькі, яе разрываў цяжкі кашаль. Напэўна, не дайшла б да парога, каб не вылецеў з хаты я.

«Заўтра адаспіся — каго-небудзь кіну на падмену,— сказаў, гледзячы кудысьці ўбок, Патапчык,— паслязаўтра — выходзь, стагнаць потым будзеш...» — і пачаў са злосцю заводзіць заглохлы матацыкл. «Іж» доўга пчыхаў, абедзве яго запэцканыя граззю бліскучыя трубы стралялі блакітным едкім дымам. Нарэшце матор натужна завуркатаў — дым клубамі паваліў на наш надворак, ахутаў мяне і маму з ног да галавы. Патапчык, нават не азірнуўшыся, перамахнуў нагу цераз сядзенне, рэзка выруліў на сярэдзіну вуліцы. І тут як хтосьці папіхнуў мяне ў спіну. Я схапіў з-пад плота ладны, як узяць у руку, кавалак патрушчанай цагліны і з усяе сілы шпурнуў яго наўздагон брыгадзіру. Цагліна не даляцела да матацыкла мо крокаў пяць. Па праўдзе кажучы, я нават узрадаваўся, што яна не даляцела. І тут мяне балюча тузанула за плячо маці. Калі я павярнуў-

ся, то ўбачыў яе перакошаны ад гневу твар, пабіты чырвонымі плямамі. Маці пляснула некалькі разоў па маіх руках, схапіла за вуха.

«Што ты зрабіў, нягоднік?! Хто цябе навучыў замахвацца на чалавека?.. Ці для гэтага я цябе гадую адна, выбіваючыся з сіл... Чаго маўчыш, як падавіўся?..»

Маці скубла мяне за вуха, штосьці казала мне, але я ўжо не чуў яе. У грудзях гарачаю хваляю падымалася крыўда, падкацiла і даўкім камяком спынілася ў горле. Я адпіхнуў ад сябе маці і пусціўся бягом са слязьмі на вачах за хату, а там і за хлеў. Дамоў начаваць не прыйшоў. Цэлы тыдзень жыў у дзеда Паўла, пакуль не даведаўся, што ў нашу хату зачасціў фельчар Харкевіч. Аднаго вечара ён нават завітаў да дзеда Паўла і бабы Наталлі і доўга з імі пра штосьці шаптаўся на кухні. Баба пасля тае гаворкі пабегла начаваць да нас, следам за ёю пацягнуўся і я, хоць ніхто мяне і не клікаў.

...Пацiху прывітаўшыся, іду за дашчаную высокую перагародку, за якой ад ранку і да вечара сядзіць дзед Павел. Ён перакладвае з аднае горбы ў другую блакітныя паперкі, здаецца, квіткі, робіць нейкія паметкі ў пашарпанай пульхнай кніжцы. Прысаджваюся непадалёку і стаўлю на старую газету сургучовую пячатку. Хочацца яшчэ адну ўляпіць, але баюся. Дзед прамаўчыць, аднак я ведаю — такая работа яму не па душы. Краем вуха чую, як Шпак цяжка ўздыхае і гаворыць:

— Які б ні быў, а ўсё не лішнія рукі ў хаце...

— Пра што ты далдоніш, Кастусь! — абураецца Патапчык.— Калі хочаш ведаць, яго рукі і для мяне былі не лішнія! Дзесяць з палавінай чалавек у маю брыгаду ходзіць, дый тыя агінаюцца, душу дастануць, пакуль што зробяць. А яму сказаў, не ўцяміў —

паказаў, да ночы не прысядзе. Перад Новым годам на праўленні прэміі ды граматы ўсялякія дзялілі.. Усім, нават апошнім гультаям, не забыліся падкінуць па дзесятцы. А яму — дулю, нават не ўспомнілі. Падхапіўся з месца: так і так, кажу, вашу... маць! Дзе ў вас вочы? Ён ордэн заслугоўвае, а не паперчыны! Глядзяць на мяне як на дурня, а старшыня ў лабаціну як кулаком: «Ідзі праспіся, калі пасля ўчарашняга туманіць!»

Гаворка як успыхнула, так раптам і перапыняецца. Неспакойнае маўчанне хістаецца разам з дымам пад столлю. Мне ўжо не да сургучовых пячатак. Нецярпліва чакаю, што скажуць далей, бо ніяк не магу дапяць: пра каго гавораць. Хтосьці заходзіцца ад кашлю (з-за перагародкі не відаць). Бухае, аж страшна становіцца, што без нутра застанецца. Пасля нясмела, як шкляное штосьці, на край стала кладзе, гаворыць:

— Кажуць, учора сам стары ў дыміну набраўся... Суседзі апоўначы галас чулі з іхняй хаты. Пэўна, дубасіў, а Маня бараніла...

— Я сам яго ўвечары сустрэў каля магазіна,— уступае ў размову наш валовіцкі паштальён Куркевіч.— Не скажу, што на нагах не стаяў. Праўда, з кішэні бутэлька «яблычнага» тырчала.

— А яму хопіць і шклянкі, каб азвярэць! — ускрыквае, захлёбваецца Шпак.— Я на свае вочы бачыў, як, загневаўшыся, дубасіў бедалагу ў лесе. І мяне не пасаромеўся...

— Даваў у косці, але не забіваў,— дадае Патапчык.— Праўда, Харкевіч, які хадзіў глядзець, казаў, што патыліца трошкі рассечана... А, ніц не пераменіш, адпакутаваў небарака!

Кіпцюром у грудзях драпаецца злосць: гавораць як загадку — ён, яго, яму!.. А пра каго? І дзед Павел нечым пільным заклапочаны, нат не распытаў,

што прынёс са школы. Цяпер лепш да яго не падступацца.

— Ну, бывайце, хлопцы,— паднімаецца з-за стала брыгадзір.— Колькі ўжо? Без чвэрці дзве? О, загаварыўся з вамі, старшыня наказваў быць у палове,— і да дзеда: — У цябе, кажуць, Павел, карова ацялілася...

— Учора ўвечары...— не адрываючыся ад папер, пацвярджае дзед.

— Бач ты, які нюх у гэтага нашага заатэхніка Лісоўскага! Сапраўды лісіны. Карова яшчэ месца не скінула, а ён ужо ўведаў. Цялушка?

— Цялушачка...

— Добра... Прасіў перадаць, што плача па ёй калгасны цялятнік.

— Рана яшчэ,— паднімае сівую галаву дзед Павел.— А там відаць будзе.

— Твая праўда, няхай хоць есці навучыцца,— пагаджаецца Патапчык.— А думаць табе доўга, Павел, не выпадае, ты і так калгасу, як кажуць, пры шый кабыле хвост. Сена ж табе па пошце ў скрынках не прысылаюць.

Брыгадзір выходзіць, услед за ім сунуцца да дзвярэй і паштальёны. Я таксама чамусьці падхопліваюся, на хаду зашпіляючы гузікі ў паліто. Абыякава гляджу на дзедаў стол і ўрэшце зачапляюся вокам за шэра-блакітную паперчыну, што ляжыць асобна ад іншых. Гэта бланк тэлеграмы, якую дзед па тэлефоне перадаў у раён.

З трох радкоў, напісаных па-вучнёўску вялікімі літарамі ад рукі, адразу кідаецца страшнае слова: памёр. Міжволі апускаю рукі. Не хачу чытаць далей, але паперчына, як магнітам, цягне да сябе: «ІВАН ПРЫЯЗДЖАЙ ПАМЁР ТОЛІК ХАВАЕМ ЗАЎТРА БАЦЬКА».

У галаве бязладна мітусіцца: «Толік... Толік... Які Толік?..» І ніяк не магу дадумацца да нечага пэўнага.

— Дзеду, а хто памёр?

Дзед Павел нібыта не чуе майго пытання — ставіць сабе птушачкі ў бухгалтарскай пульхнай кніжцы. Адно я набраўся духу, каб перапытаць, як паднімае голаў і, гледзячы паўз мяне ў закратаванае акно, гаворыць:

— Толік Васюкоў...

— Калі?! — само вылятае з мяне.

— Сёння ўночы.

«Сёння ўночы. Сёння ўночы... Сёння ўночы!..» — гумавымі мячыкамі скачуць дзедавы словы ў маёй апустошанай галаве.

— Ага, ідзі дахаты. Я ўжо тут і сам упраўляюся, баба чакае...

Адразу за дзвярыма мяне асляпляе сонца. Спыняюся на драўляным ганку, хапаюся за парэнчу. Вочы слязяцца. Я тру іх кулаком, а яны ўсё роўна слязяцца. Потым іду па рыжай раскоўзанай дарозе ў свой канец, і такое адчуванне, што пазіраю на ўсё вакол сябе праз тоўстае-тоўстае шкло. Ні пахаў не чую, ні гукаў... А думаецца вось пра што: такая сонечная бялюткасць за вёскаю, аж адбірае вочы, і няўжо яе не бачыць Толік?.. А можа, ён... Як гэта? Учора быў жывы, а сёння памёр?! Сам чытаў у газеце, што чалавек, здараецца, засынае на гадоў дваццаць, а пасля расплюшчвае вочы... А з-за спіны, над самым вухам, знаёмае: «Гы-гы-гы!»

Шкляны каўпак, пад якім быў дагэтуль, трушчыцца, цаляе вострымі голкамі ў скроні, вушы... Каб не кінуцца бегчы, гляджу высока ў неба. Густа налітая сінеча ад зыркага сонца растала, прыкметна патанчэла і падаецца ўжо не такою абыякава-халоднаю, як тыдзень ці два назад.

Як і ўчора, як і пазаўчора, баба Наталля сустракае мяне на нагах. Есці не хочацца, хоць калом убівай у горла, але я не ўстаю з-за шчапчыка, пакуль не бачу пустое дно ў місцы.

— Баба, а ад чаго Толік Васюкоў памёр?

— Хто яго ведае, чаму ён рукі на сябе налажыў?..— горасна прыкрывае рот маленькімі далонямі баба Наталля.— Мусіць, кепікамі ды здзекамі данялі, не хацеў цярпець больш,— памаўчала і паціху дадала, як якую таямніцу: — Людзі расказваюць, калі знялі з вяроўкі, дык яшчэ цёплы быў. Харкевіча сярод ночы паднялі, але ён не даў рады адратаваць...

— Дык ён сам?! — паволі прыўстаю з табурэткі.— Павесіўся?..

Баба Наталля нат не паварочвае да мяне галавы. Утаропілася сабе пад ногі невідушчымі, затуманенымі вачамі і ледзь чутна варушыць губамі — моліцца.

Як аглушаны, брыду на чыстую палавіну ў свой пакой, спыняюся каля кроснаў, не ведаючы, куды, у які кут схавацца, каб нікога не чуць і не бачыць.

На посцілцы, затканай у кроснах, усё тыя ж яркія калёры, праўда, сёння яны нібы рассыпаны кожны сам па сабе, і як я ні збіраю іх вачыма ў вясёлку — нічога не атрымліваецца. Чорныя стужкі раздаліся ўшыркі, імкнуцца злучыцца адна з адною. Шпурляю школьную сумку пад стол, падаю ніцма на канапу. Перад заплюшчанымі вачыма, як у кіно, праплывае ўсё, што ўчора здарылася на Дужай горцы. І тое, як праехаў на запрэжаным у санкі Толіку па старой вуліцы, і як пасаромеўся, калі ён выцяўся патыліцаю, паспачуваць яму, сказаць добрае слова... Сядзіць, схапіўшыся аберуч за галаву, і плача... Так горка плача, што лепш не чуць і не бачыць.

«Я не па сваёй ахвоце сеў у санкі,— апраўдваюся невядома перад кім.— Пакульчык мяне сілком пасадзіў, узяў ззаду за плечы і пасадзіў...»

«А чаму ты зачапіўся нагамі за палазы, калі Толік ірвануў за вяроўчыну санкі? — як бы хто дапытваецца ў мяне.— Чаму не скаціўся на зямлю?..»

«Пабаяўся стукнуцца...»

«Дык затое ён пасля з-за цябе грымнуўся на мерзлую зямлю... І ты з жалезнымі санкамі яму на галаву,— напамінае ўсё той самы чужы голас.— Чуў на пошце, што Харкевіч сказаў? Патыліца Толікава рассечана. А хто яе рассёк, не ведаеш? Не здагадваешся?..»

«Я невінаваты! — хочацца на ўсю хату закрычаць мне.— Людзі бачылі, што ўчора стары Васюк быў п'яны і галас чулі з іхняй хаты!..»

«А ты хіба лепшы за Васюка? — не адчэпліваецца, даймае мяне голас.— Толік за тваю шапку грымакоў па баках налавіў, а ты яму пасля па твары... І не шкадуючы, а наводмаш!» На гэта — апраўдання ў мяне няма. І я яго не шукаю. Церпне, мярцвее правая рука. Ляжу пластом на канапе і думаю, што, пакуль не звечарэе,— не паднімуся. З кухні набліжаюцца, сцярожка шоргаюць крокі: чаго гэта я спатрэбіўся бабе Наталлі?

— Валерык? Чуеш, Валерык?..

Не варушуся і не адгукаюся. Навошта паказваць свае чырвоныя сплаканыя вочы?

— Спіць...— сама сабе гаворыць баба Наталля і хуценька шоргае ў сваю баковачку. Неўзабаве яна вяртаецца адтуль, старанна ўкрывае мяне коўдраю. Пасля дзынкае восілкамі вёдзер, налівае карове пойла, нарэшце выходзіць з хаты.

Я застаюся адзін. Пад коўдраю, як у кагосьці вялікага за пазухай, сугрэўна і ўтульна. Спакойней нават думаецца. І пра пачутае на пошце, і пра ўча-

рашняе... Я адзін толькі раз праехаўся на Толіку, а Пакульчык штовечар яго запрагаў. І яшчэ паганяў вяроўчынай. Хто вінаваты больш: я ці ён?

Чым далей я ўспамінаў свае крыўды, тым лягчэй мне дыхалася. Як два на два чатыры — стала зразумела, што ніякай маёй віны няма перад Гыгыгы, наадварот, усе вінаватыя перада мною...

І вось ужо хтосьці шэпча ціхутка на вуха салодкім голасам, што і надалей трэба нікому не спускаць. Не можаш стукнуць, дык грызяні зубамі, каб заскавытаў на ўсю вёску. Няўжо калі ў іх ёсць бацькі, а ў цябе няма, ты павінен перад кожным гнуцца? Згадай: колькі сябе помніш, адно тое і робіш. А прыходзіш са школы,— маці без слоў, вачамі: «Нікога не пакрыўдзіў? Нікому не стукнуў?»; бяжыш раніцою ў школу — усё тое ж маўклівае маленне: «Не заводзься ні з кім, лепш саступі...» Дурань! Ты з імі часцей рабі, як учора з Харкевічам, як з...

І тут салодкі голас адсякае Толікава:

«Гы-гы-гы!..»

Я рэзка ўсхопліваюся, аж ускрыпваюць спружыны старой канапы, і бачу: жоўтая занавеска, што вісіць у праходзе паміж большым і меншым пакоямі чыстай палавіны хаты, ледзь-ледзь калышацца.

Адчайна кідаюся да праёма. У бакоўцы з адным акном на вуліцу — ні душы. На кухні таксама нікагутка. Апускаюся бяссільна на табурэтку каля шкапчыка.

За акном — глыбокі цень ад хаты і чысцюткая бель снегу.

Як дзень і ноч.

Галаву распірае ад пранізлівага гуду. Выпіць якінебудзь парашок? Тыя, што ад галавы, здаецца, жоўценькія, у блакітнай абгортцы. Колькі раз насіў маме; адсюль, з шуфляды, дзед Павел іх даставаў...

Асцярожна выцягваю шуфляду, бо добра памя-

таю, як сыпанула ўсё з яе на падлогу ў той жахлівы лютаўскі вечар, калі дзед Павел шукаў для змярцвелай мамы лякарства. Вочы разбягаюцца ад мноства прыгожых каробачак, цёмна-карычневых бутэлечак, бліскучых паперчын з белымі вочкамі парашкоў. Паспрабуй разбярыся, каторыя з іх ад галавы. Грабуся, як сляпы, у дзедавай хатняй аптэцы, ніяк не знайду тыя жоўценькія, што сунімаюць галаўны боль. Мо далей дзе ляжаць? Дастаю шуфляду і кладу на стальніцу шкапчыка. Ад задняй сценкі, акуратна абвязаныя ніткамі, ляжаць сціснутым радочкам пучкі сушаных зёлак — пахуча-духмяныя, з востраю гарчынкай. То баба Наталля пастаралася, якая не надта дае веры дактарам. Пучкі ў шуфлядзе невялікія, адно для памяці пра тое, што назапашана ахапкамі на вышках. Крайні па левай руцэ ляжыць святаяннік, ці як яго баба заве яшчэ — хваробай, без якога ніводная лекавая траўка не мае цудадзейнай сілы. Не ведаю, ці ёсць тут каліва праўды, але баба ў гэта верыць. Рука сама цягнецца да святаянскага зелля, а пад ім — звычайны школьны сшытак з чыстаю непадпісанаю вокладкаю. Я ведаю, што гэта за сшытак. Менавіта пра яго ўчора апоўначы ўспамінаў дзед Павел, і калі ён прызначаецца для мяне, то хоць зараз, без дазволу, я вольны прачытаць, што там напісана. Стаю, трымаючы ў руцэ пучок святаянніку, і доўга не наважваюся зрабіць, што ўжо надумаў...

Дробнымі круглымі літарамі, рассыпанымі свабодна зярняткамі ў два рады, дзедавай рукою выведзена:

«Дзень крывавай суботы 9 мая 1936 года
ў канцлагеры Картуз-Бяроза».

«...Той дзень, як звычайна, пачаўся ў чатыры гадзіны раніцы. Бягом да вады, бягом у сталоўку да ніштымнай, няўежнай бурды, бягом на жвірысты пляц, адкуль нас разводзяць па розных работах. За

спінаю азвярэлае гырканне, цяжкае цопанне гумовых палак — ахоўнікі стараюцца адзін перад адным. А ранак такі пагодны і ціхі! Малінавае чыстае сонца, што выкацілася з-за небасхілу і паднялося вышэй за астрожныя сцены і калючы дрот, свеціць аднолькава ім і нам. Нарэшце раздаецца каманда: «Направа! Наперад! Бяго-ом марш!.. Прэндзэй, прэндзэй, пся крэў!» І свіст гумовых палак з усіх бакоў. Потым нашу групу ў трыццаць чалавек дзеляць на дзве меншыя: адным тупыя рыдлёўкі ў рукі — капаць невядома дзеля чаго каменістую чэрствую няўдобіцу, другім — баранаваць ускапанае раней.

Я трапляю ў першую чаргу. Загад капаць хутка, трымаць лінію, што азначае не адставаць (наперад можна рвацца, тады будзе весялей таварышам), нікому не дапамагаць, інačай... Мне не ўпершыню трымаць рыдлёўку, а вось суседу поплеч, злева, які толькі сёння далучыўся да нас з карцэра, прыходзіцца туга. Колькі год яму? Напэўна, дваццаць ці нават васемнаццаць. Студэнт альбо вучань старэйшых гімназічных класаў — мяркую па гарадскім шэрым касцюмчыку, па штанах «бэ-бэ», як у трыццатыя гады называлі гэтую моду. У яго мігам ускочылі на далонях крывавыя мазалі, бо ён надта моцна трымае чаранок рыдлёўкі. Патыліцаю адчуваю, як няўмольна сунецца да яго пан камендант Мартынюк. І праз імгненне — «Цоп! Цоп! Цоп!..» — глухія ўдары па вузкай хлапечай спіне. Ясна — задзяўбе, калі не дапамагчы хлопцу. Непрыкметна бяруся рыдлёўкаю ўлева на два-тры штыхі.

«Арыштант нумар 564 до мне!»

Кідаю рыдлёўку, выцягваюся ў струну і зычна, як належыць па статуце, рапартую:

«Пане каменданце, арыштаваны нумар 564 паслушна стае на росказ! (З'явіўся па вашаму загаду)»

«Для чэго арыштаваны дапамагае суседу злева?

«Пане каменданце, я не...»

«Маўчаць, бальшавіцкая морда!»

І роўна пяць гумовых udараў здзіраюць са спіны жыўцом скуру.

«Да працы бягом ма-арш!»

Пакуль адбываў «пакаранне», таварышы на два крокі прасунуліся з рыдлёўкамі наперад. Як хутчэй імкнуся здагнаць іх, але не паспяваю. Токам пранізвае голас Мартынюка:

«Арыштант нумар 564 до мне! Чаму агінаешся, маскальская пыса?!»

Ізноў сэрца адлічвае пяць вогненных грымакоў.

«Прэндзэй до працы!»

Дваццаць хвілін такіх пачастункаў — і размытая пляма сонца гайдаецца ў небе, а галаву сціскае абручом. Потым нічога не бачу і не чую вакол сябе; як завадны, ні на імгненне не спыняючыся, націскаю і націскаю нагою на рыдлёўку. Здаецца, што недзе паблізу ляскоча фурманка, чуваць дзіцячыя крыкі. Я не веру сам сабе, пэўна, мроіцца, трызніцца. А думкі ўжо там, на волі... Валовічы, двухпавярховая драўляная школа ў маладым бярозавым гайку. Потым усплывае чыста паголены тхарыны тварык слонімскага ксяндза, якога пры ўсіх, настаўніках і вучнях, я выпхнуў са школы. На ганку ён выпадкова ці, наадварот, знарок паслізнуўся і, як падкошаны, кульнуўся тварам у сходцы. З рассечанага брыва цячэ кроў... І адплата — пастарунак. Вобыск у хаце — знойдзена некалькі «крамольных» лістовак. Абвінавачванне суда — замах на жыццё боскага служкі. Першаю сведкаю настаўніца польскай мовы пані Ева. У слонімскай турме затрымаўся нядоўга.

«Па нашых дадзеных, ты капазэбовец, камуніст чырвоны...»

«Не...»

«А хто сцягі па ўсёй гміне да ўгодкаў бальшавіцкага перавароту развесіў?»

«Не ведаю...»

«А можа, успомніш? І тады пан ксёндз табе даруе — ён міласэрны».

«Не ўспомню».

«Тады, пся крэў, у Бярозе пан інспектар Каталя-Курганскі дапаможа табе ўспомніць. Заадно ў яго пройдзеш сваю быдлячую беларусінскую школу!..»

Вяртаюць на пляц глухія ўдары і змучаны цяжкі стогн. Я не заўважыў, як на паўкроку апярэдзіў суседа злева, і кат п'яўкаю ўчапіўся ў яго спіну. Ад інтэлігентнага выгляду арыштанта пан камендант Мартынюк шалее. Пазбавіць ад пакутаў таварыша магу толькі я, калі зноў пачну капаць ягоную дзялянку. Ён крайні ў нашым радзе — і з другога боку яму ніхто не дапаможа...

Спіну ліжа полымя, а грудзі халодзіць страх. «Не, я не магу ўжо дапамагчы яму, бо сам ледзь стаю на нагах, прыкладзецца гумаю колькі разоў — і не вытрываю, расцягнуся на зямлі... А яны толькі гэтага і чакаюць. Накінуцца з усіх бакоў: «Сімулянт!» Пасля пашкадуеш, калі не адаб'юць мазгі, што на свет нарадзіўся... «Рана зламаўся, ты павінен дапамагчы таварышу,— кажу сам сабе.— Паглядзі, якое кволае гэтае хлапчаня, яму яшчэ рана ў магілу...»

Не ведаю, ці адважыўся б зноў выклікаць на сябе гнеў Мартынюка, але ён, не здагадваючыся, сам вызваліў мяне ад душэўных пакут.

«Нумар 564!.. Да пана каменданта Карчынскага бяго-ом марш!..»

Новы «целаахоўнік», як мы іх называлі, з выгляду неблагі хлапчына. Высокі, нават дабрадушны з твару і, здаецца, больш спакойны, чым злыдзень Мартынюк. Работа таксама з нязгоршых — баранаваць ускапаную ўчора зямлю. Чатыры чалавекі ціс-

нуць грудзьмі на калы, а пяты дастае паміж брусоў камяні, карнявішчы.

«Прэндзэй, бальшавіцкія сабакі!»

Налягаем з усіх сіл на калы, прывязаныя да бараны на дваццаць пяць зубоў, а непадалёку збіліся ў чорную зграю наглядчыкі, голасна размаўляюць, каб таксама, калі здольны, чулі:

«Гультаі, абібокі праклятыя! Навучыліся ад жыдоў палітыкаваць, пра свабоду нейкую ўздумалі. А дзе яе больш, як не ў Польшчы? У нас як у Амерыцы свабоды! Нават больш! Здрайцы пшэклёнтэ! Мы вас навучым любіць і шанаваць богам дадзеную дзяржаву!..»

Палоска зямлі, якую выпала баранаваць, даўжынёю метраў сто пяцьдзесят. Калі пачалі сунуцца, запрэжаныя, як валы, у барану, здавалася, не надта далёка процілеглы канец. Аднак чым далей пхнёмся, ногі ўсё больш і больш наліваюцца свінцовую стомаю, а канец поля адсоўваецца ледзь не за небасхіл. Спыніцца б, перадыхнуць хоць адну хвілінку...

Кожны метр, кожная пядзя зямлі нам даецца ўсё цяжэй і цяжэй. Напэўна, даўно зваліўся б, каб не кол, што ўпіўся ў грудзі. Задыхаючыся ад горкага пылу і невыноснай смагі, нейкую хвіліну тапчуся разам з усімі на адным месцы. І тут пан камендант як каршун звальваецца на маю галаву. Прыкладваецца гумаю так, што аж ногі ў каленях дрыжаць. І ўсё ў адно месца, звярына, цаляе, па левай лапатцы. Цоп! — загнаў цвік, цоп! — яшчэ адзін увагнуў... Цоп... Цоп... Цоп... Мне дастаецца часцей за астатніх, бо я новы ў камандзе баранавальшчыкаў. Б'е моўчкі, без ляманту, толькі гырчыць сам сабе пад нос:

«Я вас навучу, сукіны сыны, калектывізму, вы ў мяне пакаштуеце калхозу!..»

Зусім блізка ўжо і край поля. Мо на павароце

ўдасца хоць трохі сапнуць? Марныя надзеі. Камендант Курчынскі якраз уваходзіць у самы смак палкавання. Я ўжо дакладна ведаю, што яго рука разы ў два цяжэйшая за Мартынюкову. Шкадую, што не адважыўся ўсё-ткі заступіцца за хлопца: якая розніца, дзе атрымліваць гумовыя пачастункі?..

Думкі блытаюцца ў галаве, іх падмінае пад сябе адно толькі слова, што нібыта прысохла да скамянелых вуснаў: «Піць. Піць... Піць!..» Потым нехта спагадлівы як быццам думае за самога цябе: «Навошта неміласэрны лёс упхнуў жывым у гэтае пекла? Дзеля чаго цярпець такія нечалавечыя пакуты? Усё роўна іх не пераломіш. На іх баку сіла, закон, сам бог! Няхай што хочуць робяць, абы не чапалі мяне... А пэўна, адпусцілі б, каб падпісаў паперу, якую падсоўваў інспектар Каталя-Курганскі... Адрачыся ад гэтых зладзюгаў, ты ж не ў партыі-бандзе іхняй, вернешся ў вёску солтысам, клёпак хапае ж у галаве... А не — застануцца дзеці сіротамі, ніхто нават ведаць не будзе, дзе закапалі!»

Цягнем барану назад. Рот, нос, вочы забіты едкім пылам. Адкуль толькі бярэцца сіла стаяць на нагах?

Шукаю вачыма былога суседа, хлапчыну ў шэрым касцюмчыку. І бачу — ён з раскінутымі рукамі ў іх пад нагамі. І яны зграяй дзяўбуць яго, хто як можа і колькі можа. А адзін самы вясёлы стаіць з малітоўнікам у руцэ, крычыць у неба: «Як ты трымаеш такіх вылюдкаў бальшавіцкіх на зямлі, пан Езус?!» Праз колькі хвілін паднімаюць, ставяць хлопца на ногі, падпіраюць гумовымі палкамі, не даюць упасці і заходзяцца ад дзікага рогату: у юнака ад катавання не вытрымаў мачавы пухір...

Шалёная хваля помсты адрывае мяне ад прывязанага дротам да бараны кала. Ашаломлены такой прыткасцю, наглядчык разгубіўся. Вырываю ў яго

гумовую палку, прагна замахваюся і... падаю, збіты з ног сваім жа таварышам, які мне пасля маці другі раз даруе жыццё.

Што было потым — не помню. Ачнуўся на трэція суткі ў карцэры. Хлопца ў шэрым касцюме паспелі пахаваць. Гэта быў, як я пасля даведаўся, таварыш Германскі — першая ахвяра крывавай расправы ў Картуз-Бярозе. У той жа дзень закатавалі і Мазырку, а аднаго з вязняў закопвалі ў зямлю жывым... Колькі год ужо сніцца начамі адкрыты хлапечы твар і камяністая, неўскапаная цаліна перад намі...»

...На гэтым сказе запіскі дзеда Паўла скончыліся. Праводжу языком па сасмяглых вуснах і гляджу ў акно. Сонца ўжо хінецца да захаду. Снег адлівае чырванню.

Назаўтра, у шэранькую з дробным снежным сяйвом нядзелю Толіка хавалі. За жалобнаю машынаю з дамавінаю ішло шмат людзей. Сярод дарослых я ўбачыў і Пакульчыка, і Клімковіча, і Харкевіча з залепленым вокам. Я доўга не адважваўся глядзець на нябожчыка, а калі ўсё-такі набраўся смеласці, то спыніўся ад разгубленасці. Мне падалося, што Толік усміхаецца. Усміхаецца так, як адзін толькі ён умеў усміхацца — вінавата-сарамліва, са шкадаваннем да ўсіх. Я яшчэ раз смялей зірнуў на нябожчыка і ўпэўніўся, што не памыляюся. Пуста і лёгка зрабілася ў маіх грудзях, я адчуў, як гаркавата пахне раскоўзаны коламі і нагамі снег, усыпаны хваёвымі лапкамі.

Вярнуўшыся з могілак, я зняў хромавую бацькаву вушанку з вешалкі і падаў бабе Наталлі.

— Баба, схавай назад у куфар...

— Што, ужо нацешыўся? Я ж казала — яна табе завялікая. Вырасцеш — будзеш насіць на здароўе.

— Не буду... Ніколі не буду.

— Чаму? — пабляклыя вочы бабы Наталлі нібы праяснелі ад здзіўлення.

— Не хачу.

І, каб нічога не тлумачыць, хутка выходжу з хаты.

## IX

Мінуў тыдзень сакавіка, а зіма як заўпарцілася — не спяшае развітвацца з намі. І хоць чуваць, асабліва ў поўдзень, як радасна, тонка звініць сваімі ключамі блізкая вясна, лагчыны і ўзгоркі навокал вёскі па-ранейшаму томяцца пад снежным шарпаком. Усе гэтыя дні, сунімаючыся трохі пад вечар, вострым скразняком гойсаў куслівы паўночна-ўсходні ветрадуй. Ён уеўся, як кажуць, у косці, надакучыў усім, не даваў на поўныя грудзі дыхнуць зямлі і людзям.

Пасля Толікавай смерці я зусім пакінуў хадзіць на горку. Кручуся на надворку альбо непадалёку ад сваёй ці дзедавай хаты, іншы раз цэлы вечар навылёт праседжваю за сталом — малюю. Балазе Марына Юр'еўна прывезла са Слоніма добрыя акварэльныя фарбы, якія доўга ўпрошвала мяне ўзяць. Я ўзяў, але за грошы. Сёння, праўда, чамусьці маляваць не хочацца. Сяджу каля акна, абапёршыся локцямі на вузкае мокрае падваконне, цікаўна пазіраю ў азяблы ссутулены малады садок. Чырвонае сонца нізка вісіць над снежнай роўняддзю, і сад ахінае мяккая ружовая віднata, толькі каля самых яблыневых ног ляжаць густа налітыя, блакітныя плямы. Казка, дый годзе.

Раптам да кармушкі, што вісіць на адным з дрэў-

цаў, акурат насупраць акна, падлятаюць чатыры сініцы. Пырхаюць, скачуць navakол частунку, дзюбаюць па адной кавалачак сала. Хлеб ці булку ў кармушку я не кладу,— упэўніўся, што сала больш да смаку крылатым гасцям. Праўда, дзед перасцерагае: лішняе можа пашкодзіць птушкам. А наогул, з-за сініц у мяне атрымалася адна не вельмі прыемная гісторыя восенню.

Ці то ў канцы верасня, ці то на пачатку кастрычніка, зграбаючы лісце ў садку, я ўбачыў каля ляткоў суседавых вулляў пасткі. Самыя звычайныя пасткі, якія ставяць на мышэй. Яны былі ўзведзены з долькамі сала на драцінках. «Навошта ён іх тут панастаўляў» — падумаў я пра суседа і раптам убачыў на адной з дошчачак перашчыкнутую напалам сініцу. І ўсё адразу зразумеў: сусед Ціхановіч, які трымае пчолы, палюе на птушак. З халадамі яны пачалі часцей прылятаць у вёску і не супраць пажывіцца пчоламі, калі тыя ў цёплыя пагодныя дні выпаўзаюць на ляткі, каб размяць крылцы.

Не доўга думаючы, я адарваў штыкеціну, хуценька скочыў у чужы агарод і «павыстрэльваў» усе да адной пасткі, нават сала з драцінак не паздымаў. Цэлы вечар адчуваў сябе сапраўдным героем, а назаўтра, калі адбыў урокі, убачыў: пасткі зноў стаяць узведзеныя. «Бач, мёду яму ўсё мала! — злосна падумаў пра суседа.— Кожную пчалу лічыць...» Скочыў, назбіраў на курыным седале пуху і асцярожна пакраўся да вулляў. Я надумаў абхітрыць Ціхановіча: «павыстрэльваць» пасткі і панакідаць каля іх пуху, маўляў, сініцам зноў пашэнціла — уцяклі...

Вось і адарваная штыкеціна, што ледзь вісіць на верхнім цвіку. Адхіліў яе ўбок, прасунуў у дзірку галаву, ужо нават ступіў адною нагою ў суседскі агарод, як нечакана ўбачыў, што з-за кастра дроў з дубцом у руцэ ляціць сам пчаляр: «Ах ты гіцаль

паганы! Птушыны бацька знайшоўся!.. Я цябе зараз самога, як шашка, у пастку зацісну!»

Ад страху я хутчэй тузануўся назад, каб даць драпака, і з усяго размаху шаргануў цемем аб незагнуты ржавы цвік, што тырчаў з верхняй жэрдкі. Не хацеў, а войкнуў, моцна заціснуў далонямі пякучую рану. Праз колькі хвілін, калі адняў рукі, убачыў: пальцы ў крыві, да некаторых прыліп курыны пух. А над плотам — спалоханы Ціхановічаў твар.

«Бяжы хутчэй драпіну цёплай вадой абмый,— слаба ўсміхнуўся пчаляр і дадаў: — Пакуль жаніцца — загаіцца».

Я моўчкі пабрыў да дзедавай хаты. Дома акурат нікога не было. Выцягнуў з печы чыгун з цёплай вадою, памачыў трохі валасы на драпіне і забіўся з кніжкаю ў руках на печ. Думаў, што ні баба, ні дзед, ні мама — ніхто пра гэтае здарэнне не даведаецца. Мусіць, так і было б, каб дзед Павел аднойчы па нейкім пільным клопаце не пабег да Ціхановіча. Вярнуўся ён тады з літровым слоікам мёду ў руках і, пасміхваючыся ў свае кароткія натапыраныя вусы, сказаў: «Гэта табе дзядзька Ціхановіч перадаў...»

А пастак, дарэчы, каля суседавых вулляў я больш не бачыў.

Сінічкі, падмацаваўшыся, не спяшаюцца пакідаць сталоўку: скачуць па зледзянелых нерухомых яблыневых галінках, быццам гуляюць у даганялку. Знікаюць яны толькі тады, калі іх бесклапотнаю гульнёю зацікавіўся кот Рыжык, які прысеў каля камля дрэўца.

Са свае службы вярнуўся дзед Павел. Распранаецца, тупае нечага па кухні, потым зазірае ў пакой, дзе сяджу каля акна я.

— Глядзі, шыбіну носам не выцісні! — жартуе

ён і раіць: — Пайдзі па вуліцы прабяжыся. Чаго сохнеш, як дзеўчына на выданні...

— Не хачу...— і пацiскаю плячыма: — Што там рабіць? Сабак ганяць?

— Э-э-э!.. Дык ты, браток, зусім так закіснеш,— падыходзіць бліжэй дзед Павел.— Гэтулькі навакол цікавага дзеецца, а ты пра нейкіх сабак...

— Нічога не дзеецца — у самога ёсць вочы.

— Адных вачэй мала, трэба ўмець яшчэ слухаць.

— А хіба я не ўмею? — дзіўлюся я.— У класе каля дошкі, калі падказваюць, з апошняй парты чую шэпт.

— Тут я не сумняюся,— смяецца дзед,— сам некалі даўным-даўно вучыўся... Ды я не пра тое. От цяпер, ідучы дахаты, гэтулькі навін пачуў, што наперад магу сказаць, калі стукне цяпло.

— Ну, калі? — пільна пазіраю на дзеда Паўла, бо ведаю, што ён добры выдумшчык.— Можа, ты мне падкажаш, калі шпакі прыляцяць?

— І гэта можна...— лёгка згаджаецца дзед.— Праўда, ты і сам можаш даведацца. Не верыш? Пайшлі на двор, тады пабачыш.

Гляджу проста ў дзедавы шэрыя вочы, спрабую здагадацца: жартуе ён ці не? Ды хіба па ім пазнаеш? Напэўна, жартуе, але, як заўсёды, цікава.

— Дык гайда, недаверак! — нібы нават пакрыўджана гаворыць дзед.— Ці ж я калі табе маніў?

Неахвотна паднімаюся з табурэткі, няспешна іду апранацца. У мяне ніяк не ўкладваецца ў галаве, ад каго можна пачуць пра змены наперад. Здагадацца па нейкіх прыкметах — згодны, можна. І то не кожнаму дадзена. А пачуць?.. Пэўна, дзед проста захацеў мяне выманіць з хаты. Але дзеля чаго? Памагчы што? Дык адразу й сказаў бы. А то абавязкова з выбрыкамі.

Нарэшце выходзім на надворак. Дзед колькі хві-

лін стаіць моўчкі, засяроджана прыслухоўваецца да прыглушаных гукаў надвячорка. Перабрэхваюцца, нібы спрачаюцца, каму несці першаму начную варту, сабакі, нецярпліва дзынкаюць каля калодзежа пустыя вёдры, заходзіцца ад ёкату круцёлка, а звяглівая баба Агата, хата якой насупраць дзедавай, на ўсю вуліцу кляне сваіх ненажэрных курэй, што не хочуць ісці на седала.

— А каб вас трасца пабіла! Цэлы дзень каля парога, а нясціся дык не хачу! Зараз я вас пачастую, толькі дзяркач у сенях знайду!

«Паслухай, паслухай сваю суседачку,— пасміхваюся з дзеда.— Яшчэ не такое пачуеш. А я, бачу, лёгка клюнуў на тваю вуду...»

— І завялася ж, як назло, гэтая тараторка! — не вытрымлівае, моршчыцца дзед Павел.— Адна за тры бабы галасу наробіць, у другім канцы вёскі ажно чуваць. Адыдзем, Валерка, за хату, мо там пачуем, што сініцы кажуць...

— Хто, хто?!

— Сініцы,— кідае праз плячо дзед.

«Сініцы дык сініцы...— неахвотна прымаю малечую, нецікавую гульню, чамусьці загадзя ўпэўнены, што нічога ў дзеда не выйдзе.— Паглядзім, як ты будзеш выкручвацца. Нагаварыць ты цэлы кош мастак».

Спыняемся каля мураванага, са стрэшкаю, склепа пад зляжалым, пачарнелым снегам. Дзед выцягвае з ватоўкі худую доўгую шыю і, смешна адтапырыўшы вусы, утаропліваецца ў Ціхановічаў сад. Хутка паварочваецца:

— Чуеш, як сініцы ціўкаюць?

Крыўлюся як ад горкага: «Знайшоў чым здзівіць!» Я, не прыслухоўваючыся, яшчэ з парога, пачуў іх тонкі нясмелы перазвон. Навошта было сюды перціся?

— Канечне, чую! Не глухі мо... Цэлую зіму пад акном ціталі.

— Э-э-э, браце, не кажы! — паднімае ўгору ўказальны палец дзед Павел.— Ціталі, ды не так. Няўжо забыўся? Не лянуйся, успомні...

«От прывязаўся! — злую я.— Было б што сапраўды прыпамінаць, як быццам раней гэтыя сініцы каркалі...»

— Ты не адмахвайся, не адмахвайся...— упарта настойвае на сваім дзед.— Калі хочаш, падкажу, бо, можа, забыўся: «Сіверка! Сіверка! Сіверка!..» А цяпер паслухай.

Каб праверыць дзедавы словы, натапырваю вушы. Пра нейкага сіверку ў рэдкім пераклікванні сініц і блізка не ўспамінаецца.

— Прыдумаў ты свайго сіверку! За дурня мяне маеш, ці што? Сініцы зусім не так ціталюць.

— Во, во! Я ж пра тое і кажу! — пагаджаецца лёгка са мною дзед Павел.— «Сіверка!» — так яны на пачатку зімы вызвоньвалі, калі ціснулі першыя маразы. А цяпер у гэтых камячкоў песня зусім іншая. Давай паслухаем яшчэ раз. Лепш, канечне, ранічкаю іх слухаць, ды што ўжо адкладваць на заўтра, мо сёння яшчэ пашанцуе.

Мы замаўкаем, цікуючы ў недалёкі Ціхановічаў сад, адкуль зрэдку падаюць галаскі птушкі. Пэўна, ім ужо не да песень, трэба збірацца на начлег. Хутчэй за ўсё яны проста развітваюцца, жадаюць адна адной добрай і цёплай ночы. Так міжволі думаецца мне.

Я ўжо быў намерыўся падзяліцца са сваімі думкамі з дзедам, але ён узяў мяне за руку, вачмі папрасіў памаўчаць, а сам, як толькі азвалася птушка, хуценька прагаварыў:

Уночы трашчыць,
А ўдзень плюшчыць...

Тут зрабіў паўзу, а пасля спяшаючыся, быццам баючыся забыцца словы, скончыў разам з ціньканнем:

Снег растане,
Снег растане,
Уночы мароз,
Уночы мароз,
Кідай сані,
Бяры воз!

Мне адразу запомніліся і развесялілі апошнія два радкі. Яны нібы прыліплі да языка, так і прасіліся, каб іх паўтарыць яшчэ раз. І губы мае міжволі варушацца: «Кідай сані, бяры воз!..»

— Ну як, спадабаўся вершык? — дзедавы вочы хітра ўсміхаюцца з-пад стрэшкаў сівых броваў.— А сам цяпер пад ціньканне сініцы ад першага да апошняга радка паўтары. Сам адчуеш, што гэта яе песня, толькі на нашай, на чалавечай мове...

— Ведаю... Твая прыдумка,— насуперак кажу яму, а сам краем вуха лаўлю развітальнае ціньканне сінічкі і са здзіўленнем адчуваю, як на губах, быццам самі сабою, складваюцца знаёмыя радкі. Спачатку першыя два, як бы трошкі невясёлыя, журботныя, зацягнутыя:

Уночы трашчыць,
А ўдзень плюшчыць...

І тут насуперак гэтаму сумнаватаму галаску — бадзёрае дзінькание, вельмі-вельмі падобнае да звону капяжоў са стрэх у цёплы поўдзень:

Снег растане,
Снег растане,
Уначы мароз,
Уначы мароз...

Апошнія два радкі выгукнуў так гучна, аж падскочыў дзед Павел:

Кідай сані,
Бяры воз!..

У хату вяртацца, вядома, расхацелася. Што там пільнаваць? Улагоджанае і ціхмянае сонца проста на вачах хаваецца ў халодную снегавую пасцель далёка-далёка ад вёскі, і ўсё навокал ахутвае светлашэрая сутонлівасць. Марозу не чуваць, але пад нагамі не хлюпае. Ляплю з падатлівага снегу вялікую снежку, шпурляю высока ў неба і думаю, ад каго дзед навучыўся гэтай дзіўнай песні. Няўжо ад саміх птушак? Я сур'ёзна не веру ў гэтае «кідай сані, бяры воз», але нібыта праглынуў смяшынку, і таму мне весела.

— Дзеду, давай я бульбы набяру,— з ахвотаю бяруся за кошыкі, што стаяць пры склепе.— Я мігам, не паспееш дахаты дайсці.

— Ат, не будзем удвух рукі пэцкаць! — адчыняе рыпучыя дзверы дзед Павел.— Калі хочаш, пасоб бабе цялятка напаіць. Пойла ўжо астыла.

Чаму не пасобіць?! Шкада мне толькі малога Рысіка (так, на мужчынскі лад, я называю цялушачку), бо дзед з бабаю адразу адсадзілі яго ад каровы. Клопату прыбавілася, але затое кропля малака ў хаце застаецца. Для мяне застаецца... Калі я бяру ў рукі шклянку, мне ўспамінаюцца вялікія цёмна-фіялетавыя слівіны вачэй цялушачкі і становіцца ніякавата, нямёмка, як усё роўна яе абкрадваю.

Я не стаў клікаць бабу Наталлю, якая бразгала заслонкаю ад печы ў кухні, схапіў за восілку вядро з пойлам і падаўся да хлява. Смела адчыняю дзверы. Загарадку дзед зрабіў блізка, леваруч ад парога, а падыход, каб не лезла пад рукі карова, адгарадзіў жэрдкаю. Кветка бэрсае ў яслях сена, віластыя рогі каронаю на яе галаве, а на кароне засохлыя травінкі. Убачыўшы мяне, у загарадцы адразу падскоквае на ногі цялятка, суне бліскучую пыску між калкамі весніц. Я падношу бліжэй далоню, і яно прагна хапае мяне за пальцы. Казытлівая радасць уваходзіць

у грудзі, заходжуся ад смеху. Потым адчыняю весніцы, стаўлю паперадзе сябе вядро з пойлам, а гэтае дзіўнае стварэнне ўпіраецца мне ў жывот лабацінкай, намагаецца выпхнуць з цеснай загарады. І толькі тады прыкладваецца да пойла, калі знаходзіць у вядры мае пальцы. П'е доўга: цмокае, фыркае, смешна матляе вушамі, за якія так і хочацца патрымацца. Чую: Кветка адварочваецца ад ясляў, цягнецца пысаю да мае спіны. І я думаю, што ўжо даўно, забыўся калі, адчуваў сябе так добра, як вось цяпер, між цяляткам і каровай. Нос дзярэ тугі пах гною, а выходзіць на надворак не спяшаюся. Шурпатым, бы наждачная папера, языком. Рысік скрабе-вылізвае дно ў вядры, і я нецярпліва чакаю, калі падыме галаву, каб плясиуць у далоні. Няхай падскочыць ад спуду, гарцане, шкада, што тут не вельмі разгонішся. Нічога, пацяплее — на двары хопіць месца...

Не ведаю, ці доўга яшчэ бавіўся б, каб раптам у хляве зусім не сцямнела, не прагрымела высока над галавою:

— Ого, якое лабатае! І да каровы не пускаеце? Якраз што трэба — цялятніцам ніякага клопату. Бо тых, што да вымя прыпадалі, пакуль навучыш піць з вядра — пальцы аджуюць...

У парозе, займаючы ўвесь праём дзвярэй, калываецца брыгадзір Патапчык. Збоку каля яго, як пад пахаю, тырчыць дзедава галава.

— Ага, не будзем наракаць, Аляксеевіч, неблагое цялятка,— паспешліва гаворыць дзед Павел.

— Што-што, а цялят гэтыя нашы асемяніцелі навучыліся майстраваць! — рагоча на ўвесь хлеў брыгадзір і трасе кучараваю чупрынаю, што выбілася з-пад шапкі на лоб.— Праўда, дохнуць, як мухі, ядры іх корань! А сёлетняю зімою дык проста нейкі мор упаў на іх. Кожнае трэцяе скапычваецца.

— За імі трэба вока ды вока,— уздыхае дзед Павел.— Малое цяля, што дзіця...

— У райком партыі ў сераду старшыню і галоўнага заатэхніка цягалі,— расплываецца ва ўсмешцы шырокі брыгадзіраў твар.— Накачку рабілі. Мо з гадзіны тры ў кабінеце сакратара далдонілі, як з каровы цяля цягнуць, як яго на ногі пасля ставіць... Пракуратураю грызіліся. Так што, Паўлюк, рыхтуй вяроўчыну на гэтага лабатага. Старшыня казаў, калі хто набок куды сплавіць — ніводнай соткі сена не ўбачыць. Так што калхоз трэба хоць на цялячыя ногі паднімаць...

— Ды хіба я супраць?! — моршчыцца, як ад горкага, дзед Павел.— Толькі пакуль ёсць чым карміць — патрымаю... Хіба лішняя капейчына муляе каму ў хаце? Во, хлопца трэба апрануць, бо Алена нешта расхварэлася... Ат, што казаць! — махае рукою дзед.— Хадзем лепш у хату, Аляксеевіч, чаго тут гной нюхаць...

— Ого, гной! Гной мазгі прачышчае і сілу дае,— выходзіць з хлява брыгадзір.— Каб яго калі-нікалі нюхалі тыя, што па кабінетах пазашываліся, дык не расказвалі б заатэхніку, скуль малако ў каровы бярэцца!..

## X

Я нізавошта не пайшоў бы ў хату, каб не баба Наталля. Калі брыгадзір і дзед Павел зніклі ў сенях, яна выбегла ў адной кофце на надворак, злавіла мяне за рукаў, жаласліва зазірнула ў вочы:

— Хадзем, Валерык, павячэраем... Я ўжо заціркі накалаціла.

«Няўжо так і не навучуся ёй пярэчыць?» — з нейкай асабліва пранізлівай безвыходнасцю падумалася

мне, калі паслухмяна паднімаўся па сходках да парога.

Патапчык паспеў ужо сцягнуць з сябе брызентавую зашмальцаваную куртку, важна рассеўся каля шкапчыка на маёй табурэтцы. Дзед як бы ўмомант падрабнеў, паніжэў нават ростам і дзіцячым ваўчком завіхаецца перад госцем па кухні: дастае талеркі, шклянкі, відэльцы, кроіць хлеб... Пакуль я распранаюся, баба Наталля прыносіць з шопкі колца каўбасы, белую алюмініевую міску квашанай капусты, ад бадзёра-вострага паху якой у роце ажно пацякла слінка. І я да бурчэння ў жываце адчуваю голад, быццам дні тры нічагутка не еў.

Брыгадзір бухае локцямі ў стальніцу, як аб нябачаны ручнік, выцірае адна аб адну далоні. Зашклянелыя вочы яго цяплеюць, нецярпліва паблісквають, а шырокі з тонкімі губамі рот ні на хвіліну не закрываецца:

— Кажаш, Паўлюк, капейчына патрэбна... А каму яна, панімаш, не патрэбна? З-за яе, праклятай, і душацца людзі ад цямна да цямна. У мяне, панімаш, ні выхадных ні прахадных, хоць боты не здымай, кладучыся спаць. Табе лягчэй: у дзевяць прыйшоў, у шэсць вечара — будзьце здаровы. І гадзіну на полудзень, панімаш, аддай. Што, мо няпраўду кажу?

— Не буду жаліцца — за карак не лье,— згаджаецца дзед Павел, трымаючы ў руцэ бутэльку віна.— Хоць, бывае, таксама дзяўбуць...

— А нашага самадуру няма? — крывіцца на віно Патапчык.— Бо ад гэтага слонімскага яблычнага пойла адно ў прыбіральню хочацца.

— Не цісну, Аляксеевіч,— вінавата гаворыць дзед.— Пляшка чужой дзесьці ёсцека, а сваёй няма.

— Нам больш і не трэба, адно падлячыцца пасля ўчарашняга,— шкрабе па патыліцы брыгадзір.— Дый жонка наказвала сёння раней быць.

Дзед Павел хапатліва адчыняе дзверцы шкапчыка, нязграбна, бокам, нагінаецца, зазірае на адну, пасля на другую палічку. Няёмкасць вымушае мяне адвярнуцца, пхае ў плечы на чыстую палавіну хаты.

— А ты куды шыешся? — голасам, бы рукою, тузае за плячук Патапчык.— У які клас ходзіш, бэйбус?

— Налета ў сёмы пойдзе,— заместа мяне ўгодліва адказвае дзед Павел.

— Мусіць, без бацькі ды маці на двойках ды тройках коціцца? Няма каму задаць перцу. А вы ж яго шкадуеце, галубіце?..

— Не, яго падганяць не трэба,— заступаецца дзед.— Калі й праскакваюць траякі, дык толькі па рускіх дыктоўках.

— То няхай садзіцца за стол,— мякчэе брыгадзіраў голас.— Галоўнае, навучыцца грошы, панімаш, правільна лічыць, а што ў ведамасці з памылкаю распісаўся, не глядзяць, хоць крыжыкі стаў.

Баба Наталля як з-пад зямлі вырастае перад шкапчыкам, ставіць талерку, кладзе відэлец. Патапчык сам адкаркоўвае мутную, як яго вочы, бутэльку з самагонкаю, налівае паўшклянкі сабе, цягнецца да дзедавай.

— Я лепш віна, Аляксеевіч,— перапыняе яго руку дзед Павел і пырскае сабе на дно карычневай вадкасці.

— Э-э-э... не-е-е! Так, панімаш, не пойдзе! — прымушае больш наліць брыгадзір.— Не крыўдзі, калі запрасіў, госця, не май яго за алкаголіка...

— Не мянці языком, Аляксеевіч,— абураецца дзед.— Каб ты валяўся па лужынах, хіба брыгадзірыў бы? То на здароўечка!

Мужчыны выпіваюць, а я, не адрываючы вачэй ад талеркі, даўлюся сухім хлебам, бо не адважваюся

дацягнуцца да каўбасы, што ляжыць нарэзаная перад Патапчыкам.

— Закусвай, Аляксеевіч! — падкладвае то з адной, то з другой міскі ў брыгадзіраву талерку дзед Павел.— Чым, як кажуць, багатыя...— і пасля да мяне: — Мо табе што, Валерык, пакласці?

— Не-а,— кручу адмоўна галавою, а ў самога ў грудзях успеньваецца злосць: спачатку дык брыгадзіру, а пасля ўжо пра мяне ўспомніў!..

— Ты, Паўлюк, не бойся... Закіну за цябе слова на праўленні. І сена, дасць бог, буду ўлетку дзяліць каля Шчары. А карова ў цябе старая?

— Не надта...— няпэўна адказвае дзед, гадаючы, куды хіліць Патапчык.— Добрая кароўка, сёмы год пайшоў...

— Ведаеш што... Ты чутку пусці, што мяняць будзеш. На малако, маўляў, скупая,— умінаючы за абедзве шчакі, павучае брыгадзір.— Ці мала ходзіць люду да цябе на пошту: аднаму пажалься, другому пастагні — назаўтра, панімаш, уся вёска будзе ведаць...

— Ды нешта прыдумаем, Аляксеевіч! Галоўнае, сена, дзякаваць богу, ёсць, прыкупіў з восені. Бульба таксама летась урадзіла...

— У нас за жывы кілаграм рубель пяцьдзесят дзве даюць,— перабівае дзеда брыгадзір,— а ў «Чапаева», панімаш, па два рублі кідаюць. Магу дамовіцца з хлопцамі. Вечарком, калі сцямнее, падскочаць на машыне...

— Дзякуй, Аляксеевіч! Да восені патрымаем, а там відаць будзе.

— Ну, то глядзі сам,— бярэцца за бутэльку з гарэлкаю Патапчык.

Ён каўтае за адзін глыток паўшклянкі, потым ляпае па кішэнях, шукае папярос. І нарэшце выдыхае разам з дымам:

— Кажаш, бульба летась урадзіла... А каб я табе,

панімаш, каня ў час не растараўся, ці накапаў бы гэтулькі?

— Нізавошта! — ледзь не клянецца дзед, кульнуўшы перад тым паўшклянкі віна.

— А ты думаеш, людзі вачэй не маюць? Сам чуў, як брахалі: Паўлюк служачы і старая праз тыдзень у брыгаду ходзіць, а першыя ўхапілі... На чужы рот не навесіш варот.

«Выходзіць,— думаю сам сабе,— каб не Патапчык, дык ні бульбы, ні сена ў нас не было б... Нездарма перад ім гэтак танцуе дзед, аж глядзець брыдка. А лепей зусім не глядзець, бо ніколі такім яго дагодлівым яшчэ не бачыў».

— Хворая мая Наталля, Аляксеевіч! — апраўдваецца, быццам вучань перад настаўнікам, дзед Павел.— Вочы вунь не прасыхаюць, дактары нічога не могуць парадзіць, дый на пенсіі яна...

— Хэ! На пенсіі! Знайшоў апраўданне,— выпускае пад столь воблака дыму Патапчык.— У нас, калі хочаш, пенсіянеры — самая ўдарная сіла. Плюс Гыгыгы, ды ён у пятлю ад вясёлай жызні палез. А я яму хоць зараз, пасмяротна, ганаровага калхозніка ўляпіў бы.

Я нясмела адсоўваюся ад шкапчыка, збіраюся з духам юркнуць на чыстую палавіну хаты. Не магу дый не хачу слухаць усё гэта. Ад папяроснага дыму, з-за якога ледзь прабіваецца лямпачка, пяршыць у горле, рэжа вочы. Паволі прыўстаю з табурэткі, але Патапчык цяжкаю рукою ўсаджвае мяне на месца.

— Куды навастрыўся? Мо віна хочаш пакаштаваць?

— Рана яму яшчэ! — цвёрда пярэчыць дзед.— І, дай бог, каб зусім не прыкладваўся, бо калі ўнюхаю...

Халодная слізкая непрыязнасць адпіхвае мяне ад дзеда, які раптоўна мне счужэў.

— Рана, кажаш, піць?..— перапытвае, выскальваючы жоўтыя пракураныя зубы Патапчык.— А за дзеўкамі, панімаш, сачыць самы якраз! Га-га-га!.. А калі праўду казаць,— шкадаўліва прыжмурвае свае зашклянелыя вочы,— мелкія зараз хлопцы пайшлі. Паглядзіш — вышэй бацькі выцягнуўся, а на губах мацерына малако не абсохла. Ды мы ў такія гады адразу пасля вайны, панімаш, як валы ўкалвалі і на танцах зухамі хадзілі! А гэтым,— кіўнуў на мяне,— дай корак ад «маскоўскай» нюхнуць — млеюць, да работы — таксама не загнаць.

Я падхопліваюся і выбягаю з кухні. Уключаю ў сваім пакоі святло, бяру са стала кнігу, якая першая трапляе пад рукі, бяздумна слізгаю вачыма па нейкіх фізічных формулах. І тут жа шпурляю кніжку пад стол, згадаўшы вочы настаўніка фізікі Вась-Васі.

Не хачу слухаць, а ў вушы, хоць затыкай іх, лезе абрыдлая гутарка Патапчыка і дзеда Паўла. Больш, вядома, гарланіць брыгадзір, дзед адно час ад часу ўтыркае сваё паслужлівае: «Праўду кажаш, Аляксеевіч! І я таксама бяру твой бок...» На хвіліну прыціхаюць, напэўна, выпіваюць, зноў бубняць, як цецерукі. Я адчуваю сябе загнаным у цесны кут. Апрануцца ды збегчы з хаты? Усё роўна буду туляцца пад вокнамі, бо ні да клуба, ні на Дужую горку не пайду. А ад нашай хаты дзед цяпер ключ з сабою носіць, не хавае ў дзірку.

Колькі яны сядзяць удвух, без мяне, не ведаю. Вечар, які так хораша пачаўся, здоўжыўся і, здавалася, яму не будзе канца. Бяру ў рукі, кідаю, зноў спрабую ўткнуць сябе носам у старую, без вокладкі, кніжку нарвежца Нансена «Фрам» у Палярным моры». Выпараў яе з дазволу бібліятэкаркі цёці Тоні ў горбе спісанай літаратуры. Пагартаў — назусім пакінуў сабе. І хоць расказ быў не пра падарожжа ў Афрыку, дзе, куды ні павернешся — тыгры і крака-

дзілы, жырафы і сланы (ды ўсіх звяроў, бадай, і не пералічыш), ■ няспешна апавядалася пра вандроўку ў маўклівае царства льду, страшэнных марозаў, белых мядзведзяў і дзіва пад назвай Паўночнае ззянне,— чытаў узахлёб на зімовых канікулах. Ніколі не думаў, што так цікава ў Ледавітым акіяне, дзе ні раслін, ні птушак, ні звяроў... Асабліва ўразілі мяне тады рэдкія фотаздымкі паміж старонкамі, не чорна-белыя, як звычайна, а блакітнага колеру. Вось і зараз: гляджу на адзін са здымкаў — у твар, грудзі, у саму душу — сцюдзёна дыхае неабдымная белая прастора. А ў ёй, каля падножжа вялізнай ільдзіны-гары, падобнай да егіпецкай піраміды, якую бачыў у падручніку па гісторыі, маленькаю парушынкаю чалавек. І больш няма за што зачапіцца воку — навокал лёд, лёд, лёд... Мне шкада гэтага чалавека, хоць на ягоным твары дрыжыць штосьці падобнае на ўсмешку. Шкада, калі прызнацца, і самога сябе. Ніколі дагэтуль, нават у той жахлівы вечар, калі заснуў пасля горкі на запеку ў сваёй хаце, не пачуваў сябе так сіратліва, як цяпер. Тады, помню, хоць страшна было, але ўсё да апошняй драбнічкі нагадвала мне маміны рукі, а сёння...

На кухні па-ранейшаму бубняць Патапчык і дзед Павел. Іхнія галасы, як на сапсаванай падрапанай пласцінцы, часам заядае:

— Панімаш, Паўлюк? Панімаш?..

— Аляксеевіч, дзякуй! Аляксеевіч!..

Міжволі сціскаюцца кулакі — так і хочацца запусціць чым-небудзь у бок кухні. І, што дзіўна. Патапчыка я ўжо не чую, а толькі дзеда, яго гугнявае сіпенне. Раптам на падлогу падае табурэтка, чуецца цяжкае тупанне.

— Аляксеевіч, не забудзься... Пагрузчык не тое што адну, дзесяць здаровых рук замяніць...

Моцна-моцна сашчамляю пашчэнкі, каб не са-

рвацца на крык. Да чаго дайсці: на калецтва сваё наракаць!..

Быццам тугім ветрам, у праёме дзвярэй ускідваецца жоўтая фіранка. З-за дашчанай сценкі паказваецца дзедава галава, потым няўпэўненае частае шорганне ног.

— Унучак, мо зацiркі ўліць? Бо пакуль баба ад Агаты вернецца — выстыне...

Я, не падымаючы галавы, зацята маўчу.

— Або, калі хочаш, пачакай, удвух пасёрбаем... Я праз хвілінку вярнуся.

— Я не хачу тваёй зацiркі, не хачу! — шапчу ў адказ.— Адчапіся ад мяне! Ідзі, куды сабраўся.

У дзеда Паўла адвісае скіўца, ніжняя тоўстая губа дрыжыць. Ён усім тулавам паварочваецца, як на хадулях, тупае паспешліва на кухню. Левая, адбітая ў Картуз-Бярозе рука бездапаможна матляецца.

Пасля рыпяць, бухаюць адны, другія дзверы, і ўжо глухое Патапчыкава «бу-бу-бу» чуваць з надворка. Я з палёгкаю ўздыхаю, падхопліваюся з канапы і, быццам не верачы, што брыгадзір нарэшце выбраўся з хаты, зазіраю ў кухню.

— Не дзіва, што баба Наталля збегла да суседкі,— нібы апраўдваючыся, гавару сам сабе ўголас.— Ад гэтага чаду здурнець можна...

Прачыняю дзверы ў сені — няхай хоць трохі выцягне дым, падыходжу да стала. Каўбасы зусім не засталося, капусты — як у рот узяць. На падваконні тырчаць дзве пустыя бутэлькі. Трэцяя, напалову не дапітая, стаіць пасярэдзіне стала. Бяру яе ў рукі, падношу рыльца да носа. Церпкі пах казыча ноздры. Назад на стол бутэльку не стаўлю — яна нібы прылiпае да маіх рук.

Згадваецца з'едлівае брыгадзірава: «Дай корак ад «маскоўскай» нюхнуць — млеюць...»

«Хто млее? Было б ад чаго! Сам бачыў, як хлопцы

пілі, сарваўшы за вясельную браму барыш...» — абураюся, а ўпэўненасці няма, бо яшчэ ні разу не каштаваў віна ці гарэлкі. Мо паспытаць глыток? Не спадабаецца — выплюну. Ніхто ж не ўбачыць.

«Няхай толькі ўнюхаю...» — успльвае ў галаве недагавораная дзедава пагроза. Перад брыгадзірам, бач, выстаўляецца. Напалохаў, як кулаком камень...

Пазіраю праз плячо ў цёмныя сені: мо зараз забрынчыць клямка? Не, нікога не чуваць. Значыцца, папраўдзе я баязлівец, ці, як казаў Патапчык, на губах мацерына малако не абсохла — баюся кроплю віна глынуць. Спіну праймае з сяней холадам, паспешліва зачыняю дзверы.

Рашуча падсоўваю бліжэй дзедаву шклянку, выліваю ў яе да апошняй кроплі з бутэлькі і, зажмурыўшы вочы, прыпадаю да гаркавата-салодкага пітва.

Скончыўшы піць, мігам схаваў пад табурэтку ўсе да адной пустыя бутэлькі, схапіў на ляту кавалак хлеба — хутчэй на чыстую палавіну хаты.

Нейкі час, не ведаючы, за што зачапіць рукі, сноўдаюся з кута ў кут, са страхатлівай цікаўнасцю прыслухоўваюся да сябе. У жываце спакваля разліваецца мяккая прыемная цяплынь, якая з кожным імгненнем расце, паднімаецца вышэй пад грудзі. А ў галаве нязвыкла пуста, аж звініць у вушах.

«Не такі страшны чорт, як яго малююць! — усцешвае зухаватая думка.— Сабраць назаўтра сумку ў школу, ці што?»

Ат, якія там зборы! Укідваю адну кнігу, запіхваю другую — хоць зараз гайда на вуліцу. На стале, пры самай сцяне ляжыць разгорнуты альбом. Я люблю, калі беляхціць некранутая папера. Перад тым як правесці першую рыску, магу хвілінамі глядзець на яе і з радасным сэрцам уяўляць будучы малюнак. Шкада, часцей за ўсё ён выходзіць слабым адбіткам-ценем ад таго, што ўяўлялася. Ды я не бядую: нека-

лі ж атрымаецца! Нездарма Марына Юр'еўна сказала — будзеш мастаком. І нават папрасіла малюнак... От, не магу тое слова дзіўнае ўспомніць! Адным словам, падараваць папрасіла. Ды, як наліха, прынесла завуча... Малюнак пакуль так і застаўся ў маім альбоме. Вось ён, пад рукою... Ёсць на што паглядзець. Конь ляціць. Грыва і хвост на ветры. А людскія твары не пашкодзіла б і паправіць, бо атрымаліся ўсе на адзін капыл. Напрыклад, твар самой прынцэсы... Блакітныя вочы хораша ўхапіў і нос праменькі — выліты Марыны Юр'еўны, а вусны непадобныя, занадта цвёрдыя...

Дастаю з шуфляды фарбы, ваду, як знаў, загадзя набраў у шклянку. У ахвотку, весела схіляюся над альбомам.

Пэндзлік, як жывы, скача ад вады да рознакаляровых вочак фарбы, тыцкаецца ў паперу. Твар прынцэсы ў мяне хапае розуму не чапаць — з ім трэба вельмі далікатна, бо ўміг можна згоршыць, а не палепшыць. Найбольш дастаецца розным каралевічам ды падпанкам. Аднаму дугою горблю нос, каб быў як у Патапчыка, другому, самаму зацюканаму, прылепліваю паніклыя нітачкі дзедавых вусоў — куды яму скакаць да прынцэсы! Фарбы знаходзяцца адразу. І ўсё да месца: ні адняць, як кажуць, ні дадаць. Я нават іх і не шукаю — самыя просяцца на паперу. Адна за адну ярчэйшыя. Цяпер я добра бачу, што горш за ўсіх мне ўдаўся Іван верхам на кані. Сябе я ніза-вошта не патраплю намаляваць. Дый кірпаты я і даўгашыі... А вось сапраўднага прыгажуна-асілка пасадзіць на спіну гнедаму — павінен; калі не ўмею, не змагу — які я тады мастак? Мусіць, падхваліла мяне Марына Юр'еўна, а я, лапух, за праўду чыстую прыняў. Гэта па-іхняму, па-настаўніцку, педагагічным прыёмам называецца... Няхай, заўтра пабачыць, на што мы здатныя! Цікава, а пра Агінскіх тых скуль

даведалася? Няўжо прыдумала? Ды што ты мелеш! Чорнае з Балтыйскім здолееў злучыць... І не абы-дзе, а на нашай зямлі, дзесьці за Слонімам! Вунь дзе адно мора, а дзе другое! Хачу і не магу даць веры. Ды іх злучыць — што за адну ноч казачны палац пабудаваць. Паспрабуй!.. А пляменнік — на ўвесь свет славуты кампазітар. Толькі ў нашых Валовічах дый у школе ніхто яго чамусьці не ведае. А музыка, якая музыка! Спрабую ўспомніць яе мелодыю — нічога не выходзіць.

Некалькі заліхвацкіх мазкоў — і на Іванавай галаве сядзіць каралеўская чырвоная шапка. З блакітнаю пярынаю райскай птушкі ля скроні. Застаецца ці не галоўнае — падправіць асілку твар. Малюю на шчацэ, як у дзіцячых кніжках, чырвоны яблык. Гэй, з дарогі, люд! Расступіся, народ! І міжволі адкідваюся сам ад стала. То ж ніякі не Іван, а Толік Гыгыгы!.. Ён ляціць і ўсміхаецца. Рэзка сашчамляю яму рот чорнаю тлустаю фарбаю. І ўжо на гнедым скача не асілак, а люты разбойнік. Падправіў, называецца! Кідаю пэндзлік у шклянку з бураю вадою, а сам ліхаманкава думаю, як ратаваць малюнак. Пакуль не засохла фарба, трэба паспрабаваць зняць яе з паперы. Зноў хапаюся за пэндзлік і, сам не ведаю як, перакульваю шклянку з вадою проста на альбом!

Праз імгненне — ні прынцэсы, ні Івана. Бура-зялёная пляма на ўсю старонку, з цыраты, што ляжыць паўз верх настольніцы, крапаціць на штаны вада. Галава ідзе кругам. Ускокваю з-за стала, а перад вачамі ўсё ў пакоі гайдаецца, некуды плыве, дый самога хіліць убок, вось-вось згублю раўнавагу. Трэба бегчы на кухню па анучку, а ног зусім не чую, як быццам іх і няма. Абыдуся і газетаю. А малюнак? Што цяпер скажу Марыне Юр'еўне? Слёзы накочваюцца на вочы. Сесці і зрабіць новы? Яшчэ лепшы. А ці здолею? Не, яна відушчая, адразу згледзіць,

што падмяніў, падумае — пашкадаваў... Гартаю роспачна альбом, на чыстых старонках непрыгожыя вадзяныя падцёкі... Са злосцю камячу старую «раёнку», змахваю са стала рагі бруднай вады, нагінаюся, каб выцерці падлогу, і не ўтрымліваюся на нагах...

Усё абышлося добра: не выцяўся, мякка, як у сена, гопнуўся на сцягно. Далей — новая прыгода: хачу і не магу сабрацца з сілаю, каб стаць на ногі. Падлога, калі абапіраюся, выслізгвае з-пад рукі, увачавідкі гайдаецца. Кружыцца галава. Спачатку паціху, потым усё хутчэй і хутчэй. Цьмяная лямпачка пад столлю то набліжаецца, то аддаляецца. Павекі зліпаюцца. І тут самае горшае: штосьці агіднае падкочваецца да горла, аж выбівае з вачэй злыя калючыя слёзы. Галава робіцца страшэнна цяжкаю — адну яе і чую, а цела, калі не кратаешся, здаецца зусім бязважкім. Але то падманлівая лёгкасць: паспрабуй ускарабкайся на ногі! Ізноў раздзірае горла нешта склізка-праціўнае, ліпкае, горкае — заціскаю далонямі рот, каб не даць яму волю. Варушыцца тупая злосць на самога сябе, гавару праз зубы і пальцы: «Так табе й трэба! Сам захацеў гэтага! Сам!» Словы, як ні дзіўна, збіваюць у грудзях каламутную хвалю, нат пасвятлела ў галаве. Перабіраюся, сагнуўшыся ў крук, на канапу. Прылегчы не адважваюся. Прыхінаюся спінаю да дашчанай перагародкі. Баюся нават зміргнуць, не тое што заплюшчыць вочы: каб хоць не паўтарылася дурное ванітаванне. Насупраць — незавешаная цёмная пляма акна. Цемень зусім не страшыць мяне; самае страшнае зараз неўтаймавана набухае, расце ўва мне самім. Асоўваюся бокам на канапу (ці, можа, яна сама падсоўваецца да мяне?), курчуся, падцяўшы пад бараду калені. Так лягчэй. Так лягчэй. Так намнога лягчэй. Па вуліцы марудна сунецца, бліпчыць святлом машына. Вось яна ўжо амаль параўнялася з дзедавай хатай, мінае

яе... І раптам рэзка паварочвае, слепіць мяне знаёмымі трохкутнымі жоўтымі вачамі: «Сам захацеў гэтага! Сам!..» У той жа момант вогненная піла рэжа напалам жывот, і з працяглым хрыпам я ванітую на падлогу.

Потым усё як у замаруджаным нямым кіно. Аднекуль усплывае перакошаны ад страху твар бабы Наталлі. І побач — чорныя вуглі дзедавых вачэй. Дзед і баба нешта хутка-хутка гавораць паміж сабою, схіляюцца нада мною, безгалоса просяць каўтануць з кубка нейкі адвар. З радасцю паслухаў бы іх, ды не магу расшчаміць зубы: боязь, што ўсё паўторыцца зноў, трымае рот на замку. Паспяваю нават здзівіцца: як добра ўсё бачу, а нічога не чую. Чаму так? І некуды правальваюся.

Нечакана апынаюся на Дужай горцы. Перада мною на каленях Толік Гыгыгы. Абшчаперыўшы галаву, ён... смяецца. Паміж ягоных пальцаў праступае кроў. Кроў і на маіх санках... Пхнуся назад, пакуль не ўзбіваюся на нешта спінаю. Паварочваюся: то аказваецца брыгадзір Патапчык. Ён з рогатам падае мне канец вяроўчыны, якая пятлёю зашморгнута на шыі нашай цялушачкі, што нязграбна хістаецца на сваіх палачках-нагах: «Ты ж сам захацеў гэтага, сам!..»

Гукаю дзеда. І бачу: ён вісіць на старой бярэзіне ў канцы сотак за хлявом, спавіты заадно з учарнелым камлём белымі і чырвонымі вяроўкамі. Канцы вяровак, як гадзюкі, паўзуць да бязлістай кроны, дзе за шызым крылом ценю праступаюць звярынымі вачамі абедзве амялы. Сутарга зводзіць горла: ці то крычу, ці то зноў мяне ванітуе.

Ачомваюся ад галасоў, што прабіваюцца аднекуль здалёку-здалёку. Адзін — глухі, надтрэснуты — гэта дзедаў. А другі, таксама мужчынскі — упэўнены, цвёрды — вельмі знаёмы.

— Ерунда, Павел!

— І хто б падумаў!.. Гэтулькі хапнуць...

— Лёгкае атручванне.

— Хлопец як хлопец быў, а ў апошнія дні як падмянілі, на нет звоўчыўся.

— І мой бэйбус не лепшы. Даўно пад гарачую руку просіцца.

— Тыдзень таму знайшоў у пустой хаце на запеку. Пабудзіў — вочы вырачыў, блішчаць, як у чорта.

— Мо пабіўся з кім. Мой нядаўна заявіўся дахаты — вока з-за пухліны не відаць. Пытаюся, папругу ўзяўшы ў рукі: «Хто цябе так?» Маўчыць як у рот вады набраўшы. За смеласць не стаў хрысціць папругаю.

— Даруй, Сямён, што гэтак позна ўспароў. Каб не старая — нізавошта не пабег бы.

— Ат, Павел, пра што казаць... Як там Алена? Ці хутка ўжо выпішацца?

— Пераказвала людзьмі, што тыдні тры яшчэ будуць трымаць. Збіраюся ў гэтую нядзелю з'ездзіць.

— Ну, то я пайшоў, Павел...

— Дзякуй табе, Сямён!

«Ён зараз пойдзе! Ён зараз пойдзе! Чаго ты ляжыш?! Ці мо лепш змаўчаць?..» — напінаецца ў галаве, гатовая вось-вось лопнуць, чырвоная струна. Адпіхваюся ад канапы, крычу, блытаючыся языком, наўздагон:

— Дзядзька Сямён! Г-гэта я!.. Я стукнуў вашага Андрэя... Н-нігды б-больш не буду!

А з парога ў адказ злоснае, але зусім не страшнае:

— Шкада, што раней не прызнаўся, гіцаль! Я б табе такога ўкола ўшпіліў бы!

Усё. Больш нічога не помню. Адзінаю светлаю пасмачкай дзівосны сон ці нават не сам сон, а яго мроя, лёгкі калыхлівы цень.

Нібыта сяджу каля акна. Локці на вузкім мок-

рым падваконні, кулак пад шчакою. Як зачараваны, не дыхаючы, гляджу ў заліты тонкім ружовым водсветам дзедаў садок. Раптам адкуль ні вазьміся — вялікая, мо з голуба, блакітна-зялёная сініца. Моцна, з лёту, б'ецца проста перада мною аб шыбу (як толькі не пасыпалася шкло?) і выпускае з дзюбкі штосьці бліскучае, сонечнае. Не апранаючыся, выбягаю з хаты на надворак. Пад акном на азызлым падзёўбаным капяжом снезе ляжыць залаты ключык. Сэрца ёкае і спыняецца. Нагінаюся, бы ў паклоне, каб узяць яго ў рукі і...

Не паспяваю. Чую знаёмы голас бабы Наталлі:

Яснае сонейка
Дзень пачынае,
Начніц праганяе,
Дзяннiц пасылае,
Боль сунімае...

## XI

Як крута ўсё перайначылася! Адчуваю гэта адразу, як толькі выбягаю з шапкаю пад пахаю, у раскрыленым пальтачку, на раскіслы ўшчэнт надворак. У твар пругкаю шырокаю хваляю дыхае вільготны з салодкім прысмакам паўднёвы вецер. Захутанае ў светла-шэрыя пасмы неба ціснецца да зямлі, чапляецца за вершаліны высокіх таполяў усцяж дарогі на Слонім, і раптам зычліва, па-сяброўску, усміхаецца лапікам чыстага, як вымытага, блакіту. Некранутая снежная цаліна, што падступае з аднаго боку вёскі, прыкметна пашарэла, ужо не адбірае вочы, як раней. А дробны альшэўнік каля Бярозкі за адну ноч-падрос, выразна чарнее воронім крылом.

Выхопліваю позіркам новую жоўтую шпакоўню на яблыні каля склепа, расчаравана гляджу на яблыні ў садку, шкадаўліва ўздыхаю. Не, шпакі яшчэ

не прыляцелі, хоць заўтра па словах бабы Наталлі і па старым календары ўжо вясна. Адчуваю сябе трошкі падманутым, сон мой, выходзіць, не спраўдзіўся. Тая казачная блакітна-зялёная сініца, якая прылятала тыдзень назад да мяне ў сне з залатым ключом у дзюбцы, штосьці наблытала.

Уночы трашчыць,
А ўдзень плюшчыць...

Са шкадаваннем яшчэ раз азіраюся вакол сябе, спыняюся позіркам на капелюшы буслінага гнязда, што насуперак усім вятрам і завірухам упэўнена сядзіць на страсе Ціхановічавага гумна. Буслянка няўтульна-пустая, разбэрсаная, ва ўсе бакі з яе тырчаць чорныя, бы абсмаленыя, галінкі, па якіх рухавай чародкай скачуць вераб'і. Але ад той сіратлівасці, што тулілася ўсю доўгую зіму ў гняздзе, і знаку няма.

А бліжэй да палудня з насупленых шызых аблокаў сыпануў першы веснавы дождж-дабрасей. Размашысты, цёплы, шчодры. Лепш не вылазь з хаты без плашча ці цыраты на спіне. Да апошняй ніткі праймё. На сваёй скуры паспытаў: якраз даў драпака з урока малявання, бо не адважыўся сустрэцца з Марынай Юр'еўнай. Малюнак з Іванам на кані намаляваў новы, але адразу ж парваў яго, бо атрымаўся падобны на карыкатуру. Бег дахаты, а ў самога мурашкі па спіне поўзалі: вось настаўніца заходзіць у клас, адзначае, каго няма сёння ў школе, і здзіўлена ўскідвае тонкія бровы над сінімі добрымі вачамі, убачыўшы маё пустое месца...

Дождж не аціхаў увесь дзень. На паўгадзіны сціхваўся, потым, нібы адумаўшыся, спахопліваўся, зноўку браўся за сваё. А бліжэй да вечара дык зусім расхадзіўся: як шротам дзёўб зляжалы брудны снег, на вуліцы, у каляінах парабіў мутныя лужыны.

Пасля наступіла сапраўды веснавая ноч. Выда-

лася яна неспакойнаю і бяссоннаю. Мусіць, даўно за поўнач. Я ўсё ляжу на канапе пад коўдраю з расплюшчанымі вачамі і добра чую, як хтосьці вялікі і маўклівы ходзіць па вуліцы і заглядвае ў вокны хатаў. Выдае яго ціхім стрыманым шастаннем снег пад нагамі ды няроўнае, усхваляванае дыханне ад хуткай хадзьбы. «Хто такі? Што ён шукае? — думаецца мне, а страху — ні кроплі.— Мо выйсці на парог і папытацца?» Падмывае падхапіцца з пасцелі, абавязкова паглядзець на гэтага незнаёмага дзівака, які невядома чаго цягаецца ў такую глухую гадзіну па вёсцы. І я адважваюся. Ціхутка выслізгваю з цёплай утульнай нары пасцелі, прыпадаю гарачым лобам да халоднай мокрай шыбіны. Пільна і доўга ўглядаюся перад сабою, а бачу адно і тое: у густой, як сажа з коміна, цемені, бесперапынна хістаюцца, сноўдаюцца нейкія цені. Сыходзяцца, зноў разыходзяцца... «Хто такія? Адкуль яны ўзяліся? Зноў твае жартачкі, Начніца?» Не, не падобна. Штосьці жаноцкае ёсць у гэтых ценях, асабліва калі яны збіраюцца ў гурт...

Доўга яшчэ ўглядаюся ў акно, пакуль не выпростваюся ад вясёлай здагадкі: «То ж яблыні! Вось хто ходзіць!..»

Спаць зусім расхацелася. Гатоў стаяць да самай раніцы і глядзець, глядзець праз акно ў сад, бачыць і слухаць яго абуджэнне.

Я не пачуў, як успароўся з ложка дзед Павел, як шурпысунуўся ён са свае баковачкі ў мой пакой. Шурпатая дзедава далонь лёгка кладзецца мне на плячо. Мы доўга стаім удвух каля цёмнага начнога акна і маўчым. Але якое трапяткое, харошае гэта маўчанне! Як шмат яно гаворыць! І пра пякучы мой сорам за выбрык з віном, хоць ніхто мяне і не ўпікнуў за дурноцце, і пра ціхую радасць маю, што зноўку магу, не хаваючыся, не ўнурваючыся, глядзець дзеду ў вочы...

А яшчэ я чамусьці ўяўляю сабе, як у цёмным куце хлява, на шорсткай і пыльнай леташняй саломе, што пахне сонцам, спіць, паклаўшы булаватую галаву на пярэднія тонкія ножкі, мой смешны лапавухі Рысік. Ён таксама чуе праз сон, як шкрабецца аб сцяну неспакойны парывісты вецер, афарбаваны ў зялёнае. Чаму? — няцяжка здагадацца: бо такога колеру трава, якая праз тыдзень-другі абмалодзіць зямлю.

Мне добра, я тулюся да дзеда Паўла, і толькі дзесь на самым-самым дне душы гарчыць непрыемны асадак, якога, мусіць, ужо не пазбыцца. Чаму, жадаючы дабра каму-небудзь, я часам раблю яму зло? Як Толіку Гыгыгы, як сёння Марыне Юр'еўне, збегшы з яе ўрока...

— Валерык, будзем класціся...— ці то пытаецца, ці то сцвярджае дзед Павел.— А то заўтра першы аўтобус праспім.

Паслухмяна іду да канапы, а сэрца ў грудзях усхвалявана дрыжыць: гэта ж заўтра мы едзем у бальніцу да мамы! Месяц, як няма яе дома, а здаецца, цэлы год не бачыў. Кладуся ніцма, абдымаю абедзвюма рукамі цёплую мяккую падушку, спрабую ўявіць сабе нашу сустрэчу, тыя першыя словы, якія скажу ёй. А слоў у мяне цяпер многа, як фарбаў на посцілцы-вясёлцы, што выткала баба Наталля. Калі стане зусім цёпла, мы дастанем дубэльты, паадчыняем насцеж усе да аднаго вокны ў нашай хаце, каб хутчэй вярнуўся жылы дух. Яшчэ з пазалеташняй вясны помню, як ускідваюцца, ірвуцца з хаты ў такі дзень белымі празрыстымі крыламі капронавыя цюлі...

А той маўклівы дзівак усё ходзіць, шоргае нагамі па снезе каля вокан, і гэтае размашыстае, упэўненае шорганне мне здаецца шурпатаю, як дзедава далонь, музыкаю, пад якую я і засынаю.

Ранак выдаўся ціхі, асляпляльна сонечны. Хата поўніцца святлом, як напярэдадні свята. Снедаем. Баба Наталля снуе каля нас з дзедам, падкідвае і падкідвае ў міску гарачыя, выхапленыя з патэльні дранікі. Вочы яе, мусіць, ад едкага дыму з печы, слязяцца мацней, чым звычайна.

На мне — новы святочны касцюм і белая кашулька, якая пакуль нязвыкла скоўвае, прымушае сачыць за кожным рухам.

Калі мы нарэшце ступаем з напакаванымі сеткамі ў руках на сходкі, я адразу бачу шпакоў на яблынцы каля склепа. Чорна-сінія каптанікі птушак залаціста пераліваюцца на сонцы, радасна лашчаць вочы. Шпакі перасвістваюцца паміж сабою, быццам нечым здзіўленыя. Мо тым, што мы забыліся пафарбаваць іхнюю хатку?

Потым — бітком набіты аўтобус. Каб сесці — і думаць няма чаго, бо ўсе сядзенні занятыя людзьмі з далёкіх вёсак. І тут прыемная неспадзеўка. У самым канцы аўтобуса, куды мы працерабіліся не па сваёй ахвоце (ехаць жа ўсім трэба), з кутняга месца падхопліваецца высокі, мажны дзяцюк у бліскучай скуранай куртцы, кратае дзеда за плячо:

— Сядайце, дзядзька Павел!

Дзед трошкі разгублена ківае галавою, дзякуе, непрыхавана моршчыць лоб, намагаючыся прыпомніць, хто гэта ўважыў яговыя гады. Мо праз хвіліну ці дзве няўпэўнена гаворыць:

— Ніяк не магу прызнаць цябе, чалавеча... Няўжо Пётры Касцюка сын?

— А каторы, не ўспомніце? — белазуба ўсміхаецца незнаёмец.— Нас жа чатырох у яго...

— Старэйшых я ў твар добра ведаю. А ты, мусіць, будзеш апошні, Сцяпанам завуць цябе.

— Не памыліліся, дзядзька Паўлюк! — задаволена рагоча Сцяпан.

Я гляджу на іх, прыціснуўшыся да вострых дзедавых каленяў, слухаю, натапырыўшы вушы, і думаю сам сабе: нічога ж такога не сказалі адзін аднаму, а колькі ў вачах радасці, цяпла, бы сустрэліся блізкія сваякі. Дзяцюк ледзь не ўпіраецца галавою ў бляшаную, пабітую там-сям іржою аўтобусную столь. Якія ж тады ростам старэйшыя браты? З сумам шкадую, што сам, як палец, адзін у мамы...

— То як там бацька кратаецца? — пытаецца дзед Павел.— Чаго мінае Валовічы, да мяне не заходзіць?

— Падцяў бацька вуды, на нет змарнеў за апошнія тыдні...

— Вось дык навіна-крывіна! Які ж чарвяк яго точыць?

— Нёж забыліся? — здзіўляецца Сцяпан.— Лукішскі чарвяк! А ён, казаў бацька, родны брат вашаму, картуз-бярозаўскаму...

— Што праўда — то праўда,— уздыхае дзед і дадае: — Перадай бацьку, што на гэтым тыдні як-небудзь увечары выберуся да яго.

— Дзякуй, дзядзька Паўлюк! — удзячна бліскае вачыма дзяцюк.— Ён вам будзе рады.

— Ага, даўно мы не бачыліся...— кажа дзед Павел і адварочваецца, глядзіць у акно.

Тым часам, цяжка калываючыся з боку на бок, аўтобус выпаўзае з нашых Валовіч. Дарога за крайнімі хатамі бярэцца трохі вышэй, паўзе на пакаты ўзгорак, дзе леваруч хмарацца могліцы. Вось ужо мы і мінаем іх, парослыя з краю старымі высокімі бярэзінамі і пакручанымі кашлатымі соснамі. Сосны тоўстыя ў камлі, але ўгору чамусьці не цягнуцца. Мо пад бярозамі ім хапае сонечнага святла?

Гамонка ў аўтобусе прыкметна заціхае, а я хоць і не хачу, усё роўна бачу на свежай Толікавай магілцы з адным вянком сіратлівы крыж, абвязаны паўскасяк вышытымі ручнікамі. І ці гэта мне зда-

ецца, ці так і ёсць — усе ў аўтобусе глядзяць на заснежаныя магілы і быццам моўчкі вітаюцца...

Праз паўкіламетра, у глыбокай лагчыне, новы прыпынак. Тут адным канцом на гасцінец выходзяць суседнія Малашы. «Чаму Малашы, а не Малышы?» — нібыта ўпершыню сустракаю гэткую назву, пытаю ў самога сябе. Па звычцы, хачу тузануць за рукаў дзеда Паўла, але яму цяпер не да мяне.

— Павел, нешта пенсію мне не прысылаюць... Што, нікому яшчэ не прыходзіла?

— Паўлюк, а скрынкі для пасылак у цябе ёсцека? Не расхапалі ўсе?

— Дачка пісала, што месяц таму пісьмо дасылала, а мы ў адказ — ні гу-гу. Напалохалася дзеўка... Куды яно правалілася, тое пісьмо?

Мне радасна, весела ад таго, што так горнуцца да дзеда людзі, што ўсе яго ведаюць, нават з далёкіх вёсак. І пра мяне, мабыць, таксама краем вуха чулі. Нездарма калі ўспамінаюць, дык гавораць: «То Аленін, паштара нашага ўнук...» Потым сярод незнаёмых кабет бачу хрышчоную матулю Ніну, якая, слухаючы некага, здзіўлена бліскае жалудамі вачэй. «Калі яна паспела ўлезці ў аўтобус? Пэўна, таксама на кірмаш выбралася...»

— Мо прысядзеш на калені? — казыча вусамі мне вуха дзед Павел.

«Яшчэ чаго не хапала! Маленькага знайшоў...» Адмоўна кручу галавою, бо нават гаварыць не хочацца.

І вось ужо чыгуначны пераезд з блакітнаю будкаю за два крокі ад чорных імклівых рэек; моцна ўстрэсвае, і дзяўчына з рыжым хвастом на нейкае імгненне прыпадае, заплюшчыўшы вочы, да Сцяпанавых грудзей.

Уязджаем у Слонім. Хаты, платы, як у нашых Валовічах, толькі пафарбаваныя ў яркія колеры.

Доўга валюхаемся па разбітай ушчэнт Пушкінскай вуліцы, і толькі тады коцімся шпарчэй, як мільгае з правага боку пашарпаная капліччка святога Дамініка (тлумачэнне дзеда Паўла). Вылазім разам з усімі каля кінатэатра, да якога вядуць вузкія стромкія сходы. Афіша чорнымі літарамі наўскасяк крычыць пра нейкую «Змову ў Стамбуле». Абыякава адварочваюся спінаю. У горадзе ўжо зусім вясна. На тратуары блішчаць, слепяць вочы пад сонцам лужыны, а па шэрым асфальце, дзе ні жменькі снегу, шыкаюць адна за адною машыны. Плывём у вірлівым людскім натоўпе да двухпавярховага універмага, што на Першамайскай вуліцы, паблізу касцёла. Я гляджу на гэтае высокае бялюткае збудаванне з дзіўным воблачкам, пазначаным вылепленай чорнай стужкай на паўкруглай стромкай сцяне, і чакаю, што яно вось-вось паплыве ў неабдымнае, ярка-сіняе неба. Мне ўжо даводзілася хадзіць па Слоніме, і неаднойчы: але сёння горад непазнавальна зыначыўся, вуліцы яго-ныя прыкметна раздаліся ўшыркі, а будынкі, асабліва старыя, прымушаюць спыніцца каля сябе, падзівіцца з даўнішняй будоўлі. Людская гамана, піканне машын, хрыплае карканне воранаў у скверыку насупраць прыпынку... Усё гэта чую, але прыглушана, нібы ў вушы запхнута вата. Ва універмагу не зачыняюцца дзверы: туды і адтуль цячэ людская плынь, а я не-не ды зноў ускідваю вочы да воблачка на касцельнай сцяне.

І мне ўспамінаецца Марына Юр'еўна, нават не сама яна, як яе расказ пра дзядзьку і пляменніка Агінскіх. «Няўжо той, хто стварыў славуты на ўвесь свет паланез (так, здаецца, гаварыла Марына Юр'еўна), таксама хлапчуком стаяў вось тут, дзівіўся з навакольнага хараства, адчуваў нешта падобнае, што цяпер адчуваю я?!»

Разгублена азіраюся вакол сябе, быццам чакаю-

чы адказу, і гатоў хавацца за спіну дзеда Паўла, які гаворыць пра нешта з цёткай Нінай; да нас у гурце маладых гарадскіх кабет, усміхаючыся, набліжаецца... Марына Юр'еўна! У грудзях маіх становіцца холадна: канечне, папытае, чаму збег з апошняга ўрока малявання. Унурваюся вачыма ў мокры тратуар, ліхаманкава прыдумляю адгаворку. Марныя намаганні — дзед жа не дасць схлусіць! Як ні круці — не выскачыць сухім з вады...

Прасунуўся адзін гарадскі аўтобус, скрыгіча дзвярыма другі, а настаўніца малявання ўсё не падыходзіць. Зіркаю спадылба на кабет, што параўняліся з намі — Марыны Юр'еўны сярод іх няма! Здалёку прыняў за яе дзяўчыну з распушчанымі саламянымі валасамі. Узрадаваны, што абазнаўся, без дай прычыны ўтыркаюся ў гаворку дзеда і цёткі Ніны:

— А вы, хрышчоная, так увесь кірмаш прастаіцё!

Дзед здзіўлена пазірае на мяне, маўляў, ты адкуль зваліўся, а цётка Ніна, смеючыся, абдымае мяне за плечы, прыхінае да сябе.

— Дык я ж таксама, Валерык, выбралася ў Жыровічы! Разам з вамі хачу маму тваю адведаць...

Мяне, вядома, бярэ прыкрасць — так ляпнуць не падумаўшы! Але неўзабаве грудзі захлiствае радасць, што менавіта сёння выдаўся такі высокі сонечна-вясёлы дзень, што вось-вось паднімецца ў неба воблачка з касцельнай сцяны, а на галаве ў хрышчонай матулі цвіце чырвонымі кветкамі прыгожая хустка, аж зайздросліва ліпнуць вачыма да яе цёткі, якія стаяць за два крокі ад нас.

Нарэшце падрульвае да прыпынку аўтобус на Жыровічы. Людзей няшмат, можна нават выбраць сядзенне. Расшпіляю верхні гузік у кашулі, і дыхаць адразу становіцца лягчэй. Праз адсунутую шыбіну з акна ў твар б'е пругкі вецер. Мільгацяць назад слонімскія будынкі. Спаралізаваная дзедава рука ў ску-

раной рукавіцы нерухома ляжыць на маім плячы, і незнаёмае спакойнае пачуццё дужасці падказвае мне сядзець роўна, не горбіцца, не тузацца то ў адзін, то ў другі бок. Мне хочацца быць падобным да таго чацвёртага Касцюковага сына — Сцяпана. Калі не ростам, дык хоць тым, як ён трымаўся з дзедам: прос-та, годна, уважліва. Няхай у нас вялікая розніца ў гадах, але ёсць тое, што як бы радніць нас — гэта невясёлая згадка пра лукішскі чарвяк, што сушыць ягонага бацьку. Мне, як малому, не трэба тлумачыць, што ў тых Лукішках, як і ў Картуз-Бярозе, катавалі людзей...

## XII

Мне ніколі дагэтуль не даводзілася быць у Жыровічах; і хоць чуў, што там калісь быў манастыр, а цяпер у сценах былой семінарыі вучаць на калгасных механікаў, я думаў,— то вялікая вёска, мо ў два ці тры разы большая за нашы Валовічы. Але здалёку, не даехаўшы нават да шыльды з назваю мясціны, я ўбачыў праз акно, што памыляўся.

— Прыехалі! — паварочваецца да нас, папраўляючы на галаве хустку, цётка Ніна.

Паспешліва выходзім праз пярэднія дзверы, бо звонку падхлынуў ужо людскі натоўп — усім неадкладна трэба ў Слонім. Абмінаем ззаду аўтобус, апынаемся на невялікай, уздоўж і ўпоперак спярэшчанай сцежкамі плошчы, над якой узвышаецца велічны гмах будыніны.

— Гэта той самы манастыр? — не вытрымліваю, скубу за рукаў дзеда Паўла.

— То Успенскі сабор,— паціху, з прасветленым тварам, адказвае за дзеда цётка Ніна.

Што сабор прыгожы — кожны скажа. Хоць ён вельмі вялікі,— не цісне мяне да зямлі, не робіць ма-

лепькаю мурашкаю, а наадварот, быццам прыпаднімае над брудным разлезлым снегам, які не сёння, дык заўтра зліжа вясна. Стаю паміж дзедам Паўлам і цёткай Нінай, гляджу на папарныя імклівыя калоны сабора, на высозныя чырвоныя вароты, на выцягнутыя да неба, адмыслова закратаваныя вокны, і радасць перапаўняе грудзі, што нарэшце сваімі вачыма бачу гэтае дзіўнае збудаванне, якому ўжо некалькі стагоддзяў.

— А манастыр...— спахопліваецца, пачынае тлумачыць мне хрышчоная.— Манастыр — і сабор, і вось гэтая, што за намі, званіца, і яшчэ дзве царквы, якіх адсюль з-за сцяны не відаць, і ву-у-унь тое аднапавярховае крыло, дзе ляжыць твая мама...

Вось дык навіна! Я думаў, бальніца дзесь далёка, на ўскраіне мястэчка, а яна прыляпілася да самага сабора.

І праўда: да непрыкметнай светлай брамкі, куды паказвала рукою цётка Ніна, спяшаюцца некалькі чалавек з напакаванымі сумкамі і сеткамі. Мы таксама кіруемся туды. Праз колькі хвілін апынаемся за мураванай агароджай. Да нізкай, урослай у зямлю, доўгай будыніны з квадратнымі малымі акенцамі падступае стары заснежаны сад. Адзін за адным усоўваемся ў цёмную шчыліну ўвахода, паднімаемся, горбячыся, па драўлянай рыпучай лесвіцы. Нарэшце пляцоўка з нізка навіслаю столлю. Каля сцяны за пісьмовым столікам — сівая шчарбатая бабуля з уздзетымі на нос драцянымі акулярамі. Людзі называюць, каго трэба паклікаць, дзед Павел гаворыць прозвішча мамы. Бабуля падслепавата, доўга жмурыцца ў паперчыну, куды запісвала, да каго прыехалі ці прыйшлі, потым надзіва лёгка падхопліваецца, знікае за белымі дзвярыма ў цёмным і вузкім калідоры, адкуль патыхае густым пахам лякарства...

«Зараз прыйдзе мама! Зараз прыйдзе мама!» — няроўна скача ў грудзях сэрца. Той завейны лютаўскі вечар, калі завезлі яе ў бальніцу, застаўся далёка-далёка ў зіме, а цяпер гаспадарыць вясна. Калі ехалі сюды, я нават убачыў на дарожным угрэўным адкосе жоўтае вочка падбелу. Чаму не збегаў у лес па пралескі? Яны былі б лепш за ўсялякія словы...

— Сынок!

У цёмным праёме дзвярэй бальнічнага калідора стаіць мама, апранутая ў выцвілы, блакітна-сівы халацік, на галаве — беленькая касынка, завязаная на патыліцы. Зблажэлая, худая,— адны вочы, як кажуць. І гэтыя родныя, добрыя вочы ўсміхаюцца. Радасна і адначасна неяк журботна-збалела, так блізка і быццам аднекуль здалёку-здалёку...

— Жанчына, не стойце ў дзвярах! — строга блiскае акулярамі бабуля-санітарка.— На замінайце людзям.

Мама вінавата прыціскае да грудзей рукі, таропка спяшаецца да нас. Так і хочацца кінуцца ёй насустрач, абняць за плечы, прытуліцца, але дурная сарамлівасць стрымлівае мяне, не дае адарвацца ад акна. Каб жа не было гэтых чужых цётак з торбамі, што прыляпіліся ля сцяны на цыратовай кушэтцы і не зводзяць цікаўных вачэй з нас!..

Прыкра і брыдка робіцца на душы: цёткі тут ані кропелькі невінаватыя, яны таксама некага чакаюць. Калі ўжо навучуся, адважуся казаць і рабіць тое, што робіцца на сэрцы?

— Сынок, ты не пазнаў мяне?

— Ага, не прызнаў! — ківаюць галовамі цёткі.— І не дзіва. Тут вас такімі прысмакамі кормяць, што кожны на шчэпку высыхае...

— У нас, каб вы ведалі, вунь як выгодна ляжаць,— зеўрыць чорным шчарбатым ротам старая санітарка.— Не страшна аддаць богу душу, бо ён зусім

блізенька, за сцяною, у саборы... І адпяюць па-людску... Хіба доўга перанесці ў царкву Пакрова Прасвятой Багародзіцы ці ў другую — Раства Іаана Прадцечы, што пры саборы? Адсюль нават па калідоры можна туды трапіць...

«Што яна пляце?!» — з жахам думаю пра старую і адчайна, ні на кога не зважаючы, кідаюся ў абдымкі да мамы, прытуляюся да яе гарачым тварам. Маміны рукі дрыжаць, яна пяшчотна гладзіць мяне па галаве, туліць да сябе, штосьці пытаецца... Усе тыя добрыя, асаблівыя словы, што хацеў сказаць пры сустрэчы, умомант недзе падзеліся. І на ўсе роспыты адказваю аднолькава — кіўком галавы альбо выціскаю з сябе кароткае «добра». Дзед Павел таксама мала гаворыць. Стаіць, квола ўсміхаецца ў свае кароткія сівыя вусы, то падніме з-пад ног сумку, то зноў паставіць на падлогу. За абодвух нас стараецца цётка Ніна. А навін у яе — дальбог, цэлы мех! Сыпле і сыпле, жвава бліскаючы сваімі чорнымі цыганскімі вачыма. Куляшы хрэсьбіны правілі — першы ўнук нарадзіўся; дык гэтулькі, хваліліся, апранашак нанеслі, што на пяцёра ўнукаў хопіць... Манька Лукашэвічава з нейкім мінскім — барадатым, што дзед стары — заяву ў сельсавет на шлюб падала. Гэта каб хутчэй распісалі, бач, не церпіцца. А Семенюку, старшыні нашаму, як стрэліла ў галаву: не дазволю ў сваім сельсавеце распісаць, пакуль жанішок расцільнасць (так і сказаў!) не саскубе з твару. Лукашэвічыха, у якой тры дзеўкі на выданні, ледзь самога яго не паскубла. Уцякаў, бедалага, аж шапку згубіў!

З мамінага твару не сыходзіць усмешка, яна нават перабівае хрыпчоную, сама пра кагосьці пытаецца. А я моўчкі злую: няўжо такія цікавыя нашыя валовіцкія плёткі? Дзед малога Рысіка ні з таго ні з сяго пачаў хваліць: маўляў, і да пойла ахвочы, і ў

сене смак чуе. От ужо важную навіну паведаміў! Мо яшчэ пахваліцца варта, што куры часцей пачалі несціся?.. Потым цётка Ніна згадвае пра кросны... Мама ўвачавідкі ажыла, давай распытваць, што і як ткалі, ці хараша атрымалася.

Гаворка ідзе пра ўсё звычайнае, будзённае, з нарочнай весялінкай у голасе. Нейкая гульня, а не гаворка, а тое сапраўднае і вельмі важнае, што зараз хочацца пачуць мне, застаецца ў позірках, у дрыготкіх маміных пальцах і ў дзедавым глухім пакашліванні. За апошні месяц я навучыўся чытаць тое, што застаецца па-за словамі. Я, мабыць, назаўсёды запомню, калі ўпершыню здагадаўся пра такую сваю незвычайную здольнасць. А дапамагла мне Таіса Барысаўна... У той лютаўскі жахлівы вечар: «Скажыце, а... Мікалай... (як жа яго па бацьку?!) дзядзька Коля дома?» І адказ: «Мой муж яшчэ не вярнуўся дахаты... Ты помніш, як выклікаць «хуткую»?»

Чаму ж я зусім не адчуваю цяпер злосці да завуча? Нават наадварот — ува мне варушыцца жаль да яе, як да хворага чалавека. Няхай сабе яна не ляжыць вось тут, у Жыровіцкай бальніцы, шыкоўна апранаецца і пачувае сябе ў добрым здароўі. То нічога не значыць. Дрэва таксама расце, зелянее і непрыкметна чэзне, усыхае, калі прышчэпіцца да яго гадаўка амяла. Калі ж да чалавечае душы прысмокчацца Начніца — ужо не адратуюць дактары. Толькі адно мяне дзівіць і ніяк не магу я пакуль даўмецца: як яны разам ужываюцца ў адной хаце — такія людзі, як дзядзька Коля і Таіса Барысаўна?..

— Пра што ты задумаўся, сынок? — папраўляе каўнерык у маёй белай кашулі мама.

Я ніякавата паціскаю плячамі, сарамліва адводжу ўбок вочы. Адсюль, з былога манастырскага акна — вузкага, сплюснутага тоўстымі, мо метровымі сценамі, сакавіцкі дзень на двары бачыцца мне ўжо зу-

сім іначай, чым дагэтуль. Ён нібы намаляваны яркімі фарбамі. Уверсе — густа наліты кавалак блакітнага неба, хоць вазьмі яго на далонь, а на разлезлым сцукраваным снезе залатыя сонечныя плямы... Чаму, думаю я, так блізка побач жывуць святочнае і будзённае, радаснае і гораснае? Як чакаў я гэтай сустрэчы з мамаю! А сустрэча нейкая зусім не такая, як я яе сабе ўяўляў...

Нарэшце цётка Ніна бярэцца распакоўваць нашы сумкі, завальвае ўсім-усякім шырокае падваконне.

— Ды мне, каб гэтулькі ўмалаціць — цэлы месяц яшчэ трэба ляжаць! — пляскае рукамі мама.

— Папраўляйся, сіл набірайся,— суцешвае яе хрышчоная.— Выпішуць — не будзе калі больш панець. Гарод Валерык к таму часу ўскапае, а на расаду разжывешся ў мяне. Там бульбу будзем садзіць, а там і сенаванне наскочыць...

Як мама ні ўпіралася, цётка Ніна павытрэсвала нашы сумкі да дна.

— Калі табе што й няможна есці,— кажа яна да мамы,— дык ты не адна тут качаешся...— і заручаецца падмогай дзяжурнай санітаркі: — Праўда, цётачка?

— Праўда, праўда!..— задаволена ўсміхаецца шчарбатым ротам старая.— Адзін з'еш хоць вала, адна хвала, а як станеш з людзьмі есці, будзеш у чэсці.

— А яшчэ ў нас кажуць,— дадае дзед Павел,— адзін і ў кашы прападзеш...

Усе смяюцца. Смяюся і я. Мне робіцца лягчэй, нібы з душы спадае цяжар. Мама павінна ісці на нейкія працэдуры, а нас чакае дарога назад, дахаты. Усё было б добра, каб не гарчыла ў грудзях маіх пачуццё недагаворанасці, каб так не свіцілася схуднелая на былінку мама. А як яна прыгарнула мяне ў апошні раз да сябе! Парывіста, дрыготка, як усё роўна баючыся, што больш не ўбачыць.

— Мама, хутчэй папраўляйся...— шапчу я ёй у грудзі.— Хату мы з дзедам штодзень прапальваем, ніякі грыб пад падлогу не ўб'ецца.

— Добра, сынок, я хутка вярнуся,— дрыжыць яе голас,— толькі шануй настаўнікаў, не заводзься ні з кім...

Я ці не ўпершыню шчыра абяцаю помніць яе словы, рабіць, як просіць яна, а на вочы набягаюць слёзы.

Потым мы з цёткай Нінай і дзедам Паўлам спускаемся па рыпучай выслізганай нагамі лесвіцы да выхаду, ідзём за мураваную агародку, і гукі і пахі, як праз глухую заслону, паступова пачынаюць вяртацца да мяне. Там, у бальніцы, падобнай на глыбокі склеп з прачыненымі для святла дзвярыма, я, акрамя едкага паху лякарстваў, нічога не чуў.

Азіраюся. Мама, схіліўшы набок галаву ў белай касынцы, стаіць у байніцы манастырскага акна. Бачу, ведаю, што гэта яна — і разам з тым ужо нейкая незнаёмая з твару. Я ўжо бачыў яе такою — падобнаю і не падобнаю да самой сябе. Але дзе і калі? Зноў ускідваю вочы да акна — за драўлянымі квадрацікамі, у якіх трымаецца зіхоткае шкло, нікога няма. Няўжо здалося, прымроілася?

Заходзім у цесны катушок білетнай касы, даведваемся з раскладу, што аўтобус на Слонім будзе праз дзесяць хвілін, а наступны ажно праз гадзіну.

— То вы едзьце,— няголасна кажа дзеду цётка Ніна.— А мне тут яшчэ трэба зайсці...

— Мы таксама не спяшаемся,— адказвае дзед Павел.— Усё роўна на дзённы аўтобус не паспеем, а да вячэрняга — уга колькі часу. Крутнёмся па крамах жыровіцкіх, пачакаем цябе.

— Добра, дзядзечка,— святлее тварам хрышчоная.— Адно сумку патрымайце. Я доўга не забаўлюся...

— Калі прыйдзеш, тады й добра,— нямогла ўзмахвае спаралізаванаю рукою дзед.— Мы цябе не падганяем.

Я здагадваюся, куды збіраецца хрышчоная матуля — у сабор. Сэрца маё сціскаецца ў маленькі трапяткі камячок. У нашых Валовічах няма царквы, і я ані разу не быў у святым месце. Папрасіцца, каб зірнуць хоць адным вокам у сярэдзіну храма?.. Брыдка прасіцца — то ж не ў кіно. Праўдзівей, не так брыдка, як вусцішна, страшнавата... Чаму? — і сам не ведаю. Але ў вачах маіх, напэўна, штосьці зусім іншае, чым думаю я.

— Хадзем, Валерык, са мною,— паціху гаворыць хрышчоная, але забываецца дадаць, куды мяне кліча. І добра, што змоўчвае, інакш нікуды ад дзеда я не пайшоў бы. Яна, як малога, бярэ мяне за руку, і мы набліжаемся да глухой зялёнай брамы ў бялюткасліпучай сцяне. Чым бліжэй да гэтай сцяны, тым лягчэй ідзецца; і вось ужо я не адчуваю ног, плыву, не дакранаючыся да зямлі. У зялёнай глухой браме самі сабою прачыняюцца варотцы ў чалавечы рост, хрышчоная прапускае мяне наперад, і я трапляю ў ніколі не бачаны і такі знаёмы свет. З галавы як вылятае ўсё: дзе знаходжуся, ці даўно тут, што прывяло сюды... Але зусім забыцца на ўсё не дае сухая гарачая далонь цёткі Ніны; і я сутаргава прыціскаюся да хрышчонай, калі мы ўваходзім ва ўтульны дворык з аднапавярховымі будынінамі, аж да вокан урослымі ў зямлю, і накіроўваемся да высокіх сходаў, што вядуць у прыбудаваную да сабора камяніцу. Потым — доўгі, здаецца, бясконцы нізкі калідор, у якім міжволі ўціскаеш у плечы галаў. Мы — у саборы! Сцены, магутныя калоны быццам расхінаюцца ў бакі — як блізка неба! Колькі хвілін стаю як аглушаны, праўдзівей, не аглушаны, а здзіўлены светлым гулам цішыні, што плыве ад зямлі — туды, у

нябёсы. Нясмела азіраюся, не верачы сабе, бачу некалькі ўкленчаных у малітве кабет, якія чамусьці не адважыліся прайсці сюды, пад купал, а туляцца бліжэй да сцен і калонаў храма. Найдалей ад мяне хрышчоная матуля; яна стаіць на каленях пры самым уваходзе ў сабор. Колькі горасці і пакорлівасці ў яе паніклай галаве...

«Навошта так зводзіць сябе? — спакойна думаю я.— Забітага бацьку — не паднімеш, а брат, сказала ж баба Наталля, адгукнецца, павінен адгукнуцца. Не можа быць, каб цяпер, у гэтую самую хвіліну, яму не ўспаміналіся Валовічы, родная хата...»

І тут мяне перарывае ціхі і роўны голас:

«За грэх свой яна адкажа сама, а ты пра сябе падумай...»

«Хто, хто гэта пытаецца?!» — збянтэжана ўскідваю голаў, каб упэўніцца, што побач нікога няма.

З калоны па правай руцэ ў самыя вочы мне, звёўшы да пераносся бровы, строга глядзіць намаляваны на ўвесь рост з кнігай у руцэ святы. Ведаю, што гэта абраз, а не жывы чалавек, але ўсё роўна яшчэ раз сустракацца з ягоным позіркам не хочацца. Паварочваюся тварам да другой калоны — дыханне збівае яшчэ больш суровы, пранікнёны позірк...

І куды, ушчэнт агаломшаны, ні зірну — усюды мяне сустракаюць пільныя пранізлівыя вочы. Чалавечыя жывыя вочы. Вочы, вочы, вочы... Ад іх не схавацца, не засланіцца, і я хоць запознена, але пачынаю разумець укленчаных жанчын, якія падалі каля сцен храма. Сам не заўважаю, як унурваюся сабе пад ногі, і тое, што думаю, нячутна прагаворваю ўголас, прашэптваю губамі. Так нават лягчэй думаецца, калі назваць думкамі бязладную мітульгу ў галаве. Усё, што хлынула на мяне з таго самага завейнага глухога вечара, калі маму забралі ў бальніцу, міжволі ўсплывае ў памяці. То цёмны хлеў і да рук цягнец-

ца пыскай Рысік, то на ўгрудзелай дарозе Гыгыгы з апчаперанай галавою, то заклеенае пластырам вока Харкевічавага Андрэя... Колькі ўсяго наблыталася — і харошага, і дрэннага. У грудзях лёгкая пустата — ні кроплі гнятлівасці, як быццам не са мною здаралася тое і добрае, і кепскае. Толькі хутчэй бы вярнулася дахаты мама! Мы тады адчынім, калі настане цяплынь, усе вокны і будзем сушыць на плоце даўнейшыя тканыя посцілкі. Людзі хочуць не хочуць, а будуць спыняцца насупраць нашага надворка, дзівіцца з харaства. Не міне яго і Марына Юр'еўна і дарye мне за ўцёкі з урока малявання. А папалудні мы засцелем посцілкамі ложкі, і ў хату прыйдзе свята. Я ўжо не баюся тваго шызага ценю, Начніца. Толькі б хутчэй вярнулася мама!

Гул цішыні зноў вяртаецца ў храм, і ён мне здаецца сапраўднаю музыкаю. Пад купалам увачавідкі яснее. Святыя, якія маўкліва сышліся вакол мяне, расступаюцца, іх суровыя вочы дабрэюць, лагоднеюць. Я ведаю, чым дагадзіў ім — сваёю малітваю. Яна, як выдых, кароткая і самая шчырая, самая светлая ў свеце:

«Хутчэй бы вярнулася дахаты мама!»

І малітва гэтая не для паспешлівага шэпту, яе трэба казаць уголас, каб не толькі святыя на абразах — усе да адной сагнутыя ў тры пагібелі кабеты чулі.

«Хутчэй бы вярнулася мама!..»

Напэўна, кожны павінен ведаць хоць адну малітву. Я ўжо сваю знайшоў, я сам склаў яе. І калі яна не дапаможа, то што тады дапаможа?

Хтосьці паціху кратае мяне за локаць — цётка Ніна.

— Трэба ісці, Валерык,— ледзь чутна шэпча хрыпчоная.

Рука мая сама цягнецца да яе рукі, а позіркам не

магу адарвацца ад абраза, што сумна глядзіць на мяне знаёмымі вачыма. І воблік святой у белай намітцы таксама падобны на мамін, калі яна стаяла ў манастырскім акне і глядзела ўслед нам.

Мы выходзім з сабора, і я шапчу:

— Вяртайся хутчэй дахаты, мамачка!

XIII

Апошнім аўтобусам, прыцемкамі, мы вярнуліся дахаты. Селі вячэраць. Дзед бадзёра пераказваў бабе Наталлі нашу гутарку з мамай. Раптам з вуліцы пачуўся кароткі пранізлівы свіст. Не апранаючыся, выбягаю на надворак. Каля веснiц стаіць Пакульчык.

— Здароў! Дзе цябе цэлы дзень насіла?

— Да мамы ў бальніцу ездзіў.

— А-а-а...— разяўляе рот Пакульчык.— Бо я ўжо раз прыбягаў,— і дастае з-пад пахі зялёную вучнёўскую папку для сшыткаў, завязаную на белыя матузы, падае мне.— Учора павінен быў зрабіць гэта, ды запхнуў у сваю сумку і забыўся. Бяры, Марына прасіла перадаць...

— Хто-хто?

— Марына Юр'еўна.

— Мне? — паціскаю плячыма.

— Табе. Наказвала табе ў рукі ўручыць.

— А што там?

— Развяжы — пабачыш,— ухіляецца ад адказу Саня, хоць па вачах бачу — ведае, не мог не праверыць, бо памёр бы ад цікаўнасці.

Развязваю непаслухмянымі пальцамі папку. Наверсе беляхціць лісток з вучнёўскага сшытка ў клетку. Выразна, прыгожа напісана: «Валера! Малюнак за табою! Буду чакаць. А кнігу пакінь сабе на памяць. Думаю, што яна табе спадабаецца і вельмі пры-

дасца. І... не забывайся пэндзлікі чыстыя класці пад падушку!..» І подпіс: «Марына Юр'еўна».

На кніжцы з вокладкаю, абцягнутаю блакітнаю тканінаю, залатымі літарамі выдрукавана: «Беларускія мастакі XIX стагоддзя».

— А к-калі ск-казала прынесці малюнак? — пытаюся, заікаючыся ад хвалявання.— Не сварылася, што драпануў з апошняга ўрока?

— Не-а...— шмарганууў носам Пакульчык.— Наадварот — шкадавала... Хацела развітацца напаследак.

— Як развітацца? — не разумею сябрука.— Чаму развітацца?

— Практыка ў яе скончылася! — тлумачыць мне, як настаўнік вучню, Пакульчык.— Казала — першы траяк у нас зарабіла, а так на чацвёркі і пяцёркі ішла. Таіса паставіла. За тое, што клас распусціла, ледзь не танцулькі з намі наладжвала...

— Ды ты што! — ускрыкваю ад абурэння.— Хто бачыў тыя танцулькі?!

— А чаго ты на мяне вызверыўся? — закапыльвае губы Пакульчык.— За што купіў, за тое і прадаў.

Доўга стаю з разгорнутаю папкаю ў руках і тупа гляджу на кніжку. У галаве пуста, нібыта ўсё з яе ветрам выдзьмула. Саня нецярпліва пазірае вакол сябе, прымірэнчым голасам прапаноўвае:

— Махнём да клуба, калі хочаш... Кіншчык кіно хваліў, пра вайну нібыта.

А мне чамусьці ўспамінаецца крыклівая афіша каля слонімскага кінатэатра — «Змова ў Стамбуле»... Цьфу! «Чаму я не пайшоў на апошні яе ўрок?!»

— Дык ты ідзеш ці не? — злуе Пакульчык.— Чаго маўчыш, як нямко?

— Не, сёння не магу... Дальбог, не магу, Саня! — хоць шчырым голасам імкнуся залагодзіць сябрука.— Дзед Павел прасіў пама...

Што памагчы — недагаворваю: замаўкаю проста на паўслове. Вінавата ўгнуўшы голаў, кіруюся ў хату.

— Ат, што з прыпыленага возьмеш...— чую, як суцяшае сам сябе Пакульчык, які таксама праз імгненне паварочваецца ад весніц, кідаецца бегма да клуба. Па прыхопленай, падшэрхлай ад марозіка дарозе коціцца глухі яго тупат. Другім разам так сцебануў бы свістам у спіну, аж перасмыкнула б усяго. А цяпер — аніякага жадання. «Прыпылены дык прыпылены,— абыякава пагаджаюся з Пакульчыкам.— Не ўсім жа быць разумнікамі...»

Кнігу ў той вечар глядзець не стаў — кінуў як непатрэбную ў шуфляду, чытаў-перачытваў дзіўнае пісьмо ўжо былой настаўніцы малявання, не мог дабраць месца, куды схаваць лісток. І новае, невядомае дасюль пачуццё поўніла грудзі. Было ў ім штосьці і ад палёгкі: не прыйдзецца чырванець за спаскуджаны малюнак, за прапушчаны ўрок... А брала за жывое тое, што так многа ў жыцці залежыць ад недарэчных здарэнняў. Не зламала б баба Зіна нагу — і да сённяшняга дня мы не ведалі б, што ёсць такая Марына Юр'еўна, і гэтае пісьмо, якое няўлоўна пахне знаёмымі духамі, магчыма, трымаў бы ў руцэ зараз хтосьці іншы... Хто ведае, ці давядзецца яшчэ калі нам сустрэцца? Напісаць ёй, паслаць малюнак на мінскі адрас — я нізавошта не адважуся. А яна ці надоўга запомніць у гарадскім віры нашы Валовічы?

Назаўтра нашмат пазней, чым звычайна, выбраўся да школы. Чырвонае вялікае сонца паспела ўжо выкаціцца з-за пагорка. Яно нібы прыўстала на дыбачкі, цікаўна пазіраючы на хаты, з камінoў якіх падпіраў настылае неба дым. Усё навокал было заліта ружовым тонкім водсветам і выдавала нейкім штучным, несапраўдным. Я ішоў па вуліцы, зацята трушчыў ацалелыя мутныя бельмы на лужынах.

У клас уваліўся са званком. Урокі страшэнна доў-

жыліся, без канца пазяхаў, вочы зліпаліся. Думаў, што весялей будзе на фізіцы, але Вась-Вась нібы схаваўся ў ракавіну, ані разу за ўвесь урок не ўсміхнуўся. На перапынках я, як непрыкаяны, туляўся па класе, па цёмным калідоры, не ведаючы, куды падзець сябе. Школа раптоўна счужэла, усюды было нецікава. Раней я нецярпліва і баязліва хадзіў непадалёку ад настаўніцкай з надзеяй убачыць Яе, а цяпер у той бок і пазіраць не хацелася. Не стала аднаго чалавека, а як усё зыначылася, апусцела. Ніхто да мяне не чапляўся, нават з Андрэем Харкевічам прывітаўся, як усё роўна тае бойкі на Дужай і не было. Але з самага першага дня без Марыны Юр'еўны хадзіць у школу і штодня сустракацца там з рухавою, з начальніцкім строгім голасам Таісай Барысаўнай мне стала цяжкай карай. Завуч, як назнарок, заўсёды спыняла мяне, то рабіла заўвагу, то клапатліва папраўляла ў маім пінжаку каўнер альбо дрэнна завязаны піянерскі гальштук... Я моўчкі цярпеў гэтую пакуту.

Праз колькі дзён разгарнуў кнігу, што перадала праз Пакульчыка Марына Юр'еўна, і ў мяне задрыжалі ад хвалявання рукі...

Ледзь не на кожнай старонцы стракацелі чорнабелыя здымкі з карцін. І прозвішчы тых, хто намаляваў іх — Аляшкевіч, Ванькові́ч, Хруцкі, Альхімовіч... Гэтыя прозвішчы адразу заселі ў маёй галаве, я нават запомніў твары некаторых мастакоў — іхнія партрэты былі змешчаны таксама. Як зачараваны, разглядваў кожны з твораў і не мог адарвацца, штосьці харошае, светлае шчымела ў грудзях.

Адзін з мастакоў — Апалінарый Гараўскі — намаляваў карціну, якая называецца «На радзіме». Ён бышцам падглядзеў стары растрэсены масток праз Бярозку, кусты вербалозу ўсцяж яе берагоў, пясчаную дарогу-насыпанку з нашых Валовіч у Лыскаві-

чы... Я дзень у дзень хаджу праз такі масток, а каб намаляваць яго — ані разу не падумаў. Каму ён патрэбны, размалочаны машынамі і трактарамі?

Мне вельмі хацелася, каб хоць адзін з жывапісцаў паходзіў адсюль, з нашай Слонімшчыны. Няўжо яна не такая прыгожая, як тая ж Навагрудчына, дзе жыў і маляваў Дмахоўскі? Перачытаў кніжку ад першай і да апошняй старонкі — не, землякоў няма. Але затое аўтар піша, што Валенцій Ванькові́ч «адзін час сябраваў са слонімскім старастам Пуслоўскім, жыў у яго доме і напісаў там партрэты гаспадара і яго жонкі». Лысаваты Пуслоўскі са стужкаю цераз плячо і бляшкай ордэна на грудзіне не вельмі каб уразіў. Але ў вачах розум і ўладнасць. Кругам галава пайшла, калі вычытаў, што гэты самы Ванькові́ч, які жыў нейкі час у Слоніме, бачыў і нават маляваў самога Пушкіна!

Раскатурхаў дзеда Паўла, які прыйшоў з работы і прылёг адпачыць. Падзяліўся з ім сваёй радасцю. Дзед здзіўлена ўскінуў натапыраныя сівыя бровы, усміхнуўся:

«Цяпер бачу, што недарэмна фарбы табе купляю...»

Я і не згледзеў, як вясна праплешыла, а пасля мігам злізала з палеткаў зляжалы шэры снег, як у адну ноч зрабіла шалёнаю ракою нашу ціхмяную Бярозку.

Спачатку талую жаўтлявую ваду гнала паверсе замураванай рэчкі. Потым у лажбіне рэчышча пачаў горбіцца, уздувацца раптоўна пасінелы лёд. Хлопцы, якія жылі на Старой вуліцы, нібыта чулі, як сярод ночы цяжка бухала, вухкала на поплаве. Раніцой альшэўнік па абодва берагі сіратліва стаяў па пояс у вадзе. А паводка яшчэ толькі гразілася, не спяшалася па-сапраўднаму брацца за работу. Пасля палудня яна праглынула гароды і соткі, што межавалі з

куп'істай няўдобіцай поплава, падбіралася пад будынкі на Старой вуліцы. Пра Лыскавічы і казаць няма чаго. Яны не стаяць, як нашы Валовічы, на горцы, таму там да некаторых гумнаў і хлявоў хоць на лодцы падчальвай. Калі мы вярталіся са школы, да самай дарогі-насыпанкі з абодвух бакоў падступала мора вады. А што рабілася пад скасабочаным драўляным мастком — і перадаць цяжка. Там так вíравала, раўло,— аж дрыжалі парэнчы і насціл. Зажмурыш вочы, перамахнеш на свой бок і думаеш: «Няхай цяпер зносіць гэтую ламачыну!» Таго жадаў кожны з нас, школьнікаў, і хлопцы, і дзяўчаты. Каму неахвота падоўжыць такія кароткія вясновыя канікулы?

Увечары рэчку расшчапіла чорная, злавесная трэшчына, якая проста на вачах расла, пашыралася...

Ранкам з лёгкім сэрцам збіраюся ў школу. Толькі паварочваю са свайго канца ў Рукаў — у грудзі пругка б'е цёплы вецер. Дарога на Лыскавічы ў некалькіх месцах схавана пад вадою. Па льдзінах блізка да сушы скачуць і размахваюць сумкамі першыя смельчакі. Канікулы!

Такое здараецца кожны год: і летась, і пазалетась, помню, было. Ад неабдымнага мора цёмнай вады, па якой з нецярплівым шоргатам плывуць светла-шэрыя крыгі, суседнія левабярэжнія Лыскавічы выдаюць далёка-далёка, як бы хто іх адсунуў на кіламетр ці два. Чубаты альшэўнік, што адважна пусціўся ўброд да нашага правага, вышэйшага берага, зусім здрабнеў і парадзеў. Шукаю вачыма драўляны масток праз Бярозку — і знаку няма ад яго, пэўна, дзесьці плыве па Шчары. калі хто не вылавіў на дровы. Мужчыны, скупіўшыся каля самай вады, доўга штосьці абмяркоўваюць, нарэшце ўспамінаюць кожны пра свой клопат, разыходзяцца. Мы застаёмся адны.

Ці можа быць што цікавей і страшней за падарожжа на рыхлай, нібы падзёўбанай, ільдзіне, якая ў любое імгненне можа разваліцца пад тваімі нагамі? Сонца вясёлым вокам міргае з мутнай зеленаватай вады, што магутнаю плынню прэ за сабою і карчы, і ламачча, і пажухлую леташнюю траву... Пра глыбіню лепей не думаць — і без таго займае дух. Летась я да позняга вечара сушыўся за вёскаю каля вогнішча. І да сённяшняга дня помню, як ненажэрна гуў на пругкім ветрыку агонь, як пырскаў па сцёгнах калючымі іскрамі.

У маёй душы за гэтыя дні праклюнулася таямніца, з якой пакуль ніяк не магу абвыкнуцца, якой нават саромеюся. Я сказаў сам сабе, што абавязкова стану мастаком і, не адкладваючы, пачаў рыхтавацца...

Прамільгнулі канікулы, а мама ўсё не вярталася дахаты.

Я штодзень забягаў на пошту, пытаўся, ці ёсць навіны. Дзед звычайна казаў, што званіла, пыталася пра мяне, а аднаго дня падаў у рукі канверт, падпісаны незнаёмаю рукою. У канверце была запіска ад мамы — толькі почырк яе нязвыкла змяніўся, стаў няроўны, літары скакалі адна ад аднае ў бакі. Мама пісала мне, што яе перавялі ў абласную бальніцу пад Гродна, у нейкія Пышкі, што дактары ёй параілі яшчэ падлячыцца, бо хвароба, якая прычапілася да яе — не надта паддаецца лякарствам. Прасіла добра вучыцца, слухаць настаўнікаў, дзеда і бабу. Абяцала неўзабаве прыехаць дамоў...

Канверт быў адклееены без мяне, у ім, напэўна, ляжала яшчэ адно пісьмо — асобна для дзеда і бабы.

Увечары, зрабіўшы ўрокі, я выпусціў на надворак малога Рысіка. Пляснуў у далоні — убачыў такі танец, што хоць сам пускайся ў скокі. Цялятка радасна трасло галоўкаю, падкідвала вышэй сябе заднія

ногі, кідалася то ў адзін, то ў другі бок і раптам замірала, цікаўна пазірала на мяне, нібы пыталася: «А ты так умееш?» Запхнуць назад у хлеў малога танцора аказалася няпроста. Дапамог акрайчык хлеба, які да часу я хаваў у кішэні, а пасля паднёс да казытліва-халоднай пыскі. Цялятка плямкнула губамі, але не ўхапіла скарынку і ўжо як прывязанае падыбала ўслед за мною да загарады.

Зачыніўшы хлеў, я ў радасным настроі пабег да хаты. Ускочыў па сходках у адчыненыя сені і застыў як укопаны каля самага парога. З кухні даносіўся глухі здушаны плач. Стаяў і ніяк не мог уцямніць: хто плача? Усё праясніў дзедаў голас:

— Абыдзецца... Усё павінна добра быць. Вунь Кісялеўскаму з Нізян з-за гэтага паскудства паўжалудка чахнулі. І нічога — жыве...

Баба Наталля прыціхла, але ненадоўга. Усхліпнула, голасна застагнала:

— Ой божа, мой божа! Божа, божа!..

— Супакойся, Наталля! — строга цыкнуў на яе дзед.— Хлопец зараз прыбяжыць, яго пашкадуй...

Я паціху выйшаў з сяней, завярнуў за хату, прытуліўся спіною да глухой сцяны. Было цёпла і ціха. Над чорным маўклівым полем, што горбілася адразу за хлявамі, у цёмным нізкім небе цяжка вісела бурая поўня, размытая з аднаго боку. На Ціхановічавым гумне ў шырокім капелюху буслянкі нерухома стаялі бусел і бусліха, абое падобныя на пытальнікі.

«Дык вось чаму мама апынулася ў тых Пышках...— думаў я.— Аперацыю будуць рабіць. Нездарма напісала, што лякарствы не дапамагаюць. Што ж за такая хвароба прычапілася да яе? Дзед нейкага нізянскага Кісялеўскага згадваў, якому чахнулі паўстраўніка...»

Калі надаела стаяць, пайшоў з надворка за хлеў, а там, за агародам, павярнуў тупкаю, падсохлаю

сцежкаю да свае сядзібы. На полі сям-там па глыбокіх разорах шарэлі невялікія лапікі снегу, адтуль цягнула бадзёрым халадком. А над вёскаю шырока расхінула крылы ярая чырвань — заходзіла сонца.

Не даходзячы метраў трыццаць да бярэзіны, я спыніўся. Пасля зімы дрэва неяк выпрасталася, шырэй раскінула голле. Тоўсты, каравы знізу камель невысока над зямлёю раздвойваўся. У кронах аднолькава пакручаных ствалоў чорнымі варонінымі гнёздамі сядзелі абедзве амялы. Я глядзеў на гэтыя паганыя прышчэпы без страху, хутчэй з цікавасцю, быццам бачыў упершыню. Магутны камель, натапыраныя ў бакі галіны, плакучыя косы ахінаў празрысты чырвона-бардовы водбліск, і бярэзіна была непадобная на самую сябе. Я нізавошта не назваў бы яе цяпер белаю бярэзінаю, і каб былі пад рукамі фарба і папера, заместа лёгкага блакітна-зялёнага дыму лістоты, якая неўзабаве дружна праклюнецца, намаляваў бы чырвонае языкастае полымя...

Таіса Барысаўна, каб яна была настаўніцай малявання, не задумваючыся, уляпіла б двойку — я гэта ведаю пэўна. А Марына Юр'еўна — зразумела б мяне, абавязкова зразумела б!

Я падыходжу да бярэзіны, асцярожна, як баючыся апячыся, кратаю далонямі патрэсканую маршчыністую кару. Прыціскаюся да камля шчакою і ўспамінаю маму, яе ціхую добрую ўсмешку, вінаватазбалелыя вочы.

— Усё будзе добра, мама! — не шапчу, кажу ўголас, быццам не кіламетры, а метры раздзяляюць нас.— Хутчэй вяртайся дахаты, мама!..

І доўга-доўга стаю, нерухома прыціснуўшыся плячом да старадрэвіны, гляджу, як адразу за Лыскавічамі хаваецца за небасхіл сонца. А потым раптам засвярбелі рукі зламаць, скруціць паганую нарасць з галін бярэзіны. Нядоўга думаючы, адчайна палез на

дрэва. Ускарабкаўся на такую вышыню, на якую ніколі дагэтуль не адважваўся. Вось яна, зусім побач, праклятая амяла! Дробныя, вілавата падзеленыя галінкі, вузенькія лісцікі, нібыта пакрытыя скурай... Калі яны паспелі вырасці? І дзе вы бачылі, каб у расліны была сапраўдная скура?! У куточках галінак сядзелі, быццам бародаўкі, шэрыя ягады.

Амяла была ў якіх трох-чатырох метрах ад мяне. Паглядзіш — блізенька, а дастаць рукою — далёка-далёка... Я доўга сядзеў, не ведаючы, як падступіцца да дзікай нарасці. Пругкі вільготны вецер гайдаў вершаліну, а яна калыхала мяне. Вёска была як на далоні. Нават бачыў сваю школу ў Лыскавічах. Якраз над ёю вісела сонца. Чырвонае-чырвонае, нібыта выкупанае ў сцюдзёнай вадзе. І так не хацелася спускацца на зямлю з пустымі рукамі!.. А яшчэ мне чамусьці здавалася, што сонца не заходзіць, а наадварот, узыходзіць. На далёкай поўначы, чытаў сваімі вачыма ў падручніку па геаграфіі, сонца па некалькі месяцаў свеціць. Чаму ж у нас не можа адбыцца такі цуд? Самі сабою ўсплылі на памяць словы з бабінай песні-замовы:

Яснае сонейка
Дзень пачынае,
Начніц праганяе,
Дзянніц пасылае,
Боль сунімае...

Я ўзяўся ямчэй рукою за тоўстую, як мне падалося, галіну, пачаў спрабаваць на моц нагамі тую, на якой раскашавала бліжэйшая амяла. Яна зманліва гайдалася, клікала да сябе... Толькі адпусціў руку, каб схапіцца за другую, самую блізкую да ведзьмінай пяты галінку, як нага саслізгнула, і ў спіну скразняком дыхнула жудасная пустата... Я нават паспеў выхапіць вачыма, як далёка ўнізе гайданулася зямля, а неба раптоўна наблізілася, стала чорным-

чорным. Моцна, сам таго не хочучы, закрычаў, бо сцяміў — не мінаваць бяды.

Не ведаю, якім цудам мне ўдалося зачапіцца, завіснуць у некалькіх метрах ад зямлі. Калі ачомаўся, дайшоў да сябе, сонца ўжо схавалася, а небасхіл залівала яркая крывавая чырвань...

Вяртаўся ў хату не агародамі, а вуліцаю. Бабу Наталлю сустрэў на надворку, з дайніцаю ў руцэ.

— Дзе ты хадзіў, Валерык? — голас у бабы як усё роўна змяніўся, надтрэснуў.— Я цябе клікала-клікала, ды не даклікалася.

— Каля клуба быў! — кідаю цераз плячо ў адказ, узбягаючы па сходках у сені.

— То прысядзь каля шкапчыка, малака кубак вып'еш.

— Не хачу, я ўжо вячэраў.

— Калі ты паспеў? — пытаецца наўздагон, у спіну мне баба Наталля.

Раблю выгляд, што не чую. Не затрымліваючыся, мінаю кухню, хуценька распранаюся, кідаюся на канапу і накрываюся з галавою коўдраю. Колькі хвілін ляжу з расплюшчанымі вачамі, намагаюся ні пра кога і ні пра што не думаць. Няпроста выкінуць усё пачутае і ўбачанае з галавы. Пачынаю зацята лічыць у думках, пісаць на ўяўнай школьнай дошцы лічбы: сорак шэсць, сорак дзевяць... дзевяноста чатыры, дзевяноста сем... сто дваццаць во...

І ўжо ці то мроіцца, ці то сніцца рэчка, наша Бярозка. Яшчэ скаваная лёдам. Да мяне з процілеглага берага, правальваючыся па калені ў снег, спяшаецца мама. Яна ўжо зусім блізка, я добра бачу яе схуднелы твар, у вачах трывогу і страх. І раптам — страшная расколіна. Акурат такая, што рассекла перад паводкаю Бярозку. А мы так блізка адно ад аднаго, мала не дацягваемся рукамі. Разбегчыся, сігануць праз чорную ваду? Позна, расколіна ўжо зеў-

рыць досыць шырока і ўсё разыходзіцца шырэй. Як нам быць? Што рабіць?

«Мама! — крычу я штомоцы.— Мама, хадзем на мост!..»

І мы бяжым уздоўж берагоў, навыперадкі з бярвеннямі, якія імкліва зносіць уніз вірлівая паводка. З жахам заўважаю: паміж намі становіцца ўсё больш і больш чорнай, як кіпучая смала, вады. Хачу крыкнуць, каб павярнуць назад,— няма голасу. Сілюся махнуць рукою — рука не слухае мяне. А маміна тоненькая постаць тым часам згубілася сярод альшэўніку: ліхаманкава шукаю яе вачыма і не знаходжу... Дзе, дзе яна, мы не паспелі нат павітацца, не тое што пагаварыць па-людску. Недарэчнасць, бязглуздзіца нейкая; сустрэцца, каб адразу размінуцца?.. «Мама, хадзем на мост!» — паўтараю свае словы. І дзіўлюся: на які мост? На змыты колькі дзён назад паводкаю? Ці мо на той, намаляваны сто пяцьдзесят год назад Апалінарыем (якое рэдкае імя!) Гараўскім?..

Ад сэрца адлягае. І адразу дыхаецца лягчэй... То ж сон, а ў сне часам такое напляцецца! Во як цяпер. Сяджу на сваім заўсёдным месцы — каля стала. Пад рукамі — чысты ліст паперы. Яблыні белымі дзюбкамі галінак цягнуцца да шыбіны, як усё роўна цікуюць на тое, што я малюю. Бачу: па вуліцы, выставіўшы наперад правае плячо, бяжыць дзед Павел. Без шапкі, расхрыстаны, я такім яго ўжо бачыў і помню. Куды і чаго гэта ён? Чаму так рана замкнуў пошту: яшчэ ж няма шасці?.. Дзед, нідзе не зачыняючы за сабою дзверы, адразу праступе ў мой пакой. Спыняецца каля мяне, туліць да сябе, і я адчуваю, як яго дробна, нястрымна калоцяць дрыжыкі. Аж трасецца спаралізаваная рука.

— Валерык,— нарэшце чую ягоны нежывы, бляшаны голас.— Унучак, ты адно супакойся, вазьмі сябе ў рукі, добра?

Няўцямна гляджу на яго і палохаюся дзедавых вачэй: яны халодна-пустыя, не міргаючы глядзяць кудысьці праз мяне. Холад клубком коціцца па спіне.

— Дзеду...

Родны дарагі твар, перакошаны як ад невыноснага болю, раптам становіцца непрыгожы, чужы. Я ўжо не ведаю, што й думаць, міжволі сціскаюся ўвесь.

— Валерык,— чуецца здалёку глухаваты голас дзеда.— Мама твая памерла...

— Калі? — пытаюся я, нібыта гаворка ідзе пра нейкага невядомага, незнаёмага мне чалавека.

Дзед, здаецца, гаворыць, што мама памерла сёння раніцай. Перапытаць бы, але ўсё роўна недачую, бо вушы наглуха заклала нябачнаю ватаю. Усоўваецца ценем баба Наталля, рукамі абхапіла галаву. Рот раскрыты — яна галосіць. Але я хутчэй здагадваюся, чым чую. І думаю сам сабе: ніхто з іх не бачыў маму памерлай, паверылі тэлефоннаму званку са слонімскага тэлеграфа... Хіба там не маглі наблытаць, набраць памылкова не той нумар? Чаго толькі не напляцецца ў сне... У сне сярод белага дня...

Потым насупраць вокан ад вуліцы спыняецца чорная машына-буда з заляпаным граззю надпісам пад квадрацікамі акенцаў: «Техпомощь». З машыны выходзяць нейкія людзі, купкаю накіроўваюцца на наш надворак. Дзед ідзе іх сустракаць, асцярожна выводзіць за плечы з майго пакоя бабу Наталлю. А я ўсё сяджу за сталом ля акна перад чыстым аркушам паперы. І ўсё, што адбываецца ў хаце, быццам не тычыцца мяне. Мая мама жывая. А тыя, хто зараз падыходзяць да мяне, беражліва націскаюць за плечы альбо, як малога, гладзяць па галаве,— яны мне прысніліся...

Машына з надпісам «Техпомощь» усё яшчэ гор-

біцца перад вокнамі ад вуліцы. Не хачу і ўсё роўна ліпну вачыма да буды, як заведзены чытаю на адзін лад надпіс: «Тех-помощь... Тех-помощь...» Урэшце зларадна пытаюся ў кагосьці (праўдзівей, у самога сябе): «Каго — «Тех»?..» На нейкі момант мне здаецца, што атрымаўся ніштаваты жарт, хоць слова расшыфроўваецца вельмі проста: тэхнічная дапамога. «Тым больш! Тым больш відаць, што вярзецца абы-што! — усё крычыць, пратэстуе ўва мне.— І каб хацеў, горш не прыдумаеш. Навошта маме вашая «тех-помощь» — яна жывы чалавек, а не машына!..

Нібы пачуўшы мяне, машына зрываецца з месца, ляпнуўшы перад тым дзверцамі, шалёна імчыць у бок Слоніма. Хапаю ў руку пэндзаль, макаю ў шклянку з вадою. Хутчэй маляваць, абы ні пра што не думаць! Не бяда, што на фарбе пылам ляжыць шызы цень ад буды з недарэчным надпісам. Яркія фарбы мне якраз і непатрэбны, хоць задумка няпростая: намаляваць катанне на крыгах. Так-так, менавіта на крыгах, а не на крызе, бо тая, першая, што імгненне назад была тваім надзейным плытом, з усяго разгону наскоквае на камлюкаватую алешыну і рассыпаецца на азызлыя дробныя кавалкі. «Пранесла, пашанцавала!..» — задыхаюся ад радасці. Азіраюся на дрэва. Яно праз садраную кару беляніць жывою косткаю, па якой на вачах пачынае сачыцца, сплываць чырвоная кроў. І куды ні зірну — усюды набрынялыя крывёю камлі. Вада таксама з чорнага фарбуецца ў чырвоны колер. Кругам ідзе галава, нападае ўдушлівая ікаўка, сашчамляю намёртва зубы, баючыся, каб не званітавала.

— Валерык, хадзем пачаваць да нас...— раптам кладзе мне на плячо выратавальную дрыготкую далонь цётка Ніна ў чорнай хустцы на галаве.

Я адмоўна кручу галавою: мне і так абрыд гэты слізкі цягучы сон, а яна кліча зноўку спаць.

— Тады прыляж на канапу, а я каля цябе трошкі пасяджу.

Паслухмяна ўстаю з-за стала, на якім па-ранейшаму беляхціць чысты аркуш паперы, доўга, як не сваімі рукамі распранаюся... Не, наадварот, апранаюся! Хрышчоная бярэ мяне за руку, як тады, калі хадзілі ў Жыровіцкі сабор, і мы ступаем за парог адчыненых насцеж сяней. Асляпляе сонца. Вялікае, на паўнеба. Шырокая вуліца. Насупраць нашай хаты знаёмая буда-машына. Некалькі кабет паварочваюць адна за адною да весніц. Ногі адмаўляюцца служыць мне, і я спыняюся на паўдарозе. Так часта здараецца ў сне: трэба ісці, а не можаш або тупаеш, як прывязаны, на месцы. Зноўку невядома адкуль з'яўляецца з падпухлым, сплаканым тварам хрышчоная. Не магу без шкадавання глядзець на яе і думаю сам сабе: вырасту — абавязкова расшукаю яе брата, таго ўцекача Сцяпана. І скажу ім, што ніводзін не вінаваты ў смерці бацькі. Усім казаць буду і нат перадам, як усё здарылася. Бо я ўсё бачыў на свае вочы. Няўжо знойдуцца такія, што не паверацъ мне?

— Валерык, хлопчык мой, хадзем,— з плачам у голасе гаворыць хрышчоная.

Я трасу галавою: калі нарэшце скончыцца ўсё гэта? Навошта гэтулькі людзей ідзе ў нашу хату? Там жа непамыта, непрыбрана... Вось вернецца з бальніцы мама — мы расчынім усе да аднаго вокны... Прыйдзе свята... Тады й заходзьце...

Нібы ў чужую, заходжу ў сваю хату. Людзі, якія стоўпіліся ў сенцах, у парозе чыстай палавіны, як па камандзе, расступаюцца перада мною. Спрабую на хаду здагадацца па вачах, што яны думаюць, але кожны вінавата хавае, адводзіць у бок ад мяне позірк. Далей ісці баюся. І адсюль, з маўклівай грамады, усё добра бачу. У вялікай, з рэзка акрэсленымі высокімі бакавінамі труне, галавою на покуць, ляжыць мама.

Маленькая, як дзяўчынка, з нязвыкла вялікімі, як не сваімі, рукамі. Мусіць, прычынай таму непамерна глыбокая труна, што як праглынула саму маму, а наверсе засталіся адны толькі рукі. І ўжо, акрамя іх, я нічога не бачу.

У грудзях як скамянела. Заплакаць — не магу. І брыдка, і страшна, хоць тыцкай у павекі непрыкметна пасліненымі пальцамі. Няўжо папраўдзе я такі чэрствы і абыякавы? Хачу пабачыць мамін твар, а перад вачыма па-ранейшаму яе рукі. Пакуль я тут стаю, яны ўжо ў два ці тры разы пабольшалі, ім стала цесна. І я гатоў паверыць: мамы ў труне няма, людзі сабраліся да нас, каб падзівіцца на яе рукі. Колькі яны ўсяго перарабілі! Як яны, бедныя, гэтулькі вытрымалі?! Жывуць жа неяк людзі. Хто без рук, хто без ног. Цяжка, але жывуць. Мы таксама не прападзём, я навучуся рабіць усё сам. І ў печы выпаліць, і наварыць сабе і жыўнасці...

У думкі ўрываецца, перабівае блізкае, адразу за спіною, перашэптванне дзвюх кабет, якія, мусіць, толькі ўціснуліся ў хату.

— Адгаравала бедная...

— А ці ведала, што рак гэты... а не якая другая хвароба?

— Пад нож лягла... Мусіць, спадзявалася, што палепшае, дахаты вернецца...

— Божа, божа, чаму ты не злітасціўся над ёю? І сама згарнулася, да сарака не дажыўшы, і хлопца во аднаго як пальца пакінула сіратою...

Кожнае пачутае слова як усё роўна каменем ціснe мяне да падлогі. Я ўжо сябе пачуваю зусім малою парушынкаю, а людзі вакол мяне, здаецца, дастаюць галовамі да самай столі. Строгія, маўклівыя людзі з вачамі, падобнымі да вачэй святых у Жыровіцкім храме. І розніца толькі ў тым, што там я хаваўся,

сцінаўся ад іхніх позіркаў, а цяпер яны вінавата адводзяць вочы ўбок.

Цесна! Няма чым дыхаць. Як быццам усё некуды плыве, гайдаецца... Хутчэй на вуліцу, пакуль стаю на нагах!

Сонца ўжо прыліпла да небасхілу, паўнеба ахінула густая барвовая чырвань. Відаць кожная, нават самая дробная галінка яблынь і танклявага вішняку, што купчэе пры платах каля дарогі. Брыду па ўзбочыне да дзедавай хаты, а перад вачыма ўсё стаяць маміны рукі... Трасу галавою, гляджу ў канец вуліцы, каб хоць на хвіліну забыцца пра ўсё на свеце. І ўспамінаю Дужую горку, Толіка Гыгыгы, укленчанага на снезе, потым Марыну Юр'еўну на мастку праз нашу Бярозку... Няўжо папраўдзе мастак Гараўскі, які жыў сто год назад, бачыў наш масток, бо вельмі ж падобны намаляваў на сваёй карціне?

— Валера, хадзі сюды! — хтосьці аклікае мяне.

На дзедавым надворку, якраз насупраць сяней, стаяць сусед Ціхановіч і брыгадзір Патапчык. У першага ў руцэ дайніца з вадою і кубак, а ў другога накінуты на плячо белы доўгі ручнік. І ў абодвух закасаныя па локці рукі, выпацканыя ў штосьці чырвонае, ці не ў кроў.

— Мыла, Валерык, патрымай,— просіць дзядзька Ціхановіч.— І заадно палье́ш нам...

Паслухмяна падыходжу да мужчын, зачэрпваю кубкам з дайніцы цёплую ваду, то аднаму, то другому паліваю на рукі, якія лёгка адмываюцца ад густой чырвані. Дзядзька Ціхановіч першы бярэ з плота ручнік, нервова выціраецца, гаворыць да мяне:

— Трымайся, Валера... Ты ўжо не малы, сам ведаеш, гэтую бяду не паправіш.

— Ага, усе там будзем,— уздыхае Патапчык, прылізваючы мокраю далонню непаслухмяны смаляны

чуб.— Хто раней, хто пазней...— і пытаецца ў Ціхановіча: — А дзе памінкі будуць правіць?

— Канечне, там! Тут адно на сталы прыгатуюць — наварацць ды насмажаць.

Мужчыны, зашпіляючыся, замаўкаюць, а я стаю з паўнюткім кубкам вады і не ведаю, што рабіць: ці то выліць назад у судзіну, ці то выплюхнуць пад плот, дзе чырваніць вялікая лужына.

Потым Ціхановіч з Патапчыкам паднімаюцца па сходках у хату, я цягнуся следам за імі, несучы дайніцу з кубкам, ручнік і абмылак.

Мужчыны заходзяць у кухню. Патапчык, які паспеў забыцца на мяне, моцна ляпае за сабою дзвярыма. Я застаюся ў прыцемках сяней адзін. На лаве ўздоўж глухой сцяны ціснуцца адзін да аднаго белыя мяхі з мукою і збожжам, са свайго змрочнага кута насцярожана глядзіць у мой бок бабін куфар, быццам я зараз падніму яго века, пачну шукаць бацькаву шапку.

Калі заходжу на кухню, то нікога ўжо не застаю, хоць хвіліну назад адсюль, здаецца, чуліся прыглушаныя галасы. Азіраюся: куды б паставіць дайніцу? Потым уздумваю, што баба Наталля, калі дайніца чыстая, памытая, ставіць яе ў каморы на паліцу. Там яна нікому не замінае. Трэба вяртацца ў сені, але я чамусьці іду ў чыстую палавіну хаты. Апрануты, абуты, з дайніцаю ў руцэ. Саджуся за стол, дзе, як заўсёды, ляжыць бялюткі аркуш паперы і каробка з алоўкамі. Патыліцаю адчуваю: хтосьці глядзіць мне ў спіну. Марудна, не ўстаючы з табурэткі, паварочваюся і бачу ў цьмяным вузкім люстры старой самаробнай шафы, што стаіць якраз у куту насупраць стала, коратка пастрыжаную хлапечую галаву. І яна, гэтая галава, трошкі нахілена набок — акурат так, як нахіляюць яе, калі пішуць альбо малююць. І мне падаецца, што незнаёмец папраўдзе малюе. Я дзесь-

ці ўжо яго бачыў — хударлявага, даўгашыяга, з моцна адтапыранымі ў бакі чырвонымі вушамі... Праваруч ад хлопца ляжыць згорнутая ў сувой пасцілка-вясёлка, што нібыта служыць яму фарбамі. І я бачу, як ён дакранаецца пэндзлікам да патрэбнага колеру на посцілцы і зноў схіляе галаў над сталом.

Мне карціць паглядзець, што малюе хлапчына і ці добра ў яго атрымліваецца. Паціху паднімаюся з табурэткі і... заўважаю: сусед мой таксама прыўстае з-за стала. Заміраю на месцы і ніяк не магу паверыць, што гэта — маё ўласнае адлюстраванне. Доўга стаю сам насупраць сябе, аж пакуль не выслізгвае з потнай халоднай далоні восілка дайніцы. Пранізлівае дзынканне падказвае, што мне трэба далей рабіць.

Хапаю з падлогі дайніцу і выбягаю праз кухню ў сені. Там, не марудзячы, адчыняю рыпучыя дзверы ў камору з невялічкім закратаваным акенцам, праз якое ўдзень цэдзіцца скупое святло. А ўвечары, як цяпер, трэба ўключаць лямпачку. Пераступаю праз высокі, нават лішне высокі парог і спыняюся, каб абвыкнуцца з цемрай і намацаць рукою ўключальнік. Нарэшце пстрыкаю кнопкаю і ад жаху абміраю сэрцам.

Проста з-пад ног, з вялікай эмаляванай міскі, не міргаючы, ва ўпор глядзяць на мяне цёмныя вочы. Я пазнаю іх адразу, бо толькі адна Начніца зеўрыць на ўсё невідушчым мёртвым позіркам. На гэты раз праз вочы Рысіка, чыя адрэзаная лабатая галоўка з паніклымі вушамі адчайна цягнецца пыскай да маіх рук.

«Цяпер я ведаю ўсё пра цябе, Начніца!» — апошняе, што падумаў я, перад тым як лямпачка, што нізка звісала са столі, раптам гайданулася і асляпіла мяне.

*1985—1987*

# СОНЕЧНАЯ ДАЛОНЬ

Апавяданні, эсэ

## РАСПЛЯТАЛА КАСУ...

Сучасны гарадскі мікрараён. Гэтулькі набудавана ўсюды ўсяго, а выдае як пусты, няўтульны, неабжыты. Мабыць, таму, што не паднялася яшчэ зяляніна і надта лезуць у вочы жоўтыя глiністыя пусткі паміж будынкамі, парэзаныя заасфальтаванымі сцежкамі. Каля аднаго са шматлікіх пад'ездаў высознага, выгнутага ў падкову дванаццаціпавярховага дома — некалькі расквечаных кветкамі, стужкамі, дзіцячымі шарыкамі легкавушак. І невялікая грамада людзей, большасць якой — дзеці і падлеткі. Вяселле. Гарадское вяселле. Маладая ў белай раскошнай сукенцы, заместа фаты на галаве модны зграбны капялюшык; побач яе сцішаны, з мляваю, вінаватаю ўсмешкаю на твары малады. І сіплы, як у маладога пеўня, голас кругленькага, лысаватага свата, зусім па-вясковаму перавязанага крыж-накрыж ці не купчымі ручнікамі. Смех, людская гамана, і ўсё-ткі адчуваецца: штось замінае пайсці маладым праз жывы людскі калідор.

А ўсё, аказваецца, праз хлопцаў-музыкаў, што ўладкаваліся на цэментавым брылі пад'езда. Як назнарок, у іх штосьці не заладзілася з электрагітарамі. А бацькі маладога даўно вунь ужо стаяць-чакаюць, трымаючы ў руках спрадвечны, святы хлеб-соль, і маладая паспела шпурнуць на радасць дзятве шчодрую прыгаршню цукерак... Музыкі б цяпер, каб ажно зашчымела на сэрцы!

І раптам нязмушана, ціхутка з натоўпу забруіўся кволы жаночы галасок, чуцен ад усёй гаманы і машыннага гуду. Яшчэ праз імгненне ён абярнуўся шэраю зязюляю-птушкаю і пачаў гаварыць-расказваць пра дзявочую долю.

У садочку Марылька
Да касу расплятала,
Жальбу ўсім гаварыла...

Вось яна, пявуння, стаіць побач, прыхіліўшыся да нежанатага шчэ сына-студэнта, што з твару, як кажуць, і кропелькі пабраў ад маці. На галаве ў яе завязаная пад бараду просценькая хустка ў дробныя кветкі-валошкі, сама апранута ў даўно нямодны сарафан і вязаны з сівой непафарбаванай воўны каптан, на нагах новыя бліскучыя гумовікі — вясна выдалася як ніколі дажджлівая, зацяжная. І такая пасля сталічнай бальніцы благенькая, што цень, і ледзь дастае галавою да шырокага сынавага пляча. А ён, разгублены і здзіўлены, пазірае на маці, бы на малое дзіцянё, і, не ведаючы куды падзець сябе ад цікаўных людскіх вачэй, смешна хмурыцца і ўсё пазірае на гадзіннік... От дадумалася!.. І папраўдзе, каб хоць якою далёкаю раднёю даводзілася вясельнікам ці ведала каго з іх, а то ж зусім староннi чалавек, які выпадкова спяшаўся сюдою напрасткі да аўтобуснага прыпынку, каб хутчэй толькі вырвацца дамоў: «Няма калі вылежвацца, сынок, людзі бульбу садзіць пачалі...»

Я ж татульцы няміла,
Міла яму гарэлка,
Да не я маладзенька...

Яна, пэўне ж, і без слоў разумее сына, ягонае жаданне як мага хутчэй пайсці адсюль, ды не даспяваць песню?! І ў яе надзіва маладых жывых вачах (іх адно хіба і не кранула хвароба) свеціцца адкрытая несхаваная радасць. Радасць за гэты высокі пагодлівы дзень, за маладога, так падобнага да яе сарамяжлівага сына, за маладуху, што безабаронна звяла рукі-крылы ля высокіх дзявочых грудзей...

Спявала і, напэўна, згадвала, уяўляла сабе тую, фотакартку якой выпадкова ўбачыла ўзімку, мыючы сынаву кашулю, і якая ці не па два разы на тыдзень прыбягала да яе ў бальніцу з перадачай, ды так і не адважылася сама паказацца на вочы.

А маладыя між тым не сталі чакаць далей, пакуль хлопцы грымнуць з брыля пад'езда. І дзеці зноўку лавілі на ляту салодкія цукеркі, не здагадваючыся пра таямнічы сэнс узмахаў дзявочай прызыўнай рукі...

Што пілі, гаварылі —
Яны мной заплацілі.
Ой да мной маладзенькай,
Да касой залаценькай!..

Як хораша, мама, ты ўмела спяваць, душу расплятаць сваю светлую!

# ЧАКАННЕ КАСЦОЎ

Хутар як хутар. Адзін з тых нямногіх, што дажываюць свой незайздросны драўляны век у баку ад дарог і вёсак. А здалёку глядзіцца вельмі хораша: будынкі настаўлены з размахам, і над кожным, нібы ветразь, зялёнае воблака таполі ці ліпы.

— Пэўне ж, трэба збегаць,— гаворыць адзін з нас,— тут сама мясцінка нейкая даўнішняя, этнаграфічная...

Абвешаныя фотаапаратамі, з блакнотамі ў руках, дружна вылазім з аўтобуса, няспешна, адзін за адным, сунемся па ледзь прыкметнай утравелай сцежцы. Леваруч, дзе намнога вышэй, шчацініцца вусаты ячмень, а справа, нібыта ў лагчынцы, раскашуе духмяны, салодкі, ажно казыча ў носе, не чапаны яшчэ травастой.

— От дзе жытка! — выдыхаю ўголас, і ўсе моўчкі пагаджаюцца са мною: праўдзівы рай.

Праз колькі мінут былі каля старой прыземістай хаты, накрытай па-сучаснаму — шыферам. Першы нас сустрэў чорны кудлаты сабака, які вылез проста з-пад ганка. Гыркнуў раз ці два і, відаць, спалохаўся гэтулькі людзей — прыціснуў вушы, завіляў хвастом.

— Ах ты, старая ваўкарэзіна! — нязлосна махнула на яго кіем сівенькая бабулька, падыходзячы да нас.— Адно што на блінец і гаўкаеш...

Мы прывіталіся.

— Дабрыдзень, дабрыдзень вам! — ветла адка-

зала кабета.— Я вас яшчэ здалёку выгледзела. Але пакуль прысунулася з тае бульбы... Думаю-гадаю сабе: хто гэта да нас праз увесь луг шыбуе? Няўжо касцы аб'явіліся?

— Касцы, ды не тыя,— усміхаемся ў адказ.— Сучасныя, на калёсах, з алоўкамі, во, у руках...

— А ў мяне, далібог, ажно сэрца здрыганулася... Лецейка тое гарачае, калі немец рынуў, прыгадалася. Хлопцы мае тады дзень у дзень на касу налягалі. Выйдуць учатырох з сонцам — і не даклікацца...

І — ні слова болей пра сваіх хлопцаў. Саступіла хуценька са сцежкі, даючы дарогу:

— Што гэта я на санцапёку вас смажу? Праходзьце далей! У хату альбо ў цянёк прысядзьце.

— Дзякуй вам! — адказвае за ўсіх нас кіраўнік экспедыцыі.— Мы ўсяго на адну хвілінку. Мастакі мы, з Мінска... Ездзім от і збіраем на выстаўку ўсё даўнейшае: жбаны гліняныя, пляцёнкі з лазы і саломы, дываны-маляванкі... Мо што і ў вас ацалела?

— Ой, мусіць, нічагутка няма... Пачакайце, я Юстыну гукну. Мо яна што бачыла на вышках. Юсця! Чуеш, Юсця! Хадзі сюды!..— І зноўку да нас: — Немаладая кабета ўжо, а мужчын страніцца. Гэта ж у вайну, дзяўчаткам яшчэ, нагу ў лесе патрушчыла. Я камель на возе не ўтрымала — вядома, якая сіла ў бабы? — дык яе, як бярэзінку тую...

Нарэшце падышла і Юстына. Высокая, адразу відно — не па маці на рост удалася, з вялікімі, уважліва-добрымі чорнымі вачыма пад прыгожым разлётам броваў, за плячамі — па-дзявоцку заплеценая каса. Дала «дабрыдзень». Стаіць, цярэбіць у руках пук зелля, што ўзяла з поля.

— Юстынка, ты нядаўна на вышкі лазіла,— загаварыла да яе, як да малой, маці.— Дык мо бачыла там якія-небудзь гліняныя чарапкі, сявенькі саламяныя?

— Ніц там няма...— падумаўшы крыху, няроўным ад хвалявання голасам адказала дачка.— Адныя зёлкі пад кроквамі ды стары ровар без колаў.

— От, бачыце...— са шкадаваннем прамовіла бабулька і далей тое, што ўжо неаднойчы нам даводзілася чуць у іншых мясцінах: — А навошта ж вам здалася гэтая непатрэбшчына, дзеткі? Людзі ву-унь як цяпер жывуць — на купчым усім, прыгожым. Ды іх калом не загоніш глядзець на старызну тую, ад тэлевізара, вунь, адарвацца не могуць, жыўцом гатовы ўскочыць у яшчык той...

Пасмяяліся мы з гэтых праўдзівых слоў, развіталіся і пабраліся назад да свайго аўтобусіка. Адышліся колькі метраў, як раптам здагнаў нас бабулін голас:

— Пачакайце, хлопцы!.. Гэта ж зусім забылася... Малака ў нас нямашака, хіба што кату напіцца — казу заместа каровы трымаем, дык мы вас мёдам сёлятняга ўзятку пачастуем. Юстынка, нясі хутчэй міску з шопкі! І вады, вядро вады вазьмі прынясі...

— Добра, мамо! — подбегам, прыкметна накульгваючы на правую нагу, падалася да хаты дачка.

Мы павярнулі назад. Старая чакала нас, скрыжаваўшы на грудзях малыя, нібыта ў дзіцяці, рукі.

— Акурат як мае касцы...— светла акрэслілася промнямі маршчынак на яе твары кволая ўсмешка.— Намахаюцца зранку, ажно кашулі мокрыя. Тут бы, як кажуць, перавесці дух... Не — пачынаюць пракосы варочаць, у валкі грэбці сухое сена. А я вочы ўсе прагляджу, чакаючы на палудзень. Цыбулькі са смятанаю прыбяру, дзве вялікія патэльні яек спяку ды міску яшчэ сырых пастаўлю, сала трошкі нарэжу, шчавей на смак паспытаю... Не йдуць! Тады скочу да крынічкі — і цяпер у садзе за хатаю бруіцца,— зачарпну сцюдзёнай вады ў гляк ды мёду туды кубак... Пчала, дзякаваць богу, вялася. Накалачу пітва, каб,

здэцца, прыпаў,— зараз выпіў бы. Нясі, кажу, Юстынка, бацьку ды братам, бо не дачакаемся аж да самага вечара. Сонца вунь пахілілася, зноў на касу налягаюць. Па-а-ляцела, як ластаўка...

Потым мы сядзелі ў цяньку, прыціснуўшыся спінамі да векавой ліпы, ласаваліся мёдам, усмак пілі крынічную, гэтаксама салодкую-салодкую ваду і чулі, як лягчэй, вальней дыхаецца, як звальваецца з плячэй стома. І ўсё гэтак жа стаяла перад намі, скрыжаваўшы на грудзях дзіцячыя рукі, старая кабета і заместа зелля церабіла ў руках дзявочую касу Юстына...

І пранізліва звінела над намі цішыня.

# ЗДЗІЎЛЕННЕ

*Дачцэ Юлі*

Бойкая цэнтральная магістраль сучаснага паўтарамільённага горада. Высокі маёвы дзень. Поўдзень. Лавіна аўтобусаў і легкавушак. На тратуарах — вірлівая людская рака, натоўпы каля прыпынкаў гарадскога транспарту. І сцяна манатоннага цяжкага гулу, ад якога, калі адвык за адпачынак, пачуваеш сябе аглушанаю рыбінаю. А тут, перад чорна-белым стракатым пераходам, чакаючы, пакуль зухаваты, чупрыністы міліцыянер-рэгуліроўшчык (захацелася хлопцу размяцца) дасць нам зялёную вуліцу, асабліва тлумна. Люд рухавы, нецярплівы, смяецца, голасна гаворыць паміж сабою. Пра што? Гул, гул...

І раптам з сотні, тысячы гукаў гэты — як песня, як сама радасць: «Цок-цок! Цок-цок! Цок-цок!..»

Па магістралі, па самым крайнім, правым радзе, далёка выкідваючы ўперад ногі, весела патрэсвае смаляною грываю конік, запрэжаны ў воз на гумавых колах. А на возе, як і належыць, бокам на сене, дзядзька з брылістаю кепкаю на галаве.

«Цок-цок! Цок-цок! Цок-цок!..»

Міліцыянер, які, пэўна, яшчэ здалёк прыкмеціў ціхаходны транспарт, з пашаны да яго былых заслуг перад чалавекам цягне паўзу, не спяшаецца пусціць рух у другім кірунку. Толькі мільгаціць указальная палачка ў ягонай руцэ! «Хутчэй! Хутчэй праязджайце!..»

У натоўпе знайшліся жартаўнікі: «Но-о!.. Но-о, пайшоў, травяны мяшок!»

«Цок-цок! Цок-цок! Цок-цок!..»

Вось і ўсё, каб не дзіцячы, бясконца здзіўлены, радасны галасок, што аж цяпер стаіць у вушах:

— Мама! Жывы конік!..

# ПЯЛЁСТАК НА ВЕТРЫ

...У сне, што прыйдзе незнарок,
Убачыш, як душа далёка
Да зор ляціць, як матылёк.

*А. Сербантовіч*

## I

Мы стаялі ў маладым садку, што ажно кіпеў ружовым яблыневым цветам. Яблыні і папраўдзе былі, як нявесты,— не налюбавацца, не адарваць вачэй. І амаль над кожным дрэвам, на высокай драўлянай тычцы — шпакоўня, пафарбаваная ў блакітны вясёлы колер. На адным доміку, уладкаваўшыся на самым краі стрэшкі-брыля, трымцеў крылцамі, быццам і сапраўды рабіў фіззарадку, залаціста-зялёны, прыгожы гаспадар. Ён то звонка цвірчэў, то раптам пачынаў шпарка, аж захлынаючыся, шчабятаць, а потым нечакана пераходзіў на тонкі працяглы посвіст, такі любы і дарагі нам пасля доўгай халоднай зімы.

Дзядзька Іван — намнога старэйшы за мяне, паважаны ўсімі, хто яго ведаў, чалавек, чыімі нястомнымі рукамі быў пасаджаны, дагледжаны той незабыўны садок,— не зводзіў вачэй са шпака, слухаў ягоную натхнёную песню.

— Вось гэта спявак!..— нарэшце не вытрываў, прамовіў у захапленні я.— Нездарма вы яму гэткі прыгожы дамок зрабілі.

Моўчкі і, мне падалося, нейк сумна ўсміхнуўшыся, дзядзька паставіў каля плота рыдлёўку, падышоў да зусім маладзенькай, але таксама шчодра абсыпанай цветам яблынькі. Доўга стаяў каля яе, і на ягоныя плечы, на чорную абуджаную зямлю зляталі і злятали, нібыта сняжынкі, дробныя палёсткі.

Я бачыў, як раптоўна спахмурнеў дзядзька, як лёг на ягоны твар цень ад нейкага балючага ўспаміну. Таму я таксама маўчаў, не адважваўся загаварыць баршы. А так хацелася вярнуцца да тае жывое бесклапотнае гутаркі, што яшчэ зусім нядаўна нязмушана цякла між намі...

Нарэшце ягоны позірк спатыкнуўся аб мяне, і ён змучана, вінавата ўсміхнуўся.

— І чаму так, скажы?.. Няўжо, каб на гэтай малой зямлі навучыцца па-людску жыць, трэба спачатку насмяціць, наслядзіць уволю бяздумна і тады ўжо збалецца сэрцам?

Праз якую хвіліну падышоў бліжэй да мяне і, гледзячы паўз маё плячо, загаварыў далей.

## II

— ...Такі быў дзянёк, акурат як сёння. Цёплы, сонечны, пагодны. Ды мы засядзеліся ў хаце: лес на хлеў прывезлі суседу. Бралі чарку, курылі. Пасля гадзіну ці дзве бавіліся ў карты. Калі нарэшце абрыд і гэты занятак, пацягнуліся на вуліцу. Крутнуліся сюды-туды на панадворку і перад хатаю, усё яшчэ не ведаючы, куды падацца, ажно бачым — стаіць на парозе гаспадар, у якога дагэтуль сядзелі, і стрэльбу ў руках трымае. «Ну, што, хлопцы, пытаецца, пальнём па разу, успомнім салдацкую навуку?!» Як не пальнуць? Маладыя ж усе — рукі ажно свярбяць. Адышліся мы далей ад хаты, як цяпер во з табою, у канец саду. Не ведаю, як гэта здарылася, але мне першаму трапіла ў рукі тая стрэльба. Трымаў я яе, трымаў, не ведаючы, у што пацэліць, ажно бачу — ляціць да свае яблыні шпак і нешта ў дзюбцы трымае. Далекавата ляціць. Ды мне што: абы пацэліць! Злажыўся ўмомант і націснуў на курок...

Ён доўга маўчаў, глядзеў, не міргаючы, удалечыню. Маўчаў і я.

— А праз колькі дзён бяда здарылася. З першынцом, з хлопчыкам. Два годзікі было. Выскачыў за парог хаты, а тут да яго кульнуўся забаўляцца сабака — малады яшчэ быў. Як даў лапамі ў грудзі, ажно хлапчанё тое перакінулася...

Убачыў гэта — пацямнела ўваччу, адразу ўспомнілася, як зрэзаў шпака на ляту, як мільгануў да зямлі ён.

Праз тыдзень прывёз дамоў птушанятка сваё маленькае. Не ўратавалі, згарэла. Надта моцна галавою аб парог выцяўся.

## III

Наляцеў, закруціў вецер. Не па-вясноваму халодны і пранізлівы. Падхапіў з ягонага пляча апошні пялёстак і згубіў матыльком у неабсяжнай прасторы неба.

# УСПАМІН ПРА САД

Дзесьці там, за далёкімі кіламетрамі, за смугою лясоў, павуціннем дарог, рэк, за сцяною дажджоў, снежнымі цалікамі, за ланцугом маіх дробных клопатаў-турбот,— сірацее адкрыты для ўсіх вятроў сад, пасаджаны бацькавымі рукамі.

Нізка сцелюцца над зямлёй пакручаныя, з паламанымі галінамі яблыні; стомленымі, зусім старэчымі вачамі дуплаў глядзяць на кожнага, хто забрыдзе сюды, грушы; хапае за плечы вецца непрарэджаны, змарнелы вішняк.

І ўсё роўна — кожны год, у светлы, імклівы час, калі сонца ажно танцуе ў вышыні, тут нараджаюцца самыя белыя, самыя прыгожыя на свеце аблокі, з якімі непрыкметна адплыло ў незваротную далячынь маё гаркавае, як вішнёвая смала, дзяцінства. Колькі разоў, пачуўшы ад аднагодка-сябрука, з якім не паладзіў: «Вось пабачыш, скажу свайму бацьку!» — я, як за пазуху, зашываўся ў ласкавае вецце вішняку (не ад боязі, не!) і заліваўся гаручымі слязамі, і клікаў, і дакараў таго, чые вочы дачасна забіла пяском на чужыне зямля.

Тата, тата!.. Мільгацяць, быццам ластаўкі, леты, восеньскі дзень лістотаю кружыць ля ног; налівающца сокам зямным, зорным святлом прамяністым антонаўкі, ціхаю радасцю свецяцца на далонях людскіх. Я ж залётнаю птушкаю прылятаю ў зімовую сцюжу пагрэцца да агеньчыка самасейкі-рабіны, што трымціць перад акном нашай пустой сіратлівай хаты.

# ШУМЁЛЫ

*Уладзіміру Пецюкевічу*

Дзякуй сябру за падарунак.
Агорне туга, зашчыміць у скрусе сэрца, вазьму яго ў рукі — гэтыя старыя, на адзінаццаць жаўруковых бойкіх галасоў, вясельныя шумёлы, страсяну іх ціхутка, адно сам для сябе, і развею нуды сваёй едкі дым.

Ах, як звіняць, рассыпаюць нястрымную звонкую радасць шумёлы!

І ўжо — ані глухой, быццам даўгавая яма, кватэры, ні тэлевізара, што паўжыцця праглынуў і нарэшце зрабіўся чорным квадратам Малевіча, ні самога цябе...

Толькі пырскі, залатыя пырскі з-пад капытоў — не снегу, не! — а гэтага задзірыстага звону ды дзявочага смеху, такога прызыўна-гарэзлівага, дарагога.

Міжволі рука пусціць лейцы вальней, і пад тонкі свіст лёгкіх грабавых палазоў пахіснуцца, падымуцца ў чысты, аж да рэзі ў вачах, блакіт неба высокімі аблокамі бярэзіны — і паплывуць, паплывуць над нашым захмялелым, маладым шчасцем.

А пасля раптам запяе ў вышыні, пакоціцца ўслед за намі шумёламі само нават сонца!

Дык хто, хто, скажыце, вінаваты, што сярэдняга, самага большага бома надрыўны, пранізлівы плач мы звычайна з-за смеху ягоных братоў галасістых не чуем або таксама прымаем за вясёлую песню?..

# СОНЕЧНАЯ ДАЛОНЬ

Колькі было тае вёсачкі — паўтара дзесятка хат, не больш. І назва даўно забылася, а вось жа — не-не дый згадаецца або прысніцца...

Быў пачатак чэрвеня, лета толькі разгойдвалася на сонечных вясёлых арэлях. Я стаю каля нязвычнай для нашых мясцін белай пад зялёнай абымшэлай дранкай мазанкі, што прытулілася да векавога вяза. Пра гэткія дрэвы здавён кажуць: убачыш — шапка ляціць з галавы. Камель мо ў тры абхваты, вяршаліна — сапраўдны разложысты гай. Тым ветраным пагодлівым надвячоркам ён падаўся мне зялёным мастом між зямлёю і небам. Пэўна, уначы, калі ўсё навокал аціхае і замірае ў сне, на ім нячутна мосцяцца на кароткі — карацей ад птушынага — начлег здарожаныя аблокі. Мусяць жа яны хоць дзе-небудзь ды адпачыць, каб далей плыць анікому няведамым шляхам.

Спыніў, аднак, мяне, здзівіў зусім не зялёны волат (яшчэ не звяліся яны, дзякаваць богу, на нашай пушчанскай зямлі), а менавіта зграбная, усё роўна як цацачная, хоць ты вазьмі яе на далонь, мазанка, адзін рог якой, якраз той, дзе, напэўна, знаходзілася покуць, быў прыўзняты магутным плячом суседа мо на метр вышэй над зямлёй, чым астатнія!

Колькі хат давялося пабачыць за свае маладыя гады! Усялякіх — вялікіх, як палацы, і колішніх, цесных, з гліняным шчэ токам замест падлогі; распісаных, нібы цацка, і пад счарнелаю саламянаю стра-

хой; з высокім, весела зашклёным ганкам і з шэрым палявым каменем каля дзвярэй, на якім, калі ёсць жаданне, можна ўбачыць людскія сляды...

А колькі яшчэ разоў на сваім вяку націсну, заміраючы сэрцам, на звонкую спеўную клямку!

Гэткую ж хату, што нібыта збіралася скочыць у неба — я, прызнацца, бачыў упершыню.

Не, я не мог абмінуць такі цуд. Спазнюся на аўтобус? Нічога, прыйдзе яшчэ адзін! — і рашуча завярнуў у расхрыстаны, загароджаны адно ад вуліцы надворак. Каля нізкаватых, як на мой рост, дзвярэй спыніўся, памарудзіў крыху: трэ было ўсё-ткі падумаць, як пачаць гаворку, каб людзі не палічылі за дзівака ці, чаго добрага, за горшага каго.

У галаву, бы знарок, нічога людскага не лезла. Папрасіць напіцца вады? Калі ласка, калодзеж на вуліцы, чэрпай і пі колькі ўлезе, абы на здароўе. Пачаць распытваць, як ходзяць аўтобусы? Таксама адразу можна здагадацца, што шукаю зачэпку: на прыпынку вісіць дакладны расклад. «А, была не была!..— і падбадзёрыў сам сябе: — Урэшце, на злодзея я не падобны, а там — што-небудзь прыдумаем».

Нямоцна піхнуў у дзверы сяней, і яны лёгка, нібы зачакаўшыся мяне, паплылі, адчыніліся насцеж. Праваруч былі яшчэ адны, абабітыя шэрай дзяружкай, з-пад якой тырчэла салома, дзверы — ужо ў саму хату. Што там ступіць да іх — адно імгненне — ды сёе-тое паспеў убачыць, пакуль рабіў тыя тры ці чатыры крокі.

У кутку, каля глухой сцяны, стаяў маляваны, чамусьці без пукатага века, куфар. О, як на ім успыхнулі, як загарэліся чырвоныя макі, як адразу раздаўся ўшыркі той цесны кут, калі з-за мае спіны на няроўны гліняны ток упаў жоўта-чырвоны сноп сонечнага святла! Міжволі спыніўся перад гэткім шчымлівым хараством. А вышэй, проста над куфрам,

за дашчэчкай, прыбітай да сцяны, маладзікаваў абкручаны ў нейкую анучку серп. Пэўна, даўным-даўно не зублены, пабіты сям-там іржою. І так падобна была да сонечнага зайчыка яго маленькая ручка!

Але навошта, для якой патрэбы берагчы гэтак серп у наш тэхнічны век? Хіба што каб пазрэзваць каля плота бадыллё ці пякучку-крапіву.

Раздумваць асабліва не было калі, і я ўпэўнена пастукаў у пашчапаны трэшчынамі дзвярны вушак. Ніхто не адзываўся. Тады я пацягнуў да сябе дзверы без дазволу.

— Добры дзень у хату! — гукнуў на ўсякі выпадак яшчэ з парога, але адразу ўбачыў: жытло пустое.

Ледзь не чвэрць усёй плошчы займала пашарпаная, даўно не беленая печ, што расселася па левай руцэ ад увахода і палохала чорнаю пашчаю незасloненых пелюсцяў. Насупраць яе да самай сцяны была прысунута доўгая, вузкая лава, з надламанай нагою. На лаве стаяў стары, без дужкі, кошык, адкуль выглядвалі некалькі слоікаў, гліняных паліваных місак, нават чорны, з крутою шыяю, збанок. Амаль усё з гэтага дабра было паколата, вышчарблена і таму нікому не патрэбна. І ўсё роўна некаторыя пасудзіны, калі браў іх у рукі, здаецца, яшчэ не паспелі астыць ад жару ці рук гаспадыні...

На покуці было намнога вышэй, чым каля печы, і значна святлей, хоць перад адным акенцам і выступала дужая спіна дрэва. У непафарбаваным, абы-як насланым памосце былі пракручаны чатыры дзіркі — няйнакш як для стала. Не падрэзваць жа ножкі, каб роўна стаяў ён. Што яшчэ? Са столі, акурат там, дзе вісела калісьці лямпачка, тырчэў кавалак дроту, а метры два ў бок ад яго да глухой сцяны — невялікі крук. Спачатку не сцяміў, для чаго ён, пасля здагадаўся: каб вешаць дзіцячую калыску.

Прысеў на лаву, абапёрся спінаю, каб не запэцкацца ў мел, аб падваконне, закурыў.

Сумна было і думна. Хтосьці тут жыў і не які там бабыль ці векавуха,— вунь як сцёрты ўсярэдзіне палец крука. Нараджаліся, гаравалі і радаваліся тут людзі. Як лісце вяза, ападалі гады. Апырыліся дзеці — падаліся ў вялікі свет. Пэўна, добрыя, светлыя выраслі людзі з іх, бо разам з матчынай калыханкай чулі над сабою пошум-голас зямлі сваёй, роднага неба. Не, не глухія жылі тут людзі, і гэтая ўздыбленая дрэвам покуць таму сведка. Дзе ж цяпер яны, што прымусіла іх пакінуць гэтыя сцены? Мо занемаглі зусім і перабраліся да дзяцей, а мо...

Хацеў паставіць ямчэй локаць, паварушыўся, аж за старэнькаю фіранкаю, з вышытымі пасярэдзіне дробнымі валошкамі, раптам азваўся, глуха задрынчэў, часта заікаючыся, жалезны дыктарскі голас. Сказаў колькі слоў, незразумелых, чужых, і замоўк. Радыё?! Сапраўды, на падваконні стаяла штосьці падобнае на радыёпрыёмнік. То была звычайная фанерная скрыначка з вялікім чорным вухам дынаміка ўсярэдзіне. І ніякай там афарбоўкі, розных бліскучых жалезкаў, нават не было відаць ручкі для павелічэння і памяншэння гуку. Што ж, невялікае багацце, таму, відаць, ніхто і не пакваліўся на яго. А дзеці яшчэ не паспелі дапасці сюды. Зацікаўлены, падсунуў бліжэй да сябе, узяў у рукі гэтае дзіця дваццатага стагоддзя. У самым куточку падваконня строга глядзела чорнае вока разеткі. Асцярожна пакратаў падведзеныя да яго аголеныя драцінкі — захацелася пачуць усё-ткі нармальны чалавечы голас. Радыёпрыёмнік чамусьці зацята маўчаў.

Затое за малымі акенцамі хаціны, у недасяжнай і зусім не страшнай нябеснай вышыні, чуўся ўстрывожаны пошум вяза, што спрачаўся-дужаўся з парывістым, упэўненым у сваёй сіле ветрам. І я нечакана

адчуў, як за маёю спінаю зусім па-чалавечы трымціць, не можа суняць ад хвалявання дрыжыкі, шэпчацца аб нечым з дрэвам сцяна хаціны. Доўга баяўся паварушыцца, не тое каб азірнуцца ды паглядзець, што там дзеецца: крый божа, незнарок парушыць, парваць гэты дзіўны, жывы ланцуг еднасці, апошнім звяном якога была мая істота.

Пра што я думаў, што адчуваў у тое незабыўнае шчаслівае імгненне? Думаў пра вышыню. Адчуваў— таксама Вышыню. Сцены, столь быццам расхінуліся, зусім не ціснулі, не гнялі мяне. І я ўбачыў: то ж ніякая не хаціна, а сонечная далонь зялёнага волата, што добраю рукою ўскінуўся над зямлёю.

Аніколі так вольна, палётна не чуў сябе! Адно вецер, вецер, вецер у твар! І так светла, так хораша навокал, што ўпершыню без натугі, усялякіх танных прыдумак, наяву ўбачыў твар Зямлі маёй — малады, дзявочы, святы! Жывы!.. Неразгаданы смутак лугоў-сенажацей, пушчанскія одум і строгасць, а перадусім нястрымная радасць сонечнага блакіту азёраў і рэк...

Зіркнула з-за аблачыны цікаўнае сонца: па ўзгорках палеткаў жытнімі хвалямі заблукала ўсмешка. Спачатку нібыта гарэзлівая, а праз хвіліну — сумная-сумная. Ці мо падалося мне, мо я абачыўся?

І раптам у маіх руках, быццам калючы дрот, варухнуўся голас з дынаміка. На гэты раз — зусім зразумелы.

— ...слухаеце апошнія паведамленні.— Затым яшчэ колькі слоў: — Як сапраўдныя гаспадары зямлі...

І далей, часта заікаючыся, на ўсе лады адно і тое ж:

— Сапраўдныя гаспадары! Перамаглі!.. Прымусілі!.. Узялі!.. Гаспадары...

Сапраўдныя гаспадары...

Балюча і брыдка слухаць такое. Брыдка найперш за самога сябе, бо колькі разоў бяздумна пісаў і казаў гэтыя словы... Калі нарэшце па-сапраўднаму зразумеем, адчуем, што ніякія мы не гаспадары, а толькі дзеці Зямлі сваёй, крывінкі яе?!

Не сунімаўся, не аціхаў за вокнамі вецер, і цяжкі, трывожны пошум магутнага дрэва хістаў пашарпаныя сцены хаціны. Раптам мне стала няўтульна і пуста тут, нават холадна. Я зірнуў на гадзіннік: да адыходу апошняга аўтобуса заставаліся хвіліны.

# ВЯРТАННЕ ЛЕТАЎЦА

У садзік і назад дамоў, як і належыць, яны ходзяць удваіх. Нічога асаблівага ў гэтых штодзённых вымушаных праходках, вядома, няма, і таму на першым часе бацька спрабаваў мяняць маршруты: то яны, калі выходзілі загадзя, давалі кругаля ледзь не праз увесь мікрараён, нібы шукаючы кагосьці, блудзілі па клетках ягоных пустых двароў, то заварочвалі да аўтамагістралі, каб прабегчы навыперадкі па шырокім, лічы трэць праезджай часткі, тратуары.

Спачатку дачка вельмі ўпадабала такія спаборніцтвы: бегчы даводзілася не абы-куды, а да цацачнага магазіна. Праўда, раніцою ён ніколі не працуе, ды праз шкло можна ўбачыць гэтулькі цікавага! Нярэдка бацьку даводзіцца цягнуць малую за руку, прасіць: «Пайшлі хутчэй, а то спознімся на фіззарадку!..» Дзяўчынка ніяк не можа нагаварыцца з сяброўкамі — прыгожымі лялькамі, якім адразу ж дала імёны і называе сваімі сястрычкамі. Сапраўднай жывой сястрычкі ў яе пакуль няма, хоць яна і просіць штовечар маму схадзіць да бальніцы і купіць... Але ўсё не шанцуе: то грошай тата мала зарабіць, то мама позна выберацца — дзяўчатак і нават хлопчыкаў ужо разбяруць.

Цяпер яны ходзяць напрасткі, паўз вокны суседскага дома. Сюдою, ускрай пясчанай пусткі, дзе штодня адбываюцца футбольныя баталіі, цяпер усе ходзяць. Вунь якая шырокая сцежка вытаптана! Тут

апошнімі днямі вельмі хараша ўспыхнулі восеньскімі барвамі два рады маладых клёнаў, а паміж імі тонкім залатым агнём (аж боязна ступіць на яго!) заняліся цыбатыя бярозкі. Дзіўна: выпхнешся з кватэры сонны, млявы, а толькі трапіш сюды, на гэтую невялічкую алейку, пад яе мяккае роўнае святло, і настрой адразу мяняецца, адчуваеш нейкую высокую лёгкасць у сабе, хоць па-ранейшаму застаешся маўклівы і ціхі.

Так пачуваў сябе бацька, а што дачка? Яна таксама сцішвалася, забывалася на свавольства, ішла паперадзе і, спяваючы сама сабе нейкую працяглую песеньку, збірала ў букет кляновае лісце. У канцы сцяжынкі букет атрымліваўся вялікі і прыгожы, ён харашэў жоўта-чырвонымі фарбамі, а твар дзяўчынкі — адкрытым дзіцячым захапленнем.

Першы такі букет яна занесла ў сад. І не толькі яна адна. А ўвечары, ужо дома, былі несуцешныя горкія слёзы: «Чаму новая няня сказала, што мы папрынасілі не букеты, а «венікі»?» Чым ён мог суцешыць уражлівую дзіцячую душу? Сказаць, што гэта звычайная людская чэрствасць? Дык яна сама адчула, паранілася аб яе і па-свойму назвала: «Кепская няня, я не люблю яе!» Так і заснула на руках з нездаровай крыўдай на тварыку.

А ранкам перад тым як жонка пабудзіла дачку, ён збегаў і назбіраў шыкоўны кляновы букет. Паставіў яго на табурэтку каля ложка малой. Колькі радасці было, калі яна ўбачыла гэткі цуд:

— Татачка, паглядзі!..

Ён прыбег з кухні, заскакаў, як усё роўна хлапчук, ад захаплення, ажно жонка заўсміхалася: «Зусім здзяцінеў чалавек!» А яго ўзяла яшчэ большая весялосць. Выхапіў пярынку сваю з пасцелі — пайшоў у танцы з ёю па пакоі. Ведаў — абавязкова будзе дапытвацца, хто прынёс букет. От каб прыду-

маць яшчэ цікавую гісторыю! Ды як назнарок, нічагуткі не лезла ў галаву. Прыйдзецца, відаць, зноўку клікаць на дапамогу зайца ці вожыка.

Атрымалася ж зусім не так, як думалася.

— Тата,— зіркнула цікаўнымі вачанятамі,— а калі да нас прыходзіла Ірына Уладзіміраўна?

— Якая Ірына Уладзіміраўна? — не зразумеў, перапытаў здзіўлены бацька, і толькі тады яму цюкнула ў галаву: «Здаецца, так завуць новую няню!» — Гэта цётка Восень у цябе гасцявала...

— Цётка Восень? — ад здзіўлення аж пакінула апранацца дачка.— І да Глеба таксама прыходзіла? Ён адзін з хлопчыкаў букет назбіраў... Раскажы, якая яна?..

Няўжо так і нараджаюцца казкі, самыя сапраўдныя казкі, а не якія там прыдумкі?

Яны вярталіся з садзіка. Дачка, як звычайна, скакала наперадзе. Паціху хадзіць яна яшчэ не навучылася — усё подбегам, подбегам. А бацька ўжо назіркам спяшаецца за ёю. Ён ведае, якія цяпер клопат у малой: хутчэй дабегчы да суседняга з іхнім садзіка. Там непадалёку ад уваходнай брамы, пад маладымі галавастымі каштанамі, стаіць блакітны дашчаны дамок. А ў ім, у драўляных клетках, жывуць зайцы. Не бяды, што яны не зусім зайцы, а, як кажа тата, зайцавы браты — трусы. Галоўнае — вельмі падобныя да сапраўдных зайцоў, намаляваных у дзіцячых кніжках. Вушы доўгія, аж дастаюць да спіны, белыя вусы тапырацца ў бакі і смешна варушацца. Здалёк чуюць гасцінец — салодкую морквy, што трымае ў руцэ дзяўчынка.

Сёння бацька падаспеў акурат на самае цікавае. Маўклівая і насупленая дачка стаяла насупраць пустой, з прычыненымі дзверцамі клеткі. Яшчэ два

дні назад, перад выхаднымі, у ёй жыў вялікі, зусім не баязлівы трус, які з задавальненнем церабіў моркву проста з рукі. Дзе ж ён падзеўся? Дзяўчынка абгледзела ўсё да адной клеткі — нідзе няма.

— Ну, чаго надзьмулася? — падышоў да малой дзед-вартаўнік, які даглядаў за жыхарамі блакітнага доміка.— Скажы, хто цябе пакрыўдзіў?

— А дзе мой зайчык? — ледзь стрымліваючы слёзы, выціснула з сябе малая.

— Чакай, чакай... А як тваё імя? — заклапочана спытаў дзед-вартаўнік.

— Алёна...

— Алёна?! Дык вось якая ты!..— на твары старога заблукала вясёлая ўсмешка.— Ну, супакойся, не плач. Пабег твой заяц у лес. Дзед Мароз яго паклікаў. Старэнькі ён, цяжка аднаму падарункі дзецям штукаваць, а на носе — Новы год. Вось і паклікаў ён даўгавухага на дапамогу. Ты яго морквай частавала?

— Частавала... Нават цукеркі прыносіла...

— Дык трымай... Заяц табе за гэта гасцінец перадаў,— і дзядуля дастаў з кішэні ватоўкі вялікую антонаўку — маленькае сонейка, ад якога адразу пасвятлела ў зайцавым доміку.

Была субота. Дзень выдаўся празрыста-сонечны і надзвычай ветраны, лістабойны. Яны доўга блукалі па гарадскім парку, які ўвабраўся ў казачныя, залатыя строі. Працавалі дзіцячыя атракцыёны, і Алёна, выстаяўшы даўжэзную чаргу ў касу, не мінула ніводнай гойданкі-забавы. Між тым, напэўна, маці даўно зварыла абед і чакала на палудзень.

Аўтобус, што хадзіў у раён, дзе яны жылі, як заўсёды, быў перапоўнены. Ехала ў асноўным моладзь. Апошнім часам на гарадской ускраіне пабудавалі шмат заводскіх інтэрнатаў, амаль цэлы гарадок. Бацьку давялося добра папрацаваць плячом, каб

выскачыць на сваім прыпынку. Вярталіся дамоў усё тою ж кляноваю алейкаю, якою штодня ходзяць у садзік. Малая бегла наперадзе, падкідваючы нагамі лістоту. Раптам, на паўдарозе, яна спынілася, смешна выцягнула ад здзіўлення шыю.

— Тата, што яны робяць?

Пасярэдзіне пясчанай пусткі, на якой гуляў, паднімаючы шматкі паперы і старых газет, парывісты вецер, стаялі адзін насупраць аднаго два хлапчукі. Той, што здаваўся адсюль большы ростам, раз за разам падкідваў угору нейкую паперу, а меншы — нібы дражніўся з яго і адбягаў убок. Праз момант мужчына здагадаўся: хлапчукі запускаюць папяровага змея.

Каго з нас у дзяцінстве не хвалявала напятая нітка ў руцэ? Хто з нас шчаслівымі вачамі не глядзеў на свайго летаўца, што крыляў высока-высока, пад самымі аблокамі. Летавец — такім прыгожым старым словам называлі папяровага змея ў вёсцы, дзе нарадзіўся, адкуль пайшоў у свет бацька дзяўчынкі.

І перад ім, быццам наяве, жыва паўстала родная хата з грушаю перад акном, шырокія наднёманскія лугі, высокі абрывісты бераг з норкамі ластавак-берагавушак... І на тым беразе яны, вясковыя падпыванцы, са сваім летаўцом, што смела лунае на далёкім супрацьлеглым баку. А незабыўныя паветраныя баі і перамогі — хіба можна забыць іх? Аднагодкам з бліжэйшай зарэчнай вёскі рэдка ўдавалася дастаць сваім летаўцом да іхняга высокага берага.

Мужчына глядзеў на хлапчукоў і з хваляваннем чакаў, калі нарэшце змей паднімецца ў неба. Аднак праходзілі хвіліны, а з запускам штосьці не ладзілася. Летавец смешна, хоць і даволі высока, скакаў уверх, а затым рэзка нырaў назад да зямлі.

— Тата, тата!..— тузанула за рукаў, напомніла пра сябе дачка.— Ну, што яны робяць?

— Неба цягнуць...— з усмешкай адказаў бацька — яму раптам успомніліся асобныя радкі з нейкага дзіцячага вершыка пра папяровага змея.

— А навошта яны яго цягнуць? — акругліліся вочы малой.

— Напэўна, каб паглядзець, ці глыбокае...

— Татачка, я таксама хачу паглядзець!

— Тады пайшлі хутчэй.

І яны пусціліся напрасткі да хлапчукоў.

Тыя сустрэлі няпрошаных гледачоў без асаблівай радасці. Сапраўды — хваліцца не было чым: папяровы змей з прыгожа намаляваным і зусім не страшным тварам ляжаў на пяску. Адзін хлапчук — большы ростам і старэйшы, відаць, па гадах, сядзеў на кукішках і асцярожна адрываў сцізорыкам тонкую планку, што крыжавалася з другою планкаю акурат пасярэдзіне паперы. Другі — кірпаты, з непаслухмяным белым чубам, падобны ўсім сваім выглядам да малога натапыранага вераб'я, стаяў трошкі ў баку ад сябрука і сачыў, як ідзе работа. Адчувалася: яму не падабаецца задумка адарваць планку. І ён, не зважаючы на незнаёмцаў, з крыўдаю ў голасе сказаў:

— Вось пабачыш, Эдзік, усё роўна ты яго не паднімеш. Раўнавагі не будзе.

— Падніму...— паціху, не зусім упэўнена адказаў Эдзік. А праз хвіліну зазлаваў: — Чаго ты раскаркаўся: не паднімеш, не паднімеш!.. Хіба доўга потым пярыну прыбіць да месца? А мо яна якраз і цягне яго да зямлі?

Неўзабаве планка была адарвана. Аднак і без яе не пайшло на лад: летавец па-ранейшаму не слухаўся сваіх гаспадароў. Хочаш не хочаш — трэба зматваць нітку.

Хлапчукі вярнуліся да сваіх партфеляў, каля якіх стаялі незнаёмыя дзяўчынка і дзядзька.

— Ну што, чыя ўзяла? — насмешліва спытаў Верабейчык у Эдзіка.— Хто табе казаў, што хвост трэба рабіць як мага даўжэйшы? — і ён доўгім запытальным позіркам змераў дзяўчынку, нібы тая таксама была ў нечым вінавата.

Але яна ні ў чым не была вінавата. Проста на яе косках красаваліся вялікія і цудоўныя капронавыя банты. І мужчына лёгка прачытаў хлапчукову думку па ягоных вачах.

— Хочаш, каб змей паляцеў? — нахіліўся ён над дачкою.— Высока-высока — вышэй нашага дома.

— Хачу...— нясмела кіўнула галавою дзяўчынка.

— Развязвай хутчэй бант... Прычэпім яго да хваста летаўца, і ён паляціць.

Дзяўчынка вагалася. Ёй шкада было сваіх бантаў. Яна вельмі ганарылася імі, любіла завязваць іх у садзік. Тады Верабейчык, закідваючы за плечы партфель, важна сказаў:

— Не бойся... Змей добры. Ён у малых стужкі назусім не забірае.

— Праўда? — перапытала ў бацькі дачка.

— Вядома, праўда! — запэўніў той.

— А ты мне потым, як памераем неба, банцік завяжаш?

— Абавязкова. Ну што, хлопцы, паспрабуем апошні раз запусціць?

Школьнікі хвіліну-другую аднекваліся: маўляў, дома ўжо зачакаліся, трэба рабіць урокі...

— Ах, якія дысцыплінаваныя вучні,— пасмяяўся з іх мужчына,— нават і ў сне сумуюць па сваіх кніжках!

Хлапчукі заўсміхаліся, і праз імгненне партфелі зноў апынуліся на пяску. Перш-наперш яны прыбілі на месца планачку. Потым чарга дайшла да бантаў.

У Эдзікавай сумцы, падобнай да малой, заплечнай майстэрні, знайшлася іголка з ніткаю, і хвост летаўца «падрос» амаль на паўтара метра. Спачатку была прышыта адна стужка ў гарохі, потым Алёна згадзілася развязаць і другі свой бант.

Наступіла самая адказная хвіліна. Мужчына, быццам хлапчук, адбег з летаўцом у руцэ ўбок, дачакаўся, пакуль не ўсходзіцца дужы вецер, і з забытым, вясёлым тахканнем у сэрцы шпурнуў над сабою крылатае стварэнне.

Папяровы змей гайдануўся спачатку далёка направа. Ён быў нізка, ледзь не чапляў сваім дзіўным хвастом зямлю. Потым яго паціху павяло налева, і проста на вачах ён паступова пачаў набіраць вышыню. Усё вышэй і вышэй...

— Ура-а-а!.. — закрычалі хлапчукі.

Дзяўчынка падбегла да бацькі. Твар яе праменіўся захапленнем. Яна ні хвілінкі не магла пастаяць на месцы. Скакала, узмахвала рукамі — хацела дапамагчы летаўцу падняцца яшчэ вышэй. І папяровы змей, весела ўсміхаючыся, адчайна тузаўся ў бакі, гатовы вось-вось парваць нітку.

— Паглядзі, паглядзі! — запляскала ў далоні малая.— Ён смяецца. Чаму ён смяецца?

— Мусіць, таму, што неба ву-у-унь якое глыбокае і чыстае...

— Тата,— раптам спалохана прамовіла дачка,— а летавец не ўцячэ ад нас? Ён вернецца назад?

— Не ўцячэ...— усміхаючыся, запэўніў яе бацька.— Абавязкова вернецца,— а ў самога перад вачыма было ўсё тое ж: родная хата з грушаю перад акном, шырокія наднёманскія лугі, высокі абрывісты бераг з норкамі ластавак-берагавушак...

# ПЕСЕННЫ КІРМАШ

Сучасная казка

## I

Жыў-быў жаўрук. Ён не так даўно з'явіўся на свет і бесклапотна сядзеў ва ўтульным, цёплым гняздзе з травінак, што непрыкметна мясцілася на ўзмежку жытняга мора і хмызняку. Ад жыта, нават і ў непагадзь, ішла добрая ласкавая цяплынь, а з хмызняку, увечары і ўранку, часта насоўваўся туман. Кудлаты, сыры, ажно прабіралі дрыжыкі. Тады наш жаўрук хутчэй хаваўся пад крылы сваёй мамы-жаўручыхі, заплюшчваў вочы і... апынаўся высока-высока пад воблакамі, вышэй за ўсіх жаўрукоў, што жылі на суседніх жытніх палетках. Яшчэ імгненне, здавалася нашаму маленькаму герою, і ён здзівіць свет цудоўнаю песняю! Вось яна, ужо трымціць у дзюбцы!..

А калі ён прачынаўся, расплюшчваў вочы, дык аказвалася, што ў дзюбцы ніякая не песня, а пярынка мамы-жаўручыхі, воблакі ж па-ранейшаму плывуць над галавою.

Можна пасмяяцца, канечне, з дзівака, але не варта. Хто з нас, скажыце, не марыў хутчэй стаць дарослым?

Тым часам неба на ўсходзе хтосьці старанна размалёўваў спачатку барвоваю, а потым ярка-чырвонаю фарбаю. Тата-жаўрук і мама-жаўручыха нецярпліва варушыліся ў цесным гняздзе і раптам імкліва, нават не развітаўшыся, узвіваліся ўгару, насустрач першаму праменю. Як шчыра віталі яны яго! Якімі цудоўнымі песнямі ўслаўлялі! Аж золкае наваколле

святлела ад удзячнай усмешкі. Жаўрук, як зачараваны, дзівіўся з такога хараства. Яму было вельмі радасна і адначасова трошкі сорамна за сваю бездапаможнасць. І тады жаўрук пачынаў настойліва падскакваць, няўмела ўзмахваць крылцамі.

— Паглядзі, які нецярплівы наш Званочак,— узбуджана казаў тата-жаўрук маме-жаўручысе.— Ягоныя аднагодкі толькі нядаўна ўбраліся ў пер'е, а ён ужо крылы мацуе.

І ўсцешаныя бацькі-жаўрукі дружна браліся за штодзённую карпатлівую работу: лавілі ўсялякіх мушак, казюрак, іншых дробных шкоднікаў, якія спяшаліся на здаровы жытні дух. Званочак толькі паспяваў разяўляць дзюбу, пакуль урэшце яму не абрыдлі гэтыя птушыныя прысмакі.

Над гняздом, нібыта ў паклоне, схіліўся наліты жытні колас. Ён быў самы буйны сярод сваіх суседзяў, але аднаго разу наляцеў чорны віхор і ледзь не зламаў сцяблiну. Здавалася, ёй ужо не выпрастацца і коласу нізавошта не ўбачыць сябе побач з вусатымі братамі. Кажуць, адна бяда не ходзіць, за сабою другую цягне. За колькі дзён з пустазелля прадзёрся паганы асот і ашчацініўся над коласам: маўляў, цяпер табе аніколі не ўбачыць сонца.

Жаўрук вельмі шкадаваў Жытнёвіка — такое было імя ў коласа,— а як пасобіць яму, не ведаў.

Нахабнае пустазелле, што як магло чаплялася за жытнёвую сцяблiну, з дня на дзень чакала, калі змарнеюць недаспелыя зярняткі. Аднак, на вялікую радасць Званочку, ягоны сябрук Жытнёвік не здаваўся, не хіліў ніжэй сваю прыгожую сонечную галаву. Наадварот, патрошкі паднімаў яе, ды, каб адолець асот, яму ўсё-такі не хапала сілы. І аднойчы жаўрук пачуў, як змораны колас шаптаў братам сваім: «Даволі мне цяпла і ветрыку для перамогі... Не хапае галоўнага — жаўруковай песні. Тая, што з

неба ліецца, да мяне не даходзіць з-за пякучых калючак асоту...»

«Дык вось, аказваецца, чым я магу дапамагчы Жытнёвіку! — узрадаваўся Званочак.— Я зараз так запяю, так зазвіню, аж гэтаму нахабніку асоту млосна стане!..»

Жаўрук хуценька пырхнуў на край гнязда, як мага шырэй разявіў дзюбку і...

Як толькі не спрабаваў ён пяяць! I заплюшчваў вочы, і падскокваў, і прысядаў нават — нічога не выходзіла. Заместа песні чулася нейкае хрыпенне альбо сіпенне, аж расхіналася на ўсе бакі жыта. А Жытнёвік як быў пад асотам — так і застаўся. Званочак разгублена трапятаў крылцамі, пакуль не надумаў паклікаць на дапамогу бацькоў-жаўрукоў. Ён голасна, як мог, піскнуў і быў упэўнены, што праз імгненне бацькі прыляцяць на ягоны кліч.

Так і ёсць — вунь мільганула ў вышыні чорная кропка. Як хутка яна расце! Але чаму такая вялікая?

«Трэба хутчэй хавацца!» — з жахам падумаў жаўрук, калі разбойніцкі чорны цень коршака закрыў паўнеба.

I раптам перад самым гняздом напярэймы злодзею кінуўся тата-жаўрук, а за ім — жаўручыха.

...Доўга яшчэ ласкавы ветрык калыхаў над жытнім полем тонкія шызыя пярынкі.

Так Званочак застаўся адзін.

## II

Непрыкметна насунулася ноч. Яна прынесла маленькаму жаўруку новыя пакуты. Без бацькоў утульнае гняздзечка раптам стала невыносна пустое і халоднае, і Званочак ні на хвіліну не заплюшчыў вачэй. Ён як мог туліўся да мулкіх, нават ка-

лючых травінак і ніяк не мог пазбавіцца ад непрыемных дрыжыкаў,— так злякаў яго коршак. А магло здарыцца куды горш, каб не тата-жаўрук і мама-жаўручыха... Іх цяпер не даклічашся, не дачакаешся. А ва ўсім вінаваты найперш ён сам, Званочак. Хіба не прасілі яны яго не вытыркацца з гнязда, асабліва ў гарачы поўдзень, хіба не раілі да часу памаўчаць?!. Цяпер, напэўна, прыйдзецца замаўчаць назаўсёды. Бо хто перадасць яму сакрэты жаўруковай песні, хто навучыць так цудоўна і моцна звінець?

Роспач малога птушаняці была чарней ад самай цёмнай ночы, і яно баялася нават уявіць сабе, што чакае яго наперадзе. Нарэшце пачало світаць, і страх нібы трошкі адлёг. Над гняздом нізка схілялася жыта, яно хвалявалася, настойліва пра нешта шаптала. Змучаны адзінотай, жаўручок прыслухаўся.

«Супакойся, маленькі»,— суцяшаў адзін ціхуткі голас. «Свет вялікі і добры»,— чуўся за ім другі спагадлівы галасок. «Твая бяда — наша бяда»,— горача даводзіў трэці. «Ты абавязкова знойдзеш яшчэ сваё шчасце,— упэўнена казаў чацвёрты, знаёмы голас Жытнёвіка.— Хутчэй выпраўляйся ў дарогу, бо толькі вецер мацуе крылы!»

Неўзабаве зусім развіднела. Але ранак выдаўся такі маўклівы, шэры, непрыветны. Не хацелася, вельмі не хацелася пакідаць Званочку роднае гняздо, але ён мусіў ісці па сваё шчасце. А якое яно, тое шчасце, наш жаўручок ужо здагадваўся. Вядома ж, яно ў песні! У звонкай жаўруковай песні, якая непарыўна лучыць срэбнаю ніткаю зямлю і неба. Толькі дзе шукаць яе, у якіх далёкіх невядомых краях? Гэтага ніхто не мог падказаць жаўруку, бо кожны знаходзіць сваё шчасце сам.

Заместа сняданку выпіў ён незамутнёную сцюдзёную расінку, нізка пакланіўся роднаму гнязду і

адважна пусціўся ў няблізкі шлях. Ён ішоў, а жыта над ім шаптала радаснымі галасамі. «Шчаслівай дарогі табе, жаўручок! І хутчэй вяртайся! Мы будзем цябе чакаць, наш брат...»

## III

Званочак упершыню выбраўся ў чужы невядомы свет. Яму аднойчы расказвала матуля-жаўручыха пра дзіўны вялікі хмызняк, у якім нібыта жыве мноства розных спевакоў. І знаходзілася тая птушыная краіна, паводле слоў матулі, не вельмі далёка, у тым баку, дзе хаваецца на спачын стомленае сонейка.

«Там я абавязкова навучуся звонкай жаўруковай песні»,— быў упэўнены Званочак і адчайна прадзіраўся праз пустазелле, што, як вядома, асабліва раскашуе на ўзмежках. Сапраўды, хмызняк кусціўся непадалёку ад жыта: колькі ўзмахаў крыламі — і ты там. Аднак маламу падарожніку дарога здоўжылася: ён жа не ўмеў яшчэ лятаць. І ўсё-такі рана ці позна, але жаўручок дадыбаў да славутага месца. Яго моцна ўразілі зялёныя бухматыя кусты і збуялы травастой, што вымахаў амаль вышэй за жыта. А яшчэ ў хмызняку пракідваліся на грудках крывуліны-сосны — яны на ўсё і на ўсіх глядзелі ганарыста, зверху.

Званочак чакаў, што хмызняк будзе ажно гудзець ад песень, а тут панавала насцярожаная зацятая маўклівасць. І быццам ні душы навокала. Нават матылёў не відаць.

«Мабыць, я не прыйшоў яшчэ,— разважыў сам з сабою адважны Званочак,— сапраўдны хмызняк наперадзе»,— і рашуча падаўся далей у таямнічыя нетры.

Доўга блукаў ён з надзеяй кагосьці ўбачыць ці

пачуць, але ўсе спадзяванні былі марныя. Здавалася, жыхары хмызняку знарок пахаваліся і затаіліся або наогул кудысьці немаведама чаго збеглі.

Нарэшце сцяжына прывяла жаўрука на лясную паляну. Яна была вельмі прыгожая. Быццам у дружным карагодзе сышліся сюды сёстры-бярозы, а перад імі шчодра рассыпаліся кветкі — белыя, жоўтыя, малінавыя. Як заварожаны, спыніўся Званочак каля гэтага хараства і аніяк не мог уцяміць, чаму яно такое сумнае, чаму не звініць радасцю... Пасля зразумеў: не хапае песні. Той самай песні, па якую ён прыйшоў сюды.

Жаўрук гатоў быў хутчэй пусціцца адсюль, але не ведаў, у які бок лепш пайсці. Паўсюды гаспадарыла насцярожаная цішыня.

І раптам увачавідкі ўсё перайначылася. Кветкі ўстрапянуліся, нібыта пасля доўгага сну, палахліва задрыжалі, ніжэй прыціснуліся да зямлі. Быццам шалёным ветрам прыгнала аднекуль матылёў. Яны замяцелілі над палянаю, нібы ўцякаючы ад кагосьці, затым пахаваліся ў траву.

Такіх незразумелых гульняў Званочак яшчэ не бачыў. Ён памкнуўся распытаць пра ўсё ў матыля, які ўчапіўся непадалёку за травінку, але той маўчаў і нават не дыхаў. А праз якую хвіліну хмызняк ажно застагнаў ад крыклівай пранізлівай песні. Жаўрук міжволі схапіўся за вушы.

— Ча-ча-ча! Песенны кірмаш! Ча-ча-ча! Песенны кірмаш!

На паляну выпырхнула шаноўная сарока-белабока. Яна скакала з дрэва на дрэва і безупынку маладзіла сваім балбатлівым сарачыным языком:

— У ча-чацвер! У ча-чацвер! Песенны кірмаш! Песенны кірмаш! Ча-ча-ча!

Здавалася, у хмызняк зляцеліся на сварку птушкі з усяго свету — аж закладвала вушы. На шчасце,

сарока здаволілася, прысела на вялікі сук, памаўчала, потым радасна ўзмахнула хвастом.

— І я дачакалася свята! Дача-ча-чакалася свята!

Жаўрук, хоць ніколі ў жыцці і не бачыў сароку, адразу па расказах мамы-жаўручыхі здагадаўся, з кім меў гонар сустрэцца. Сарачыная песня, вядома, не спадабалася маламу, але ён быў рады сустрэчы. Апрача таго, сарока трашчала на ўвесь лес пра нейкі «песенны кірмаш». Такая навіна не магла не зацікавіць Званочка, і ён адважыўся патурбаваць важную птаху.

— Добры дзень, цётка сарока! — ветліва зазвінеў яго галасок.

— І адпачы-чыць не дадуць...— незадаволена тузанула хвастом сарока.— Ча-чаго табе, трэба, малеч-ча?

— Дазвольце, калі ласка, задаць вам адно пытанне...

— Ча-чакай, ча-чакай... Прызнавайся, дражніў мяне, называў сарокай-белабокай?

— Што вы! Што вы!..— замахаў крылцамі жаўрук.— Я пра ўсіх, апрача асоту, толькі добрае казаў.

— Тады, напэўна, думаеш,— дапытвалася сарока,— што мая песня самая горшая ў хмызняку?..

— Я ніякіх песень, апрача вашай, яшчэ не чуў,— знайшоў што адказаць і не зманіць Званочак,— таму не магу параўноўваць.

— Ча-ча-ча! У чацвер — песенны кірмаш! — падскочыла сарока.— Усе пабачаць, хто возьме верх.— Ча-ча-ча! У ча-ча-цвер!..

— А чаму ў чацвер, а не ў нядзельку? — здзівіўся раптам малы.

Сарока ад апошняга пытання разгубілася. Яна доўга думала, а потым незадаволена сказала:

— Бо мне так лягч-чэй трашча-чаць, малеча!

— Прабачце, што адразу не здагадаўся,— зусім разгубіўся жаўрук і ўсё-такі знайшоў у сабе смеласць папрасіць: — Цётка сарока, калі ласка, запішыце мяне на кірмаш...

— Цябе — на кірмаш?! — здзівілася белабока.— Хіба ты здольны спяваць?

— Здольны! Здольны,— горача загаварыў Званочак.— Мне пра гэта жытнёвы колас казаў.

— Ча-ча-ча!.. Таксама знайшоў слухача,— зайшлася ад смеху сарока.— Каб трапіць на кірмаш, трэба быць сапраўдным спеваком. Табе спачатку павучыцца трэба.

— Ды я гатовы хоць цяпер! І ўжо трошкі вучыўся ў пчолкі. Мне вельмі падабаецца, як яна тоненька зумкае над кветкамі.

— Знайшоў у каго вучыцца — у пчалы! — здзекліва паглядзела на жаўрука сарока.— Табе спачатку ў вароны трэба павучыцца.

— У вароны?

— Але, у вароны,— упэўнена сказала сарока.— Яна хоць дзюбу навучыць разяўляць, бо з такім галаском, як у цябе, не варта паказвацца на кірмаш. Ча-ча-ча! Песенны кірмаш! У ча-чацвер, у ча-чацвер! Песенны кірмаш! Спяшайся, калі хочаш туды трапіць!

Тут сарока крутнулася над палянаю, разагнала ўсіх матылёў і паляцела далей зазываць усіх на песенны кірмаш.

Званочак зноўку застаўся адзін. Ён быў вельмі ўсхваляваны і адначасна разгублены. Яму хацелася трапіць на свята спеваў, але палохала тое, што яго могуць не прызнаць за спевака.

«Сапраўды, трэба хутчэй вучыцца!» — успомніў жаўрук наказ сарокі і подбегам кінуўся з паляны.

## IV

У навуку, як вядома, шлях няпросты. І не кожнаму адолець гэты пакручасты шлях. Між тым жаўрук шыбаваў па хмызняку ў ахвотку, нібы на пачатку падарожжа. Ён знарок прыспешваў хаду, дапамагаў сабе крылцамі і не заўважыў, як навучыўся падлётваць.

Сярод рознага галля і быльнягу такое ўмельства асабліва было дарэчы,— цяпер ужо нішто не замінала ў дарозе. Нават гразь на балоце і вялікія страшныя лужыны. Або вось гэты раўчук, што ледзьве прабіваецца праз нетры хмызняку. Раней, каб патрапіць на процілеглы бераг, цяжка прыйшлося б нашаму падарожніку. А цяпер — вясёлая забаўка. Падскочыў, пырхнуў колькі разоў крыламі — і ўжо на месцы.

Пераляцеў Званочак шчасліва цераз ваду, памкнуўся бегчы далей ды азірнуўся, каб развітацца з раўчуком. Моцна аблытала небараку паганая плывун-трава, а тут яшчэ ў адным месцы нейкая ламачына ўвалілася, перагарадзіла рэчышча. На яе начаплялася шмат травы, што зусім не давала хады крынічнай вадзе.

Пашкадаваў Званочак беднага раўчука, вярнуўся і выцягнуў на бераг крывую ламачыну. І тут адбыўся раптам цуд: хтосьці побач вельмі хараша зазвінеў, рассыпаўся гарэзлівым смехам. Здзіўлены жаўрук азіраўся па баках, шукаў вачыма шчаслівага спевака і не знаходзіў яго.

— Дзякуй табе, дарагі жаўручок,— азваўся хтосьці зусім блізка.— Ты вярнуў мне волю. Дык вазьмі ў падарунак маю песню, калі яна спадабалася табе.

— Спадабалася! Вельмі спадабалася! Яна так падобна да нашай, жаўруковай...— шчыра прызнаўся

Званочак.— Але ж я нават не ведаю, хто ты, як тваё імя...

— Няўжо не здагадваешся? — зажурчаў срэбным галаском спявак.— Я брат твой па песні — раўчук!

— Раўчук?! — аж падскочыў ад здзіўлення Званочак і апынуўся вышэй самых высокіх бухматых кустоў.— У мяне ёсць брат!

Нездарма кажуць: у радасці час не пешкі ідзе, а на крылах ляціць. Толькі адной песні хацеў навучыцца жаўрук у свайго названага брата, а забавіліся — і не згледзеў, як прагаварылі ўдвух добрых паўдня. Згадаў нарэшце жаўрук пра наказ белабокі, давай развітвацца.

Па праўдзе кажучы, дарэмна ён спяшаўся. Знаамітую вароніну школу доўга шукаць не давялося. Яе было чуваць яшчэ здалёк.

Непадалёку ад свайго гнязда, на галіне, важна расселася сама варона. Перад ёю, з шырока разяўленымі дзюбамі, пачціва застылі варанянаты. Ішоў урок спеваў. Варона тлумачыла:

— Галасней трэба, галасней! Шырэй адкрывайце горла. І роўных нам не будзе на кірмашы. Бо карканне — гэта не трымценне сініцы і не цвірканне вераб'я. Паспрабуем яшчэ раз...

Варона задрала ўгору дзюбу і ўзмахнула, нібы дырыжор, крылом.

— Ка-а-а-р!..— аж прыўстала на пальчыкі першае вараняня.

— Ка-а-ар!..— падхапіла песню другое вараняня і адчайна затрымцела крыламі.

— Ка-а-а-р! — мацней за ўсіх каркнула трэцяе вараняня — відаць, самае здольнае ў варонінай школе.

Ад такіх спеваў Званочак калаціўся нібы асінавы ліст. Яму хацелася хутчэй збегчы адсюль, але стрым-

ліваў наказ сарокі. А тут яшчэ варона пачала расхвальваць песню вараняят.

— Нядр-р-рэнна, нядр-р-рэнна... — пракаркала радасна яна.— Другі наш урок прысвячаецца...

«Усё роўна каб трапіць на песенны кірмаш, трэба прайсці праз гэтую дзіўную школу»,— падумаў сам сабе жаўрук і падаўся бліжэй да гарластых спевакоў.

— Пачакайце! Паслухайце мяне! Я таксама хачу вучыцца ў вашай школе!

— Хто ты? Як цябе завуць?! — аж прысела ад здзіўлення варона.

— Мяне завуць жаўрук Званочак...— паціху вымавіў наш падарожнік і адчуў, як зноўку яго пачынаюць калаціць нястрымныя дрыжыкі.

— Жаўрук Званочак? — здзівілася варона.— Якое прыгожае імя. Гэтаксама як і маё: вар-р-рона!.. А хто табе параіў сюды прыйсці?

— Сарока...

— А не падманваеш? — не верыла варона ў жаўрукову шчырасць: такога яшчэ не было, каб хтосьці з іншых птушак вучыўся ў воронінай школе.

— Каб стаць мне назаўсёды безгалосым, калі маню! — баючыся, каб яго не прагналі, горача сказаў жаўрук.

— Сарока толк ведае ў гарлавых спевах,— задаволена сказала варона.— Пасля такой рэкамендацыі я прымаю цябе ў сваю славутую школу.

— Новая перамога воронінай школы! — на ўвесь хмызняк загарланілі вараняты.— Вялікая перамога воронінай школы!..

Праз колькі хвілін заняткі працягваліся далей. Жаўрук стаў побач з варанятамі і ўважліва слухаў, што гаварыла варона.

— Зараз мы паспрабуем спяваць хорам,— як заўсёды, з задавальненнем націскала на гук «р» на-

стаўніца.— Пачынаюць спяваць адны вараняняты, жаўрук па маёй камандзе падхоплівае нашу песню...

Калі ўсе як след падрыхтаваліся, варона натхнёна ўзмахнула крылом.

— Ка-а-р-р!..— разнеслася на ўвесь хмызняк.

Нават сарачынае чачэканне ў параўнанні з гэткімі хрыпатымі спевамі здавалася цяпер салодзенькай мелодыяй. Яшчэ імгненне — і Званочак кінуўся б наўцёкі. Але тут варона махнула крылом, запрашаючы яго падхапіць песню.

Жаўрук на імгненне разгубіўся. Ён баяўся раскрыць дзюбку — а раптам нічога ў яго не выйдзе. Ах, каб побач былі тата-жаўрук ці мама-жаўручыха! І раптам Званочку прыгадалася нядаўняя сустрэча з раўчуком. От дзе гарэза! От дзе галасісты весялун! Званочак міжволі засмяяўся і неспадзеўкі нават для самога сябе заспяваў песеньку, што чуў ад раўчука. Вясёлую-вясёлую, звонкую-звонкую. Аж заплюшчыў вачаняты ад задавальнення і быў упэўнены, што настаўніцы таксама спадабаецца ягоны спеў.

Калі ж нарэшце скончыў і зірнуў вакол сябе, дык сустрэў зусім не тое, што спадзяваўся ўбачыць. Варона, як ад болю, моцна абхапіла галаву крыламі, непрыгожа згорбілася, быццам ёй на спіну ўзвалілі нейкі непасільны цяжар. А выхаванцы школы спеваў — вараняняты — усе як адзін страхотліва тарашчылі вочы.

«Мо неспадзеўкі насунулася якая-небудзь бяда ці пагроза? — злякаўся жаўрук.— Не, здаецца, паўсюды пануе цішыня...»

— Скажыце, вам спадабалася мая песня? —праз якую хвіліну далікатна запытаўся чужак-вучань у настаўніцы.

Варона, быццам глухая, маўчала, маўчала, а пасля закаркала на ўсё сваё вароніна горла:

— Кар-кар! І гэта ён называе песняй! Сор-р-рамна!

— Праўда! Праўда! Кар-кар! — падхапіліся са сваіх месцаў вараняняты.— Для нас, сапраўдных спевакоў, гэты звон — горш пакар-кар-рання! Прэч адсюль, недарэка!

І вараняняты чорнаю віхураю закружыліся над жаўруком. Званочак паспрабаваў быў растлумачыць, што гэткай цудоўнай песні ён навучыўся ў раўчука, што варта толькі ўслухацца ў яе... Але вараняняты не слухалі яго. Яны кружылі над ім і дзяўблі, скублі, пакуль жаўрук не тыцнуўся дзюбкаю ў зямлю і не заплакаў у роспачы.

## V

Хіба доўга пакрыўдзіць жаўрука? Даволі аднаго няўдзячнага слова — і ягонае трапяткое сэрца закалоціцца, зойдзецца ад невыноснага болю.

У беднага жаўрука ўсё скамянела ўсярэдзіне пасля вучобы ў знакамітай школе. Чаго-чаго, а такой «зычлівасці» ён не чакаў... Ды што зробіш, засталося хіба што выплакацца ды павярнуць дадому. Пра апошняе Званочак не хацеў, баяўся нават думаць, але іншага выйсця ён не бачыў. Бывай, кірмаш! Песенны кірмаш... І тут перад вачыма паўстаў надламаны злою віхураю колас, які не хіліў перад нягоднікам асотам галаву. Ад гэтага прыпаміну Званочку не палягчэла, а наадварот, аж не хацелася глядзець на свет.

Невядома, што было б далей, каб непадалёку ад сябе не згледзеў жаўрук сонечнага зайчыка. Яму так захацелася звычайнай дабрыні і ласкі, што ён знайшоў у сабе сілы падхапіцца з зямлі і пабегчы да зайчыка. А той дзівак — напэўна, з перапуду — пусціўся наўцёкі, толькі замільгалі белыя пяткі. Жаў-

рук напачатку далёка адстаў, а пасля ўспомніў пра крылы і амаль дагнаў хітрага ўцекача. Ды той у апошні момант некуды непрыкметна юркнуў і знік.

— Так не гуляюць,— пакрыўдзіўся Званочак.— Калі навыперадкі — дык навыперадкі, а навошта хавацца?..

Канечне, крыўдна было, аднак куды лягчэй, чым на варонінай страшнай паляне. Адно ўжо тое, што яму ўдалося вынесці ногі адтуль, падняло настрой.

— Гэй ты, ціў-ціў, хто пакрыўдзіў цябе? — нечакана пачуўся блізка бадзёры голас.— Чакай, а я цябе, здаецца, дзесьці бачыў... Ды от прыпомніць аніяк не магу.

— Жаўрук Званочак мяне завуць...— хуценька павярнуўся на голас Званочак.

— А-а, жаўрук... Прыпамінаю, прыпамінаю... Ну, а мяне ўсе і ўсюды ведаюць. Я — верабей!

— Пра вас мне таксама расказвала мама-жаўручыха,— сказаў Званочак.— Таму я вас, шаноўны, адразу пазнаў.

— Каго ж тады пазнаваць, як не мяне? — здзівіўся верабей.— А ты куды ідзеш?

Званочак не ўмеў маніць і расказаў пра ўсе свае прыгоды. І як сустрэўся з сарокаю, і як вучыўся ў варонінай школе, і што з гэтага ўрэшце выйшла...

— Знайшоў у каго вучыцца! — не на жарт абурыўся верабей.— Гэтыя ж вароны каркаюць, а не пяюць!

— Ды я, каб трапіць на кірмаш, і днём і ноччу згодны вучыцца,— прызнаўся жаўрук.

— Калі табе і трэба ў каго павучыцца,— упэўнена сказаў верабей,— дык гэта, ціў-ціў-ціў, спачатку ў мяне!

Жаўрук вельмі ўзрадаваўся такой прапанове: мара трапіць на песенны кірмаш яшчэ жыла ў яго маленькім сэрцы. Таму Званочак пачаў шчыра дзяка-

ваць вераб'ю і прасіць, каб той згадзіўся быць яго настаўнікам. І верабей — добрая душа — згадзіўся. Ад радасці жаўрук памкнуўся быў паказаць, на што ён здольны, але давялося сціснуць дзюбу і маўчаць.

— Перш чым вучыцца спяваць, вазьмі, будзь ласкавы, пёрка і змяці смяцінкі з майго каптана,— сказаў верабей.— І паспяшайся — кірмаш не за гарамі.

Жаўруку два разы не трэба было паўтараць. Ён моўчкі, у ахвоту, пачаў шчыраваць над брудным, выпацканым на ўсялякіх сметніках каптаном настаўніка. Неўзабаве вераб'іная апранаха глядзелася як новая.

— Малайчына, ты здольны вучань,— пахваліў верабей.

— Дык я ж і не пачынаў яшчэ вучыцца! — здзівіўся шчодрай пахвале Званочак.

— Не перабівай! — зазлаваў настаўнік.— Няўжо ты думаеш, што чаравікі буду чысціць я сам? Ах, які нездагадлівы і няўдзячны!.. Я да яго з усёю душою, а ён...

Праз якую хвіліну вераб'іныя чаравікі ажно блішчалі, і жаўрук шукаў вачыма, чым яшчэ дагадзіць строгаму настаўніку.

— А цяпер слухай уважліва! — загадаў верабей.— Галоўнае, ціў-ціў, не голас, а як паводзіш ты сябе на сцэне, як ходзіш, як трымаешся на ёй... Скажы, ты бачыў, каб хто прыгажэй за мяне хадзіў?! Глядзі!..

І верабей пачаў хвацка скакаць перад разгубленым вучнем.

— Вучыся, пакуль ёсць магчымасць!

Званочак, не раздумваючы, паспяшаўся ўслед за настаўнікам. Хутка ногі ажно гудзелі, а ў дзюбе было поўна зямлі. Не проста было скакаць па-вераб'інаму.

— Ага, не выходзіць! — узрадаваўся верабей. А ўсе зайздроснікі верашчаць, што нібыта я не ўмею танцаваць. Няхай спрытней скачуць, недалугі! А цяпер я пакажу табе, як буду выступаць на кірмашы.

Жаўрук — увесь увага, баяўся нават міргнуць, каб не прапусціць чаго галоўнага. Яму пашчасціла сустрэць спевака, які згадзіўся падзяліцца сваім умельствам, нічога не хаваючы.

Тым часам верабей скочыў на сярэдзіну паляны, ганарыста задраў угору дзюбу, адставіў убок нагу і так застыў, нібы чагось чакаючы. Званочак затаіў дыханне, спадзяваўся, што вось-вось пальецца, завалодае ўсім наваколлем прыгожая звонкая песня, а яе ўсё не было і не было... Тут немаведама пра што пачнеш думаць. Ці не падавіўся раптам верабей? А мо знячэўку праглынуў язык? Жаўрук разы тры абышоў вакол свайго новага настаўніка, але парушыць ягонае мудрае маўчанне не адважыўся. Тым больш што верабей нічагуткі не бачыў, закаціўшы вачаняты. Прызнацца, было смешна бачыць такое, але смяяцца не выпадала.

— Ну як, спадабалася? — зусім нечакана спытаўся задыхана верабей, нібы і сапраўды толькі-толькі саскочыў са сцэны.

— Ага, цікава...— не ведаючы, што адказаць, разгублена выціснуў з сябе Званочак.— Калі хто ўбачыць ненарокам, абавязкова спыніцца, каб падзівіцца...

— Ды гэта што!.. Я лепш магу! І ты, малы, дарэмна часу не марнуй, а запамінай, вучыся, спрабуй зрабіць хоць трошкі падобна на тое, што я раблю. І ты абавязкова трапіш на кірмаш. І ўсе адразу ўбачаць, што ты артыст.

Верабей зноўку падскочыў, згорбіўся, быццам у паклоне, задраў вышэй галавы адну нагу. Так зра-

біць не кожны здолее. Жаўрук і так і гэтак спрабаваў адбіць паклон, каб дагадзіць настаўніку. Але хіба ты зробіш лепш за майстра? Ды нізавошта. Званочак ледзь галаву не скруціў ад стараннай навукі. Пацямнела ўваччу, не мог свабодна павярнуць шыю, адным словам — перастараўся. А вераб'ю хоць бы што, скача ды выхваляецца:

— Пасля майго паклону раўні не будзе мне на кірмашы!

Крыўдна стала Званочку, ён трываў, маўчаў, а пасля як пацягнуў хто за язык спытацца:

— Паклон, вядома, патрэбны... А як быць з песняю? Я так яе і не пачуў...

— Ах ты няўдзячны!..— абурыўся, надзьмуўся ад крыўды верабей.— Я так стараўся, ціў-ціў, душу ўкладваў, ціў-ціў, а ён, прытвора, не пачуў...

— Прабачце, паважаны...— хацеў у апраўданне штосьці сказаць Званочак, ды субяседнік толькі даў утачыць яму два гэтыя словы.

— Ды ўсё навокала, ціў-ціў, зачаравана маёй песняй! А ты адважыўся такое плявузгаць...— не мог супакоіцца, скакаў ваяўніча верабей.— Напэўна, ты недачуваеш! Або немаведама чым затлуміў галаву. Паспяшайся да доктара дзятла. Ён уміг вылечыць цябе, ціў-ціў, і песні заадно сваёй навучыць. Скачы за мной хутчэй!

Дзе ж тут адмовішся, калі пра цябе так шчыра клапоцяцца. І жаўрук пацёгся ўслед за вераб'ём.

## VI

Хто не ведае ў лесе доктара дзятла? Усе ведаюць, усе чулі, і не толькі лясныя жыхары. Хіба што адзін небарака-жаўрук нічога не ведаў пра слыннага доктара, і таму было яму нават трошкі ніякавата. А верабей так хваліў, так хваліў дзятлаву на-

вуку, што Званочак неўзабаве подбегам шыбаваў за скакуном.

Праз колькі часу яны былі непадалёку ад сухастоіны-сасны, з якой ва ўсе бакі рассыпаўся па хмызняку моцны барабанны пошчак. У жаўрука закалаціліся каленкі — ледзьве плёўся ззаду. А вераб'ю, наадварот, не цярпелася як мага хутчэй пахваліцца перад дзятлам сваім вучнем. Таму ён пакінуў марудлага Званочка пад кустом арэшніку, строга наказаў яму нікуды не адлучацца, а сам паджгаў нацянькі. Сухастоіна была ўжо блізка, і ён як бачыш апынуўся каля сасны. Задраў угору галаву, пачаў шукаць вачыма сярод сукоў і сухіх галін дзятла, які быццам знарок заціх — напэўна, адпачываў. Урэшце згледзеў знаёмую чырвоную доктарскую шапачку, ціўкнуў што было духу:

— Заўсёды вострай дзюбы вам, шаноўны доктар!

— Тук-тук! Рады бачыць цябе тут-тут, верабей!..

— А я цэлы год займаюся з адным вучнем,— заціўкаў верабей.

Ад здзіўлення дзяцел ледзь не зваліўся з сука, на якім сядзеў: яму ніколі не даводзілася бачыць вераб'я, у якога ёсць свае вучні. Доктар зараз жа зляцеў з вяршаліны, пачціва прысеў каля настаўніка.

— Я вельмі рады, што ў вас ёсць вучні.

— І вы таксама можаце заснаваць сваю пеўчую школу,— упэўнена прамовіў верабей.

— Няўжо? — здзівіўся доктар.

— А я дапамагу знайсці вам вучня...

Ад гэткай удачы ў дзятла ажно закружылася галава: ён адразу ўявіў сабе, як будуць яму зайздросціць усе на свеце дзятлы. Такога ў іхнім птушыным царстве яшчэ не было.

— Клянуся сваёй дзюбай: дабра твайго ніколі не забуду! — радасна сказаў дзяцел.— За такую паслугу я табе аддзячу тры разы.

— Хвілiначку, шаноўны доктар!..

Верабей мігам крутнуўся да арэшыны і прывалок да сухадрэвіны збянтэжанага жаўрука. Дзяцел убачыў свайго вучня і крыху засмуціўся. Яму не спадабалася дзюба Званочка — надта ўжо была малая і кволая ў параўнанні з ягонай, дзятлавай. Ды нічога не зробіш — новую не купіш і не прыклеіш. З якою нарадзіўся, з такою ўжо і будзеш жыць у паднябессі.

— Ты не бядуй! — пачаў суцяшаць Званочка новы настаўнік спеваў.— Галоўнае, каб не была слабая галава. Калі не забаліць, абавязкова трапіш на кірмаш. А цяпер паслухай маю цудоўную песню.

Дзяцел зноўку ўзляцеў на самы вялікі сук, моцна ўчапіўся кіпцюрамі ў сухастоіну і пачаў з усяе сілы лупіць дзюбаю ў ствол. Па хмызняку загуляла раскацістае рэха. Званочак, ратуючыся ад дзятлавай песні, моцна заплюшчыў вочы і шчыльна, наколькі мог, затуліў вушы.

— Ну як, падабаецца? — скончыў дзяўбці сухастоіну дзяцел.

— Д-ду-душэўна над-д-дта,— заціўкаў, смешна заікаючыся, верабей.— Так д-д-душэўна, аж трасе мяне ўсяго.

— Чым песня лепшая, тым і трасе яна мацней! — ганарыста сказаў дзяцел і здзівіўся: — А чаму маўчыць мой вучань? Навошта ён вушы затуліў?

— Яму так спадабалася, так прыйшлася па душы ваша песня,— знайшоўся кемлівы верабей,— аж не хоча развітвацца з ёю, надумаў даўжэй патрымаць у вушах.

— Малайчына! — пахваліў дзяцел Званочка.— Ён на правільнай дарозе. А цяпер прыступім да заняткаў. Паглядзім, на што мой вучань здатны...

Верабей хуценька падскочыў да жаўрука, тузануў з усяе сілы за плячук:

— Чаго спалохаўся? Зараз жа цюкні дзюбаю ў хвойку!

— Я не ўмею...— ледзь выціснуў з сябе ад страху Званочак.

— А што тут умець? — фанабэрыста ціўкнуў верабей.— Навука невялікая... Паглядзі...

Ён хвацка крутнуўся да сухастоіны і з усяго размаху дзеўбануў. Што было далей, вы, напэўна, здагадаліся. У небаракі аж іскры пасыпаліся з вачэй, а на лбе імгненна вырас гузак.

— Так-так-так!..— задаволена забарабаніў доктар дзяцел.— Зусім нядрэнна для першага разу. А цяпер твая чарга, мой вучань.

Званочак баязліва пасунуўся да сухой і цвёрдай, нібы голая костка, хваёвай галіны. Ён надумаўся перахітрыць настаўніка: рэзка хіснуў галоўкаю ўперад і, ледзь дакрануўшыся дзюбаю да дрэва, тонкім трапяткім галаском павёў сваю, жаўруковую, песню. Навучаны горкім вопытам падчас навучання ў варонінай школе, жаўрук не адважыўся спяваць так безаглядна звонка, як тады. Ды па праўдзе кажучы цяпер у яго быў зусім іншы настрой. Перад вачыма неадступна стаяла роднае гняздзечка. Ах, як хацелася яму вярнуцца на свой палетак, пачуць над сабою ласкавы шэпт залацістага жыта, хоць дыханнем падтрымаць каласок у няроўнай бойцы з нягоднікам асотам!.. І Званочак не заўважыў, як жытнёвы лагодны пошум, трымценне тонкай срэбнай павуцінкі паміж сцяблінкамі сталі ягонай сардэчнай ціхай песняй.

Ды раптам збіў дыханне, прымусіў замаўчаць незадаволены і нецярплівы вокліч:

— Гэта не спеў!

Дзяцел, які прыляпіўся на галіне побач са сваім вучнем, сказаў:

— З такою песняю і не згледзіш, як цябе асві-

шчуць па кірмашы. А каб такой бяды не здарылася, рабі ўсё акурат так, як я скажу. Перш за ўсё заплюшчы моцна вочы.

Жаўрук паслухмяна выканаў загад настаўніка.

— Цяпер намёртва сцісні дзюбу...

Зноў жаўрук падпарадкаваўся: так сашчапіў дзюбу, аж забалела ў галаве.

— А цяпер з усяе сілы стукні па дрэве!

Дзяцел схапіў жаўрукову галаву за патыліцу і моцна таўхануў яе ў цвёрдую, як костка, галіну.

— Ту-у-ук!..— пачулася ў хмызняку глухое рэха.

А сам Званочак нават не войкнуў, распластаўся на зямлі ля камля.

— Чаго ён улёгся? — здзівіўся дзяцел.— Няўжо такі слабы на галаву?

— Ды не, шаноўны доктар! — трымаючыся за гузак, упэўнена праціўкаў верабей.— Ад радасці, што правільна ўзяў ноту, у яго закружылася галава. Ён адпачыць прылёг...

## VII

Песенны кірмаш! Найвялікшае птушынае свята. Ад шчэбету і свісту, чачэкання і каркання, буркатання і кування, цінькання і дзінькання, курлыкання і каркання з самага ранку хмызняк гудзеў, быццам пачапаная пчаліная калода. На вялікай паляне перад хвояй-сухастоінай сабраўся, мусіць, увесь птушыны народ. Зблізку і здалёку, маладыя і старыя. Скакаў ужо тут і наш знаёмы верабей. Ён перад усімі выхваляўся, што заснаваў сваю пеўчую школу, і некаторыя з птушак з пачцівасцю глядзелі на гаварыстага настаўніка. Ні на кога не зважаючы, важна шпацыраваў сярод птушынага натоўпу доктар дзяцел. Ён таксама меў чым пахваліцца: такой моцнай дзюбы не было ні ў аднаго спевака. А тут на-

сустрач шаноўнаму доктару сама варона ў цесным гурце сваіх гарластых вараняпят. Вось-вось яны павінны былі размінуцца, як раптам з-пад суседняга куста, быццам назнарок, выскачыў верабей і прашмыгнуў перад імі. Ад такой нечаканкі варона і дзяцел на момант разгубіліся і трэсануліся адно ў аднаго лбамі.

— Прасіце пра-ра-бачэння! — пакрыўджана пракаркала варона.— Я вам не дар-р-рую такой абразы!

— Тут-тут трэба падумаць, хто з нас вінаваты! — заківаў галоўкай у чырвонай шапачцы дзяцел.— Гэта вы траха не збілі мяне з ног!

— Якая бескультур-р-рнасць! — замахала крыламі варона.

— Пр-р-раўда! Пр-р-раўда! — закаркалі на ўсё горла вараняняты і закружыліся вакол разгубленага дзятла.

— Цудоўная рэпетыцыя перад спевамі! — пасміхаўся з дзятла і вароны хітры верабей.— А пакуль яны сварацца, я здзіўлю ўсіх сваёй песняй і стану першым спеваком на кірмашы!

Верабей скочыў на вялікі пень і радасна ціўкнуў на ўсю паляну:

— Сябры, канцэрт пачаўся! Першы выступаю Я!

— Па-ча-чакай! Па-ча-чакай!..— раптам пырхнула да вераб'я і спіхнула яго з пня сарока.— А ча-чаму ты, а не я? Я хачу-чу спяваць першай!

— Праўда! Кар-кар! Праўда! — падала свой голас варона.— Пер-р-ршай буду кар-р-ркаць я!

— Тут-тут штосьці не так! — таксама паціснуўся бліжэй да пня дзяцел.— Чаму я павінен маўчаць, калі ў мяне самая моцная дзюба?

Што тут усчалося! Такі гармідар — хоць вушы затыкай. Ніхто нікога не слухаў. І кожны з кірмашоўцаў быў упэўнены, што менавіта ягоная песня найлепшая ў свеце.

Тым часам з-за далягляду выплыла сонейка. Яно хуценька ўмылася расою, радасна пакацілася над блакітнаю сцяною далёкага лесу і раптам спалохана застыла на месцы. Замест вясёлых птушыных спеваў, якімі заўсёды шчыра віталі яго, сонейка пачула непрыгожыя бязладныя крыкі. І сонечны летні ранак адразу сапсаваўся. Вецер прынёс аднекуль змрочныя хмары, якія дыхнулі халодным дажджом.

А што наш маленькі Званочак? Куды ён падзеўся? Няўжо пасля дзятлавай навукі зусім згубіў надзею і жаданне трапіць на песеннае свята?

На пачатак свята жаўручок, вядома, спазніўся. Пакуль ён збіраў зёлкі, каб падлячыць дзюбку, свята пачалося. А калі Званочак трапіў на паляну, ён адразу знайшоў сароку.

— Цётка сарока! Цётка сарока!

— Ча-ча-чаго ты хо-ча-чаш? — незадаволена паглядзела белабока на жаўрука.

— Шаноўная цётка сарока! — усхвалявана зазвінеў Званочак.— Я скончыў вароніну школу... І ў дзятлавай, і ў вераб'інай вучыўся...

— Малайчына! Век жыві — век вучы-чы-чыся!

— Дык, значыцца, я магу парадаваць усіх вас сваёй песняй?

— Канеч-ч-чне! Канеч-ч-чне! — зачачэкала белабока і адвярнулася ад жаўрука.— Але спача-ча-чатку паслухай мяне!

Званочак на сароку не пакрыўдзіўся. Ён убачыў, што набліжаецца навальніца, і пачаў прасіць кірмашоўцаў дапамагчы сонейку дружнай песняй вызваліцца ад чорных хмараў. Ды дзе там! Кожны выхваляўся сваім голасам і зусім не слухаў другога.

«А калі раптам зноўку наляціць чорны віхор і пагне жытнія каласы? — спалохана падумаў жаўрук.— Трэба штосьці рабіць! Трэба ратаваць роднае жытняе поле ад бяды!..»

І Званочак адразу забыўся пра свята, імкліва ўзвіўся ў неба. Ён пачаў спяваць-расказваць, як дружна вясною кусцілася жыта, як пасля ўрачыста выплывалі з яго каласы... З імі лагодна гуляў малады веснавы вятрыска! А як забыцца пра першыя сонечныя промні, што гэтак шчыра братаюцца на світанні з каласамі?! Дзівосаў шмат было навокал — адно глядзі ды запамінай. Але асабліва Званочку запомнілася тое, як аднойчы на зямлю ўпалі кроплі неба. Такія блакітныя-блакітныя, прыгожыя-прыгожыя! Проста цуд! Мама-жаўручыха назвала іх кветкамі-валошкамі. А як забыцца на пахілены злою віхураю Жытнёвік, што не скарыўся нахабнаму асоту? Тут маленькі спявак адчуў сябе ніякавата, бо дагэтуль не вярнуўся з песняй на родны палетак. А абяцаў жа, абяцаў, што не забудзе роднае гняздзечка... І ён не забыў яго! Не! Абавязкова вернецца туды!..

Шмат яшчэ пра што расказваў высока-высока ў небе маленькі жаўрук. І непрыкметна шэрыя змрочныя хмары, што нізка плылі над зямлёю, нібы расталі, і зноўку ўсміхнулася сонейка! Весела, ласкава, як верны шчыры сябар. Паўсюды паднялі свае паніклыя галоўкі кветкі, а над імі ў зладжаным танцы закружылі матылі. А за музыку быў залаты чмель. Званочак убачыў гэткае свята, зазвінеў яшчэ мацней і радасней:

— Сонейка!.. Дзякуй табе, любае, што ты не пакінула нас у бядзе!

— Гэта табе дзякуй, жаўручок,— пачулася ў адказ,— што ты парадаваў мяне сваёй песняй!

Званочак разгубіўся: ён ніяк не мог паверыць, што падзякавалі менавіта яму, а не каму-небудзь іншаму. А сонейка ўсё ўсміхалася, ласкава гладзіла промнямі траву і кветкі.

— Званочак, ты падарыў нам усім свята!

— Сонейка! — захлынуўся ад шчасця маленькі спявак.— А што мне далей рабіць?

— Няўжо сам не здагадваешся? — пачуўся ўсё той жа добры, быццам матулін, голас.— Хутчэй аб-ляці ўсё наваколле, што засумавала па тваёй песні!

— Засумавалі! — загайдаліся, нібы ад ветру, палеткі збажыны.

— Засумавалі!..— адгукнуліся лугі.

І нават блакітнае крыло рэчкі махнула прыязна, паклікала да сябе жаўручка.

Яшчэ вышэй падняўся над роднаю зямлёю Званочак. Самога яго ўжо зусім не было відаць, але ягоную песню чулі паўсюды. Пачулі яе і ў хмызняку, на смешным песенным свяце.

— Ціў-ціў, хто так звініць? — здзівіўся верабей.— Пазнаў! Пазнаў! Гэта выхаванец мой жаўрук!..

— Пр-р-ра што ты кажаш, недар-р-рэка? — абурылася варона.— Вы чулі — ягоны выхаванец! Каб так спяваць, патр-р-рэбна вялікае гор-р-рла!

— Пр-р-раўда! Пр-р-раўда! — падхапілі вараняняты.

— Тут-тут без дзюбы моцнай не абысціся! — запярэчыў вароне доктар дзяцел.— Гэта мой вучань!

І на песенным кірмашы разгарэлася новая спрэчка. Але жаўручок яе не чуў. Ён па-ранейшаму спяваў высока ў небе.

Звіні, Званочак!

Звіні заўсёды!

Няхай ніколі не парвецца тая срэбраная нітка — твая песня, што так шчасліва лучыць зямлю і неба.

# РАЙСКІЯ СНЫ АЛЕНЫ КІШ

## I

У далёкія трыццатыя гады, позняю восеню ці зімою, калі ўсё рупліва было сабрана з палеткаў, агародаў, садоў, калі працоўны люд мог, нарэшце, перавесці дух ад спрадвечнага сялянскага клопату, на палявых дарогах і сцежках Случчыны можна было ўбачыць адзінокую постаць жанчыны, якая няспешна вандравала ад вёскі да вёскі. У руцэ — лёгкі кіёк з ляшчыны, за плячамі — сціплы клунак. А ў ім няхітрае мастакоўскае начынне, акуратна згорнутае даматканае палатно, акраец хлеба, некалькі печаных бульбін... Вось падарожніца пераступае парог сцішанай хаты, дае пацíху дабрыдзень гаспадарам, сумна праводзіць вачыма па цёмных сценах і прапаноўвае намаляваць дыван. Гаспадыня, канечне, не спяшаецца даць згоду. Мех бульбы — гэта сапраўды не надта вялікая плата, але ж неяк жылі дагэтуль і без маляванкі. Тады мастачка дастае з клунка сваё палатно, акуратна нацягвае яго на гліняным таку, што заместа падлогі, доўга крэсліць нейкія ўзоры хімічным алоўкам. Здаецца, самы час і за пэндзаль узяцца. Ды за вокнамі шэры вечаровы паўзмрок проста на вачах гусцее да цёмначы. Што ні кажыце, а самае важнае лепш за ўсё пачынаць раніцою. Тады і галава ясная, і рука паслухмяная, лёгкая. А пакуль можна пагутарыць з гаспадарамі, павячэраць разам з імі, прысеўшы з краю стала. У хаце, вядома ж, чулі пра гэтую дзівакаватую Алену Кіш, што нават сабаку ці ката не дае пакрыўдзіць. Таму

гаворка звычайна атрымліваецца нязмушаная, жывая. І не без кепікаў, бо надта ж нясcкладнае, недарэчнае жыццё ў госці. Хіба пойдзе нармальны чалавек так вось цягацца па чужых вёсках, па незнаёмых людзях? З восені да вясны. З году ў год... Не, не скажаш, што яна жабрачка, але маляванне яе падобна на дзіцячую забаўку. Гаспадарлівы цягавіты чалавек такою гульнёю займацца не стане. Але ж трэба неяк жыць і небаракам, няхай сабе і з чужой ласкі. Там кавалак хлеба ашчадзяць, тут бульбіну пададуць — перакідаецца як-небудзь да вясны, да маладой крапівы і шчаўя. А нязлосныя кепікі сцярпець можна, каб большай бяды не звалілася. Гады пайшлі гарачыя: калектывізацыя, змаганне з рознымі непрацоўнымі элементамі...

Назаўтра ў хаце ўвачавідкі святлела, быццам прыходзіла свята. Зачароўваў, адбіраў вочы жоўта-зялёна-блакітны дыван, які так і прасіўся на сцяну. І гаспадыня, не таргуючыся, хутчэй выбірала для маляванкі самае віднае месца ў хаце.

А потым прыбягалі суседкі. Дзівіліся, пляскалі ад захаплення рукамі, прасілі намаляваць такі самы відок. Алена, усміхаючыся, слухала кабетаў, абяцала выканаць іхні заказ, але адразу папярэджвала, што кожны новы дыван будзе трошкі інакшы, чым папярэдні.

Так мастачка заставалася на цэлы тыдзень, а то і на два ў гасціннай сялянскай хаце. Калі ў гаспадароў не было дзе павярнуцца ад гамангівай дзятвы, яна лёгка перабіралася да той жанчыны, якой акурат малявала дыван. Добрая пагаласка кацілася з аднаго канца вёскі ў другі, і найбольш цікаўныя прыходзілі зірнуць сваімі вачыма, што ўжо там за ўзорыстыя насценнікі, мо пустыя плёткі.

Забягалі няверкі на хвіліну-другую, а заставаліся надоўга. Балазе Алена нікога не праганяла, калі ма-

лявала. Хочацца глядзець — глядзі. Здаралася, гледачоў ці заказчыкаў падмывала штосьці паправіць на палатне, павучыць майстрыху. Каб ведалі яны, як тая спроба абернецца, дык не спяшаліся б высоўвацца з павучаннямі. Умела Алена ў нядобрую крыўдную хвіліну змаўчаць, не азірнуцца на калючы зняважлівы посмех за плячыма. І да апошніх сваіх дзён не навучылася бяздумна пэцкаць палатно пад нечую дыктоўку. Тут яна нікому не ўступала, малявала так, як падказвала сэрца. Ці не таму сярод тых нямногіх цудам ацалелых твораў мастачкі вы не знойдзеце такіх, што мы б назвалі аўтарскімі копіямі. Кожны яе дыван, няхай сабе і напісаны на вядомы сюжэт, істотна і прынцыпова адрозніваецца ад астатніх. Гэты факт яшчэ раз яскрава і пераканаўча сведчыць, што ў нялёгкую вандроўку па вёсках і засценках Случчыны Алену Кіш клікаў перш за ўсё высокі мастакоўскі дух, а не рамесніцкая патрэба зарабіць кавалак хлеба.

Запомнілася першая рэспубліканская выстаўка народных маляваных дываноў, што адбылася ў 1978 годзе ў залах Мінскага Палаца мастацтва. Здавалася, здзівіць, а тым больш уразіць нашага сучасніка, на якога абрынулася шалёная лавіна рытмаў і фарбаў канца XX стагоддзя,— справа нялёгкая, амаль немагчымая. А тут яму прапаноўваюць падзівіцца на тое, што зусім нядаўна, гадоў трыццаць ці дваццаць назад, можна было сустрэць ледзь не ў кожнай вясковай хаце, што трохі пазней некаторыя «вучоныя дзядзькі» ахрысцілі безгустоўшчынай, шэрым рамесніцтвам, таннаю, нічога не вартаю падробкаю пад мастацтва. Сапраўды, калі працавала выстаўка маляваных дываноў, чарга не выгіналася вужакаю ўздоўж Палаца мастацтва, ды можна смела сцвярджаць: большасць з тых, хто трапіў, няхай сабе і выпадкова, на гэта свята, свята народнага ўяў-

лення пра хараство і прыгажосць, не застаўся раўнадушным, не пакінуў залы з абыякавым халодным сэрцам. Помніцца, аснову экспазіцыі складалі традыцыйныя раслінна-дэкаратыўныя дываны, якія выканалі Алена Багаткевіч, Леанід Ючковіч, Марыя Папок, Уладзімір Бабіч, іншыя цікавыя самабытныя майстры. Пры пэўных агульных стылёвых рысах іх дываноў, характэрных для большасці рэгіёнаў рэспублікі, прываблівала і зачароўвала чыстая, звонкая маляўнічасць фарбаў, багацце і разнастайнасць кампазіцыйных вырашэнняў, урэшце, бездакорная пластычная раслінная арнаментыка.

І ўсё ж у гэтым зладжаным, сапраўды таленавітым хоры першым голасам, бясспрэчна, прагучала творчая спадчына Алены Кіш. Яна вылучалася не толькі і не столькі дзякуючы сюжэтнасці, высокаму кампазіцыйнаму і каларыстычнаму майстэрству твораў, а перад усім самым непаўторным мастакоўскім бачаннем навакольнага свету, тым бачаннем, што дае падставу гаварыць нам пра мастачку як пра адметную з'яву беларускай нацыянальнай культуры.

Творы Алены Кіш, нават калі пабачыў іх аднойчы, надзвычай ярка і выразна паўстаюць у памяці і праз гады. Іх нельга забыць, іх немагчыма зблытаць з іншымі, няхай сабе і падобнымі творамі. Глядзіш на дываны, створаныя гэтай простай жанчынай, якая прайшла толькі адну сялянскую навуку, і не перастаеш здзіўляцца сапраўды неўтаймоўнай яе фантазіі, што лёгка спалучала ў адзін незвычайны свет блізкія і любыя з маленства рэаліі вясковага жыцця з тым казачным, што існавала толькі ва ўяўленні, у мроях ці снах. І так пададзена ўсё густоўна, рамантычна-ўзнёсла і разам з тым без усялякай натугі, што адразу і ўсім сэрцам прымаеш гэты чароўны свет, уваходзіш у яго і адчуваеш, як радасна, вольна тут дыхаецца, жывецца.

Тое першае, хвалюючае ўражанне ад твораў Алены Кіш вярнулася да мяне зноў, калі надарылася шчаслівая магчымасць трапіць у майстэрню вядомых мастакоў братоў Уладзіміра і Міхася Басалыгаў. Менавіта намаганнямі перш за ўсё Уладзіміра была вернута з небыцця і здзівіла шматлікіх аматараў народнага мастацтва невялікая частка творчай спадчыны таленавітай майстрыхі. Доўга мы разам як зачараваныя глядзелі на дываны, распісаныя Аленай Кіш, і я папытаўся ў мастака, калі ён упершыню сутыкнуўся з гэтым харастовом, з гэтым вялікім душэўным багаццем.

«Першую сваю сустрэчу з дыванамі Алены Кіш я не магу пазначыць нейкім канкрэтным часам,— расказаў мне У. Басалыга.— Гэта было ў далёкія дзіцячыя гады, як толькі я пачаў усведамляць хараство і прыгажосць у свеце, у прыродзе.

Адно магу цвёрда сказаць: адбылася тая шчаслівая для мяне сустрэча ў вёсках Слуцкага раёна — Забалаць, Заполле, Васілінкі, Бокшыцы. Сам я жыў у Слуцку, а падчас летніх канікул маці нас выпраўляла да дзеда і бабы. Вядома ж, гасцілі мы і ў сваіх сваякоў. Час быў нялёгкі, галодны. У нас не вярнуўся з вайны бацька. А ў вёсцы мы за лета неяк ажывалі, набіраліся сіл. Тыя часы запомніліся, запалі ў душу вельмі глыбока. І сярод незабыўных дзіцячых ураженняў найбольш запаў у памяць дыван Алены Кіш. Бывае, ён з'яўляецца і ў сне. І тады прыгадваецца ўсё нанова. Вось ты маленькі бегаеш па двары, па вуліцы, за аколіцай. З самага ранку бегаеш. Ззяе сонца. Неба блакітнае-блакітнае. Зграладаўся, кідаешся ў хату па скарыначку хлеба. Адразу за парогам цябе сустракае глыбокая спішаная цемень. І ў гэтай цемені на сцяне ў хаце дзіўная квецень дывана. Я мог тады прыбягаць у хату дзесяткі разоў. І кожны раз у маю ўражлівую дзіцячую душу трапляў насценнік.

Яго немагчыма было не ўбачыць. Таму дасюль я помню, што такія дываны віселі над ложкамі, у сенцах, дзе ўлетку стаяў ложак. Яны вельмі ўпрыгожвалі сенцы, хату,— як сонейкі былі, што свяцілі і ўдзень і ўночы. Асабліва цікава было глядзець на іх раніцаю, калі прачынаешся. Бабуля ці дзед даўно ўжо тупаюць па гаспадарцы на двары, сонца прабілася праз шыбіну і асвятліла дыван... Здавалася, трапляеш у казку! Тады я, канечне, не разумеў, чаму менавіта намаляваны львы, чаму такія дзівосныя птушкі і дрэвы, але кожны раз мяне нешта зачароўвала, будзіла маё ўяўленне. Такое — не забываецца».

«Хацелася б пачуць таксама пра вашы пошукі твораў Алены Кіш, пра пошукі звестак пра жыццёвы лёс самой мастачкі»,— распытваў я далей гаспадара майстэрні, ведаючы, што кожны згаданы ім факт вельмі прыдасца пасля ў асэнсаванні намаляванага слуцкай майстрыхай.

«Мінула шмат гадоў пасля тых першых незабыўных уражанняў ад казачных насценнікаў,— з ахвотаю працягваў апавядаць мне Уладзімір Басалыга, на што, дарэчы, ён вялікі майстар.— Пасля заканчэння мастацкага вучылішча, трохі пазней тэатральна-мастацкага інстытута нейкі час мне давялося працаваць галоўным мастаком упраўлення мастацкай прамысловасці рэспублікі. Менавіта тады і сутыкнуўся я па-сапраўднаму, што называецца твар у твар, з праблемамі развіцця народнага мастацтва, народных рамёстваў. І не дзіва, што мне зноў прыгадаліся бачаныя ў маленстве дзівосныя дываны. Быў пачатак сямідзесятых гадоў. Час аказаўся бязлітасны да маляванак слуцкай майстрыхі, і ўсё ж сёе-тое захавалася. Аднаго разу, калі набліжалася святочная для нашай сям'і дата, родная мая цётка спыталася ў мяне: «А што ж вам падараваць, галубкі?» Я ведаў, што цётка не пашкадуе грошай на падарунак — яна

нас вельмі любіла. Аднак, на вялікае здзіўленне ёй, я папрасіў: «Цётухна, можа, вам не шкода будзе таго дывана, што вісіць на сцяне ў сенцах...» Цётка неяк схамянулася, пацiснула плячыма — яна ніяк не магла паверыць, што і такое можна дарыць. Усе ў хаце адносіліся да насценніка звычайна, маўляў, старызна... Але калі я пачаў настойліва прасіць і тлумачыць ёй, чаму хачу мець гэты насценнік, яна зразумела мяне, сціпленька загарнула дыван у прыгожую дамотканую посцілку. Так у маёй майстэрні з'явіўся першы дыван, які называўся «Рай». І калі я прыгледзеўся да свайго набытку ўжо вачыма дасведчанага, спакушанага ў народным мастацтве чалавека, я зразумеў: перада мною вельмі выдатная з'ява беларускага народнага мастацтва. К таму часу я ўжо ведаў, хто такі Анры Русо, Пірасмані, Генераліч, Прымачэнка, Белакур... Я ведаў пра іх мастакоўскі лёс, пра створанае імі хараство, якое яны так шчодра падарылі людзям. Іх называюць мастакамі-самавукамі, але іхнімі творамі не перастаюць захапляцца ва ўсіх кутках зямлі. Пазней, калі мне давялося працаваць у камісіі па народным мастацтве пры Саюзе мастакоў БССР, міжволі падумалася: будзе вельмі добра, калі за два-тры гады сваёй дзейнасці, не разменьваючыся на дробязі, мы здолеем вярнуць нашаму народу такое слаўнае імя. Гэта апраўдае ўсю нашу работу. Маю задуму падтрымаў Яўген Кулік, які тонка адчувае народнае мастацтва, яго спецыфіку. На пошук новых твораў мастачкі, яе імя і прозвішча я заклікаў усіх сваіх родзічаў, у якіх былі ці захаваліся насценнікі. І тут удача не адвярнулася ад мяне. Асабліва вялікую каштоўную дапамогу я атрымаў ад маёй роднай цёткі Варвары Палазнік — адметнай ткачыхі, чалавека, які за сваё жыццё стварыў шмат адмысловых посцілак, абрусаў, ручнікоў. Яна зберагла дываны «Дзева на водах» і, на вялікае шчасце,

запомніла імя і прозвішча мастачкі. Менавіта ад Варвары Палазнік я даведаўся, як працавала Алена Кіш, як называла яна свае маляванкі, колькі і як ёй плацілі за работу. Мінула яшчэ некалькі гадоў, і мне пасля доўгіх настойлівых пошукаў удалося сустрэцца з роднаю сястрою майстрыхі — Нінай Дзядзюшка, якая жыла ў Грозаве. Ад яе я пачуў пра апошнія дні старэйшай сястры, атрымаў фотакартачку з пашпарта Алены. І ўсе гэтыя звесткі разам, як скупыя мазкі, далі магчымасць хоць неяк акрэсліць жыццёвы і творчы шлях мастачкі. А пра сапраўдную значнасць створанага ёю — сведчаць найперш самыя дываны, якім наканавана доўгае жыццё ў мастацтве».

Час страшэнна імклівы, і з кожным годам усё радзей сустракаюцца на Случчыне людзі, якія помняць мастачку, здольныя хоць што-небудзь расказаць пра яе вандроўкі і маляванне. Таму наш першы абавязак занатаваць усе вядомыя на сёння звесткі пра майстрыху, паклапаціцца пра іх праўдзівасць і дакладнасць. Канечне, праўдзівасць і дакладнасць у нашым выпадку вельмі адносныя, бо зусім не падмацаваны дакументальна, і ўсё ж будзем верыць тым людзям, з якімі давялося гутарыць Уладзіміру Басалыгу. Зараз дакладна вядома, што Алена Кіш нарадзілася ў вёсцы Леніна Слуцкага раёна. Раней вёска называлася Раманава. Год нараджэння — 1896-ты. Так, прынамсі, падае ў сваім артыкульчыку пра мастачку, змешчаным у трэцім томе «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», У. Басалыга. Праўда, падчас адной з нашых гутарак, запісаных на магнітафон, ён назваў яшчэ адну дату — 1889 год, бо са слоў Ніны Дзядзюшка, сястры мастачкі, Алена Кіш загінула ў 1949 годзе, калі ёй было шэсцьдзесят гадоў. Высветліць дакладную дату і год нараджэння, на жаль, пакуль не ўдалося, бо Ніна Дзядзюшка не захацела

паказаць пашпарт сястры, згадзілася аддаць толькі фотакартку з дакумента, якая ўпершыню была надрукавана ў часопісе «Беларусь» (№ 9, 1986 г.). Пытанне з годам нараджэння, як бачым, застаецца пакуль не высветленым і чакае свайго даследчыка... Сям'я Кішаў была мнагадзетная. Самы старэйшы — Мітрафан, з дзяўчат — Алена. А ўжо за ёю нарадзілася яшчэ шасцёра дзяўчат. Наймалодшым у сям'і быў Сцяпан, які памёр у маладыя гады. Андрэй Кіш, бацька будучай мастачкі, быў чалавек масцеравіты, за што ні браўся — усё мог зрабіць сваімі рукамі. Напэўна, яго здольнасці перадаліся і дзецям. Вядома, што Мітрафан пазней стаў першым на ўсю акругу цеслем і нават, калі была патрэба, нешта падмалёўваў у слуцкай Варварынскай царкве. Любілі маляваць і сёстры. Але самай здольнай сярод іх аказалася Алена. Надта вучыцца — ёй не было часу: дапамагала бацькам па гаспадарцы, паднімала разам з імі малодшых дзяцей. І ўсё роўна Алена не пакідала маляваць. З гадамі гэтая душэўная патрэба перарасла ў прызванне, у жыццёвае прызначэнне. Час, успомнім, быў вельмі цяжкі, галодны. Пракарміць такую вялікую сям'ю нялёгка: калгасы адно станавіліся на ногі. Дзесьці ў пачатку трыццатых гадоў, каб падтрымаць сям'ю, Алена рушыла з мастакоўскім начыннем у першую вандроўку па навакольных вёсках. Вядома таксама, што нейкі час яна разам з сёстрамі жыла перад самаю вайною ў Слуцку. Напэўна, яны пераехалі туды, каб неяк пракарміцца пасля смерці бацькоў. Потым пракаціліся гады Вялікай Айчыннай, пасля якіх было не да малявання. Людзі жылі ў зямлянках, трымаліся на адной нішчымнай бульбе. З усіх сясцёр замуж выйшла адна малодшая Ніна, менавіта да яе і перабраліся адразу пасля вайны астатнія сёстры. Якое тое жыццё ў Грозаве было — можна толькі здагадвацца... На мясцовых могілках

адна каля аднае выраcталі магілы сясцёр Кіш. Пэўна, адчувала сябе лішнім едаком у чужой сям'і і Алена. А дапамагчы — нічым не магла. Рэдка хто браў яе маляванне. Траплялiся і такія «разумныя галовы», якія лаялі яе гультайкай, нахлебніцай. Чуйная, трапяткая душа мастачкі, надламаная бясконцымі нягодамі, урэшце не вытрымала: жанчына ўтапілася ў маленькім раўчуку, што працякае непадалёку ад Грозава... Вось на сёння і весь жыццяпіс сялянкі-мастачкі, ад якога балюча шчыміць на сэрцы. На грозаўскіх могілках вам пакажуць чатыры магілкі сясцёр Кіш. Аленіна — крайняя справа... Пакланіцеся, калі лёс вас закіне сюды.

## II

Расказваць пра дываны Алены Кіш лёгка, радасна і адначасна няпроста. Намаляванае рукою слуцкай майстрыхі не проста заклікае да роздуму, яно найперш абуджае фантазію, вяртае ў забыты свет дзіцячай казкі. А там, успомніце, магчымы любыя дзівосы.

Вось, напрыклад, дываны «У райскім садзе» і «Рай», у якіх мастачка выкарыстоўвае адзін і той жа ўлюбёны сюжэт. Сюжэт адзін, а творы атрымаліся вельмі розныя і аднолькава ўдалыя. Так, калі ў першым з названых дываноў мы бачым казачнае відовішча, дзе па суседству з дабрадушнаю параю магутных ільвоў застыў сярод разлапістых прыгожых дрэваў у здзіўленым чаканні нікім не бачаны рахманы трохрогі алень, падобны да жырафы — вось яна жаданая райская гармонія — дык на другім палатне пагэтая тэма не проста прыкметна пашыраецца і паглыбляецца, а набывае прынцыпова новы змест. У цэнтры кампазіцыі «Рай» — блакітнае возера. На вадзе ў лодцы дзве прыгажуні, а на другім плане за

імі ўсё тая ж неразлучная пара львоў, што, як нам думаецца, сімвалізуе вернасць і згоду ў каханні, у сям'і. А на пярэднім плане, акурат насупраць дзяўчат, на левым ад нас беразе яшчэ адзін леў, а на процілеглым — бусел... Так, бусел! Ці трэба казаць, даводзіць, што гэта ўспрымаецца як добры знак на шчаслівае каханне, на светлы чалавечы лёс. А навокал раскашуе прырода, няхай сабе і стылізаваная, але наша, беларуская. І як у ёй усё гарманічна паяднана: бярозы, ільвы, экзатычныя блакітныя птушкі, бусел... Скажыце, хіба можа быць нейкі іншы, больш шчаслівы і прыгожы рай, чым гэты, што з дзяцінства навакол цябе, у якім ты жывеш, радуешся і засмучаешся, ненавідзіш і кахаеш?

Даўно вядома, здзівіць на палатне дадзена шмат каму, а вось уразіць на ўсё жыццё — нямногім. Так, Аленіны насценнікі не здзіўляюць, а ўражваюць, таму пры ўсім сваім багатым уяўленні да трактоўкі вобразнага ладу твораў мастачкі трэба падыходзіць далікатна, з абавязковым улікам традыцый маляваных дываноў, народнага ткацтва. У нашым мастацтвазнаўстве ёсць ужо спробы асэнсавання творчай спадчыны Алены Кіш, але яны пакуль надта ўжо кволыя. Сапраўды, такія тонкасці, як перспектыва і прапорцыі, заказчыкаў не цікавілі — было б прыгожа! Мабыць, не ведала такіх мудроных слоў і мастачка. Тым не менш яна (што асабліва выяўляецца, калі супаставіш некалькі яе палотнаў) гэтыя тонкасці не проста глыбока адчувала і разумела, а, што не менш важна, паслядоўна захоўвала ў гарманічным яднанні са сваёй задумай. Таму на яе палотнах часцей за ўсё пабудовы выступаюць як характэрная непадзельная дэкаратыўная частка кампазіцыі, тады як ільвы, алені, птушкі нясуць перш за ўсё сэнсавую, сімвалічную нагрузку. Менавіта яны — выказнікі аўтарскіх думак, яе душэўных перажыванняў, памкнен-

няў. Гэта добра відаць ва ўсіх без выключэння знойдзеных на сёння дыванах Алены Кіш, а найбольш ярка, на маю думку, выявілася ў насценніку «Ліст да каханага». Сюжэт яго нескладаны, няцяжка пераказаць у некалькіх словах. Самотная дзяўчына праз спагадлівую птушку дасылае свайму каханаму ліст. Што ў ім напісана — лёгка здагадацца. Напэўна, кепскія дзявочыя прадчуванні, што той, каго яна шчыра ўпадабала, забыўся на вернасць, бавіць час з іншымі дзяўчатамі. Ад такой думкі ўражлівае юнае сэрца, што вавёркаю скача ў грудзях, хапае кіпцюрамі птушка рэўнасці і страху і, здаецца, вырывае яго з грудзей!.. Вось, бадай што, і ўвесь сюжэт, як ён прачытаўся асабіста мне. Застаецца толькі падзівіцца дасканала пабудаванай кампазіцыі, кожная частка якой не проста на месцы, а рытмам пісьма, непаўторным яркім каларытам злучана з усімі астатнімі часткамі, добра працуе на агульную задуму твора.

І яшчэ. Глядзіш на дываны «Дзіва на водах», ужо ўспомнены тут «Ліст да каханага» і міжволі задумваешся: адкуль мастачка чэрпала для сваіх твораў сюжэты, чаму яны ў большасці сваёй падкрэслена казачна-фантастычныя? Лягчэй за ўсё спаслацца тут на мастакоўскае ўяўленне аўтаркі. Але ж яно таксама распускаецца не на пустым месцы, мае свае карані... Адно можна сказаць пэўна: мастачка жыла адразу як бы ў двух светах. Першы быў звычайны, шэрабудзённы, з заўсёдным клопатам пра заўтрашні дзень з усімі яго бедамі і крыўдамі, з мулкімі лавамі па чужых хатах, дзе таксама радасць гасціла рэдка. І як пратэст супраць такога нецікавага пуднага жыцця — другі свет, які мы бачым на дыванах майстрыхі. Тут жа гучыць песня суладдзя, харства, да чаго так імкнецца ўражлівае мастакоўскае сэрца, што жывіць яго, дае крылы да палёту, нягледзячы на ўсе

кціны і здзекі, неўладкаванасць, бясхлеб'е. Сцвярджаючы гэта, я перш за ўсё маю на ўвазе насценнікі «У райскім садзе», «Рай». Асмелюся сказаць, што некаторыя свае сюжэты Алена Кіш брала з самога жыцця. Напрыклад, той жа «Ліст да каханага»... Напэўна ж, былі ў хатах, дзе спынялася мастачка, дзяўчаты на выданні, якія шчыра спавядаліся вачыма ці песняй пра сваё каханне, пра чорную хлапечую здраду. А хто ўмее бачыць і слухаць, той умее тварыць. Пэндзаль пасля такой споведзі сам прасіўся ў руку.

Сярод усіх на сённяшні дзень вядомых твораў Алены Кіш ці не самы адметны і складаны дыван «Дзева на водах». Ні сюжэтна, ні кампазіцыйна ён непадобны да астатніх. Па сутнасці перад намі не адзін, а два дываны, якія цесна ўзаемазвязаны творчай задумай аўтаркі, дапамагаюць правільна зразумець яе сэнс. Проста на азёрнай вадзе стаіць дзяўчына са шчырым здзіўленнем у вачах. Яна зламала тры чараціны і тым самым нібы прыадчыніла нам акенца ў сваю чыстую і цнатлівую дзявочую душу. Так, гэтыя тры зламаныя чараціны нібы акенца, але не толькі ў свет прыроды, а хутчэй у непаўторны свет чалавечай душы. А зразумець і спасцігнуць тое, што хацела сказаць мастачка канкрэтна аб гэтай дзяўчыне, нам дапамагае другая частка твора, якую з поўным правам можна назваць дыванам у дыване. Тут пануе свая перспектыва, свае прапорцыі. На азёрнай гладзі адзінокая лодка. У ёй самотная постаць пажылой жанчыны. Яна ўспрымаецца як матуля, што шукае сваю дачку. А на беразе сосны. Такія магла намаляваць не проста таленавітая рука, а рука, абуджаная народным геніем. Другі дыван з'яўляецца нібы адгадкаю першага, большага па памерах. Яны, хоць і напісаны на адным палатне, з'яднаны агульнай задумай,— усё роўна жывуць перш-наперш па ўласных мастацкіх законах, што дазваляе ім быць

раўнапраўнымі, аднолькава важнымі часткамі аднаго складанага твора.

Сама мастачка з успамінаў Варвары Палазнік называла дыван «Дзева на водах». І гэта не проста назва дзеля назвы, а сапраўдны глыбоканародны погляд на з'яву, занатаваную фарбамі на палатне.

Пра дыван «Дзева на водах» карціць мне выказаць адну мо і не зусім вывераную здагадку. Ведаючы, як трагічна склалася ў далейшым жыццёвая дарога мастачкі, міжволі думаеш, што Алена Кіш быццам наперад прадказала свой лёс... Ці не саму яе шукае «на водах» бедная старэнькая матуля?

Дываны Алены Кіш — з'ява унікальная не толькі для Беларусі. Што гэта сапраўды так, сведчыць цікавая нататка Э. Пучовай «У сусветнай энцыклапедыі народнага мастацтва», змешчаная 13 верасня 1985 года ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Вось што паведамляе аўтарка: «Непрафесійная выяўленчая творчасць — з'ява надзвычай цікавая і складаная. Яна звязана і з фальклорнымі абрадамі, і з засваеннем навыкаў прафесійнай акадэмічнай школы, і са свабодным спалучэннем першага і другога ў нечаканых мастацкіх формах. Ва ўсім гэтым спрабуюць разабрацца аўтары важкай працы — «Сусветнай энцыклапедыі народнага мастацтва», якая выдадзена ў Югаславіі. Кніга прысвечана 100-годдзю творчай дзейнасці французскага мастака-самавука Анры Русо. У энцыклапедыі прадстаўлена 800 імёнаў мастакоў з 50 краін свету. Тут прадстаўнікі ўсіх кантынентаў: Афрыкі, Азіі, Еўропы, Аўстраліі і Амерыкі... Ад Беларусі ў энцыклапедыі прадстаўлена мастачка-сялянка Алена Кіш... Рэдкалегію творы мастачкі прывабілі дэкаратыўнасцю роспісаў, у якіх спалучаліся рысы сялянскай творчасці і гарадскога фальклору. Чысціня мастацкага ўспрымання свету дазволіла Алене Кіш адметнаю моваю сказаць пра

маральныя асновы народнага жыцця — дабро і зло, подзвіг і ахвяраванне, каханне і мацярынства. Цудоўная якасць выдання (на англійскай, французскай і сербахарвацкай мовах) надае энцыклапедыі значнасць і як твора кніжнага мастацтва».

Праўда, калі сказанае пра адметнасць і непаўторнасць дэкаратыўных роспісаў Алены Кіш не выклікае сумнення, то сцвярджэнне, што ў ёй нібыта «спалучаліся рысы сялянскай творчасці і гарадскога фальклору», на маю думку, не зусім дакладнае. Адразу ўзнікае пытанне пра «гарадскі фальклор». Што разумець пад спалучэннем гэтых двух слоў? Дасюль у беларускай фалькларыстыцы чамусьці неахвотна карысталіся такім тэрмінам. І невыпадкова. Як вядома, носьбітам і актыўным захавальнікам духоўных каштоўнасцей на Беларусі заўсёды быў вясковы люд, якога да нядаўняга часу было намнога больш, чым гараджан. І справа нават, вядома, не ў колькасці, а ў тым, што беларускае слова, беларускае народнае мастацтва, пачутае і ўбачанае сёння далёка ў свеце, былі выратаваны ад небыцця гаючымі, жывучымі сокамі надзвычай багатага і таленавітага беларускага фальклору, што стагоддзямі ствараўся пад вясковымі стрэхамі, а не ў гарадскіх камяніцах, жыхары якіх былі амаль пагалоўна адлучаныя ад вытокаў народнага слова і мастацтва. Менавіта ў родным слове трэба шукаць карані мастакоўскага светаўспрымання Алены Кіш, якая, як сведчыць Варвара Палазнік, любіла спяваць народныя песні.

Чакайце, тады, можа, аўтарка допісу ў штотыднёвік мела на ўвазе гарадскі выяўленчы фальклор, пра які ў апошні час загаварылі ва ўсесаюзных мастацтвазнаўчых выданнях? Пытанне вартае таго, каб у ім як след разабрацца.

Скажам адразу: матэрыял на гэтую тэму і нашымі, і рускімі мастацтвазнаўцамі, можна сказаць, не

збіраўся, і ён, па сутнасці, да нядаўняга часу не вывучаўся. І ўсё-такі пры жаданні сёе-тое можна адшукаць. У першую чаргу я тут назаву цікавы артыкул Г. Астроўскага «Пра гарадскі выяўленчы фальклор», надрукаваны ў зборніку «Савецкае мастацтвазнаўства-74», выдадзеным у 1975 годзе ў Маскве. Г. Астроўскі, у прыватнасці, сцвярджае, што «генетычна гарадскі фальклор з'яднаны з сялянскім мастацтвам, з яго сацыяльна-бытавою і эстэтычнаю сістэмаю. Разам з тым гарадскі фальклор не такі традыцыйны, як сялянскае мастацтва, творчая асоба і характар тут раскрываецца паўней, цікавей. Прысутнічае кантакт з прафесійным мастацтвам, адчуваецца разуменне «стыляў». Адсюль у гарадскім выяўленчым фальклоры ўзнікаюць спробы стварыць тэматычную карціну, пейзаж, партрэт, нацюрморт...»

Магчыма, і ў нашых беларускіх гарадах і мястэчках былі аматары такога жывапісу, але каб ён набыў сапраўды шырокае развіццё, аформіўся ў пэўную мастацкую з'яву — пра такое казаць рызыкоўна. Таму сцвярджаць пра яго ўплыў на сялянскае мастацтва не прыходзіцца. Як, дарэчы, і пра кантакты з прафесійным мастацтвам.

Адкуль жа, якім чынам з'явіліся апранутыя па-гарадскому паненкі на дыванах, гарадскія камяніцы? Сястра мастачкі Ніна Дзядзюшка ўспаміняла, што калісьці даўно ў дзяцінстве часам да іх у вёску прыязджаў нейкі заможны родзіч, які жыў, здаецца, у Адэсе, і прывозіў дзяўчаткам крамныя сукенкі. Тыя сукеначкі, як сімвал нейкага прыгожага светлага жыцця, мусіць, назаўсёды ўвайшлі ў душу мастачкі. Трэба таксама памятаць, што традыцыйныя фальклорныя матывы Алены Кіш пераасэнсоўвала з вышыні чалавека XX стагоддзя, калі пачалася актыўная міграцыя вясковага насельніцтва ў горад, дзе, здавалася, жывецца намнога шчаслівей, лягчэй.

А як жа растлумачыць тады ледзь не абавязковую прысутнасць на дыванах мастачкі зусім не страшных ільвоў, нікім не бачаных аленяў, дзівосных птушак, экзатычных дрэваў? Няўжо гэта адна неўтаймаваная фантазія аўтаркі? Тут трэба глядзець глыбей. На маю думку, у асэнсаванні твораў Алены Кіш вельмі дапаможа нам цытата з выдатнай кнігі Э. Кузняцова «Пірасмані»: «Яго (Пірасмані.— *У. Я.*) мастацтва жывяць не спелыя фальклорныя формы, адшліфаваныя стагоддзямі ўстойлівага сялянскага быцця, і засвоіў і па-свойму пераўвасобіў ён не непахісна жыццясцвярджальны тон, не радасны дэкаратывізм, не моц і цэласнасць псіхалогіі чалавека, які трывала звязаны з зямлёю,— не тыя пачуцці, з якімі правільна, хоць некалькі прасталінейна, у нас асацыіруюцца ўяўленні пра народнае мастацтва, а тое, у чым мела неабходнасць яго мастацтва: фантастычнасць, загадкавасць, таямнічасць — якасці, што тояцца ў падтэксце народнага мастацтва атавістычна захоўваюць сувязь са старажытнымі паганскімі вераваннямі родавага ладу, міфалагічнымі ўяўленнямі пра свет як пра ўсеагульнае загадкавае жыццё, што варушыцца ў кожнай травінцы і ў кожным камені, пра свет, як грандыёзную загадку...»

Паўтару: сказанае пра Пірасмані да апошняга слова можна аднесці і да слуцкай мастачкі, сапраўднае адкрыццё якой — яшчэ наперадзе. І ці не таму так балесна, да дзіцячых слёз, яна, па ўспамінах сучаснікаў, перажывала, калі хто-небудзь бяздумна нішчыў дрэва, біў па галаве «братоў нашых меншых» — жывёлін, птушак?..

Гляджу на дываны, створаныя Аленай, і яшчэ і яшчэ раз думаю: колькі душэўнага святла трэ было мець у сабе, каб так вось шчодра дарыць хараство, колькі сілы і мужнасці трэ было мець, каб не збіцца

на шэрае рамесніцтва, халодныя самапаўторы. У творчасці мастачкі бліскуча з'ядналіся ў адно непарыўнае цэлае дыван «сюжэтны» і традыцыйны раслінна-дэкаратыўны дыван. Цэнтральная «сюжэтная» частка насценніка быццам знаходзіцца ў раскошнай раме — гірляндзе з кветак, сцяблін і лісточкаў. Здавалася б, гэтая традыцыйная схема павінна стрымліваць фантазію аўтаркі, але кожная яе гірлянда адметная, непадобная да астатніх. І так усё згарманізавана, бездакорна ў каляровых і пластычных адносінах, што нельга не захапіцца. Як і ў кожнай сапраўды значнай з'яве мастацтва, у дыванах слуцкай мастачкі ёсць загадкі, якія адмаўляюць усялякую адназначнасць і катэгарычнасць. Напрыклад, што азначае на большасці дываноў вялікая поўня, якая адразу кідаецца ў вочы? Канечне, яна невыпадковая... Тады, можа, сэнс яе трэба шукаць ва ўспамінах знаёмцаў мастачкі, якія прыводзяць у сваім артыкуле «Беларускія маляваныя дываны», надрукаваным у 1979 годзе на старонках часопіса «Маладосць», Яўген Кулік і Уладзімір Басалыга:

«— Алена, намалюй мне дыван, такі ж, як у Ганны,— просіць, бывае, кабета мастачку.

— Не, я лепш за ноч надумаюся і намалюю такі, якога ні ў кога няма,— адказвала Алена».

Пасля такіх слоў адразу хочацца назваць дываны — дзівоснымі снамі мастачкі. А ў снах, асабліва ў светлыя месячныя ночы, здараюцца ўсялякія цуды...

Дарэчы, хутчэй па звычцы, чым па сутнасці яе творчасці, мы называем Алену Кіш народнай майстрыхай. Гэта, на маю думку, не зусім дакладна. Сапраўды, у яе творах назіраецца блізкасць да традыцый мясцовай народнай размалёўкі, што найбольш поўна выяўляецца ў акаймоўцы дываноў — багатай раслінай гірляндзе. Аднак не гэта вызначае агуль-

ны характар творчасці. Надта ж ярка ў кожным з насценнікаў прысутнічае асоба самой аўтаркі. Трэба заўважыць, паняцце «народны майстар» далёка не простае, як на першы погляд здаецца. Тут, як кажуць, што галава — то розум. І ўсё ж мне хацелася б абаперціся на Марыю Някрасаву, якая ў грунтоўным артыкуле «Да пытання пра паняцце «народны майстар», змешчаным у кнізе «Народныя майстры: традыцыі, школы», даводзіць: «Усё суб'ектыўнае, адзінкавае чужое яго (народнага майстра.— *У. Я.*) творчасці. Прыналежнасць да агульнага народнага ўспрымання свету вызначае яго месца ў культуры». Зусім адваротнае мы бачым на дыванах «Дзева на водах» і «Ліст да каханага» дый у астатніх дыванах Алены Кіш. Тут пануе, як ужо не раз гаварылася, неўтаймаваная аўтарская фантазія, тут створана, па сутнасці, свая ўласная вобразная сістэма. Сам матэрыял дае нам гаварыць пра Алену Кіш як пра выдатную беларускую самадзейную мастачку.

Хочацца прывесці ўражанне ад твораў слуцкай мастачкі Алеся Марачкіна — уладальніка цікавай калекцыі маляваных дываноў. Між іншым, у творчасці самога жывапісца гэты від мастацтва займае важнае месца.

«Мастакоўкі густ мастака-самавука заўсёды арыентаваўся на развіты густ народа,— сказаў Марачкін.— Творчасць Алены Кіш — яркае сведчанне таму. Фантастычныя па сюжэту, тонка згарманізаваныя па колеры яе дываны адпавядалі высокаму густу народа. Безумоўна, у шэрагу выдатных твораў гэтага мастацтва сустракаліся і слабыя, недасканалыя. І гэта зусім натуральна. Не заўсёды той, хто выносіў на кірмаш свой маляваны насценнік, меў мастакоўскія здольнасці. Алена Кіш, яе творчасць — адна з вышынь мастацтва маляваных дываноў. Магу засведчыць: аналагаў яе творчасці мы не сустракаем

ні на тэрыторыі Беларусі, ні за яе межамі. Яе сюжэты арыгінальныя і непаўторныя ў сваім вобразным вырашэнні. Я бачу ў дыванах слуцкай мастачкі не толькі кампазіцыйную смеласць, насычанасць колеру, незвычайную дэкаратыўнасць, але і багатую фантазію, што, як мне думаецца, грунтавалася на народным меласе».

«А ці могуць прафесійныя майстры пэндзля ўзяць для сябе нешта цікавае і патрэбнае з творчага вопыту Алены Кіш?» — пытаюся мастака.

«Безумоўна! Думаю, што многія з нас яшчэ не раз будуць звяртацца да творчай спадчыны выдатнай мастачкі, да яе вобразнага і колеравага ладу. І нават ужо цяпер мы бачым уплыў яе творчасці на прафесійнае мастацтва, асабліва ў афармленні дзіцячай кніжкі. Уплыў гэты плённы і перспектыўны».

Спадчына Алены Кіш належыць да лепшых узораў творчага самавыяўлення беларускага народа. Усіх нас, хто па-сапраўднаму любіць і шануе народнае мастацтва, родную культуру, наперадзе чакаюць настойлівыя і карпатлівыя пошукі дэкаратыўных дзівосных дываноў выдатнай мастачкі, бо ў іх надзвычай таленавіта, глыбока выявілася і народнае светаадчуванне, і народнае разуменне хараства.

# ЗМЕСТ

**Ягоўдзік Ул.**

Я 30 Прыручэнне птушкі: Аповесць, апавяданні, эсэ./Маст. У. Савіч.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 238 с., [4] л. іл.

ISBN 5-340-00334-5.

Яговдик В. Приручение птицы: Повесть, рассказы, эссе.

У цэнтры аповесці «Вочы Начніцы» — станаўленне характару, нацыянальнай годнасці хлопчыка з мастацкім бачаннем свету, чалавека тонкай, уражлівай душы, на долю якога выпалі нялёгкія выпрабаванні. Аповесць напісана на аснове асабіста перажытага, пранізана пачуццём шчымлівага болю, мае цікавы сюжэт. Апавяданням і эсэ ўласціва пачуццё лірызму, увагі да слова, сярод герояў — таленавітая мастачка з народа Алена Кіш з яе трагічным лёсам і цудоўным мастацтвам.

Я $\frac{4702120201-122}{М\ 302(03)-89}$ 24—89

ББК 84Бел7

*Литературно-художественное издание*

**Яговдик Владимир Иванович**

**Приручение птицы**

Повесть, рассказы, эссе

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Ягоўдзік Уладзімір Іванавіч**

**Прыручэнне птушкі**

Аповесць, апавяданні, эсэ

Рэдактар Я. Р. Лецка. Мастацкі рэдактар М. Я. Шкурпіт. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар А. Т. Глушчанка.

ІБ № 3160

Здадзена ў набор 26.10.88. Падп. да друку 26.04.89. АТ 06781. Фармат 70×100 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 9,75+0,33 укл. Ум. фарб.-адб. 11,06. Ул.-выд. арк. 10,94. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1951. Цана 1 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.